*Памяці маёй бабулі*
*Веры Лось-Паўлавай*

Навуковы кансультант:
*Юры Гарбінскі,*
*доктар гісторыі габілітаваны, прафэсар*

Навуковыя рэцэнзэнты:
*Дарота Міхалюк,*
*доктар гісторыі габілітаваны, прафэсар*
*Захар Шыбека,*
*доктар гістарычных навук, прафэсар*
*Раман Юркоўскі,*
*доктар гісторыі габілітаваны, прафэсар*

**Сяргей Абламейка. Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.** Кн. 2. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Аляксандар Лукашук*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Ніводнага артыкулу, ніводнай манаграфіі, ніводнай навукова-папулярнай кнігі не напісалі раней беларускія гісторыкі пра разбурэньне Старога гораду — аднаго з самых каштоўных раёнаў гістарычнага Менску. Паўтара дзясятка вуліц і завулкаў, шчыльна забудаваных мураванымі дамамі XVII–XIX стагодзьдзяў, што існавалі на Замкавай гары і яе ваколіцах, зьніклі бязь сьледу. Кніга доктара гісторыі Сяргея Абламейкі — першае навуковае дасьледаваньне пра час і прычыны разбурэньня Старога гораду, яго загадкі, яго герояў і антыгерояў.


FOL

ISBN 978-0-929849-88-1

# Зьмест

**Частка IV. Роля савецкага таталітарызму ў гісторыі Менску**

## ГОРАД ВЕРЫ

Ці ня лепей было б
Не будаваць горад
На гэтай рэчцы
Ў крыві па калені,
Зь берагамі злымі,
Касьцямі засеянымі,
Галовамі ўсланымі,
Душамі адвеянымі.
Позна пытацца.
Але ў Бога часу няма,
І няма рана, і няма позна
Таму, хто верыць
У гэты горад.
Бо ў яго можна
Толькі верыць.

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

## Замест уводзінаў. Працэнты прапаганды

Трагічная дата — 24 чэрвеня 1941 году, 9:40 раніцы — мусіла б стаць для сучасных менчукоў днём смутку, і адзначаць яго варта было б так, як у Японіі адзначаюць даты атамных бамбаваньняў Хірасімы і Нагасакі. У той дзень пачалася першая і самая моцная нямецкая бамбёжка гораду. Налёты хвалямі працягваліся да дзевяці гадзін вечара. З матэрыялаў асабістага архіву кіраўніка Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі вынікае, што хваляў-налётаў было ня менш за 18, і ў кожным зь іх бралі ўдзел па 35-40 самалётаў[1].

Тое, што рабілася ў наступныя дні, ня мела ўжо вялікага значэньня. У горадзе пачаўся вялікі пажар. Паніка і ўдалы сабатаж закінутых у Беларусь нямецкіх дывэрсантаў зрабілі сваю справу. Перасталі працаваць сувязь, водаправод, каналізацыя, зьнікла электрычнасьць.

Калі пад вечар 28 чэрвеня ў Менск увайшлі нямецкія войскі, цэнтар гораду дагараў. На здымках таго дня відаць, як над руінамі дома на рагу вуліцы Вольнай і Плошчы Свабоды яшчэ віецца дым.

---

1 Воронкова И. «Двадцать второго июня, ровно в четыре часа…» Минск и минчане в первые дни Великой Отечественной войны. Менск, 2011. С. 111.

Паводле ўспамінаў менчукоў, руіны па ўсім горадзе тлелі і дыміліся яшчэ некалькі тыдняў.

Вось некалькі цытатаў, якія сьведчаць пра важнасьць адказу на пытаньне колькі, калі і кім было разбурана ў гістарычным цэнтры сталіцы Беларусі:

«*Мінск у першыя дні пасьля вызваленьня ляжаў у руінах. Такімі выглядалі яго цэнтар, значная частка Савецкай вуліцы, унівэрсытэцкі гарадок. З 332 прадпрыемстваў ацалелі 19. Акупанты зьнішчылі 79 школ і тэхнікумаў, 80% жылога фонду*»[2].

«*Освобождённый 3 июля 1944 г. Минск представлял страшную картину. Был разрушен центр города, железнодорожный узел, уничтожено 313 предприятий, 80% жилого фонда, 78 школ, техникумов, институтов. Казалось, потребуются многие десятилетия для того, чтобы возродить город, чтобы в новых квартирах минчан вечером зажглись огни. Однако действительность превзошла все оптимистические прогнозы...*»[3]

«*За годы войны немецкие оккупанты причинили гор. Минску огромные разрушения. Были сожжены и основные предприятия города. Почти полностью были уничтожены: три кирпичных завода, кирпично-клинкерный завод, изразцовый завод, черепичный завод, стекольный завод "Пролетарий", зеркальная фабрика, станкостроительный завод им. Кирова, вагоноремонтный завод им. Мясникова, весовой завод "Ударник", завод цепей Галля им. Чкалова, 10 хлебозаводов и пекарен, кондитерская и бисквит-*

2 Гісторыя Мінска. Менск, 2006. С. 436.

3 Заславский Е. К 60-летию освобождения Беларуси: итоги и факторы градостроительного развития Минска // Архитектура и строительство. 2004. № 2.

*ная фабрики, швейные фабрики: “Октябрь”, “КИМ”, “8-е марта” и им. Крупской, мясокомбинат, обувная ф-ка им. Кагановича и др.*

*Почти все общественные здания за время оккупации были полностью разрушены или частично повреждены. Полностью разрушены:* ***Госбанк****, Промбанк, почтамт,* ***б. здание ЦК КП(б)Б****, кино “Красная звезда”, “Пролетарий” и “Интернационал”, клубы совторгслужащих,* ***строителей****, пищевиков, металлистов, Дом учёных, Верховный суд БССР,* ***Управление милиции****, Гушосдор, Белгоспроект, два корпуса клинического городка,* ***Академия наук****,* ***Университетский городок****,* ***все школы****,* ***Дворец пионеров****, центральный универмаг, гостиница “Европа”, три бани и много других зданий.*

*Разрушено и повреждено 5975 жилых домов с жилой площадью 803,5 тыс. кв. м или 70% довоенного жилфонда»*[4].

*«В период вторжения и оккупации Белоруссии немецко-фашистскими войсками г. Минску были нанесены огромные разрушения: промышленность, жилищное и коммунальное хозяйство на 60–70%. Особенно сильно был разрушен Центральный район города Минска, где сосредотачивались основные культурные и административно-хозяйственные учреждения республиканского, областного и городского значения, а также капитальные многоэтажные жилые дома.*

4 Генплан Минска. 1951 год. Раздел «Разрушение города и восстановление его за послевоенный период». С. 18. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528.

*По наиболее интенсивно застроенным улицам: Энгельса, Ленина, Советской, К. Маркса, Кирова — были превращены в груду развалин целые кварталы и сохранились только отдельные коробки»*[5].

*«В гор. Минске немцами сожжены следующие промышленные предприятия: станкостроительный завод "Ударник", паровозоремонтный завод имени Мясникова, автозавод имени Чкалова, завод цепей Галя, механические мастерские "Красный металлист", станкостроительный завод имени Кагановича, электрозавод, стеклозавод, молочный завод, обувная фабрика имени Кагановича, швейные фабрики "Октябрь" и имени 8 Марта, бисквитная фабрика "Коммунарка", а также железнодорожное депо и трамвайный парк.*

*Разрушены здания: Академии наук, Дома Красной армии, политехнического института, Дома специалистов, Госбанка, почты и телеграфа, кинотеатра "Красная Звезда" и ряд других. Всего разрушено более 65% жилого фонда города»*[6].

*«Если учесть жилую площадь домов, сданных в эксплуатацию накануне Отечественной войны, то жилая площадь по городу составляла 1209 тыс. кв. м, причем, 37% жилой площади падает на каменные и 63% на деревянные строения... По предварительным данным инвентаризационного бюро Горисполкома на 1.1.1946 г., сохранившаяся жилплощадь после оккупации и восстановленная за период 1944–1945 гг. составляла около 656 тыс.*

---

5 Пояснительная записка к Генплану Минска. 1951 год. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 529.

6 Освобождённая Беларусь. Документы и материалы. Сентябрь 1943 — декабрь 1944. Кн. 1. Менск, 2004. С. 115–116.

*кв. м. Таким образом, было разрушено 54,2% всего жилого фонда города»*[7].

Першыя дзьве з гэтых цытатаў належаць сучасным аўтарам, перадапошняя ўзятая з сакрэтнага ліста наркома НКВД Л. Бэрыі ад 11 ліпеня 1944 году на імя І. Сталіна, В. Молатава і Г. Малянкова, астатнія тры паходзяць з розных частак Генэральнага пляну Менску, створанага ў інстытуце «Белдзяржпраект» у 1950–1951 гадах пад грыфам «Сакрэтна».

З цытатаў вынікае, што лічба «80% жылога фонду», калі гаворка ідзе пра разбурэньне Менску падчас вайны, сёньня ўжо агульнапрынятая. Тым часам у ацэнках аўтараў Генпляну 1951 году гэтая лічба вагалася ад 60% да 70%. І, нарэшце, паводле дадзеных інвэнтарызацыйнага бюро менскага гарвыканкаму ад 1 студзеня 1946 году, працэнт разбуранага жылога фонду ў горадзе складаў 54,2%.

Паколькі дзьве першыя цытаты паходзяць з публічных тэкстаў, а астатнія — ранейшыя па часе — з тэкстаў сакрэтных, прызначаных для абмежаванага кола адказных асобаў, дык зразумела, што лічбы і маштабы разбурэньняў Менску падчас апошняй вайны наўпрост закраналі інтарэсы савецкай ідэалёгіі і прапаганды.

У гэтым даволі вялікім разыходжаньні праяўляецца выразная тэндэнцыя называць у публічных тэкстах максымальныя лічбы разбурэньняў, якія прыпісваюцца немцам. Тэндэнцыя гэтая ішла з часоў вайны і была падтрыманая (і ініцыяваная)

7 Генплан Минска. 1951 год. Раздел «Домовой фонд города». С. 14–15. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528.

на самым версе савецкай уладнай піраміды. Мы бачым, што Бэрыя ў ліпені 1944 году называў лічбу 65%, тым часам як праз два гады менскія ўлады ацэньвалі разбурэньні на 54,2%.

Насамрэч разбурэньне гістарычнай часткі Менску застаецца сапраўднай «белай плямай» беларускай гісторыі. Калі для савецкай прапаганды і савецкай гістарычнай навукі (як часткі тае прапаганды) у гэтай справе было ўсё ясна і зразумела, дык насамрэч тут не вядома нічога. Няма адказаў на галоўныя пытаньні: колькі разбурана, кім менавіта і калі. І ніхто сярод гісторыкаў ніколі не задаўся мэтай знайсьці на іх адказы.

Толькі два навукоўцы мімаходзь (адным-двума сказамі) акрэсьлілі наяўнасьць праблемы. Вось што пісаў гісторык менскай архітэктуры Расьціслаў Баравы:

«...*Каменная застройка административно-делового центра, сложившегося в XIX — первой половине XX в., лежала в развалинах. Более-менее сохранялась только застройка собственно исторического центра Минска XVI–XVIII вв. — районов Немиги, Замчища и частично площади Свободы... Не написана еще история архитектурных утрат нашего города — история сноса района Замчища (1950–1960-е гг.) и Немиги (1960–1970-е гг.), отказа от сохранения и реставрации поврежденной гражданской застройки XVIII–XIX вв. по периметру площади Свободы и т. д.*»[8].

8 Боровой Р. Послевоенная реконструкция и восстановление Минска (История написанная и ненаписанная) // Архитектура и строительство. 2004. № 2. С. 7–10.

У сваю чаргу беларускі гісторык у Польшчы Юры Туронак зьвярнуў увагу на паасобныя аспэкты гэтай праблемы і адзначыў наступнае:

*«Асабліва выяўны характар у часе савецкай эвакуацыі набыла дзейнасьць групаў зьнішчэньня, т. зв. "истребительных батальонов", сярод іх заданьняў значылася, між іншым, руйнаваньне будынкаў агульнаграмадзкага ўжытку, жылых дамоў і іншых публічных збудаваньняў. У батальёны набіралі часьцей за ўсё камсамольцаў, якія не падпадалі пад мабілізацыю... На ўсходзе Беларусі... дзейнасьць "истребительных батальонов" падтрымлівалася сіламі арміі... Страты, панесеныя ад дзейнасьці гэтых групаў, ніколі не выяўляліся і не падлічваліся. Пасьля вайны іх сьпісвалі на нямецкіх акупантаў»*[9].

І яшчэ адна яго заўвага:

*«Тагачасны Менск (у 1942 годзе — С. А.) быў невялікім горадам — ён налічваў трохі больш як 100 тыс. жыхароў... Налёты нямецкай авіяцыі ды зьнішчальныя акцыі савецкіх войскаў пры адступленьні пакінулі ў ім значныя разбурэньні. Адносна менш пацярпелі прамысловыя прадпрыемствы, якія разьмяшчаліся на ўскраінах гораду...»*[10]

Ю. Туронак, пішучы пра дзейнасьць «истребительных батальонов», зьвяртае ўвагу на татальныя спусташэньні, спрычыненыя імі на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Сапраўды, пры адыходзе саветаў былі цалкам спаленыя Віцебск, Полацак, Ворша і іншыя гарады. Згадкі пра гэта можна знайсьці ва

9 Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Менск, 1993. С. 46–47.

10 Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі // Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 237.

ўспамінах расейскіх эмігрантаў з НТС[11]. Піша пра гэта і сам Туронак.

Менш вядома, што ў тыя некалькі дзён, калі савецкая адміністрацыя Менск пакінула, а немцы яшчэ не прыйшлі — 25–28 чэрвеня — у горадзе актыўна дзейнічалі савецкія дывэрсанты, дасланыя з пакуль кантраляванай Чырвонай арміяй тэрыторыі Магілёўшчыны. Яны падпальвалі найбольш важныя для саветаў аб'екты — сярод іх была, напрыклад, абласная ўправа міліцыі ў раёне цяперашняй вуліцы Янкі Купалы.

Татальны пажар Менску ў тыя дні — вынік ня толькі бамбаваньняў нямецкай авіяцыі і адсутнасьці пажарных, але і тых савецкіх падпалаў. Яшчэ зусім нядаўна ў Менску жылі людзі — сьведкі тых падзеяў. Іх сьведчаньні таксама сталі адной з крыніц для напісаньня гэтай кнігі.

У трэцяй з вышэйпададзеных цытатаў пра маштабы разбурэньняў сярод пераліку цалкам зьнішчаных немцамі аб'ектаў некаторыя пазначаны тлустым шрыфтам. Гэта тыя будынкі, якія насамрэч захаваліся — толькі некаторыя зь іх пацярпелі ад пажару. Прынамсі два будынкі з таго пераліку — Управа міліцыі і Дом піянэраў — былі спаленыя савецкімі зьнішчальнымі батальёнамі або дывэрсантамі. Дзяржбанк на Савецкай вуліцы, Клюб будаўнікоў на рагу Энгельса і Камуністычнай, некаторыя будынкі ўнівэрсытэцкага гарадка захаваліся цэлыя або пашкоджаныя пажарам і былі

11 «Народно-трудовой союз» — эмігранцкая арганізацыя расейскіх нацыяналістаў. Пра разбурэньні ў Полацку гл.: Ільінскі П. Тры гады пад нямецкай акупацыяй у Беларусі (жыцьцё Полацкай акругі 1941–1944) // ARCHE. 2004. №3. С. 208–248.

зьнесеныя пасьля вайны. Астатнія можна ўбачыць у Менску і сёньня.

Ёсьць у трэцяй цытаце ў пераліку зьнішчаных цалкам будынкаў і фраза «ўсе школы». Тым часам вядома, што пад акупацыяй у Менску працавала 21 беларуская школа. Калі ў кастрычніку 1944 году ў вызваленым горадзе пачаўся новы навучальны год і менскія дзеці пайшлі ў наноў адкрытыя савецкія школы, іх зноў было... 21, толькі мову навучаньня ў некаторых зьмянілі на расейскую...

Гэтыя прыклады дэманструюць ступень ідэалягічнай заангажаванасьці архітэктараў, якія толькі праз 5 гадоў пасьля вайны пісалі тыя радкі. Гэтаксама бессаромна — па доўгу службы, паводле закліку камуністычнага сумленьня або і проста ад дурноты і неабазнанасьці — хлусілі партыйныя прапагандысты, гісторыкі, архітэктары, музэйныя працаўнікі і журналісты. Вынікі тае хлусьні адчувае на сабе і сёньняшняе пакаленьне беларусаў.

Высьвятленьню і апісаньню прычын і фактараў, якія прывялі да зьнікненьня ў Менску самай старой яго часткі, якая да вайны называлася Старым горадам, прысьвечана гэтае дасьледаваньне.

Храналягічна другая кніга ахоплівае пэрыяд з 1941-га па 1956 год. У гэтыя паўтара дзесяцігодзьдзя адбыліся самыя значныя падзеі ў гісторыі Старога гораду — вялікая яго частка была спаленая ў першыя дні вайны, пасьля пачатку савецкіх бамбаваньняў у 1942 годзе была спаленая забудова Замчышча, а затым акупацыйныя ўлады падарвалі і разабралі большую частку дамоў на Нізкім рынку і на Замчышчы. У пасьляваенны час былі прынятыя і рэалізаваныя генэральныя пляны рэканструк-

цыі Менску 1946 і 1951 гадоў, якія грунтаваліся на даваенным генпляне 1936 году. Паводле гэтых плянаў рэшткі забудовы Старога гораду, што перажылі вайну, былі зьнесеныя на працягу 1950-х, 1960-х і 1970-х гадоў. Апошні будынак Старога гораду – дом №8 на вуліцы Дзям'яна Беднага (былой Казьмадзям'янаўскай), які зьяўляўся ўнікальным помнікам менскай грамадзянскай архітэктуры XVII–XVIII стагодзьдзяў, быў зьнесены ў 1986 годзе падчас будаўніцтва другой лініі мэтро.

1956 год выбраны апошнім годам аповеду пра менскі Стары горад невыпадкова. Менавіта тады адбылася малавядомая і вельмі прыгожая спроба дзеячоў тагачаснай беларускай навукі і культуры ўратаваць рэшткі Старога гораду і Замчышча. Спроба, зрэшты, няўдалая. Савецкія ўлады яе вельмі рашуча і жорстка спынілі.

Частка I

# Стары горад у часе Другой сусьветнай вайны



## Падпалы і пажары першых дзён

Гісторыя менскай архітэктуры часоў акупацыі поўная недакладнасьцяў, «белых плямаў» і нават загадак і супярэчнасьцяў. Пачынаецца ўсё з падпалаў гарадзкой забудовы першых дзён вайны.

Для савецкіх гісторыкаў, як і для тых постсавецкіх, што застаюцца пад уплывам клясычнай савецкай гістарыяграфіі, тут пытаньняў не паўстае. Гаворка вядзецца выключна аб нямецкіх дывэрсантах, якія пры дапамозе вадкага фосфару падпальвалі дамы менчукоў яшчэ да прыходу ў горад асноўных нямецкіх частак.

*«Сброшенные с самолетов диверсионные банды немецких фашистов, в организации которых принимали активное участие варшавский и берлинский центры белорусской эмиграции, в городах советской Белоруссии видели основную опасность для агрессивного фашизма и потому удар свой направили почти исключительно против городов.*

*Минск главным образом испытал на себе тяжесть диверсионного террора. Зажигательные бомбы и специальные зажигательные пакеты с самолетов, жидкий фосфор в руках диверсантов на земле — все было использовано, чтобы уничтожить сердце города — его центр.*

*Немецкие фашисты видели в уничтожении центра города, где расположены были самые круп-*

*ные здания, средство одновременно с пополнением запасов стратегического сырья (черные и цветные металлы) лишения белорусского народа также материальных и культурных ценностей, что помогло бы сломить его волю к сопротивлению, лишить его возможности активной борьбы и наконец помогло бы уничтожить в основном и самый народ, превратить остатки его в послушных фашизму рабов.*

*Одновременно же можно было основательно пограбить и поднажиться. Минск же являлся одним из богатейших городов Советского Союза и особенно за годы советского существования накопил громадные материальные и культурные ценности, что немецким фашистам было хорошо известно.*

*Пожарами первых дней войны уничтожено множество отличных зданий, в которых как в книге можно было читать историю города. Уничтожены здания, имеющие прямое отношение к истории нашей партии и истории непосредственно революционного движения в Белоруссии…»*[12]

Гэты тэкст належыць беларускаму пісьменьніку Рыгору Мурашку (1902–1944), які да вайны загадваў кабінэтам маладога аўтара ў Доме пісьменьнікаў, а ў вайну жыў у акупаваным Менску. Лічыцца, што ў жніўні 1943 году ён быў завэрбаваны дэсантаванай у раёне Менску групай спэцыяльнага прызначэньня Цэнтральнага штабу партызанскага руху пад камандаваньнем маёра С. Казанцава і стаў яе менскім агентам[13].

12 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 611, арк. 13.
13 Воронкова И. Цыт. тв. С. 120.

Увосень 1943 году Мурашка сышоў у партызанскі атрад на Лагойшчыне і ў пачатку 1944 году падрыхтаваў на імя маёра Казанцава шэраг рукапісных нататак, у якіх ацэньваў матэрыяльную і культурную шкоду, нанесеную немцамі сталіцы Беларусі. Вышэйпрыведзеная цытата якраз і ўзятая з адной з такіх нататак.

Загінуў Рыгор Мурашка ў красавіку 1944 году падчас прарыву блякады. Быў ён членам партыі з 1920 году, у 1919–1920 гадах, падчас польскай акупацыі, арганізоўваў антыпольскі партызанскі рух на Случчыне, у 20-я гады служыў у Чырвонай арміі, быў на партыйнай рабоце, пасьля працаваў адказным сакратаром часопісу «Бальшавік Беларусі».

Вопыт кадравага партыйца і камуністычнага прапагандыста вельмі добра адчуваецца і ў прыведзенай цытаце, асабліва ў яе першых радках. Адно з пытаньняў, якое паўстае пры іх чытаньні — адкуль Мурашка, ня маючы доступу да зьвестак савецкай контравыведкі, мог ведаць, што ў падрыхтоўцы нямецкіх дывэрсантаў першых дзён вайны бралі ўдзел «варшавский и берлинский центры белорусской эмиграции», асабліва калі ўлічыць той факт, што немцы праз увесь час акупацыі наогул не прызнавалі ўдзелу сваіх дывэрсантаў у падпалах Менску.

Як бы там ні было, прысутнасьць у горадзе нямецкіх дывэрсантаў сапраўды магла мець месца, як і іх спробы ажыцьцявіць дывэрсійныя акты і акты сабатажу. Гэта — клясыка вайны і, так бы мовіць, адзін бок праўды пра першыя дні вайны ў Менску.

Другі бок праўды прадстаўляюць цьверджаньні акупацыйных уладаў і беларускіх выданьняў часоў акупацыі, што актыўны ўдзел у падпалах Менску

прымалі і савецкія дывэрсанты. У сваім першым нумары 21 верасьня 1941 году «Менская газэта» ў артыкуле «Сапраўдныя разбуральнікі гораду» пісала:

*«Гнілыя будынкі, фабрыкі, заводы гораду Менску становяць сабой руіны. Хто ж спаліў іх? Жыхары, якія вяртаюцца зь вёсак, думаюць, што горад спалены нямецкімі запальнымі бомбамі... Але спытайцеся ў сумленнага грамадзяніна Менску, які быў падчас бамбардыроўкі ў горадзе, і ён вам скажа, што горад спаліла не нямецкая пераможная армія, якая нясе вызваленьне нашаму народу, а жыды ды бальшавікі.*

*У той час, калі некаторыя дамы (дарэчы, іх было вельмі мала) сапраўды гарэлі ад запальных бомбаў, жыды ды бальшавікі падпальвалі іншыя, псавалі на фабрыках, заводах, лябараторыях каштоўныя варштаты, машыны і прылады.*

*Каб замесьці крывавыя сьляды свае больш чым дваццацігадовае злачыннае дзейнасьці, адкормленыя народным хлебам сталінскія сабакі з НКВД падпалілі 24 чэрвеня зь сярэдзіны той будынак, дзе пад катаваньнямі, зьдзекамі загінулі сотні сапраўдных патрыётаў свае бацькаўшчыны, культурных адукаваных людзей Беларусі.*

*Адступаючы, бальшавікі падпалілі будынак штабу Заходняй асобнай ваеннай акругі. Агонь са штабу перакінуўся далей, абняў Чырвонаармейскую вуліцу, і ўсё навокал згарэла...*

*У гатэль "Беларусь" трапіла фугасная бомба. Яна разбурыла толькі частку яго. Але бальшавіком гэтага было замала. Яны падпалілі зь сярэдзіны — і гатэль згарэў.*

*Пасьля бамбардыроўкі 23 і 24 чэрвеня шмат якія пажары на вуліцах Ульянаўскай, Інтэрнацыянальнай, Энгельса і інш. спыняліся, але жыды і бальшавікі зноў падпальвалі...»*[14]

Тут важна зьвярнуць увагу, што выданьне сьмела апэлюе да жыхароў Менску як сьведак падпалаў. Наўрад ці гэта было б магчыма, калі б падпалаў зусім не было.

І вясною 1944 году «Беларуская газэта» ўсё яшчэ пераконвала чытача ў адказнасьці савецкіх агентаў за падпалы і разбурэньні першых дзён вайны:

*«У чэрвені 1941 г. у часе свайго адступленьня, а лепш сказаць уцёкаў, жыда-бальшавіцкія камісары і іхныя лёкаі ператварылі значную частку Менску ў руіны...»*[15]

Гэтыя самыя цьверджаньні ўтрымліваліся і ў нямецкамоўных выданьнях, прызначаных для саміх немцаў, у прыватнасьці, у газэце «Minsker Zeitung». 22 чэрвеня 1942 году гэтае выданьне надрукавала ўспаміны аб першых днях вайны нейкай менскай немкі, якая, будучы замужам за расейцам, насіла прозьвішча Іванова і працавала тады лябаранткай у шпіталі. Вось кароткія фрагмэнты:

*«Между тем сильный огонь уже держал в своих руках белорусскую столицу. Начало поджогам положили перед своим бегством коммунисты, а затем зажигательные бомбы завершили дело… Наступило 26 июня. Пламя приблизилось к зданию клиники. Напротив загорелся родильный дом… Между почерневшими от копоти руинами только несколько*

14 Менская газэта. 21 верасьня 1941.
15 Беларуская газэта. 29 сакавіка 1944.

*сохранившихся зданий, которых не коснулись руки коммунистических поджигателей…»*[16]

Праз тыдзень «Minsker Zeitung» зноў вярнулася да гэтай тэмы. Газэта апублікавала ўспаміны салдата-сувязіста Р. Кенігера, які са сваёй часткай уступіў у Менск 29 чэрвеня 1941 году:

*«Через Минск война прошла как извержение вулкана — огнём и пеплом. Мы первый раз видим такие разрушения. На Западе мы уже видели разрушенные города, но разрушения такого масштаба — нет! Однако только часть их явилась результатом военных действий. В большинство строений большевики бросали зажжённые факелы. Эти безумные разрушения в Минске — дело рук большевиков»*[17].

Але ня толькі немцы цьвердзілі, што вялікія разбурэньні ў Менску — справа рук савецкіх агентаў. Пра гэта пісалі і многія тагачасныя заходнія выданьні. Інфармацыя пра падпалы ў Менску дакацілася нават за акіян. У верасьні 1941 году амэрыканскі часопіс «Life» апублікаваў два нямецкія здымкі Менску першых дзён вайны, на адным зь якіх была выяўленая спаленая каменная забудова 1930-х гадоў у зарэчнай частцы гораду, а на другім — Савецкая вуліца ў раёне яе перакрыжаваньня з вуліцамі Ўрыцкага і Валадарскага. Камэнтар да гэтых здымкаў часопіс даў такі:

*«Наўрад ці хоць адна бомба ўпала на гэтыя два пацярпелыя раёны Менску, сталіцы Беларусі з насельніцтвам 200 000 беларусаў, габрэяў і палякаў.*

16 Цыт. паводле: Воронкова И. Цыт. тв. С. 226–227. Пераклад на расейскую І. Варанковай.

17 Цыт. павдодле: Воронкова И. Цыт. тв. С. 229. Пераклад на расейскую І. Варанковай.

*Самі расейцы спалілі горад у межах тактыкі "выпаленай зямлі", якую яны выкарыстоўваюць яшчэ з часоў абароны ад Напалеона. Чыстыя вуліцы Менску, без варонак ад бомбаў або друзу, паказваюць, што гэтыя разбурэньні былі вынікам тактыкі "выпаленай зямлі". Пажары былі пачатыя расейцамі праз падпалы на лесьвічных пляцоўках сучасных каменных будынкаў з мэтай пашкодзіць іх настолькі, каб зрабіць непрыдатнымі для выкарыстаньня ў якасьці казармаў для нямецкіх войскаў»*[18].

Кіраўніцтва БССР пакінула Менск у ноч на 25 чэрвеня 1941 году. Але ў горадзе яшчэ два дні — 25 і 26 чэрвеня — заставаліся значныя сілы канвойных войскаў НКВД СССР, у прыватнасьці, аддзелы 226-га менскага палка 42-й брыгады, а таксама некаторыя іншыя аддзелы і часткі іншых палкоў, у тым ліку і спэцыяльныя апэратыўныя групы. Вось данясеньне камбрыга НКВД А. Пляханава, датаванае 25 чэрвеня:

*«24.06.41 части РККА, правительственные учреждения и наркоматы НКГБ и НКВД оставили город Минск. В городе царит беспорядок. Сброшенные парашютные десанты терроризируют население. На бригаду начальник гарнизона возложил задачу по очистке города от выброшенных десантов. Для очистки города мною в различных районах города высланы войсковые оперативные группы из работников НКГБ, оставшихся одиночек, переходящих через город Минск из Западных областей БССР. За*

18 Life. 22 верасьня 1941. С. 34.

*24 и 25.06 задержано в городе различных подозрительных лиц 8 человек»*[19].

Часткі НКВД СССР пакінулі Менск у 18.00 26 чэрвеня і накіраваліся ў раён Сьмілавічы—Чэрвень. Адтуль яшчэ 29 чэрвеня адна стралковая рота, а таксама аддзел пагранічнікаў і група апэратыўных работнікаў на аўтамашынах былі накіраваныя ў Менск

*«для охраны военгородка 226 полка, наведения порядка в городе и борьбы с парашютными десантами противника»*[20].

Гэтая група пасьпела дасягнуць толькі Чырвонага Ўрочышча (цяпер раён аўтазаводу) і была адкліканая назад, бо Менск ужо цалкам быў заняты немцамі. Вось што пра гэтую спробу спэцатрадаў НКВД вярнуцца ў Менск піша сучасная беларуская дасьледчыца вайны Ірына Варанкова:

*«Официальная трактовка задач отряда представляется неубедительной, поскольку никоим образом не объясняет внезапного решения вернуть военных в город, который только что был планово покинут. Скорее всего, основной целью отряда было уничтожение оставленного имущества 226-го полка. Рискнём также предположить, что этот отряд и был той самой группой, посланной П. К. Пономаренко для уничтожения архивов СНК, хотя даты в документах указаны разные»*[21].

У сваёй кнізе Варанкова расказвае пра цьверджаньне Панамарэнкі, што ён 27 чэрвеня дасылаў

---

19 Цыт. паводле: Воронкова И. Цыт. тв. С. 202.
20 Цыт. паводле: Воронкова И. Цыт. тв. С. 203.
21 Воронкова И. Цыт. тв. С. 203.

у Менск спэцатрад НКВД для зьнішчэньня архіву Савету народных камісараў БССР, які ня быў эвакуаваны.

Мне ж тут дзьве апошнія цытаты спатрэбіліся для таго, каб, з аднаго боку, паказаць, што сілы НКВД заставаліся ў Менску да 26 чэрвеня і што ў горадзе ў гэты час дзейнічалі апэратыўныя групы НКГБ, а з другога — паказаць, што афіцыйныя пісьмовыя трактоўкі і фармулёўкі задач вайскоўцаў і энкавэдзістаў далёка не заўсёды супадалі зь іх рэальнымі задачамі. Напрыклад, цьверджаньне камбрыга НКВД А. Пляханава, што ён даслаў у розныя раёны Менску для барацьбы з дывэрсантамі «оставшихся одиночек, переходящих через город Минск из Западных областей БССР», таксама можа не адпавядаць сапраўднасьці. Якраз «адзіночак» лепш пасылаць на падпалы і для іншых актаў сабатажу.

Колькасны склад апэратыўных групаў НКВД і НКГБ, якія на працягу 25 і 26 чэрвеня дзейнічалі ў Менску і пакінулі горад разам з асноўнымі сіламі канвойных войск НКВД СССР, паводле афіцыйных архіўных дакумэнтаў, налічваў 160 чалавек[22]. Даведацца пра іх рэальныя задачы ў гісторыкаў цяпер шанцаў вельмі мала.

Але ёсьць яшчэ і трэці бок, трэцяя крыніца інфармацыі пра падзеі першых дзён вайны ў Менску — старажылы, іх памяць і аповеды. Успаміны гэтых людзей таксама нельга абсалютна браць на веру, паколькі памяць людзкая — рэч ня надта дакладная і да таго ж выбарачная. Апрача таго

22 Тамсама. С. 202.

ўспаміны могуць быць дэтэрмінаваныя палітычнымі поглядамі чалавека і яго канкрэтным лёсам.

Я падрыхтаваў выбарку з 39 малавядомых фатаздымкаў цэнтру Менску 1885–1950 гадоў, якую паказваў васямнаццаці менскім старажылам. Яны далі мне неацэнныя зьвесткі аб стане забудовы цэнтральнай часткі гораду ў 1941–1944 гадах, а таксама і ў некалькі наступных гадоў. Усе апытаныя жылі ў старой частцы гораду або працавалі ці вучыліся там у вайну.

Зь ліку 18 апытаных мною старых менчукоў шэсьць чалавек сьцьвярджалі, што бачылі, як супрацоўнікі НКВД падпальвалі дамы на вуліцах Савецкай, Ленінскай і некаторых іншых. З гэтай колькасьці ўспаміны чатырох чалавек, у прыватнасьці, расказ вядомага беларускага археоляга Ўладзімера Ісаенкі, не выклікаюць у мяне ніякіх сумненьняў[23].

Уладзімер Ісаенка на свае вочы бачыў як 25 або 26 чэрвеня апранутыя ў цывільнае, але з кабурамі на паясах людзі падпальвалі будынак абласной управы НКВД на сёньняшняй вуліцы Янкі Купалы і некаторыя іншыя будынкі ў той самай частцы гораду. На думку Ісаенкі, гэта адназначна былі савецкія дывэрсанты, бо немцы якраз былі зацікаўленыя ў захаваньні тых будынкаў, якія раней належалі савецкім карнымі органам.

Іншыя старажылы сьцьвярджалі, што бачылі, як людзі ў савецкай вайсковай форме ў першыя дні вайны з дапамогай агнямётаў падпальвалі будынкі на Савецкай і Ленінскай вуліцах. Гэтыя старажылы

23 На жаль, ня ўсе з апытаных мною менскіх старажылаў далі згоду на публікацыю іх імёнаў.

нават расказваюць, што менчукі спрабавалі перашкодзіць гэтым падпалам, у выніку чаго ў іх узьнікалі вострыя канфлікты з падпальшчыкамі.

Ці мог агонь ад гэтых савецкіх падпалаў перакінуцца на іншыя будынкі гораду? Вядома, мог. Але наўрад ці нехта некалі зможа ацаніць рэальныя маштабы гэтай шкоды, бо ў гісторыкаў сёньня практычна няма шанцаў вызначыць, кім канкрэтна быў падпалены той або іншы будынак і якія кварталы гарадзкой забудовы былі ахопленыя агнём ад таго або іншага пажару.

Тым ня менш факт удзелу савецкіх агентаў у падпалах прынамсі асобных будынкаў Менску можна лічыць даказаным. Але гэта, у сваю чаргу, ніякім чынам не абвяргае магчымасьці ўдзелу ў сабатажы і падпалах у горадзе і нямецкіх агентаў. Гэта была вайна, і абодва бакі ў ёй дзейнічалі паводле апэратыўнай абстаноўкі і ня надта лічыліся з матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасьцямі беларускага народу.

## Маштабы разбурэньняў

Наступная малавядомая старонка менскай гісторыі часоў акупацыі — маштабы разбурэньняў. Горад, які ўбачылі немцы, увайшоўшы ў яго ў канцы чэрвеня 1941 году, і горад, які яны пакінулі ў канцы чэрвеня 1944 году — гэта розныя плянэты.

У першыя дні акупацыі мураваны цэнтар гораду ўяўляў сабой спаленыя вуліцы зь дзе-нідзе разбуранымі дамамі. У 1944 годзе цэнтар Менску быў разбураны непараўнана больш — шмат якія

кварталы ператварыліся ў руіны або ў пакрытыя будаўнічым друзам і бур'яном пусткі. Некаторыя відавочцы мэтафарычна казалі, што ад вакзалу можна было бачыць «вілы» — раён сучаснай плошчы Якуба Коласа.

Гэта тлумачыцца тым, што ў першыя дні вайны галоўную шкоду мураванай забудове цэнтру гораду нанесьлі менавіта пажары і падпалы, а ня ўласна фугасныя бомбы. Гэтым тлумачыцца той факт, што маштабы разбурэньняў у першыя дні акупацыі былі несувымерныя з тымі, што мы бачым ужо праз некалькі месяцаў нямецкага гаспадараньня ў горадзе, а тым больш з тымі, што мелі месца ў наступныя гады.

Менавіта таму разбурэньні гарадзкой забудовы, іх маштабы і прычыны — гэта другая малавядомая старонка ў гісторыі менскай архітэктуры часоў нямецкай акупацыі 1941–1944 гадоў.

Часам можна сустрэць цьверджаньні, што, прыйшоўшы ў Менск, само нямецкае камандаваньне было ўражана маштабам разбурэньняў і нават дасылала ў Бэрлін дэпэшы, у якіх выказвала незадавальненьне дзеяньнямі авіяцыі, маўляў, цяпер няма дзе расьсяляць новую адміністрацыю і войскі. Між тым дасьледчыца гісторыі Менску часоў акупацыі Галіна Кнацько прыводзіць некаторыя зь нямецкіх ацэнак першых дзён акупацыі, зь якіх вынікае, што панікі ў немцаў не было:

*«В отчете о служебной командировке на восточный фронт начальник штаба ведомства экономики и вооружения отмечал, что город Минск сгорел на 80 процентов. А начальник хозяйственной команды Минска подполковник Урбих на совещании, прове-*

*денном хозяйственной инспекцией "Центр" в июле 1941 г. в Минске, указывал, что несмотря на то, что город разрушен на 97% и сгорел, все же уцелели пригодные для расквартирования большие здания партийных органов»*[24].

Тут падпалкоўнік Урбіх, уражаны тым, што ўбачыў у Менску, называе фантастычную лічбу 97% разбураных будынкаў, але адначасова сам сабе супярэчыць, заяўляючы, што расквартараваць войскі і адміністрацыю ўсё ж можна.

А вось яшчэ адна зь нямецкіх ацэнак. Яе 12 лістапада 1941 году прывяла «Менская газэта»:

*«Нямецкія ваенныя карэспандэнты сьцьвярджалі, што сталіца Беларусі — горад Менск — быў далёка больш зьнішчаны ваеннымі дзеяньнямі, чымся Варшава, Ротэрдам і Дункерк, дзе адбываліся найвялікшыя баі. Цэнтр гораду сапраўды выглядаў страшэнна. Тырчалі адно — каміны, разваленыя муры і печы. Усе вялікшыя дамы, электрастанцыі, водаправод, тэлефоны былі разьбітыя. Усе фабрыкі й заводы спынілі працу. Гараж з трамваямі спалены. Транспарту не засталося ніякага. Вуліцы заваленыя друзам»*[25].

Але пра сапраўдныя разбурэньні гораду найлепш сьведчаць нямецкія фатаздымкі гораду 1941 году, многія зь якіх да нядаўняга часу былі невядомыя беларускім гісторыкам. І, натуральна, ніхто іх раней спэцыяльна не вывучаў і не аналізаваў.

---

24 Кнацько Г. Минск в годы оккупации // Народная газета. 30 июня 1993.

25 Менская газэта. 12 лістапада 1941.

Найперш — пра разбурэньні ў гістарычнай частцы гораду паводле стану на пачатак ліпеня 1941 году. Новы горад быў пашкоджаны пажарамі даволі моцна. Пасьля пажараў абсыпаліся, як даміно, некаторыя дамы з надбудаванымі паверхамі ў цэнтральнай частцы гораду, пераважна на Савецкай. Амаль цалкам згарэлі Савецкая (Захар'еўская), Камуністычная (Юраўская), Энгельса (Дамініканская) і Ленінская (Францішканская). Пажар моцна закрануў раёны Залатой горкі, Камароўкі, Трамвайнага дэпо, ваколіцаў Опэрнага тэатру і вуліцы Горкага (Багдановіча), вуліцы Пралетарскай і іншых.

Нябёсы былі літасьцівыя да менскіх кляштараў і храмаў. Практычна ўсе яны, за выключэньнем спаленага касьцёла Сьвятога Роха на Залатой горцы, ацалелі непашкоджаныя. Захаваўся і Верхні горад. Часткова пашкоджанай пажарам і бомбамі аказалася толькі яго паўднёва-ўсходняя частка ўключна з гатэлем «Эўропа» і трыма старымі камяніцамі па лініі забудовы езуіцкага комплексу, на рагу з вуліцай Інтэрнацыянальнай. У гатэль «Эўропа» трапіла фугасная бомба і часткова (увага, толькі часткова) яго разбурыла. Гатэль гарэў знутры, на яго фасадзе з боку Плошчы Свабоды ўзьнікла велізарная шчыліна, але самі сьцены захаваліся.

У Стары горад упала ўсяго некалькі бомбаў. Адна фугасная разбурыла дом на рагу Рыбнага рынку (тады Біржавы завулак) і Калініна. Яшчэ адна бомба ўпала непадалёк, на Плошчу Свабоды — яна часткова разбурыла і спаліла дом на рагу плошчы і вуліцы Вольнай (зьлева, калі глядзець з плошчы). Яшчэ некалькі, верагодна, падпальных бомбаў трапілі ў навакольлі вуліцы Дзям'яна Бед-

нага (Казьмадзям'янаўскай) — самай старой нашай мураванай вуліцы[26]. Гэта выклікала пажар у прылеглых кварталах Старога гораду. Згарэлі два кварталы паміж Рыбным і Нізкім рынкамі і самы стары менскі мураваны квартал паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Вольнай.

Самі каробкі, аднак, уключна са старажытнымі падмуркамі і шмат дзе скляпеньнямі першых паверхаў, захаваліся, згарэлі дахі і перакрыцьці верхніх паверхаў. Абрынуліся таксама фасадныя сьцены некалькіх дамоў на вуліцы Дзям'яна Беднага. Зрэшты, на левым баку вуліцы Дзям'яна Беднага, у дварах, усю вайну жылі людзі. Тым ня менш можна зрабіць выснову, што культурная страта ад пашкоджаньня гэтых трох самых старых мураваных кварталаў гораду несувымерная са стратамі ва ўсіх астатніх частках гораду разам узятых.

Уласна Замчышча зь яго цэнтральнай вуліцай Замкавай і прылеглымі да яе крывымі Падзамкавай, Завальнай і Нова-Мясьніцкай не пацярпела. Часткова згарэла бліжэйшая да Нізкага рынку частка вуліцы Стара-Мясьніцкай, а на самім Нізкім рынку, як ужо было сказана, агонь закрануў толькі квартал на тым яго баку, што аддзяляў рынак ад вуліцы Вольнай. З дамоў гэтага кварталу, што выходзілі на рынкавы пляц, перад самай вайной з-за плянаванай рэканструкцыі былі выселеныя жыхары.

26 Мне не ўдалося знайсьці сьведкаў гэтага. Але на здымках добра відаць два-тры паўразбураныя дамы на правым баку вуліцы Дзям'яна Беднага, астатнія засталіся бяз дахаў. Зрэшты, сьцены тых двух-трох дамоў маглі проста ня вытрымаць пажараў.

Непашкоджаны статус большай часткі Старога гораду добра выяўлены на нямецкай мапе Менску 1941 году.

Агулам Менск як вялікі гарадзкі цэнтар першую хвалю разбурэньняў перажыў. За першыя 6 месяцаў акупацыі аднавілі працу 56 з 60 менскіх крамаў[27]. На пачатак 1943 году пасьпяхова працавала палова менскіх заводаў і фабрык — усяго 150 прадпрыемстваў[28]. Да вайны ў горадзе было 35 школаў, зь іх 20 беларускіх. Пасьля прыходу немцаў у 1941/42 навучальным годзе адкрылася якраз каля 20 беларускіх школаў[29]. Большасьць — у ранейшых школьных памяшканьнях.

Стан гарадзкой забудовы вельмі цікавіў беларускіх актывістаў, якія пасьля прыходу немцаў пачалі займаць кіруючыя пасады. Створаная гарадзкая ўправа на чале зь першым бургамістрам Менску доктарам Вітаўтам Тумашам ужо ў першыя месяцы правяла дасьледаваньне жылога фонду. Аказалася, што паводле стану на 22 чэрвеня 1941 году ў Менску было 12 424 дамы, а на 1 верасьня таго самага году — 10 005 дамоў[30]. 2419 дамоў былі спаленыя або пашкоджаныя. Нескладаныя падлікі паказваюць, што гэта — менш за 20 працэнтаў усяго фонду жылых дамоў.

Зусім іншая сытуацыя з жылой плошчай. На нямецкай мапе 1944 году (г. зн. перад прыходам савецкай улады, ужо пасьля савецкіх бамбаваньняў

27 Гісторыя Мінска. С. 383.
28 Тамсама.
29 Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі // Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 238.
30 Менская газэта. 12 лістапада 1941.

і нямецкіх зносаў) нават без спэцыяльных падлікаў можна вызначыць, што было пашкоджана **30–40%** гарадзкой забудовы. Але ў цэнтральнай частцы гораду пераважалі 2–4-павярховыя дамы, таму жылая плошча іх была большая. Гэта і дае лічбу каля 54% страчанай у горадзе жылой плошчы, якую ў пачатку 1946 году прыводзіла Бюро інвэнтарызацыі Менскага гарвыканкаму.

Беларускі гісторык і археоляг Уладзімер Ісаенка, спэцыяліст у гістарычнай картаграфіі, падлічыў, што ў 1941 годзе ў Менску плошча гарадзкой забудовы складала 19 квадратных кілямэтраў, а плошча спаленай і пашкоджанай у 1941 годзе гарадзкой забудовы склала 2 квадратныя кілямэтры — каля 10 працэнтаў[31]. Гэтая лічба, з улікам пашкоджаных шматпавярховікаў цэнтральнай часткі гораду, цалкам адпавядае зьвесткам гарадзкой управы пад кіраўніцтвам доктара Тумаша аб стратах у дамавым фондзе.

Тым ня менш усе гэтыя маштабы разбурэньняў былі яшчэ несувымерныя з тымі, якія мы бачым на здымках, зробленых праз некалькі месяцаў і ў наступныя гады акупацыі. Што ж здарылася? Адказ на гэтае пытаньне гучыць проста — пасьля прыходу ў Менск немцы адразу прыступілі да расчыстак завалаў і зносу некаторых руінаў.

Але калі мы вядзем гаворку пра лёс забудовы гістарычнага цэнтру гораду, абмежавацца такім адказам нельга. Тут трэба падрабязна разьбірацца і адказваць ужо на шмат пытаньняў: што зносілі, калі зносілі, чаму зносілі, хто зносіў?

31 Неапублікаваны артыкул з хатняга архіву У. Ісаенкі.

## Зносы часоў акупацыі

Першыя здымкі, зробленыя нямецкімі салдатамі і афіцэрамі ў Менску ў пачатку ліпеня 1941 году, і здымкі гораду, зробленыя восеньню 1941 году, паказваюць, што сытуацыя шмат дзе моцна зьмянілася. Найперш гэта датычыць вуліц Савецкай і Ленінскай. На здымках ліпеня 1941 году гэтыя вуліцы спаленыя, але большасьць каробак на іх захоўваецца. Увосень 1941 году гэтыя вуліцы ўжо страцілі шмат што са сваёй забудовы.

Фугасная бомба, якая трапіла ў гатэль «Эўропа» ў першыя дні вайны, пашкодзіла будынак гатэлю знутры і вытварыла шырокую шчыліну на фасадзе будынка з боку Плошчы Свабоды. Такім гатэль немцы ў першыя дні акупацыі і сфатаграфавалі. А восеньню 1941 году ад «Эўропы» ўжо заставалася толькі гара друзу з пагнутымі жалезнымі бэлькамі. У 1942 годзе зьніклі і жалезныя бэлькі. Лёс гатэлю «Эўропа» зазнала практычна ўся забудова вуліцы Ленінскай і значная частка вуліцы Савецкай.

Апытаныя старажылы памятаюць пераважна пра расчысткі завалаў на дарогах і пры дарогах у першыя месяцы вайны. Большасьць зь іх цьвёрда трымаецца думкі, што немцы ў Менску падчас акупацыі нічога ня зносілі.

Мае архіўныя пошукі таксама шмат не далі. Падчас акупацыі ў Беларусі гаспадарылі тры ведамствы нацыстоўскай Нямеччыны: Галоўнае камандаваньне ўзброеных сілаў, Галоўная ўправа імпэрскай бясьпекі ды імпэрскае Міністэрства акупаваных усходніх земляў, якім кіраваў Розэнбэрг.

У сёньняшніх беларускіх архівах захоўваюцца пераважна дакумэнты ведамства Розэнбэрга, дакладней яго мясцовых адміністрацыйных структураў. Дакумэнты нямецкіх установаў, якія датычаць Менску і Меншчыны, знаходзяцца ў двух архівах — Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўным архіве Менскай вобласьці. Увесь гэты комплекс налічвае больш за 5000 справаў з дакумэнтамі розных акупацыйных установаў пераважна на нямецкай мове, але часткова і па-беларуску.

Я ўважліва прагледзеў вопісы ўсіх гэтых справаў, вылучыў зь іх каля 100, якія хоць нейкім чынам датычаць сфэры будаўніцтва або гарадзкой гаспадаркі ці жыльлёвых пытаньняў (у тым ліку забесьпячэньня будаўнічымі матэрыяламі, працы прадпрыемстваў па вырабе будматэрыялаў і інш.), і ўважліва іх прагледзеў.

Як ні дзіўна, ніякіх згадак пра зносы менскай гарадзкой забудовы, пашкоджанай вайной або цэлай, у гэтых справах не ўтрымліваецца. Няма там інфармацыі і пра расчысткі завалаў на гарадзкіх камунікацыях у першыя дні і месяцы акупацыі. Магчыма, гэта тлумачыцца тым фактам, што ў Менску захоўваюцца толькі архівы адміністрацыйных нямецкіх установаў, а не вайсковых структураў, якія шмат што вырашалі на акупаваных тэрыторыях.

Давялося рэканструяваць сытуацыю з гарадзкой забудовай часоў акупацыі паводле нешматлікіх ускосных архіўных дадзеных, небагатай інфармацыі тагачаснага друку, урыўкавых сьведчаньняў відавочцаў і з дапамогай аналізу кіна- і фотадакумэнтаў тае эпохі. Балазе, у апошнія гады пераважна за

мяжой знойдзена шмат новых цікавых фатаздымкаў і кадраў відэахронікі. Прыдаліся таксама і некаторыя найноўшыя працы беларускіх гісторыкаў.

У першыя месяцы акупацыі галоўным клопатам новых уладаў сталі ня зносы і расчысткі, але разьмяшчэньне шматлікіх адміністрацыйных і вайсковых структураў, іх супрацоўнікаў і службоўцаў у горадзе. Таксама трэба было забясьпечыць жытлом і мясцовых жыхароў-пагарэльцаў. Гэтым заняліся так званыя жыльлёвыя аддзелы.

Пасьля прыходу немцаў у Менску разьмяшчаліся адміністрацыйныя органы Генэральнай акругі Беларусь — генэральны камісарыят, а таксама менскі акруговы і менскі гарадзкі камісарыяты. Паралельна пры іх былі створаныя беларускія адміністрацыйныя структуры. Напрыклад, пры гарадзкім нямецкім камісарыяце існавала гарадзкая ўправа на чале з бургамістрам, а пры генэральным камісарыяце — так званае Беларускае кіраўніцтва.

Дачыненьні паміж гэтымі структурамі зразумець проста: немцы кіравалі, беларусы выконвалі загады або бралі нямецкую згоду на выкананьне нейкіх сваіх рашэньняў. Значна цяжэй зразумець структурную герархію гэтых установаў. Напрыклад, у архівах можна сустрэць паперы, датычныя жыльлёвага аддзелу Менскай гарадзкой управы і паперы, датычныя жыльлёвага аддзелу Менскага гарадзкога камісарыяту. Былі гэта два розныя органы або адзін і той самы пад рознымі назвамі, зразумець цяжка.

Як бы там ні было, гарадзкая ўправа мела ў сваім складзе жыльлёвы аддзел, якому, у сваю чаргу, падпарадкоўвалася рамонтна-будаўнічая кантора.

Гэтая апошняя кіравала рамонтна-будаўнічымі канторамі ў складзе ўсіх домакіраўніцтваў гораду. А ў складзе Беларускага кіраўніцтва пры генэральным камісарыяце існаваў асобны будаўнічы аддзел.

Жыльлёвыя аддзелы Беларускага кіраўніцтва пры генэральным камісарыяце і гарадзкой управе былі створаныя ў пачатку жніўня 1941 году. Задача рамонтна-будаўнічай канторы гарадзкой управы была сфармуляваная гэткім чынам:

«*Рамонтна-будаўнічая кантора жыльлёвага Аддзелу ажыцьцяўляе вытворчасьць рамонтаў жылфонду на тэрыторыі гор. Менску па існуючым нарматывам і расцэнкам і састаіць на гаспадарчым разьліку*»[32].

А вось вытрымка з пляну гэтай канторы на жнівень–сьнежань 1941 году:

«*Вытворчы плян Канторы... прадугледжвае наступныя віды работ:*

*1) Рамонт жылых будынкаў аварыйнага характару і папсаваных бамбардыроўкай*

*2) Перакрыцьцё дахаў на існуючых будынках*

*3) Розныя рамонтна-будаўнічыя работы (бягучыя і капітальныя)*

*У аснову пляна ўзяты наступныя паказчыкі:*

*1) Аб'ём работ на справаздачны пэрыяд у тыс. руб. — 450.00*

*2) Патрэбная колькасьць раб. сілы ў ч/дн. — 10 000.00*

*3) Колькасьць рабочых дзён — 100*

32 ДАМн, ф. 688, воп. 1, спр. 64, арк. 5.

*4) Сярэдне-дзённая выпрацоўка на аднаго рабочага ў дзень у руб. — 45.00*

*5) Фонд зарплаты рабочых у тыс. руб. — 120.00*

*Адбор дамоў і другіх рамонтаў па сістэме Жыльлёвага аддзелу вытвараецца домакіраўніцтвамі і зацьвярджаецца галоўным інжынерам Жыльлёвага аддзелу...»*[33]

Паводле стану на 20 кастрычніка 1941 году жыльлёвы аддзел гарадзкой управы выдаў 6918 ордэраў на новае жыльлё, у тым ліку 5377 ордэраў — пагарэльцам[34].

Пляны рамонтаў таксама выконваліся. Паводле адной з тагачасных справаздачаў, у сакавіку 1942 году рамонтна-будаўнічая кантора гарадзкога камісарыяту, сярод іншага, адрамантавала наступныя будынкі ў мураваным цэнтры гораду:

*«2. Гарбарная 37*

*8. Царква*

*9. Савецкая 19*

*10. К. Маркса 72*

*13. Камсамольская 8*

*17. Энгельса 50*

*18. Камсамольская 3*

*20. Савецкая 24*

*26. Агульнажыцьцё на Гандлёвай*

*30. Камсамольская 20*

*31. Пляц Волі 17а*

*32. Энгельса 1/3»*[35].

---

33 Тамсама.

34 Менская газэта. 28 кастрычніка 1941.

35 ДАМн, ф. 688, воп. 1, спр. 64, арк. 12.

Можна падсумаваць, што архіўныя дакумэнты рамонтна-будаўнічых кантораў за 1941–1942 гады ня ўтрымліваюць доказаў, што гэтыя структуры бралі ўдзел у разборцы або зносе руінаў у горадзе.

З архіўных фатаздымкаў мы ведаем, што на разборцы завалаў у першыя месяцы акупацыі працавалі вязьні менскага гета і палонныя савецкія вайскоўцы. Тым часам увосень 1941 году пра нястачу працоўнай сілы на разборцы завалаў у Менску пісаў тагачасны друк. «Менская газэта» зьмясьціла ў верасьні нататку «Упарадкуем горад»:

*«Шырока разгарнуліся работы над упарадкаваньнем гораду. Распачаліся і будаўнічыя работы. Адбудавана 1-я бойня, рамантуецца тэатр Опэры і Балету ды інш. На расчыстцы руін і пажарышчаў заняты цяпер некалькі сот чалавек. Работа над упарадкаваньнем гораду затрымліваецца нястачай рабочай сілы. Паводле пляну Аддзелу Ўпарадкаваньня на ўборцы гораду павінны працаваць штодня 700–800 чалавек, а працуе 300–350 чал. Біржа Працы ня можа задаволіць патрэбнай колькасьці рабочых»*[36].

Тут мы ўжо даведваемся, што за разбор завалаў і расчыстку руінаў у першыя месяцы акупацыі адказваў «аддзел упарадкаваньня» гарадзкога камісарыяту.

У верасьні 1941 году генэральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ апублікаваў адозву «Да жыхароў Беларусі», у якой, сярод іншага, дэкляравалася і адбудова ваенных разбурэньняў[37].

36 Менская газэта. 21 верасьня 1941.
37 Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 76.

Архіўныя матэрыялы і тагачасны друк наводзяць на думку, што па першым часе немцы сапраўды плянавалі шырока адбудаваць Менск. Пры генэральным камісарыяце з пачатку жніўня 1941 году існаваў будаўнічы аддзел, а ў 1942 годзе было заснаванае і плянава-будаўнічае бюро. У лістападзе 1941 году ў справаздачы будаўнічага аддзелу за пэрыяд з 15 жніўня па 1 лістапада згадвалася:

*«1. Адшукан у былых савецкіх установах праэктна-каштарысны матэрыял...*

*8. Вытварана папярэдняя работа к пляніроўцы спаленых у час вайны гарадоў...»*[38]

27 красавіка 1942 году Генэральны камісарыят Беларусі выдаў цыркуляр аб заснаваньні «Беларускай службы будаўніцтва», якая павінна была пераняць у свае рукі ўсю будаўнічую справу, і вельмі хутка набраў штат кваліфікаваных супрацоўнікаў гэтай службы[39]. У кастрычніку 1942 году ў Менску былі арганізаваныя архітэктурна-будаўнічыя курсы для падрыхтоўкі прафэсійных пляніроўшчыкаў і будаўнікоў[40].

Урэшце ў 1942 годзе нацысцкі архітэктар Рудольф Вэшэ стварыў новы генэральны плян Менску. Часам сьцьвярджаецца, што арыгінал гэтага дакумэнту ў нашы дні захоўваецца ў Рызе, дзе ў часе акупацыі былі цэнтральныя органы Райхскамісарыяту Остлянд, у склад якога разам з Генэральнымі акругамі Эстонія, Латвія і Літва ўваходзіла і Генэральная акруга Беларусь. Мне там папрацаваць не

38 ДАМн, ф. 688, воп. 4, спр. 2, арк. 12.
39 НАРБ, ф. 370, воп. 6, спр. 69, арк. 1–2.
40 НАРБ, ф. 370, воп. 1, спр. 1174, арк. 1–3.

давялося. Копію гэтага дакумэнту, паводле беларускага друку, перадаў у 1988 годзе ў Музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны прафэсар архітэктуры Леанард Маскалевіч — ён працаваў у Дзяржбудзе БССР і знайшоў той плян у архівах гэтай установы. На пляне ёсьць расейскамоўныя надпісы, мова і зьмест якіх могуць сьведчыць пра іх пасьляваенны прапагандысцкі характар.

У беларускім друку часам зьвяртаецца ўвага на злавесны характар гэтага генпляну на той падставе, што па цэнтры гораду былі раскіданыя будынкі, як бы мы сёньня сказалі, сілавых структураў — жандармэрыі, СД, казармы і нават крэматорый з пляцоўкай для расстрэлаў у раёне вуліцы Карла Лібкнэхта.

Насамрэч гэта і ёсьць прапаганда, паколькі і ўсе савецкія карныя і вайсковыя ўстановы ў Менску таксама былі разьмешчаныя ў цэнтры гораду. Там яны застаюцца і ў нашы дні — і Міністэрства абароны, і турмы, і МУС, і КДБ, і шматлікія вайсковыя гарадкі і казармы на вуліцах Маякоўскага, Якуба Коласа, Куляшова і іншых. І гэта ніхто злавесным не называе. Як бы там ні было, нейкі плян Менску быў распрацаваны ў агульных рысах, што сьведчыць аб сур'ёзных намерах немцаў адносна сталіцы Беларусі.

Але на гэтым справа і спынілася. 1942 год — гэта як бы Рубікон, калі ход вайны зьмяніўся, а нямецкая ваенная машына пачала ўсё больш і больш прабуксоўваць. І гэта не магло не адбіцца на становішчы ў Менску і на лёсе гарадзкой забудовы.

Зімою 1941–1942 гадоў немцы пацярпелі першую буйную паразу пад Масквой і падчас кон-

транаступу савецкіх войскаў адкаціліся амаль да паўночна-заходняй мяжы Беларусі. Паміж гарадамі Вяліж і Ўсьвяты ў лютым 1942 году на стыку групаў нямецкіх арміяў «Поўнач» і «Цэнтар» утварыўся 40-кілямэтровы разрыў у лініі фронту, які праіснаваў да верасьня 1942 году. Гэта паставіла пад пагрозу нямецкі кантроль над усёй Беларусьсю і, у прыватнасьці, іх валоданьне Менскам.

Бэрлін і камандаваньне вэрмахту былі моцна ўстрывожаныя, бо надавалі Беларусі важнае значэньне як пляцдарму, які адкрываў савецкім войскам прамы і кароткі шлях да Нямеччыны. Улада ў Менску як бы троху пераразьмеркавалася паміж акупацыйнымі структурамі на карысьць вайскоўцаў з групы арміяў «Цэнтар», і яны ўзяліся за справу:

*«Немецкое командование… весной 1942 года… развернуло массовые оборонительные мероприятия, охватившие в том числе и Минск. С целью выявления этих мероприятий, а также общего положения в Минске и окрестностях 31 марта 1942 года в район Самохваловичей была десантирована группа Генштаба РККА, вместе с которой находился уполномоченный Белорусского штаба партизанского движения Е. Д. Гапеев. В апреле-мае 1942 года ему удалось несколько раз проникнуть в Минск. В это время немцы подрывали там разрушенные и сгоревшие каменные здания и использовали щебёнку для строительства укреплений»*[41].

У гэтай цытаце з дасьледаваньня Ірыны Варанковай, прысьвечанага гісторыі Менску ў часы аку-

41 Воронкова И. Цыт. тв. С. 233.

пацыі, мы ўпершыню сустракаемся зь цьверджаньнем, што немцы пачалі выкарыстоўваць менскія руіны як крыніцу будаўнічага матэрыялу для ваенных умацаваньняў. Гэта адносіцца да красавіка і траўня 1942 году. А далей, як піша Варанкова, справа толькі пашыралася:

*«Следующий этап укрепления Минска был напрямую связан с контрнаступлением Красной Армии под Сталинградом в ноябре 1942 года. В это время началось строительство дзотов с двумя-тремя амбразурами как в центре города, так и на Комаровке, в Пушкинском посёлке, в направлении бывших военных городков в Уручье и Красном Урочище и др., для чего использовали кирпич и железный лом из разрушенных зданий»*[42].

Увосень 1943 году, калі савецкія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Беларусі, Менск зазнаў новую хвалю будаўніцтва ўмацаваньняў. У горад былі перакінутыя значныя сілы нямецкай арміі, якія разьмяшчаліся на ўскраінах, шмат жыхароў гэтых раёнаў былі выселеныя са сваіх дамоў. Беларуская цывільная адміністрацыя не пасьпявала забясьпечваць жытлом выкінутых на вуліцу вайскоўцамі менчукоў. У цагляных будынках у цэнтры гораду прабіваліся кулямётныя амбразуры.

І, нарэшце, апошняя хваля зносаў у беларускіх гарадах часоў акупацыі пракацілася вясною 1944 году. У сакавіку Гітлер прысвоіў статус «умацаваных раёнаў» 12 гарадам — Менску, Барысаву, Слуцку, Магілёву, Бабруйску, Віцебску, Воршы, Берасьцю, Баранавічам, Пінску, Лунінцу і Вільні —

42 Тамсама.

што азначала будаўніцтва вакол гэтых населеных пунктаў асабліва моцных умацаваньняў[43]. Зноў слова Ірыне Варанковай.

*«Согласно приказу командующего группой армий “Центр”, изданному в апреле 1944 года, в ходе строительства каждого укрепрайона создавались три рубежа обороны — центральный, окраинный и внешний. Очищалось поле обстрела, для чего был произведён снос многих зданий»*[44].

Цьверджаньне дасьледчыцы пра зносы 1944 году, што праўда, не падмацаванае спасылкай на крыніцу.

Тым ня менш і факт, што ў часе акупацыі нямецкія ўлады зносілі ў Менску руіны спаленых і разбураных дамоў, можа лічыцца бясспрэчным. Пацьверджаньне гэтаму можна знайсьці і на старых здымках часоў акупацыі, і на кадрах нямецкай відэахронікі. Але пра гэта пазьней. Зараз жа — пра тое, што менавіта зносілі немцы.

## Адкуль руіны на Замчышчы

З самага пачатку акупацыі новыя ўлады ў напаўразбураным Менску сутыкнуліся з дэфіцытам таго, што сёньня мы назвалі б жылымі і офіснымі памяшканьнямі. Трэба было расьсяляць і шматлікія адміністрацыйныя органы, і вайскоўцаў, і службы бясьпекі, і мясцовых пагарэльцаў.

43 Тамсама. С. 238.
44 Тамсама. С. 238–239.

Дэфіцыт жылой плошчы адчуваўся асабліва востра на працягу ўсяго часу акупацыі. Вышэй ужо згадвалася, што толькі паводле стану на 20 кастрычніка 1941 году ў Менску было выдадзена каля 7 тысячаў ордэраў на новае жытло. Пачынаючы ад 1942 году ў Менску ўвесь час павялічвалася колькасьць вайскоўцаў, што было зьвязана з апэратыўнай абстаноўкай на фронце, адтуль таксама прыбывала шмат параненых. Усё гэта яшчэ больш павялічвала дэфіцыт жытла.

Аб гэтым дэфіцыце сьведчаць і архівы акупацыйных органаў улады, і тагачасны друк. Многім менчукам у ваенныя гады было загадана пакінуць іх кватэры ў мураваных дамах у цэнтры гораду і перасяліцца ў захаваныя драўляныя дамы на ўскраінах або ў вызваленыя пасьля ліквідацыі гета і забойства яго вязьняў кватэры. Гэтак у 1943 годзе з дому на Інтэрнацыянальнай, 11а выселілі маіх сваякоў, якія там жылі з дарэвалюцыйных часоў — бабулі, яе бацькам і сёстрам загадалі перасяліцца на Ратамскую ў драўляны дом, гаспадары якога ў чэрвені 1941 году змаглі эвакуавацца зь Менску на ўсход СССР.

Дакумэнты аб такіх прымусовых высяленьнях захаваліся ў архівах. Вось адзін з такіх загадаў:

*«Гр-цы Щемелевай*

*Вул. Інтэрнацыянальная №10 кв.38*

*Па распараджэньні Загадчыка Жыладдзела памяшканьне, якое Вы займаеце, прызначана для патрэб гораду. На падставе гэтага Вам належыць не пазьней 8/VI-43 г. 8 гадзін раніцы аслабаніць займаемую Вамі кватэру і перасяліцца на вуліцу Ратамскую №27 кв.3*

*8 красавіка 1943*
*Агент кватэрнага пададдзелу М. Г. К*
*(подпіс неразборлівы — С. А.)*»[45].

1 сакавіка 1944 году «Беларуская газэта», расказваючы пра нараду кіраўнікоў аддзелу Менскага гарадзкога камісарыяту, прызнавала наяўнасьць у горадзе вострага жыльлёвага крызісу:

«*... Таксама вялікая ўвага была прысьвечаная на прышласьць вырашэньня жыльлёвага пытаньня, якое стварае самыя вялікія цяжкасьці ў сувязі з разбурэньнямі, якія пацярпеў горад у выніку вайны...*»[46]

А праз паўтара месяца гэтае самае выданьне пісала:

«*За час ад 1.I.44 да 1.IV.44 г. было абсьледавана 677 сем'яў, якія падалі заявы аб паляпшэньні жыльлёвых умоваў. У выніку гэтыя 3836 чалавек атрымалі каля 16 135 кв. м. жыльлёвае плошчы. Апрача гэтага, 10 пакояў атрымалі пагарэльцы. Вялікую дапамогу дае аддзел уцекачам. За апошні час уцекачы атрымалі 1776 пакояў... Адкуль жа бяруцца гэтыя дадатковыя плошчы? Перш за ўсё за кошт рамонту і належнага ўладкаваньня запушчаных і безгаспадарчых кватэраў, а таксама і за кошт адшуканьня дадатковае кватэрнае плошчы...*»[47]

Канстатацыя дэфіцыту памяшканьняў у акупаваным Менску спатрэбілася мне тут для хоць і простай, але вельмі важнай высновы — зь яе вынікае, што цэлыя, ня спаленыя і не пашкоджаныя бомбамі

45 ДАМн, ф. 688, воп. 1, спр. 64, арк. 8.
46 Беларуская газэта. 1 сакавіка 1944.
47 Беларуская газэта. 12 красавіка 1944.

дамы ў Менску зносіцца не маглі. Зносілі толькі спаленыя або часткова разбураныя будынкі.

Асобна стаіць пытаньне разбурэньняў на Замчышчы.

Ключавую ролю ў вызначэньні таго, што менавіта і калі зьнікла ў гістарычным цэнтры Менску, у тым ліку ў Старым горадзе, маюць нямецкія аэрафотаздымкі 1941–1944 гадоў, якія цяпер захоўваюцца ў Нацыянальным архіве ЗША — гэты архіў люфтвафэ пасьля вайны быў вывезены ў Вашынгтон з амэрыканскай зоны акупацыі.

Паводле аэрафотаздымкаў лета 1941 году чатыры вуліцы Замчышча — Замкавая, Падзамкавая, Завальная і Нова-Мясьніцкая не былі пашкоджаныя ні бомбамі, ні пажарамі, а ўсе дахі дамоў, разьмешчаных на гэтых вуліцах — цэлыя. Таксама не былі спаленыя і будынкі на паўднёва-ўсходнім (бліжэйшым да Верхняга гораду) баку Нізкага рынку.

Паводле аэрафотаздымкаў верасьня 1942 году, больш за палову будынкаў на гэтых чатырох вуліцах спаленыя і страцілі дахі[48]. Асабліва ўражвае, што спаленая амаль уся ўнутрызамкавая частка вуліцы Замкавай, яе цотны правы бок, які быў шчыльна, сьцяна да сьцяны, забудаваны 2-3-павярховымі дамамі.

Здымкі восені 1943 году не фіксуюць нейкіх зьменаў на Замчышчы, будынкі па-ранейшаму ня маюць дахаў, але цэлыя[49]. Затое на некалькіх здымках, зробленых 28 траўня 1944 году, зафіксаваныя драматычныя зьмены — амаль уся забудова Зам-

48 NARA, адз. зах.: gx 1562 sg 001.
49 NARA, адз. зах.: gx 4274 sk 002.

чышча разбураная, засталося паўтара-два дзясяткі раскіданых у розных месцах Замкавай гары дамоў і гаспадарчых пабудоваў, зь іх дахі захаваліся толькі на 10–12 будынках[50].

Вуліцы Стара-Мясьніцкая, Падзамкавая, Замкавая, Завальная і Нова-Мясьніцкая практычна перасталі існаваць — засталіся толькі іх трасы з адзінкавымі будынкамі. Цалкам зьніклі квартал паміж Рыбным рынкам і вуліцай Вольнай, квартал паміж Вольнай і Нізкім рынкам, а самы стары наш мураваны квартал паміж вуліцамі Вольнай і Дзям'яна Беднага разбураны на 35-40 працэнтаў.

Самая значная і самая прыгожая вуліца Старога гораду — Дзям'яна Беднага, колішняя Казьмадзям'янаўская — амаль цалкам захавалася да прыходу савецкіх войскаў і (увага!) была зьнесена пасьля вайны. На некаторых дамах вуліцы нават захоўваліся дахі, а ў трох-чатырох дамоў на яе правым баку (калі глядзець зьнізу) абсыпаліся франтоны.

Да прыходу савецкіх войскаў захаваўся і самы вузкі кавалак вуліцы Калініна пры яе выхадзе на Нізкі рынак, а два дамы на гэтым участку вуліцы нават захавалі дахі. Усё гэта было зьнесена ў рамках пасьляваенных расчыстак і рэканструкцыі гораду. Такі стан самага старажытнага мураванага кварталу Менску зафіксаваны на нямецкім аэрафотаздымку 22 ліпеня 1944 году — гэта значыць, праз 19 дзён пасьля вызваленьня гораду[51].

50 NARA, адз. зах.: gx 1781 sk (2) 009.
51 NARA, адз. зах.: gx 8142 sd 008.

Улічваючы, што акупацыйныя ўлады разьбіралі толькі пашкоджаныя пажарамі і бамбаваньнямі руіны, а чатыры вуліцы Замчышча ўвосень 1941 году руінамі не былі, засталося адказаць на пытаньні — як яны руінамі сталі і калі былі разабраныя?

Часам разбурэньні ў Старым горадзе памылкова прыпісваюць таму факту, што гэты раён знаходзіўся ў межах Менскага гета. Сапраўды, 19 ліпеня 1941 году новыя нямецкія ўлады выдалі загад аб стварэньні гета. Паколькі раён Замчышча быў месцам вялікай канцэнтрацыі менскага габрэйства, у склад гета ўвайшоў і ён, разам з даволі вялікімі тэрыторыямі на захад ад Старога гораду — у бок Юбілейнага пляцу і вуліцы Шорнай. Замкавая, Падзамкавая, Завальная, Саматужная (Падзамкавая-на-Балоце), Астроўскага (Ракаўская) і Вялікая Татарская апынуліся ў гета. Левы бок Нямігі, частка Нова-Мясьніцкай і Нізкі рынак у гета не ўвайшлі.

Зьнішчэньне менскага гета адбылося падчас пяці пагромаў — двух у лістападзе 1941 году, у сакавіку і ліпені 1942 году і ў кастрычніку 1943-га. Сярод амаль 100 тысяч ахвяраў Менскага гета было і некалькі дзясяткаў тысяч карэнных менчукоў.

Знаходжаньне вялікай часткі Старога гораду ў гета не прывяло да архітэктурных стратаў. Межы гета па меры таго, як нацысты зьнішчалі яго габрэйскае насельніцтва, мяняліся, і працэс гэты адбываўся даволі хутка. Ужо ў канцы 1941 году Стары горад апынуўся па-за межамі гета. Таму калі ў кастрычніку 1943 году падчас канчатковай ліквідацыі гета нацысты, шукаючы ўцекачоў у падвалах, пачалі выбухамі разбураць дамы ўнутры гета — гэта адбывалася ўжо ў раёне сучаснай Юбілейнай плошчы.

Я размаўляў зь некалькімі гісторыкамі Менскага гета — усе яны адмаўляюць факт падрываў і зносаў будынкаў на Замчышы ў той час, калі яно ўваходзіла ў тэрыторыю гета. Я нават званіў у Ерусалім прафэсару Марку Тайсу, які ў сьнежні 1942 году 15-гадовым юнаком разам з бацькам уцёк зь Менскага гета ў партызанскі атрад. Прафэсар Тайс цьвёрда заявіў, што на вуліцы Замкавай на момант яго ўцёкаў усе будынкі стаялі, ніхто там нічога не падрываў, не паліў і ня зносіў[52].

Дык як жа забудова Замчышча ператварылася ў руіны, якія пасьля разабралі? Найбольш верагодны адказ — савецкія бамбаваньні.

З пачатку 1942 году яны адбываліся рэгулярна, кожны месяц, а часам і па некалькі разоў на месяц. Дасьледчыца менскай гісторыі часоў вайны Ірына Варанкова сьцьвярджае, што першы савецкі налёт адбыўся ў студзені 1942 году[53]. Першае вялікае бамбаваньне Менску адбылося, як вядома, на Міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка 1942 году, калі Менск бамбіў цэлы полк далёкай авіяцыі пад камандаваньнем славутай савецкай лётчыцы Валянціны Грызадубавай. Сярод мішэняў быў Дом Ураду і іншыя нямецкія адміністрацыйныя аб'екты ў цэнтры гораду. Было шмат ахвяраў сярод мірнага насельніцтва.

---

52 Няцяжка заўважыць, што цьверджаньні прафэсара Тайса супярэчаць здымкам верасьня 1942 году, што можа сьведчыць або пра памылку памяці немаладога чалавека, або пра няправільнае датаваньне здымкаў, што менш верагодна.

53 Воронкова И. Цыт. тв. С. 234.

Праз тыдзень «Беларуская газэта» пісала ў нататцы «Дапамога ахвярам бальшавіцкага бамбардаваньня»:

*«Гарадзкі камісар злажыў ахвяру прадуктамі для задавальненьня першае патрэбы сем’ям, якія засталіся пасьля забітых бальшавіцкім бамбардаваньнем»*[54].

Наступны савецкі налёт на Менск адбыўся ў ноч з 25 на 26 сакавіка 1942 году, калі ў Менску адзначалі чарговую гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Зноў бамбілі ўсю тэрыторыю гораду, зноў цалялі ў Дом Ураду, які зноў застаўся некрануты. Якраз пра гэты налёт у маім дзяцінстве мне ня раз расказвалі блізкія — раскіданыя выбухамі фрагмэнты чалавечых целаў віселі на тэлеграфных слупах і дратах.

Значныя па выніках савецкія налёты таксама адбыліся ў канцы траўня 1942 году, 22–23 чэрвеня 1942 году, 20–21 жніўня 1942 году, 19 кастрычніка 1942 году, у ноч з 1 на 2 траўня 1943 году, з 5 на 6 кастрычніка 1943 году, 13 і 14 чэрвеня 1944 году і ў многія іншыя дні і ночы часоў акупацыі[55].

Асабліва менчукам запомніўся начны налёт у ноч з 1 на 2 траўня 1943 году, у Міжнароднае сьвята працы, якое шырока адзначалася ня толькі расейскімі камуністамі, але і нямецкімі нацыстамі. Нацысцкія газэты ў гэты дзень таксама выходзілі з апяваньнем «чалавека працы» і вялікімі гістарычнымі экскурсамі ў гісторыю пра схільнасьць і пашану арыйскіх народаў да стваральнай штодзённай працы. «Бела-

54 Беларуская газэта. 16 сакавіка 1942.
55 Воронкова И. Цыт. тв. С. 234–236.

руская газэта» ў артыкуле «Крывавы напад Сталіна на цывільнае жыхарства Менску» сьцьвярджала, што былі забітыя сотні менчукоў:

*«Другога траўня сёлета Сталін ізноў паказаў сваё запраўднае аблічча. Ён, гэты масавы забойца, які не спыняўся перад тым, каб пасласць у магілу аднаго па адным сваіх собскіх супрацоўнікаў, выдаў цяпер загад зьнішчыць нашую ўбогую маёмасьць. Якраз як тады, сумна стаяць і сотні людзей перад дамавінамі сваіх блізкіх, што страцілі жыцьцё ў час гэтага тэрарыстычнага налёту...»*[56]

Але налёт у ноч на 2 траўня 1943 году быў не адзіны. У наступныя дні адбылося яшчэ некалькі савецкіх бамбаваньняў Менску. Разбурэньні і ахвяры былі такія вялікія, што генэральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ распарадзіўся заснаваць адмысловы «Камітэт помачы» ахвярам гэтых траўеньскіх савецкіх налётаў[57]. У сталоўках Беларускай народнай самапомачы было наладжана бясплатнае харчаваньне для тых, хто застаўся без жытла або кармільца, таксама бясплатныя абеды дастаўляліся ў 1-ы гарадзкі шпіталь, дзе знаходзіліся параненыя менчукі.

Якраз бамбаваньне 2 траўня стала тым штуршком, у выніку якога беларускі пісьменьнік, мянчук з паходжаньня Антон Адамовіч пад псэўданімам С. Юстапчык напісаў свой славуты твор «Каханы горад» — аповед пра трох сяброў-менчукоў, якія сталі савецкімі лётчыкамі і бамбілі Менск на траўеньскія сьвяты 1943 году.

56 Беларуская газэта. 6 траўня 1943.
57 Тамсама.

Усе тры героі былі закаханыя ў адну дзяўчыну Веру, якая заставалася ў акупаваным Менску. Адзін зь сяброў, Юрка, разбамбіў, паводле заданьня, вуліцу Падгайную, а пашсьля вырашыў дэзэрціраваць, забіў зь пісталета свайго штурмана і выкінуўся з парашутам пад Менскам, каб сустрэцца зь Вераю. Прыйшоўшы ў Менск, ён даведаўся, што Вера з прычыны разбурэньняў у горадзе перасялілася на новае месца жыхарства, а калі прыйшоў па новым адрасе, даведаўся, што напярэдадні вечарам сам сваю Веру разам зь яе маці і забіў.

У прадмове да кніжнага выданьня «Каханага гораду» ў 1948 годзе Антон Адамовіч пісаў:

*«“Каханы горад” напісаны ў 1943 г. Найпершым повадам да напісаньня яго былі ўражаньні ад дэманстрацыйнага, “сьвяточнага”, але барбарска-бязьлітаснага бамбардаваньня безбароннага й пазбаўленага ўсялякіх ваенных аб’ектаў Менску саветамі ў ноч на 1 траўня* (так у тэксьце — С. А.) *1943 г.»*[58]

Засталося і яшчэ адно літаратурнае сьведчаньне аб выніках савецкіх бамбаваньняў Менску вясны 1943 году. Яго пакінуў беларускі паэт Лявон Случанін (1914–1995). У гады акупацыі ён працаваў настаўнікам непадалёк ад Менску і, натуральна, часта бываў у сталіцы. Менавіта падчас прыезду ў Менск у чэрвені 1943 году ён напісаў такі верш:

58 Юстапчык С. Каханы горад. Остэргофэн, 1948. С. 3.

### *Сваёй сталіцы*

*Не пазнаю цябе, мая сталіца,*
*Ні вас, высокія разьбітыя муры,*
*Пасьпелі плесеньню магільнаю ўскрыцца,*
*Залегшы шэрым тварам дагары.*

*Усё зруйнована, закінута, забыта,*
*О, родны Менск, сталіца хараства!*
*А там у полі каласіцца жыта,*
*Да сонца цягнецца дарожная жарства.*

*Людзкому ворагу на згубную пацеху*
*Сьцякла крывёю ты, але твой дух жыве.*
*І сьмелы голас твой імчыцца гучным рэхам,*
*І Беларусь да радасьці заве.*

*І пройдзе час, свае загоіш раны*
*Нальюцца радасьцю людзкія галасы,*
*І будзеш ты, як залацісты ранак,*
*Сталіца любая народнае красы.*

*Менск. 27.6.43.*[59]

Відаць адразу, які боль выклікаў у душы паэта разбураны бамбаваньнямі, пажарамі і нямецкімі расчысткамі Менск — «сталіца хараства». Дата напісаньня верша красамоўна сьведчыць і пра вынікі савецкіх бамбаваньняў вясны 1943 году.

Наогул, зьвестак аб савецкіх налётах у архівах і тагачасным друку даволі шмат, але друк зьвяртаў

59 Беларуская газэта. 17 ліпеня 1943.

увагу найперш на людзкія ахвяры, а зьвесткі падпольшчыкаў і іншых савецкіх агентаў аб выніках бамбаваньняў, што захоўваюцца ў архівах, канцэнтруюцца найперш на шкодзе, нанесенай нямецкім установам, камэндатурам, казармам, асабоваму складу нямецкіх фармаваньняў і г. д.

Аналіз фатаздымкаў люфтвафэ, а таксама ўсё выкладзенае вышэй, дазваляюць зрабіць выснову, што большая частка забудовы Замчышча з вуліцамі Замкавай, Стара-Мясьніцкай і Падзамкавай была спаленая падчас савецкіх бамбаваньняў у 1942 годзе.

Такі стан забудовы — цэлыя каробкі дамоў бяз дахаў — зафіксаваны на здымку люфтвафэ 2 верасьня 1942 году[60], бязь зьменаў ён заставаўся і на здымку 7 кастрычніка 1943 году[61]. Здымкі 28 траўня[62] і 6 чэрвеня[63] 1944 году сьведчаць, што на той час амаль уся спаленая забудова Нізкага і Рыбнага рынкаў, а таксама Замчышча ўжо зьнесеная і перастала існаваць.

Такім чынам, поўны знос паловы Старога гораду адбыўся ў часе акупацыі паміж 7 кастрычніка 1943 году і 28 траўня 1944 году.

60 NARA, адз. зах.: gx 1562 sg 001.
61 NARA, адз. зах.: gx 4274 sk 002; 2 gx 4274 sk 003.
62 NARA, адз. зах.: gx 1781 sk (2) 009.
63 NARA, адз. зах.: gx 10509 sk a 010.

## Як і хто зносіў Стары горад

Падчас сваіх архіўных росшукаў я, натуральна, ня мог абысьці і нямецкую кінахроніку часоў вайны, якая захоўваецца ў беларускіх і замежных архівах. І вось аднойчы, седзячы перад праектарам у дзяржынскім архіве кінафотадакумэнтаў і праглядаючы прапагандысцкія нямецкія кадры аб урачыстых мітынгах і дэманстрацыях у Менску з нагоды Міжнароднага дня працы 1 траўня або «Дня вызваленьня Беларусі» 22 чэрвеня, я раптам убачыў тое, што, у прынцыпе, ніколі і нікому не пажадаў бы ўбачыць — лепш бы гэтай страшнай рэальнасьці ў нашай гісторыі не было.

Нямецкі апэратар бясстрасна фіксуе, як у Менску падрываюць спаленыя дамы — спачатку адзін дом ня надта старой архітэктуры ў невядомым мне месцы, пасьля другі, ужо значна прыгажэйшы, стылёвы, канца XIX — пачатку XX стагодзьдзяў, і раптам вока пазнае адзін з кварталаў Старога гораду — старажытны брук, муры і магутныя дубовыя брамы... Нейкія людзі ў цывільным сьвідруюць сьцены, закладаюць у сьвідравіны толавыя шашкі. Зробленыя ў розных месцах і ў розны час кадры, відавочна, пазьней змантаваныя. У адным месцы рэльеф брукаванай вуліцы побач з брамай і брукаваны пляц за рогам ад яе, самі муры пераконваюць у тым, што гэта дзеецца недзе на вуліцы Калініна пры яе сутыку зь Нізкім рынкам або і на самім Замчышчы.

Тым часам людзі на экране папіхаюць шашкі кіямі глыбей у сьвідравіны, злучаюць выбухоўку дратамі, пасьля чалавек у капелюшы, відаць,

кіраўнік работаў, падае сыгнал драўляным ражком... І раптам паказваецца фронт забудовы самага старога нашага мураванага кварталу паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Вольнай з боку Плошчы Свабоды — старадаўні дом на рагу Вольнай і прылеглы да яго доўгі трохпавярховы Дом Гайдукевіча, абодва спаленыя ў першыя дні вайны.

Камэра паказвае руку, якая круціць ручку падрыўной машыны, яшчэ імгненьне... і квартал пачынаюць трэсьці выбухі. Хваля з чатырох выбухаў коціцца ад Вольнай да Дзям'яна Беднага, і гэтаксама хваляй падаюць старажытныя нашы камяніцы. Квартал ахоплівае воблака пылу, а калі пыл асядае... на месцы спаленых дамоў застаюцца толькі горы друзу і найбольш моцныя фрагмэнты задніх сьценаў старых камяніцаў.

Плошча Свабоды па пэрымэтры пачала забудоўвацца мураванымі дамамі яшчэ ў XVI стагодзьдзі, няма сумневу, што і ў аснове зьнішчаных тады дамоў былі муры і лёхі XVI–XVII стагодзьдзяў. Здымкі маглі быць зробленыя як восеньню 1943-га, так і вясной 1944 году. Улічваючы той факт, што на іх зафіксавана адносна цёплае надвор'е, а на многіх нямецкіх фатаздымках часоў акупацыі міма разбураных дамоў на паўночна-заходнім баку Плошчы Свабоды ідуць цёпла апранутыя людзі, можна зрабіць выснову, што падрывы там адбыліся ўвосень 1943 году. Зь іншага боку, цёпла апрануцца людзей маглі змусіць марозныя ночы красавіка 1944 году, калі тэмпэратура нярэдка апускалася да мінус 5–7 градусаў па Цэльсію.

Зрэшты, два нямецкія аэрафотаздымкі ад 7 кастрычніка 1943 году, якія мне ўдалося знайсьці

ў Нацыянальным архіве ЗША, з прычыны сваёй якасьці хоць і не дазваляюць зусім дакладна вырашыць, ці быў на той час паўночна-заходні фронт забудовы Плошчы Свабоды ўжо разбураны, але ўсё ж схіляюць шалі на бок станоўчага адказу — так, хутчэй за ўсё тыя дамы былі падарваныя яшчэ да 7 кастрычніка 1943 году[64].

Якімі б матывамі ні кіраваліся тыя, хто аддаваў загад аб гэтых падрывах, гэта было барбарства і дзікунства, гэта была зьнявага і пагарда да нашай культуры. Тым больш прыкра, што людзі, якія ажыцьцяўлялі падрывы, маглі быць беларускімі супрацоўнікамі гарадзкой управы[65].

Гэта наогул двойчы сумная старонка акупацыйнай рэальнасьці, і пра гэта мне ня раз думалася, калі я нумар за нумарам чытаў поўны камплект «Беларускай газэты» за 1941–1944 гады. Са сьведчаньняў беларускіх дзеячоў, якія працавалі ў акупацыйным Менску, я ведаў, што зьмест газэты

64 Гл.: NARA., адз. зах.: gx 4274 sk 002; gx 4274 sk 003.

65 Вось імёны менскіх будаўнікоў часоў акупацыі, якія займалі пасады ў адпаведных установах. Загадчыкам будаўнічага аддзелу Менскай акругі быў Іван Шакура, яго намесьнікам — Аляксей Волкаў. У гэтым аддзеле працавалі інжынэр-пляніроўшчык Віталі Шафранскі, інжынэр-архітэктар Яўген Мазалеўскі, інжынэры-канструктары Мікалай Галіёта і Кацярына Проніна, інспэктар забесьпячэньня Іван Муха, чарцёжніца Ванда Юдкевіч. (НАРБ, ф. 370, воп. 6, спр. 91, арк. 36) Таксама інжынэрам будаўнічага аддзелу працаваў і пазьнейшы дзяяч беларускай эміграцыі Іван Касяк (НАРБ, ф. 688, воп. 4, спр. 2, арк. 9). Дырэктарам будаўніча-рамонтнай канторы будаўнічага аддзелу быў нехта Хількевіч, тэхнічным кіраўніком гэтай канторы нехта Стральчэня. (НАРБ, ф. 688, воп. 1, спр. 64, арк. 12). Ну і вядомы факт: у 1941–1942 гадах у гарадзкой управе працаваў даваенны галоўны архітэктар Менску Герасім Якушка.

вызначаўся нямецкімі прапагандысцкімі органамі, што ўсе матэрыялы жорстка цэнзураваліся, што нават вышэйзгаданы «Каханы горад» Адамовіча «Беларуская газэта» у 1943 годзе не змагла надрукаваць з прычыны нямецкай цэнзуры[66]. І ўсё ж было вельмі сумна ўсьведамляць, як мала магчымасьцяў мелі беларусы ў XX стагодзьдзі пісаць самі пра сябе тое, што лічаць патрэбным і што хочуць. Амаль праз цэлае стагодзьдзе трэба было ідэалягічна абслугоўваць гаспадароў-заваявальнікаў.

Вось фрагмэнт артыкулу «Разбуральнікі культуры» зь ліпеня 1943 году:

*«Даўно ведама, што ангельска-амэрыканскі паветраны тэрор ня толькі скіроўваецца на бязьвіннае ціхамірнае жыхарства, але ён у сваім зьверсьцьве руйнуе й культурныя здабыткі. Штораз больш ангельска-амэрыканскія паветраныя піраты сумысьля нішчаць гістарычныя каштоўнасьці Эўропы.*

*Апошнім часам цывілізаваны сьвет быў глыбока ўражаны барбарскім налётам на горад Кельн, дзе, як ведама, ёсьць сьвятыні вялікае гістарычна-культурнае вартасьці. Гэтыя сьвятыні неміласэрна разбураюцца барбарскай рукой амэрыканска-ангельскіх летуноў... У Кельне разбурана 31 сьвятыня. Паміж іх ведамая ва ўсім сьвеце гістарычна-мастацкая каштоўнасьць — Кельнская катэдра.*

*Злыя разбуральнікі культуры не абмяжоўваюцца ў сваім руйнавальным інстынкце, яны штораз усё больш нішчаць вартасныя каштоўнасьці, якія нічога супольнага ня маюць із вайной. Мы, беларусы, уважаем эўрапэйскія культурныя каштоўнасьці*

66 Юстапчык С. Каханы горад. С. 3.

*таксама й сваймі каштоўнасьцямі і з абурэньнем глядзімо на гэты праяў дзікасьці “гуманітарна-дэмакратычных” зьвяроў...»*[67]

Немцы загадвалі беларусам плакаць па іх помніках і прымушалі маўчаць аб зьнішчэньні сваіх.

Неяк «Беларуская газэта» напісала, што як нельга ўявіць сабе нямецкага гораду бяз готыкі, гэтак нельга ўявіць сабе беларускага гораду без барока. Гэта, безумоўна, слушная канстатацыя. Але вось пра разбурэньні помнікаў культуры ў Нямеччыне ёй пісаць было дазволена, а пра разбурэньні помнікаў беларускай культуры (хай сабе і не такіх значных, як у Нямеччыне, але для нас вельмі дарагіх і каштоўных), яна напісаць нічога не магла. Падрыў амаль цэлага боку рэнэсанснага пляцу Верхняга гораду газэта магла назваць толькі «разборкай старых дамоў» або «расчысткай руінаў».

Зрэшты, 22 верасьня 1942 году генэральны камісар Беларусі распарадзіўся заснаваць у Менскай акрузе Службу аховы гістарычных помнікаў[68]. Паводле загаду, забаранялася разбурэньне або пашкоджаньне гістарычных помнікаў і ўводзілася сыстэма пакараньняў за гэта. У статуце гаварылася, што без дазволу службы нельга праводзіць ніякія зьмены помнікаў і збораў, а таксама ня могуць весьціся ўсялякія земляныя работы; у выпадку знаходкі археалягічных рэчаў падчас земляных работаў яны павінны спыняцца, знойдзеныя рэчы павінны быць накіраваныя ў службу, а месца знаходкі — агаро-

67 Беларуская газэта. 10 ліпеня 1943.
68 НАРБ, ф. 370, воп. 1, спр. 756, арк. 29.

джанае[69]. Забудову менскага Замчышча гэты загад Кубэ, аднак, абараніць ня змог.

1 сакавіка 1944 году, г. зн. прыблізна ў той час, калі адбываліся апісаныя вышэй выбухі, газэта зьмясьціла вялікую справаздачу з нарады кіраўнікоў аддзелаў гарадзкога камісарыяту пад назвай «Паступовая адбудова Менску». Быў у ёй і такі прапагандысцкі пасаж:

*«Мае быць таксама адбудаваны шэраг руінаў, што надаюцца яшчэ да адбудовы. Праца гэтая распачынаецца ўжо ў хуткім часе...»*[70]

Спалены ў першыя дні вайны старажытны дом на рагу Вольнай і Плошчы Свабоды паводле свайго стану вельмі нават надаваўся на адбудову, але яго падарвалі... І быў ён такі моцны, што пасьля апісаных выбухаў упала толькі яго ўнутраная палова, а зьнешняя, уздоўж вуліцы Вольнай, з паловай франтона, што выходзіў на Плошчу Свабоды, засталася. Яе давялося разбураць дадатковымі выбухамі.

Паколькі ў архівах і тагачасным друку адсутнічаюць зьвесткі аб выканаўцах гэтых выбухаў, разборак і зносаў, мне застаецца толькі выказаць верагодныя меркаваньні і прыпушчэньні.

Людзі на відэакадрах апранутыя ў звычайную цывільную вопратку, на правай руцэ ў кіраўніка падрываў — заручальны пярсьцёнак; усё гэта наводзіць на думку, што перад намі — звычайныя працаўнікі будаўнічага аддзелу гарадзкога камісарыяту. Зрэшты, кіраўнікамі такіх работ маглі быць і цывільныя немцы, якіх таксама было нямала ў аку-

69 Тамсама, арк, 30.
70 Беларуская газэта. 1 сакавіка 1944.

паванай Беларусі. Маглі беларускія інжынэры і работнікі працаваць і ў нямецкіх будаўнічых фірмах.

Напрыклад, у Менску дзейнічалі аддзяленьне вядомай нямецкай будаўнічай фірмы «Тодт», вытворчы ўчастак будаўнічай фірмы «Канстанцін Борман» і іншыя. Паперы, зьвязаныя зь дзейнасьцю гэтых кампаніяў, часта сустракаюцца ў беларускіх архівах. Але там нічога ня пішацца пра выбухі, разборкі руінаў і атрыманыя пры гэтым будаўнічыя матэрыялы. Зноў даводзіцца канстатаваць, што патрэбныя зьвесткі могуць захоўвацца ў архівах вэрмахту, якія цяпер знаходзяцца ў Нямеччыне.

Але вось ускоснае сьведчаньне ўсё той жа «Беларускай газэты». 25 сакавіка 1944 году ў разьдзеле «Менская хроніка» зьявілася даволі вялікая нататка пра структуру і дзейнасьць «Гарадзкога Будаўлянага аддзелу». У склад гэтага аддзелу ўваходзілі пададдзелы (у тэрміналёгіі арыгіналу):

1) гарадзкой архітэктуры і гарадзкога будаўлянага кантролю,

2) цывільнага будаўніцтва,

3) гарадзкіх дарогаў,

4) ачысткі гораду,

5) транспартнага парку,

6) інвэнтарызацыйнае бюро,

7) гарадзкіх паркаў і садоў, а таксама яму падпарадкоўваліся Гарадзкі будаўляны двор, Водная станцыя і Аўтапарк аддзелу[71].

І вось сярод функцый і задач Пададдзелу гарадзкой архітэктуры і будаўнічага кантролю згадваліся і такія:

71 Беларуская газэта. 25 сакавіка 1944.

*«Гэты пададдзел назірае за становішчам будынкаў у горадзе, за разборкай старых дамоў, выдае дазвол на рамонт будынкаў, наглядае за ім, праводзіць пляніроўку гораду, выдае і правярае пляны гарадзкіх зямельных вучасткаў, зацьвярджае новае будаўніцтва і наглядае за ягоным выкананьнем. У гэтым годзе намечаны рамонт 11 будынкаў...»*[72]

Магчыма, «разборка старых дамоў» — гэта і ёсьць знос руінаў?

Ну і аддзел «ачысткі гораду» таксама мог прычыніцца да «разборкі дамоў».

У кожным выпадку, адзін зь менскіх старажылаў, які падчас вайны 13-14-гадовым падлеткам вучыўся ў школе, што месьцілася на Нямізе ў тым будынку, які выходзіў тарцом на Школьны двор, успомніў пра разборку руінаў у квартале паміж Вольнай і Дзям'яна Беднага. Паводле старажыла, у руінах гэтага кварталу яшчэ ў верасьні-кастрычніку 1943 году працавалі зваршчыкі зь менскага гета — магчыма, яны здабывалі мэтал у руінах, разразаючы аўтагенам мэталічныя дэталі канструкцыяў. У працэсе працы яны нярэдка прыходзілі на Школьны двор, дзе ў іх было нешта накшталт базы, для зарадкі зварачных апаратаў карбідам. Ну а хлопцы са школы часта выпрошвалі карбід у зваршчыкаў.

Паводле ўспамінаў гэтага чалавека, у тым самым верасьні і кастрычніку 1943 году ўнізе Вольнай вуліцы, пры яе стыку з вуліцай Калініна яшчэ заставаліся сьцены дамоў вышынёй ня менш за два паверхі. Зваршчыкі працавалі ва ўнутранай частцы кварталу паміж Вольнай і Дзям'яна Беднага і, маг-

72 Тамсама.

чыма, у квартале паміж Вольнай і Нізкім рынкам. Як сьведчаць нямецкія аэрафотаздымкі восені 1943 году, у абодвух гэтых кварталах цэлымі, неразбуранымі заставаліся спаленыя каробкі практычна ўсіх старых дамоў.

Для вэрсіі аб падрывах руінаў з мэтай здабычы мэталаў можна знайсьці і іншыя пацьверджаньні. Гісторык вайны Ірына Варанкова піша:

*«...с городских скверов на Советской улице и на площади Свободы были сняты металлические решётки и перила»*[73].

Згаданы ўжо раней беларускі пісьменьнік і савецкі агент у акупаваным Менску Рыгор Мурашка ў 1944 годзе гэткім чынам падсумаваў сваю агляднуку запіску на імя маёра савецкай разьведкі С. Казанцава аб разбурэньнях у горадзе:

*«Таким образом выгорел весь центр города с лучшими зданиями, остатки которых немцы взорвали, ища золота и драгоценностей, а также собирая и увозя в Германию всю арматуру и металлический лом»*[74].

Застаецца дадаць, што і мае сваякі, якія гады акупацыі правялі ў Менску, ня раз расказвалі пра знаходкі золата ў руінах спаленых дамоў.

---

73 Воронкова И. Цыт. тв. С. 123.

74 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 612, арк. 4.

## Супярэчнасьці паміж здымкамі і малюнкамі

Падсумоўваючы расказ пра лёс Старога гораду часоў акупацыі, нельга не сказаць і пра пэўныя супярэчнасьці ў намаляванай толькі што агульнай карціне.

Па-першае, нямецкім аэрафотаздымкам 1944 году супярэчаць некаторыя тагачасныя малюнкі. Малюнкі Нізкага рынку (а менавіта той яго часткі, дзе быў уваход у вуліцу Дзям'яна Беднага), якія ў 1944 годзе зрабілі мастакі Мікалай Дучыц і Антон Каржанеўскі, фіксуюць іншую ступень разбурэньняў у дварах левай часткі вуліцы Дзям'яна Беднага і паўднёва-ўсходняга фронту забудовы рынкавага пляцу паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Гандлёвай. Абодва мастакі працавалі ў акупаваным Менску, Каржанеўскі нават быў пераможцам адной з выставаў у Бэрліне, і абодва пакінулі пасьля сябе цудоўныя выявы ваеннага і паваеннага гораду.

Асабліва ўважлівым да менскіх разбурэньняў быў Мікалай Дучыц. Усю акупацыю ён мэтанакіравана маляваў руіны ў розных частках гораду, але найперш — у старым цэнтры і на Замчышчы. Засталіся дзясяткі яго вялікіх і малых карцін і малюнкаў. І вось якраз на алейнай карціне Дучыца, датаванай яго ўласнай рукой 1944 годам, Нізкі рынак і двары на вуліцы Дзям'яна Беднага яшчэ захоўваюць значную частку забудовы, якой няма на нямецкіх здымках з самалётаў. Збольшага тая самая карціна і на малюнку Каржанеўскага.

Яшчэ адзін малюнак — каляровы лінатып пад назвай «Разбураны Мінск» — зроблены ў 1946 го-

дзе беларускім графікам Анатолем Тычынам. Гэта выгляд на Верхні горад (дакладней на руіны вуліцы Вольнай пры яе выхадзе на Плошчу Свабоды) з вуліцы Нова-Мясьніцкай — з той яе часткі, што ішла паміж Вольнай і Стара-Мясьніцкай. Вышыня гораў будаўнічага друзу на месцы кварталу паміж Рыбным рынкам і Вольнай і даволі высокія рэшткі муроў с цэлымі каванымі брамамі на самой Нова-Мясьніцкай таксама супярэчаць той карціне, што паўстае зь нямецкіх аэрафотаздымкаў 1944 году.

І, нарэшце, малюнак Нізкага рынку, зроблены ў 1946 годзе вядомым менскім калекцыянэрам і вялікім патрыётам Менску Васілём Калядой. Гэты малюнак — наогул вялікая загадка. Каляда фіксуе ўжо часткова разбураны і спалены Нізкі рынак з боку Стара-Мясьніцкай — г. зн. у яго той самы ракурс, што і ў Дучыца з Каржанеўскім. На малюнку той самы ўваход у вуліцу Дзям’яна Беднага, толькі мастак стаіць далей ад яго, таму ён захоплівае яшчэ і частку дамоў справа, а зьлева — арачны мур Мясных радоў з бэлькамі для навесаў-маркізаў. У 1944 годзе дамоў справа, калі верыць нямецкім аэрафотаздымкам, ужо не было.

Але найбольш зьдзіўляе той факт, што ў Каляды левы бок вуліцы Дзям’яна Беднага выяўлены амаль так сама як і ў Дучыца. Я кажу «амаль» таму, што двухпавярховы белы дом бяз даху ў цэнтры карціны Дучыца, у Каляды... яшчэ мае дах.

Канечне, мова ідзе пра аўтарскія малюнкі, а не пра фатаздымкі. Мастак можа нешта дадумаць, можа нешта намаляваць ня так, як ёсьць насамрэч, можа, урэшце, намаляваць рэтраспэкцыю. Зрэшты, гэты апошні варыянт тут, здаецца, не падыходзіць,

бо ў Каляды на малюнку — усё ж зафіксаваныя разбурэньні. Зразумела, што даты, пастаўленыя на малюнках, могуць не адпавядаць сапраўдным датам іх стварэньня. У Каляды нават лічба «6» у даце, здаецца, перапраўленая зь нейкая іншай, магчыма з чацьвёркі. За ўсім гэтым могуць стаяць асабістыя лёсы людзей, якія прайшлі празь цяжкія выпрабаваньні, перажылі вайну і акупацыю.

Але ўсё ж і не сказаць пра гэтую відавочную супярэчнасьць нельга. Тым больш што і менскія старажылы, прынамсі большая частка зь ліку тых, каго апытаў я, сумненьні не разьвеялі, а, хутчэй, умацавалі. І гэта — другая супярэчнасьць у лёсе Старога гораду ў гады вайны.

Зь ліку васямнаццаці апытаных старых менчукоў дванаццаць ня ўспомнілі пра нямецкія зносы гарадзкой забудовы на Замчышчы і на Нізкім рынку падчас акупацыі і сьцьвярджалі, што немцы нічога такога не рабілі, яны, маўляў, займаліся толькі расчысткамі завалаў пры дарогах. Тры чалавекі заявілі, што наогул ня маюць на гэты конт ніякай думкі. І яшчэ тры чалавекі сказалі, што на момант прыходу ў горад савецкіх войскаў у ліпені 1944 году большая частка Старога гораду, уключна зь Нізкім рынкам і Замчышчам, была цалкам разбураная.

Прычым зь ліку апошняй тройкі адной жанчыне ў 1944 годзе было ўсяго 9 гадоў, але затое жыла яна на момант вызваленьня па адрасе Нова-Мясьніцкая, 21. Пра поле на Замчышчы, якое мы бачым на нямецкіх аэрафота 1944 году, яна не казала. Але і пра захаваныя каробкі — таксама. Яна казала: «разваліны...»

Адзін чалавек казаў, што ў 1944 годзе бліжэйшая да рэчкі і самая высокая частка Замчышча была разбураная і там былі разьмешчаныя дзьве нямецкія зэнітныя батарэі. Сапраўды, пры ўважлівым разглядзе нямецкіх аэрафотаздымкаў 8 і 22 ліпеня 1944 году на бліжняй да Сьвіслачы самай высокай частцы Замчышча можна ўбачыць некалькі круглых аб'ектаў, падобных да пакінутых немцамі ўмацаваных агнявых пунктаў з бруствэрамі[75].

Разбураную вуліцу Энгельса ўспомнілі два чалавекі, астатнія або ня памяталі, або казалі, што яна захоўвала ўсе каробкі ад Савецкай да Інтэрнацыянальнай.

Але, паўтаруся, з васямнаццаці дванаццаць заявілі, што каробкі на Замчышчы і Нізкім рынку заставаліся да самага вызваленьня гораду ў 1944 годзе — г. зн. што гэтыя 12 старажылаў таксама не згаджаліся зь нямецкімі здымкамі 1944 году.

## Размова са сьведкам

Вось вытрымкі з расшыфроўкі маёй гутаркі са Станіславам Іванавічам Сакалоўскім (1925–2007), менчуком, які нарадзіўся і першыя 19 гадоў жыцьця (да ліпеня 1944 году) разам з маці жыў на вуліцы Камунальна-Набярэжнай, г. зн. праз рэчку ад Нізкага рынку. Нізкі рынак і Замчышча былі раёнам яго дзіцячых гульняў, падлеткавых захапленьняў і ваеннай маладосьці.

75 Гл.: NARA. Адзінкі захаваньня пасьлядоўна: dt tm 5 box 68 005-1; gx 1781 sk (2) 009.

Нягледзячы на паважны век Станіслаў Іванавіч меў вельмі ясны і востры розум, памятаў раён, які мяне цікавіў, у найменшых драбніцах — аж да колеру фарбы на тых або іншых дзьвярах і нумароў дамоў. У пачатку 2007 году мы гутарылі зь ім пра Стары горад чатыры разы — два разы пры асабістай сустрэчы і два разы па тэлефоне. У тым самым 2007 годзе, на жаль, яго ня стала.

Тут падаюцца вытрымкі з расшыфроўкі дзьвюх асабістых размоваў са Станіславам Сакалоўскім 4 і 5 лютага 2007 году ў 6-м клінічным шпіталі Менску.

*Гутарка 4 лютага 2007 году:*

— Вось глядзіце, Станіслаў Іванавіч, пазнаяце гэтую вуліцу?

— Что-то знакомое... А ну да, это Ново-Мясницкая. Тут уже руские едут, это 1944 год.

— Слушна. А ззаду ў іх Замкавая. На ліпень 1944 году на ёй дамы захоўваліся?

— Конечно.

— Чакайце, але на ўсіх вядомых здымках у 1944 годзе там ужо чыстае поле...

— Не знаю, какое поле, но дома на Замковой были.

— Давайце паглядзім іншы здымак. Гэта здымак пачатку ліпеня 1941 году зь нямецкага самалёта — першыя дні вайны. Пазнаяце? Самалёт над Савецкай вуліцай, лётчык здымае ў бок Замчышча. Тут ужо многія дахі на схіле ад Плошчы Свабоды да Нізкага рынку і Нямігі згарэлі, але ўся Замкавая цалюткая — ніводзін дах не пашкоджаны. Як доўга яна была ў такім выглядзе?

— Может так и была всю войну...

— Як? І пажару там ніякага не было?

— В 1941-м не помню я там никакого пожара. У меня там друг жил. Я к нему в гости ходил после прихода немцев. Вся улица была целая. Ну а потом там устроили гетто, и ходить туда уже было нельзя.

— Ну дык, можа, калі гета ліквідоўвалі, там дамы падрывалі або пажар здарыўся?

— Нет, не было там ни взрывов, ни пожара.

— Чаму ж пад канец вайны, калі ўжо гета там не было, там людзі не сяліліся?

— Знаешь, Серёжа, как-то люди не хотели там селиться после гетто. Так и стояли те дома заброшенные и незаселённые до конца войны.

— Ну там былі яшчэ суседнія вуліцы — Завальная, Падзамкавая. У якім стане была Падзамкавая?

— Целая. Все дома стояли.

— А дамы там былі пераважна драўляныя?

— Нет, нормальные, кирпичные. Деревянных было всего несколько.

— А мураваныя высокія? Колькі паверхаў?

— Два обычно.

— Падзамкавая была забрукаваная?

— Да, булыжником. Тротуары тоже были.

— Давайце яшчэ вернемся да Нізкага рынку. Значыць, усе дамы на ім захаваліся?

— Да. Ну что-то там было сожжено, крыш не было, но дома вокруг были целые. Правда в войну Нижний базар не действовал, никто там не торговал.

— Ну вось на здымку №2 відаць, што доўгі дом на Нізкім рынку з боку вуліцы Калініна бяз даху, спалены...

— Да-да, я же говорю, пожар там был, но коробки стояли все. Этот дом как раз перед войной отселили, собирались ремонт делать.

— А Стара-Мясьніцкую вуліцу памятаеце? Яна зь Ніжняга базару на Замкавую вяла. Там усё было цэлае?

— Знаешь, там ближе к Замковой несколько домов тоже сгорело, справа, ближе к речке. А так улица была целая. Там на углу, на Ново-Мясницкой при базаре, фольксдойчи жили. Были ассенизаторами, а стали полицией, сразу форму одели, пистолеты... Отношение изменилось, стали важные...

[...]

— Паглядзіце цяпер, калі ласка на гэты здымак. Гэта таксама здымаў нямецкі лётчык. Тут ён над Нямігай, здымае ў бок Пляцу Волі. Бачыце, вось Няміга, Рыбны рынак, а вось вуліцы Вольная і Калініна, на іх спаленыя каробкі. У якім стане гэтая мясьціна была, калі вярнуліся саветы?

— Всё было так, как на снимке. Эти коробки сохранились до конца оккупации. Только вверху на Школьной дома обсыпались...

— Станіслаў Іванавіч, чаму вы называеце гэтую вуліцу Школьнай? Яна ж была ўжо перайменавана ў Вольную, яшчэ перад вайной, у пачатку 30-х гадоў...

— Не знаю, эта улица всегда была Школьной, мы ее так и называли всегда. Это Школьная.

— А гэта Калініна?

— Нет, продолжение Немиги. Тут она шла в сторону Нижнего базара.

— Мушу вам сказаць, што я вельмі зьдзіўлены. Я думаў, што мясцовыя жыхары павінны былі ве-

даць, што гэтыя вуліцы перайменаваныя ў Вольную і Калініна.

— Ну не знаю, Серёжа. Мы всегда называли её Школьной. Про Вольную я ничего не помню и не знаю.

— Добра, дык вы кажаце, што гэтыя спаленыя каробкі на Школьнай і на Нямізе ў бок Нізкага рынку прастаялі ўсю вайну ў такім выглядзе, як на здымку?

— Ну конечно. Ты пойми, я всю войну тут ходил, среди этих коробок. Они у меня и сейчас перед глазами.

— Калі ж яны зьніклі? Хто іх разбурыў?

— Ну как кто? После войны уже...

— А калі дакладна? На большасьці здымкаў 1944 году тут ужо нічога няма, адны руіны, ніякіх каробак.

— Ну знаешь, Серёжа, я ведь сразу после 3 июля того... в армию меня забрали, и пять лет меня в Минске не было. Когда я пришел, там уже всё чисто было, парк посадили и туалет на склоне, в бывших дворах Козьмодемьяновской, сделали.

— Не магу паверыць, вы і вуліцу Дзям’яна Беднага Казьмадзям’янаўскай называеце... І прыбіральня там на схіле была?

— Так моя мать её всегда называла. Я когда пришел, там ещё три дома оставалось и туалет на склоне построили, какие-то магазины...

— А вось паглядзіце, гэта здымак у бок Замчышча зь вежы езуіцкага касьцёла на Плошчы Свабоды. Ён датаваны 3 ліпеня 1944 году. Бачыце, на Стара-Мясьніцкай і Замкавай, а таксама вакол Нізкага рынку ніводнага дома, ніводнай цэлай каробкі, су-

цэльнае поле. Толькі трасы вуліц захаваліся і рэдкія падмуркі. Калі ўсё ж гэта ўсё было разбурана?

— Нет, это, наверное, не 3 липеня... Тут всё было, как на предыдущем снимке. Так 3 июля не могло быть, это значительно позже. Не знаю, как и когда тут всё снесли, но в 1944 году тут было всё иначе. Вот смотри, у тебя на снимке башня с часами сожжена и без купола, часы разбиты. А она до самого конца оккупации была целая, и купол был, и часы шли. Мы выходили на Нижний базар и смотрели, сколько времени. Оттуда видно было...

[...]

— Ну добра, а вось здымак яшчэ адной вуліцы. Пазнаяце?

— Да, это Козьмодемьяновская.

— Так, Казьмадзям’янаўская. Гэта самы пачатак вайны, бачыце, некаторыя дамы зьлева разбураныя, іншыя спаленыя, пралёт вуліцы завалены друзам. У якім стане гэтая вуліца дайшла да 1944 году?

— Так и дошла. Никто там особенно ничего не чистил. Там где-то люди жили во дворах. Но там страшно было, говорили, что там банда была, кого-то ограбили, убили и там же сожгли...[76]

*Гутарка 5 лютага 2007 году:*

— Ведаеце, Станіслаў Іванавіч, не магу супакоіцца пасьля нашай учорашняй размовы. [...] Давайце яшчэ раз удакладнім. Вось здымак з самалёта. Значыць, усе гэтыя каробкі на Нямізе, Школьнай

76 Аўдыёзапіс ад 4 лютага 2007 году. Архіў аўтара.

і Нізкім рынку захаваліся на момант прыходу... «нашых»?

— Да, абсолютно все. Всё так и стояло.

— А вось у гэты бок. Вось Рыбны рынак, яго яшчэ Біржавым завулкам называлі. Вось квартал паміж Біржавым і Школьнай, гэтыя каробкі таксама захаваліся?

— Ну да. Видишь, они и у тебя на снимке тут частично разрушенные. Так всё и было.

— А немцы тут нічога ня зносілі? Некаторыя кажуць, што яны разбуралі тое, што пагражала абваліцца.

— Нет, Серёжа, тут всё было, как на снимках. Тут немцы ничего не сносили. В самом начале войны одну стену обрушили со стороны Школьного двора и всё. Так всё и стояло. Коробки были.

— Не магу паверыць. Фантастыка. А вось, Станіслаў Іванавіч, паглядзіце яшчэ на здымак. Гэта Рыбны рынак пасьля вайны. Бачыце, кварталу паміж рынкам і Школьнай ужо няма, толькі падмуркі дамоў. Можа вы забыліся, можа так было ўжо ў акупацыю?

— Нет, говорю тебе, тут были коробки. А с этой стороны, одноэтажный длинный дом, бывшие магазины — тут были баптисты во время войны, их центр.

— Ладна. А вось паглядзіце, тут на здымку відаць, што з Рыбнага базару на Школьную вёў яшчэ вузкі крывы завулак. Бачыце, частка сьцяны дома паўтарае яго крывую трасу. Памятаеце яго?

— Помню, конечно.

— Як ён называўся?

— Никак не назывался. Проход и всё.

— Але сам завулак быў?

— Был.

— Добра, Станіслаў Іванавіч, давайце перанясемся ў іншую частку гораду. Вось здымак вуліцы. Пазнаяце?

— Конечно, это Энгельса. Тоже сгорела в начале войны.

— Дакладна, Энгельса. Здымак 1944 году. Пытаньне — у якім выглядзе яна дайшла да вызваленьня? Гэтыя першыя дамы зьлева і справа былі?

— Конечно. Такой она и была.

— Давайце яшчэ раз уважліва паглядзім і падумаем, Станіслаў Іванавіч. Справа ў тым, што я бачыў кінахроніку часоў акупацыі, там дэманстрацыя ішла па вуліцы Савецкай міма Энгельса, дык гэтых дамоў справа і зьлева не было. І яшчэ адзін здымак вядомы, калі на рагу Энгельса і Савецкай стаіць савецкі вайсковы рэгуліроўшчык, і дамоў з двух бакоў вуліцы пры яе стыку з Савецкай ужо няма. Той здымак датуюць ліпенем 1944 году. Як жа было насамрэч?

— Я не знаю, что там за кинохроника, но эту улицу я знаю и помню очень хорошо. Вот смотри, тут направо шла Коммунистическая. На ней, рядом с Энгельса, был Клуб строителей, там моя мать работала. Я к ней часто ходил. В клубе кинозал был, мы туда в кино ходили, выход из кино был во дворы на Энгельса. Так что я эту улицу очень хорошо помню. И в войну помню. Так она и стояла, как на снимке.

— Мне цяжка паверыць у тое, што вы кажаце. Тыя здымкі, дзе дамоў на Энгельса ўжо няма, такія вядомыя. Можа іх усё ж перад самым прыходам саветаў зьнесьлі немцы? Вось глядзіце, на доме справа

крыжы намаляваныя. Можа гэта немцы пазначалі дамы, падрыхтаваныя да зносу?

— Не знаю, что это за кресты. Но ты же сам говоришь, что твой снимок 1944 года. Я такой её и помню. Сожжены дома, но коробки-то стояли. Не слышал я, чтобы немцы что-то сносили. Завалы они разбирали, евреев гоняли на работы, пленных, но это в начале войны.

[...]

— А вось яшчэ адзін цікавы здымак. Нямецкі лётчык над Опэрным тэатрам робіць здымак у бок Нізкага рынку. І вось мяне тут цікавіць адна дэталь. Бачыце, вось тут, на Нізкім рынку з боку Сьвіслачы паўкругам стаяць белыя арачныя гандлёвыя рады? Вы памятаеце гэтыя гандлёвыя рады? Ці захаваліся яны да канца акупацыі?

— Конечно, помню. Они были деревянные. По-моему, их огонь тоже не затронул, так и простояли всю войну...

— Чакайце, як драўляныя? Тут на здымку добра відаць, што гэта клясычная такая будыніна гандлёвых радоў — аркі, шырокія слупы паміж імі... Выглядае, што гэта тынкаваная цэгла.

— Нет, Серёжа, ну что ты. Я же тебе говорю: да, были там ряды, но они были из дерева. Там, вглубь, под горой, были и другие, из красного кирпича, но они были выше и солиднее, тоже с арками.

— Справа ў тым, што з таго самага боку Нізкага рынку, бліжэй да моста, быў драўляны склад, можа вы яго маеце на ўвазе?

— Нет, нет. Эти белые ряды, что ты показываешь, были деревянные.

[...]

— Я ўсё не магу супакоіцца наконт Замкавай і Нізкага рынку. Значыць, вы сьцьвярджаеце, што нічога там спалена і разбурана не было. Усе вуліцы Замчышча — і Замкавая, і Завальная, і Нова-Мясьніцкая, і Падзамкавая — захоўвалі прынамсі каробкі дамоў да самага прыходу саветаў?

— Да, все эти улицы сохранились... Ты знаешь, я вчера вечером думал про это, вспоминал... Может, там какие-то дома и были сожжены... Понимаешь, там дети, шпана городская пропадали, хулиганьё всякое, могли что-то и поджечь. І потом наши бомбили эти места несколько раз, это я хорошо помню... Представляешь, пустые брошенные дома... Очень страшно было[77].

## Пытаньні без адказаў

Вось такія аповеды старажылаў давялося крытычна ацэньваць і вычляняць зь іх рацыянальнае зерне. Некаторыя цьверджаньні ў расказе Станіслава Сакалоўскага, у прыватнасьці фраза «Не слышал я, чтобы немцы что-то сносили», як мы ведаем, не адпавядаюць сапраўднасьці. Ды што там некаторыя, многія яго цьверджаньні не адпавядаюць сапраўднасьці.

І ўсё ж гэта дакумэнт, які ня толькі сьведчыць пра недакладнасьць людзкой памяці, якая зь цягам часу можа зьмяшаць усё ў галаве чалавека і блытаць даты і падзеі, але і дае нам некаторую важную інфармацыю, напрыклад, пра тое, што «наши бом-

77 Аўдыёзапіс ад 5 лютага 2007 году. Архіў аўтара.

били эти места несколько раз…» А гаворка ж ідзе пра Замчышча...

Я дапускаю, што для маіх суразмоўцаў вялікага значэньня ня мела колькасьць дамоў, што засталіся на 1944 год на той або іншай вуліцы Замчышча. Па некалькі дамоў або каробак заставалася ж на кожнай зь іх. Але, зь іншага боку, казалі яны мне пра захаваныя Нізкі рынак і Замчышча, гледзячы на канкрэтныя фатаздымкі...

Пры гэтым ускоснае пацьверджаньне словам Станіслава Сакалоўскага дае і ня раз ужо згаданы тут беларускі пісьменьнік Рыгор Мурашка, які ў сваіх нататках у пачатку 1944 году апісвае характар і маштабы разбурэньняў Менску. Пра раён, які нас цікавіць, ён напісаў наступным чынам:

*«По нечётной стороне Советской улицы граница уничтожения определяется выгоревшими улицами: Ленинской, Школьной, Демьяна Бедного, Немигой, начиная от б. Рыбного базара, Мясницкой и Подзамковой (от Мясницкой и до Нижнего базара), Нижним базаром, половиной Торговой улицы до 1 отд. милиции, Красноармейской, Пролетарской, Садовой и дальше вплоть до Комаровки…»*[78]

Тут Мурашка троху блытае вуліцы, напрыклад, Завальную і Падзамкавую, але галоўнае ня гэта. Галоўнае, што ён у 1944 (!) годзе вуліцы амаль усяго раёну Старога гораду называе «выгоревшими», а не разбуранымі, зьнесенымі ці падарванымі немцамі (а пра падрывы ж ён пазьней таксама піша). І самае галоўнае, Мурашка сярод спаленых вуліц Старога гораду не называе Замкавай (!) — самай вялікай

78 НАРБ, ф. 4п, воп. 33а, спр. 612, арк. 1.

вуліцы Старога гораду. Гэта значыць, што ў пачатку 1944 году ён апісвае Стары горад такім, якім мы бачым яго на здымках Руфа восеньню 1941 году (там Замкавая цэлая) і якім яго запомніў і апісаў у размове са мной Станіслаў Сакалоўскі! І гэта зноў жа моцна супярэчыць ужо ня раз згаданым аэрафотаздымкам 1942–1944 гадоў.

І, нарэшце, трэцяе. Гэта мае ўласныя развагі-сумненьні наконт нямецкіх зносаў у Старым горадзе і на Замчышчы. Як мы бачылі, і Рыгор Мурашка сьведчыў, што немцы здабывалі ў менскіх руінах мэталалом (для чаго ўчынялі падрывы), і гісторыкі пісалі пра тое самае, і рэальныя кадры нямецкіх падрываў публікуюцца ў гэтай кнізе.

Але вось пра што думаецца. Я магу зразумець, чаму на нямецкіх аэрафотаздымках 1942 году зьнесена ўжо большая частка руінаў уздоўж вуліцы Ленінскай паміж Савецкай і Плошчай Свабоды і значная частка на самой Савецкай, асабліва ў так званым Новым горадзе — там, дзе цяпер Кастрычніцкая плошча. Гэтыя дамы пераважна будаваліся або перабудоўваліся і надбудоўваліся ў XX стагодзьдзі, у іх канструкцыях ужо былі жалезныя бэлькі і іншыя мэталічныя канструкцыі, што рабіла іх прывабнымі для тых, хто здабываў лом на пераплаўку. Гэтыя жалезныя бэлькі мы і бачым на шматлікіх здымках разбуранага гатэлю «Эўропа», які быў грунтоўна перабудаваны ў 1906–1908 гадах.

Але дамы Старога гораду і Замчышча будаваліся яшчэ цэхавымі майстрамі ў XVII–XIX стагодзьдзях і ня тое што жалезных бэлек у канструкцыі — яны прыбіральняў у кватэрах ня мелі... Гэта былі старыя камяніцы з цэглы, некаторыя са скляпеньнямі на

першых паверхах і ў лёхах, іх шмат разоў перараблялі, перабудоўвалі і перапляніроўвалі, з прычыны чаго яны пастаянна абсыпаліся і абрыналіся.

Таму вэрсія, што немцы зьнесьлі спаленыя руіны Старога гораду, каб здабыць мэтал, таксама мае слабыя месцы — мэталу там якраз было вельмі мала. Хіба што вадасьцёкавыя трубы і рэшта бляхі са спаленых дахаў, дык іх можна было сабраць і бяз зносаў і выбухаў.

Яшчэ адна вэрсія Рыгора Мурашкі — пошук немцамі золата і іншых каштоўнасьцяў. Як я ўжо казаў, пра знаходкі золата ў руінах расказвалі мне і мае сваякі, што жылі ў вайну ў Менску. Але мне і гэтая вэрсія ўяўляецца малаверагоднай. Сапраўды, раён Замчышча быў месцам вялікай канцэнтрацыі габрэйскага насельніцтва. Але месцамі ня меншай канцэнтрацыі габрэйскага насельніцтва была і Няміга, і вуліца Гандлёвая, і вуліца Астроўскага, і іншыя суседнія зь ёй вуліцы Ракаўскага прадмесьця. Тым ня менш, мураваныя дамы на гэтых вуліцах у пошуках золата ніхто не паліў і ня зносіў.

Лішні аргумэнт на карысьць гэтых сумненьняў — лёс тых камяніцаў Нізкага рынку і Замчышча, якія не былі закранутыя пажарам і захаваліся ў прыдатным для жыцьця стане. Гэта дом на рагу Нізкага рынку і Дзям'яна Беднага (правы бок), які існаваў да 50-х гадоў XX стагодзьдзя, пара дамоў на супрацьлеглым баку рынку, ля кварталу Мясных радоў, і каля дзясятка дамоў на Замкавай, Падзамкавай, Завальнай і Нова-Мясьніцкай. Іх не кранулі ўсе пажары і бамбаваньні, у выніку чаго яны пасьпяхова дажылі да 50-х і нават да 60-х гадоў XX стагодзьдзя. Калі б немцы так зацята шукалі зола-

та або чорныя і каляровыя мэталы, то чаму ж яны гэтыя дамы сярод поля суцэльных руінаў пакінулі некранутымі? Не пасьпелі?

Чацьвёртае. Пра сьведчаньне Станіслава Сакалоўскага, Ірыны Клышкі і іншых менскіх старажылаў, што раён Замчышча ня раз бамбіла савецкая авіяцыя. Самі гэтыя бамбаваньні вельмі дзіўныя, бо ў тым раёне дакладна не было ніякіх нямецкіх вайсковых аб'ектаў. Можна прапанаваць вэрсію, што савецкая авіяцыя, ратуючыся ад нямецкай зэнітнай артылерыі, бамбавала Менск зь вялікай вышыні, і таму бомбы падалі ўсюды, дзе заўгодна. Можа і так, асабліва калі ўспомніць пра некалькі недакладных спробаў разбамбіць Дом Ураду. Але і тут ня ўсё гладка.

Па-першае, не такая ўжо і недакладная была савецкая авіяцыя. Зьвесткі пра дакладныя савецкія бамбаваньні Менску, калі траплялі менавіта туды, куды цэлілі, можна знайсьці і ў працах гісторыкаў. Ірына Варанкова прыводзіць нямала прыкладаў вельмі ўдалых і, галоўнае, трапных савецкіх бамбаваньняў Менску. У сакавіку 1942 году савецкая авіяцыя разбамбіла вайсковыя казармы на Чырвонаармейскай вуліцы, у выніку чаго загінулі 300 літоўскіх паліцыянтаў, у чэрвені 1942 году цалкам разбамбілі мэханічны цэх заводу імя Варашылава, дзе немцы рамантавалі танкі, у кастрычніку 1943 году ў Сьляпянцы была зьнішчаная зэнітная батарэя разам з 47 нямецкімі зэнітчыкамі і інш.[79]

Паводле сьведчаньня маіх сваякоў, аднойчы падчас акупацыі ў Траецкім прадмесьці гулялі

79 Воронкова И. Цыт. тв. С. 234–235.

вясельле паліцыянта. Менскія падпольшчыкі далі дакладныя каардынаты, вечарам прыляцеў адзін або два самалёты і прамым пападаньнем зьнішчылі ўвесь дом разам з гасьцямі і маладымі. Менчукі былі так уражаныя здарэньнем, што пра яго гаварыў увесь горад.

І, па-другое, калі б бомбы на Замчышча траплялі з прычыны высокай вышыні і недакладнасьці, то чаму яны зусім не кранулі суседнія Нямігу, Гандлёвую і іншыя вуліцы?

Сытуацыя выглядае так, што немцы ў Менску пакінулі цэлым усё, што не было спалена і разбурана. А пытаньне, чаму дашчэнту зьнесьлі менавіта Стары горад, а не, скажам, два кварталы ў прастакутніку паміж Савецкай, Карла Маркса, Камсамольскай і Валадарскага, якія таксама былі цалкам спаленыя і дзе жалезных канструкцыяў з увагі на ўзрост дамоў было значна больш, застаецца пакуль адкрытым.

Але адну выснову з аповеду менскіх старажылаў і асабліва Станіслава Сакалоўскага зрабіць усё ж можна: тое, што ён, жывучы праз раку ад Нізкага рынку, зусім ня памятаў яго зносу, азначае толькі адно — дамы вакол рынку былі зьнесеныя перад самым прыходам у Менск Чырвонай арміі, у якую мой суразмоўца адразу і быў прызваны. Нізкі рынак і кварталы на Замчышчы зьніклі не раней за вясну 1944 году.

Сёньня мы дакладна ведаем наступнае. Паводле вусных сьведчаньняў археоляга Ўладзімера Ісаенкі (у размовах з аўтарам) і пісьмовых сьведчаньняў

археляга Васіля Тарасенкі[80], нямецкія ўмацаваньні на Замчышчы ў самым канцы акупацыі сапраўды зьявіліся. На аэрафотаздымках 28 траўня і 6 чэрвеня 1944 году паміж вусьцем Нямігі і Замчышчам можна ўбачыць круглы бэтонны дот, а на здымках 8 і 22 ліпеня 1944 году на самім Замчышчы з боку Сьвіслачы можна бачыць і круглыя гнёзды зэнітных гарматаў і крывыя лініі акопаў. Вось як пра гэта пісаў Васіль Тарасенка:

«Вблизи северного края Замчища немецко-фашистские захватчики соорудили железобетонный дот, а поперёк площадки Замчища вырыли идущие с северо-запада на юго-восток окопы полного профиля. Кроме того в центральной части площади Замчища ими же были вырыты две глубокие ямы. В одной из них, более крупной по размерам, оккупанты разместили зенитные пушки и склад снарядов, а дно заложили битым кирпичом»[81].

На аэрафотаздымку 8 ліпеня 1944 году такіх ям на Замчышчы можна налічыць некалькі, але дзьве зь іх, бліжэйшыя да Сьвіслачы, сапраўды большыя і аточаныя землянымі бруствэрамі. Відавочна, што лінія акопаў была прызначаная для абароны ад наступу савецкіх войскаў з усходу, а зэніткі проста зьявіліся на самай высокай частцы Замчышча.

Але тут паўстае пытаньне, ці трэба было зносіць большую частку Старога гораду, уключна з самым старым мураваным кварталам Менску паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Вольнай, забудову Нізкага

---

80 Тарасенко В. Древний Минск (по письменным источникам и данным археологических раскопок 1945–1951 гг.) // Материалы по археологии БССР. Том 1. Мн, 1957.

81 Тамсама. С. 195–196.

і Рыбнага рынкаў і палову Замчышча, каб вырыць адну кароткую лінію акопаў у голым полі на паўночна-ўсходнім краі Замчышча? Ці ня лепш бараніцца сярод руінаў дамоў, якія перашкаджаюць танкавым кідкам, і ці ня лепш хаваць зэніткі ў тых самых руінах?

З акопаў на пагорку сапраўды было зручна абстрэльваць праціўніка за ракой. Але зьнесеная забудова Нізкага і Рыбнага рынкаў наадварот адкрывала шлях савецкім войскам праз горад у заходнім кірунку. Выглядае, што вэрмахт напярэдадні прыходу ў Менск Чырвонай арміі сытуацыйна разьмясьціў гэтую даволі слабую лінію абароны, прызначаную хутчэй за ўсё для тактычнай, кароткатэрміновай затрымкі праціўніка, на месцы ўжо зьнесенай забудовы Замчышча. І зьнесенай ня ім.

Пытаньне ж, чаму гэтым займалася гарадзкая адміністрацыя, пакуль застаецца адкрытым. Адзін з многіх верагодных адказаў — здабыцьцё будаўнічага матэрыялу для пабудовы абарончых умацаваньняў. Калі Менск стаў прыфрантавым горадам, ён трапіў у юрысдыкцыю нямецкіх генэралаў. У такім выпадку гэта магло быць зроблена на загад вэрмахту. Вэрсія вельмі праўдападобная, ёй замінае толькі факт дзіўнага супадзеньня — разбурыць для здабыцьця будаўнічага матэрыялу акупанты чамусьці вырашылі менавіта Стары горад, які быў прызначаны пад знос яшчэ ленінградзкім генплянам 1936 году. А зь іншага боку, раён Старога гораду, у прыватнасьці забудову Нізкага рынку, гарадзкія ўлады пачалі зносіць задоўга да вясны 1944 году, і вэрмахт тут ні пры чым. Так што пытаньні пакуль застаюцца без адказаў.

## 3 ліпеня 1944 году — савецкія бомбы над Менскам

Падчас маіх сустрэчаў зь менчукамі, якія жылі ў вайну ў самым цэнтры гораду, многія зь неўразуменьнем расказвалі пра жорсткія савецкія бамбаваньні Менску ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 году.

Вось аповед менскай пэнсіянэркі, спадарыні Ларысы:

*«Гісторыкам задаюць пытаньні, наколькі Менск быў разбураны падчас вайны 41-га году. Я, карэнная мянчучка, у 41-м годзе скончыла першы кляс, хачу падзяліцца сваімі дзіцячымі ўспамінамі. Менск да вайны быў утульны горад з вузкімі вулачкамі, у асноўным былі прыватныя дамы. Цэнтар — гэта вуліцы Савецкая, Ленінская, Карла Маркса. А далей ужо Татарскія агароды, Няміга, Ніжні базар, Кальварыя. Нашая вуліца, дзе былі прыватныя дамы, цягнулася ўздоўж Сьвіслачы ў раёне Опэрнага тэатру...*

*Нашы самалёты вельмі часта бамбілі Менск, бамбілі тыя месцы, дзе знаходзіліся немцы, — гэта раён Опэрнага тэатру і штаб, які знаходзіўся ў канцы нашай вуліцы. Там пабудавалі да вайны шматпавярховы дом.* ***Дык мы якраз былі ў гэтым цэнтры, куды кідалі бомбы*** *(вылучэньне маё — С. А.).*

*Аднойчы ў час такога налёту, гэта было амаль у канцы вайны, было вельмі страшна. У той час па-*

*раніла майго дзядзьку, бо бомба разарвалася побач з нашым домам, а дом, куды накіроўвалі бомбы, так і цяпер стаіць»*[82].

Рашэньне аб летнім наступе ў Беларусі Сталін прыняў у канцы красавіка 1944 году. Падчас абмеркаваньня хады апэрацыі маршал Жукаў прапанаваў выкарыстаць для бамбаваньня Беларусі ўсю (!) цяжкую авіяцыю далёкага дзеяньня, якая была ў СССР. Сталін згадзіўся. Вось як сам Жукаў пісаў пра гэта ў сваіх успамінах:

«*Я предложил Верховному также в предстоящей операции использовать всю авиацию дальнего действия, отнеся на более поздние сроки ее налеты на объекты, расположенные на территории Германии. Верховный согласился с этим и тут же приказал послать ко мне маршала авиации А. А. Новикова и маршала авиации, командующего авиацией дальнего действия А. Е. Голованова, с которыми мне лично приходилось много работать во всех важнейших предыдущих операциях...*

*Вместе с А. А. Новиковым, А. Е. Головановым, С. И. Руденко и К. А. Вершининым* (камандуючыя паветранымі арміямі — С. А.) *мы подробно обсудили обстановку, цели, задачи и планы применения воздушных армий и взаимодействие их с авиацией дальнего действия, удары которой нацеливались по штабам, узлам связи оперативных объединений, по резервам и другим важнейшим целям.*

*Кроме того, были рассмотрены вопросы маневра авиации фронтов в общих интересах. Для поддержки действий 3-го Белорусского фронта в распоря-*

---

82 Аўдыёзапіс з архіву Радыё Свабода за 7 ліпеня 2006 году.

*жение А. М. Василевского было выделено около 350 тяжелых самолетов...»*[83]

А вось сьведчаньні самога камандуючага савецкай авіяцыяй далёкага дзеяньня маршала Аляксандра Галаванава, якога згадвае Жукаў.

*«В преддверии готовившегося пятого удара авиация дальнего действия в интересах 1-го и 2-го Белорусских фронтов начала действовать по железнодорожным узлам... В первой половине мая были нанесены удары по Брестскому, Люблинскому, Хелмскому, Минскому, Барановичскому железнодорожным узлам...*

*В июне, в подготовительный период и в первые дни самой операции, мы произвели в интересах указанных выше фронтов 6053 самолето-вылета. За этот период авиация ДД, уничтожала скопления железнодорожных эшелонов, разрушала пути и станционные сооружения на железнодорожных узлах, станциях и перегонах на участках Орша — Минск — Барановичи...*

*Ударам с воздуха подвергались железнодорожные узлы Минск, Барановичи, Молодечно, Осиповичи, Орша, Лунинец, Полоцк...*

*Удары, как правило, наносились массированно, и в зависимости от загруженности узлов эшелонами количество самолетов в каждом из них доходило до двухсот и более»*[84].

Больш за два месяцы ўся цяжкая авіяцыя СССР разам з франтавой авіяцыяй бамбавала разьмеш-

---

83 Жуков Г. Воспоминания и размышления. Масква, 1969. С. 559.
84 Голованов А. Дальняя бомбардировочная. Москва, 2007. С. 446, 453–454.

чаныя ў беларускіх гарадах і мястэчках нямецкія аб’екты. Наступствы былі жахлівыя.

Баі за вызваленьне Беларусі — так званая Беларуская апэрацыя — цягнуліся з 23 чэрвеня да 29 жніўня. Але ўжо зь сярэдзіны чэрвеня практычна кожны дзень «Совинформбюро» падавала зводкі з фронту і, асобна, зводкі «Дзеяньні нашай авіяцыі»:

*«У ноч на 13-га і ў ноч на 14-га чэрвеня наша авіяцыя дальняга дзеяньня наносіла масіраваныя ўдары па аэрадромах праціўніка. Бамбардыроўцы былі падвергнуты аэрадромы ў раёнах — Брэста, Беластока, Баранавіч, Пінска, Мінска, Бабруйска, Оршы... У выніку бамбардыроўкі ўзьніклі шматлікія пажары... 8 нашых самалётаў не вярнуліся на свае базы»*[85].

*«У ноч на 18-га чэрвеня наша авіяцыя дальняга дзеяньня наносіла масіраваныя ўдары па аэрадромах праціўніка ў раёне Баранавічы, Пінск, Мінск... Узьніклі масавыя пажары...»*[86]

*«Наша авіяцыя ў ноч на 28-га чэрвеня нанесла моцныя ўдары па чыгуначных вузлах Баранавічы, Лунінец, Мінск, Полацк і чыгуначнай станцыі Барысаў... Пажары наглядаліся экіпажамі пры ўходзе ад цэлі з адлегласьці 150 кілометраў...»*[87]

*«У ноч на 29 чэрвеня наша авіяцыя зрабіла масіраваныя налёты на чыгуначныя вузлы Баранавічы, Мінск і Полацк... Асабліва інтэнсіўны налёт наша авіяцыя зрабіла на чыгуначны вузел Мінск...»*[88]

85 Савецкая Беларусь. 16 чэрвеня 1944.
86 Савецкая Беларусь. 20 чэрвеня 1944.
87 Савецкая Беларусь. 29 чэрвеня 1944.
88 Савецкая Беларусь. 30 чэрвеня 1944.

*«Наша авіяцыя ў ноч на 1 ліпеня зрабіла масіраваныя налёты на чыгуначныя вузлы Яглевічы, Баранавічы, Лунінец, Маладзечна, Мінск, Полацк. У выніку бамбардыроўкі... узьніклі шматлікія пажары»*[89].

Калі меркаваць па зводках «Совинформбюро», то ў другой палове чэрвеня — пачатку ліпеня 1944 году адбылося ня менш за 8-9 масавых савецкіх налётаў на Менск.

Чытачу, відаць, ня трэба тлумачыць, што «чыгуначным вузлом» можна назваць ня толькі ўласна станцыю, але і шырэй — сам горад. Немцы мелі ў Менску, як і ў іншых беларускіх гарадах, цяжкія 88- і 105-мілімэтровыя зэнітныя гарматы, шчыльны агонь якіх мог не даваць савецкім самалётам зьніжацца на дастатковую для прыцэльнага «бомбамятаньня» вышыню.

Рэгулярныя нямецкія часткі пакінулі горад 2 ліпеня. У той самы дзень менчукі бачылі ў горадзе савецкую франтавую разьведку на трафэйных аўтамабілях. І пасьля данясеньняў разьведчыкаў аб тым, што немцаў у горадзе ўжо няма, Менск зноў ноччу жорстка бамбілі, прычым самы цэнтар. Мне давялося гутарыць з жанчынай, якая тады жыла на Нова-Мясьніцкай вуліцы на Замчышчы — асколак ад савецкай бомбы, уляцеўшы праз акно, засеў у падушцы на яе ложку.

2 ліпеня сярод менчукоў пайшла пагалоска, што на пакінутым немцамі хлебазаводзе на вуліцы Астроўскага можна здабыць хлеб і муку. Мая цётка Ірына Грамыка разам са сваёй старэйшай сястрой Ганнай Шавель (прозьвішчы мужоў, дзявочае ў абедзьвюх — Лось) спрабавалі туды схадзіць. Расказваючы пра гэта, цётка Ірына расплакалася. Яна казала што

89 Совецкая Беларусь. 2 ліпеня 1944.

з вуліцы Ратамскай, дзе тады жыла выселеная немцамі з Інтэрнацыянальнай уся мая сям'я, яны з Ганнай паўзьлі да заводу, там набралі поўную навалку мукі, бо хлеба ўжо не засталося, і пасьпяхова прыпаўзьлі назад.

Калі я спытаў, чаму яны паўзьлі, цётка адказала:

«Што ты, Сярожа, гэта было пекла. Менск страшэнна бамбавалі і абстрэльвалі. Выбухі вакол, над галавой усё сьвістала. Я думала, што не дапаўзу, памру ад страху...»[90]

А вось што пісаў пра тыя дні журналіст Пётра Васілеўскі:

*«Камандаваньне Чырвонай Арміі мела дакладныя зьвесткі, што ўжо 2 ліпеня ў Мінску не было ніводнага немца. Таму 3 ліпеня савецкія танкісты, перасьледуючы імкліва адыходзячага ворага, ня мелі часу каб ладзіць імправізаваныя мітынгі і прымаць кветкі ад нібыта шчасьлівых мінчукоў — быў загад: не спыняцца! Танкі абмінулі горад або, не спыняючыся, прайшлі ўскраінамі. Немцаў жа Чырвоная Армія дагнала толькі ў раёне Валожына. А вось навошта 3 ліпеня, якое сёньня адзначаюць як усенароднае сьвята, савецкая авіяцыя нанесла па Менску (дзе, нагадаю, немцаў ужо не было) масіраваны бомбавы ўдар?*

*Гісторыкі ўцямна патлумачыць гэтага факту ня могуць і з гэтай прычыны маўчаць. Дзякуй вызваліцелям, так бы мовіць — ім зьверху лепей бачна. Так што 3 ліпеня мінчукі не мітынгі ладзілі, а па склепах хаваліся ад "родных" бомбаў»*[91].

---

90 Аўдыёзапіс размовы 6 лютага 2007 году. Архіў аўтара.

91 Васілеўскі П. Перформанс «Прощай СССР» на прыступках Нацыянальнага мастацкага музэя. Артыкул апублікаваны ў «Народнай Волі» ў 2006 годзе. Тут цытуецца з электроннай копіі, ласкава дасланай аўтарам.

Якім жа быў вынік тых налётаў на «аэрадромы» і «чыгуначныя вузлы»? Дамо слова відавочцам. Вось аповед старшыні Менскага гарвыканкаму ў 40-я гады Канстанціна Бударына:

*«Сюды* (у Менск — С. А.) *я прыехаў 3 ліпеня з апэратыўнай групай гаркома і абкома. Мы сустрэлі страшную забруджанасьць Мінска: трупы людзей і коней, пажары. Насельніцтва ў цэнтральнай часткі горада амаль не было. На ўскраінах насельніцтва захавалася. Потым пачалі вяртацца людзі з сёлаў, з лясоў...»*[92]

А вось якім убачыў Менск у першыя дні ліпеня 1944 году беларускі пісьменьнік Міхась Лынькоў:

*«... Навокал папялішчы, руіны. Адны яшчэ дымяцца, другія парасьлі ўжо травой, быльнягом... На сьвежых папялішчах знаходзім абгарэлыя чалавечыя косьці. На агародах адзіночныя магілы. На ўцалелых дамах надпісы "замініравана". Бітае аконнае шкло ўелася ў падатлівы асфальт — тратуары парабіліся мазаічныя...»*[93]

«Трупы людзей» і «абгарэлыя чалавечыя косьці», натуральна, не валяліся ў Менску з 1941 году. Іх убачылі менавіта на «сьвежых папялішчах».

Цяпер гісторыкі сьцьвярджаюць, што баі за Менск былі. Гэта не зусім адпавядае сапраўднасьці. Савецкія танкавыя арміі сапраўды Менск абышлі і замкнулі так званы «Менскі кацёл» далёка на захад ад гарадзкіх межаў. Ні 1, ні 2, ні 3 ліпеня за Менск ніхто ня біўся ў клясычным сэнсе, калі вакол гораду ёсьць умацаваная лінія абароны, яе займаюць

92 Цыт. паводле: Гісторыя Мінска. С. 437.
93 Лынькоў М. На Радзіме // Беларусь. 1944. №6. С. 17.

войскі аднаго праціўніка, а вайсковыя злучэньні іншага праціўніка гэтую лінію штурмуюць, прарываюць і ўваходзяць у горад. Не, гэта быў імклівы наступ савецкіх войскаў і хаатычныя ўцёкі немцаў. Горад абстрэльвалі з розных бакоў, менчукі хаваліся хто дзе мог. Сьведкі падзеяў 3 ліпеня, зь якімі мне давялося гаварыць, проста расказвалі, што ў адзін момант на Нізкім рынку спыніліся савецкія танкі, якія рухаліся з боку вуліцы Камунальнай, зь іх вылезьлі насьцярожаныя танкісты, а да іх паступова пачалі падыходзіць таксама насьцярожаныя менчукі – жыхары Нова-Мясьніцкай, Завальнай і Няміскай вуліц, якія спачатку не былі ўпэўненыя ў тым, што брудныя, закурадымленыя танкі – сапраўды савецкія. Так адбылася тая сустрэча.

Баі на ўскраінах гораду былі ў наступны тыдзень, калі рэшткі аточанай на паўднёвым усходзе нямецкай групоўкі спрабавалі ўскраіннымі вуліцамі прарвацца на захад. 7 ліпеня немцы нават прарваліся ў цэнтар гораду, але былі адтуль выбітыя[94].

Пра тыя «трупы людзей», «абгарэлыя чалавечыя косьці» і шматлікія пажары, якія ўбачыў 3 ліпеня К. Бударын, варта памятаць — гэта быў вынік савецкіх «масіраваных» бомбавых удараў напярэдадні вызваленьня гораду.

Сёньня здымкі таго дня можна ўбачыць у шматлікіх кнігах, альбомах і на выставах — палаючы Дом афіцэраў і яго ваколіцы, пажары на вуліцы Камсамольскай, менчукі з клункамі ў паніцы ратуюцца ад агню і спрабуюць выратаваць сямейныя пажыткі на вуліцы Рэвалюцыйнай. Толькі пад здымкамі

94 Воронкова И. Цыт. тв. С. 258.

даюцца несапраўдныя тлумачэньні, кшталту, «фашисты подожгли...» або «минчане возвращаются в свои дома».

Ахвярамі савецкіх налётаў чэрвеня-ліпеня 1944 году сталі ня толькі людзі, але і старыя менскія дамы. Менавіта тады быў разбомблены і згарэў правы бок вузкай і выгінастай вуліцы Камсамольскай, у выніку чаго пасьля вайны яна была выпрастана і пашырана. Такі самы лёс спасьціг і ўвесь квартал паміж Рэвалюцыйнай, Інтэрнацыянальнай і Камсамольскай.

Былі разбомбленыя і згарэлі езуіцкі калегіюм з гарадзкой вежай, касьцёл і кляштар дамініканаў, дом Сапегаў, пазасталы цэлы квартал на Камуністычнай у раёне кляштару дамініканаў пры яе стыку з Энгельса, касьцёл і кляштар бэнэдыктынак на Інтэрнацыянальнай, значная частка старых дамоў паміж вуліцамі Астроўскага і Віцебскай у Ракаўскім прадмесьці, і многія іншыя будынкі. Згарэлі вялікія кавалкі франтальнай і ўнутрыквартальнай забудовы на вуліцах Інтэрнацыянальнай, Камсамольскай, Рэвалюцыйнай, Віцебскай, Астроўскага і ў іншых месцах[95].

Тое, што адбывалася са старой менскай архітэктурай напярэдадні вызваленьня гораду, не было ўнікальнай зьявай. Такія самыя падзеі мелі месца і ў іншых гарадах СССР, напрыклад, Вільні. У 2015 годзе ў Літве выйшла кніга Антанаса Вяркяліса «Хто разбурыў Вільню». Грунтуючыся на значна

95 Пры гэтым нельга цалкам выключыць, што некаторыя са спаленых летам 1944 году дамоў маглі пацярпець і ў выніку нямецкіх захадаў пры адступленьні.

больш даступных для дасьледчыкаў гэтай краіны архіўных дакумэнтах, аўтар апісаў, як 11 ліпеня 1944 году, за два дні да поўнага вызваленьня гораду, савецкія 33-і асобны батальён ранцавых агнямётаў і 18-ы асобны процітанкавы агнямётны батальён спалілі і разбурылі вялікую частку Старога гораду Вільні абапал вуліцы Нямецкай і паасобныя іншыя кварталы, адкуль немцы на той час ужо сышлі. Пасьля вайны, як паказвае на канкрэтных прыкладах Антанас Вяркяліс, савецкая прапаганда сьцьвярджала, што гэтыя кварталы зь іх помнікамі, у тым ліку Вялікую віленскую сынагогу, разбурылі немцы[96].

Але і вызвольны штурм ня стаў найгоршым часам для гістарычных кварталаў Менску.

## У вызваленай сталіцы. Дзіўнае савецкае «разьмініраваньне»

Тое, што пачало рабіцца са старой менскай архітэктурай пасьля 3 ліпеня 1944 году, — гэта адна з самых невядомых і загадкавых старонак беларускай гісторыі. Пазьней я прапаную ўвазе чытачоў некаторыя магчымыя тлумачэньні і вэрсіі тых падзеяў, але перш дамо слова відавочцу.

Савецкі ваенны журналіст №1, пісьменьнік Ільля Эрэнбург, які ў 1944 годзе ішоў на захад разам зь перадавымі часткамі Чырвонай арміі, запісаў у сваіх успамінах:

96 Гл.: Verkelis A. Kas sugriovė Vilnių. Vilnius, 2015.

*«В Минск я попал 4 июля. Танкисты накануне прорвались в город и тотчас ушли дальше на запад. В южных кварталах еще шла стрельба. Я поглядел на длинную улицу и обрадовался: почти все дома невредимы; четверть часа спустя раздались взрывы, и домов не стало. Весь день работали саперы...»*[97]

Ільля Эрэнбург быў надзвычай акуратны і працавіты чалавек. Усё жыцьцё ён падрабязна занатоўваў свае думкі, уражаньні і падзеі ў дзёньніку, які пасьля стаў падставай для яго выдатных шматтомных мэмуараў «Люди, годы, жизнь». Так што сумнявацца ў гэтым яго сьведчаньні пра выбухі ў Менску і шукаць тут памылак памяці не даводзіцца.

Інфармацыі пра тое, дзе адбываліся гэтыя выбухі, Эрэнбург не пакінуў. Але мы дакладна ведаем, што 3 ліпеня 1944 году і савецкія войскі, і тыя, хто рухаўся ўсьлед за імі па цэнтральнай менскай магістралі, траплялі ў цэнтар Менску праз Стары горад. Мост празь Сьвіслач каля электрастанцыі (цяпер раён цырку) быў разбураны, таму ўсе, хто рухаўся з паўночнага ўсходу, паварочвалі направа і праз ваколіцы Опэрнага тэатру і Траецкае прадмесьце па Хлусавым або Лаўскім мастах траплялі на Нізкі рынак у Старым горадзе. Далей войскі па вуліцы Вольнай і Плошчы Свабоды траплялі на цэнтральную вуліцу сталіцы БССР — Савецкую.

Менавіта так рухаліся першыя савецкія танкі, і менавіта ў такім кірунку перамяшчаліся тыя, хто за гэтымі танкамі ехаў або ішоў у Менск. Сёньня яшчэ жывыя сьведкі першых кантактаў менчукоў з савецкімі танкістамі на Нізкім рынку.

97 Эренбург И. Люди, годы, жизнь. Масква, 2006. С. 404–405.

Якую дакладна вуліцу падарвалі савецкія сапёры 4 ліпеня — мы ня ведаем. Затое са сьведчаньня апытаных менчукоў вынікае, што выбухі ў цэнтры гораду працягваліся і ў наступныя дні. Але ваенны карэспандэнт «Красной звезды» Ільля Эрэнбург гэтага ня ведаў — пабываўшы ў ксяндза Ганусевіча ў Ракаве і ў Трасьцянцы, ён хутка накіраваўся далей на захад усьлед за савецкімі войскамі.

Савецкія сапёры ўехалі ў Менск на досьвітку 3 ліпеня разам зь першымі савецкімі танкамі. Вось як пра гэта напісаў маршал Георгі Жукаў:

*«По данным белорусских партизан, действовавших в районе Минска, нам стало известно, что сохранившиеся в Минске Дом Правительства, здание ЦК партии Белоруссии и окружной Дом офицеров спешно минируются и готовятся к взрыву. Чтобы спасти эти крупные здания, было решено ускорить движение в Минск танковых частей и послать вместе с ними отряды разминирования. Цель заключалась в том, чтобы прорваться в город, не ввязываясь в бои на подступах, и захватить эти правительственные здания. Задача была блестяще выполнена. Здания были разминированы и сохранены»*[98].

11 ліпеня 1944 году начальнік вайсковага аддзелу Саўнаркаму БССР І. Куцейнікаў накіраваў старшыні СНК П. Панамарэнку дакладную запіску «О ходе разминирования Минска»:

*«Город Минск разминирует инженерная бригада в/ч (полевая почта 26740) командир бригады полковник Железных. К разминированию г. Минска приступила 3 июля 1944 г. В разминировании участвует*

98 Жуков Г. Воспоминания и размышления. С. 565.

*3 батальона инженерной бригады — 850 чел., рота специального разминирования — 150 чел., батальон разграждения Белорусского военного округа — 200 чел. Батальон Белорусского военного округа имеет 10 собак миноискателей. С 3 по 10 июля включительно инженерной бригадой проверено и разминировано предприятий — 25, зданий учреждений и организаций 48 и 65 кварталов...»*[99]

Пасьля гэтага ў тэксьце ідзе сьпіс з 30 менскіх прадпрыемстваў і найбуйнейшых будынкаў гораду, у 16 зь якіх, паводле І. Куцейнікава, зусім не было знойдзена ніякіх выбуховых прыладаў.

Далей начальнік вайсковага аддзелу СНК БССР І. Куцейнікаў пісаў:

*«В остальных проверенных домах и жилых кварталах также обнаружена взрывчатка, главным образом "донорит", принадлежности для взрыва, зажигательные снаряды и боеприпасы. Всего с 3 по 10 июля снято и обезврежено: фугасов — 97, взрывчатки в них — 9341 кг, авиабомб 100 кг — 384 штуки, противопехотных мин — 49, противотанковых — 5, сюрпризов — 69, обнаружено складированного противником на территории города: взрывчатки (главным образом "донорит") 13 831 кг, капсюлей-детонаторов — 15 004, детонирующего шнура — 6000 м, зажигательных трубок — 1080, мин минометных — 952 шт., артснарядов — 3014 шт., ампул с горючей жидкостью — 27»*[100].

---

99 Освобождённая Беларусь. Документы и материалы. Кн. 1. Сентябрь 1943 — декабрь 1944. С. 111.

100 Тамсама. С. 114.

Пасьля чыноўнік просіць узмацніць брыгаду разьмініраваньня яшчэ адным батальёнам і прыцягнуць на дапамогу сапёрам 1000 дапаможных работнікаў, бо

*«Личной проверкой основных объектов — здания ЦК КП(б)Б, Дома Правительства, типографии им. Сталина, радиоузла и ряда других зданий и предприятий установлено, что работу разминеров по этим зданиям и предприятиям нельзя считать законченной...»*[101]

Як бачым, сам І. Куцейнікаў асабіста наведаў асноўныя будынкі і заводы і вызначыў, што работа па разьмініраваньні яшчэ не закончаная.

Пры ўважлівым разглядзе гэтага дакумэнту гісторык знойдзе шмат супярэчнасьцяў і ня знойдзе адказаў на некаторыя пытаньні, напрыклад, чым у Менску займалася «рота специального разминирования — 150 чел.» і чым яе дзейнасьць адрозьнівалася ад астатніх сапёраў?

Сярод тых прадпрыемстваў, што не былі замінаваныя і захаваліся, у дакумэнце Куцейнікава названы станкабудаўнічы завод імя Кірава, які ў цытаванай у пачатку кнігі сакрэтнай запісцы Бэрыі на імя Сталіна пад памылковай назвай «станкостроительный завод имени Кагановича» названы ў ліку спаленых і разбураных.

У сьпісе І. Куцейнікава не супадаюць некаторыя лічбы. Так ён піша, што ў горадзе было знойдзена «зажигательных трубок — 1080», а старонкай раней у пераліку з 30 прадпрыемстваў і галоўных будынкаў сьцьвярджае, што на электрастанцыі №2 была

101 Тамсама.

знойдзеная скрыня запальных трубак, а на радыёвузьле — аж 10 тысяч такіх трубак[102]. Ёсьць там і іншыя супярэчнасьці, якія сьведчаць і аб прыпісках, і аб тэндэнцыйнасьці, і аб дэзінфармацыі.

Маё ж пытаньне да справаздачы І. Куцейнікава такое — калі немцы не замінавалі нават больш за палову асноўных прадпрыемстваў і найбуйнейшых грамадзкіх будынкаў гораду, то чаму яны «замінавалі» пераважна напаўразбураныя, спаленыя каробкі дамоў старога менскага цэнтру? Ды яшчэ і так, што савецкія сапёры не маглі іх разьмініраваць і былі вымушаныя падрываць?

Адказы на гэтыя пытаньні я паспрабую даць ніжэй, тут жа дарэчы будзе зноў прыгадаць успамін Ільлі Эрэнбурга пра 4 ліпеня 1944 году ў Менску, якім гэты разьдзел пачынаўся:

«*... Я поглядел на длинную улицу и обрадовался: почти все дома невредимы; четверть часа спустя раздались взрывы, и домов не стало. Весь день работали саперы...*»

Тое дзіўнае савецкае «разьмініраваньне» першага тыдня ў вызваленым Менску трапіла нават у кінахроніку — кадры падрываў сёньня можа атрымаць у дзяржынскім архіве кінафотадакумэнтаў кожны ахвочы. Вясёлыя людзі ў вайсковай форме з усьмешкамі закладаюць у дамы звычайныя круглыя пяхотныя або процітанкавыя міны, выходзяць вонкі і торгаюць за вяроўку... Выбух — і дом «разьмініраваны».

Гэтыя кадры перамяжоўваюцца зь іншымі, больш стрыманымі — сапёры ходзяць зь мінашу-

102 Тамсама. С. 113.

кальнікамі па шыкоўным клінкерным бруку, перацягваюць нейкія скрыні і г. д. Агулам у неабазнанага чалавека ствараецца ўражаньне звычайнага разьмініраваньня.

Паралельна з сапёрамі ў горадзе працавалі вайсковыя прапагандысты з брыгадамі кінахронікі. Праз два тыдні пасьля вызваленьня скінутую з Дому Ўраду свастыку зноў вярнулі на старое месца, прагналі побач калёну танкаў і зьнялі на стужку, як свастыка бразгаецца вобзем. 6 ліпеня на паўразбураных дамах паабапал вуліцы Вольнай, у верхняй яе частцы пры выхадзе з Плошчы Свабоды брыгада саюзнай кінахронікі напісала вялікія лёзунгі «Смерть немецким оккупантам», «Смерть немецким захватчикам» і, кінуўшы ў дамы пару дымавых шашак для адпаведнага антуражу, зьняла свае надпісы як доказ «гераічнага супраціву» менчукоў нямецкім захопнікам.

На працягу першага году пасьля вызваленьня здымкі псэўдахронікі адбываліся ў Менску некалькі разоў. Прапагандысты НКВД нават не абцяжарвалі сябе дакладнасьцю дэталяў. Гэтак танкі ля Дому Ўраду падчас падзеньня свастыкі праехалі амэрыканскія лэндлізаўскія, а не савецкія Т-34, якія першымі ўвайшлі ў Менск. На такіх змантаваных пазьней «хроніках» здараецца бачыць, як «калябаранты» пачынаюць дэманстрацыю ў зімовай вопратцы, а заканчваюць — у летняй. Трапляюцца таксама і зусім ня менскія краявіды.

## «Аднаўленьне» «нашего родного Минска»

У тым, што адбывалася ў Менску ў першыя дні і месяцы пасьля вызваленьня, зьдзіўляюць зацятасьць і мэтанакіраванасьць, зь якімі ўлады схапіліся за «аднаўленьне» гораду. Чытаючы тагачасныя газэты, цяжка пазбыцца адчуваньня, што ты — сьведка нейкай добра прадуманай і зрэжысэраванай акцыі. Інакш цяжка паверыць у такую спрытнасьць менскіх уладаў і нечуваны імпэт зьнясіленых акупацыяй людзей, якіх зь першых дзён ліпеня 1944 году пачалі гвалтам ганяць на разборы ўтвораных вайною завалаў.

Прапаганда працавала напоўніцу — газэты ледзь не штодзень выходзілі зь лёзунгамі «Возродим родную столицу», «Быстрее возродим, подымем из пепла и руин нашу любимую столицу», «Восстановим наш родной Минск», «Все на восстановление Минска», «Восстанавливать Минск ежедневно, по графику». Друкаваліся і расклейваліся плякаты «За работу. Все на восстановление родного Минска». А «восстановлением» (калі гаворка ідзе пра гістарычны цэнтар і Стары горад у прыватнасьці) называўся татальны і вульгарны разбор усяго, што было хаця б троху пашкоджана ці спалена.

Кожны здымак у газэце, на якім «разьбіралі» і амаль цэлы дом, і кучу друзу, нязьменна называўся «На восстановлении Минска». І няважна, якога стагодзьдзя быў чарговы разьбіраны падмурак — XVI-га або XX-га. Журналісты пісалі пра патас адраджэньня і новай мірнай стваральнай працы, а на тварах удзельнікаў тых расчыстак, зафіксаваных газэтнымі фатографамі, шчасьця мне ўбачыць не

ўдалося. Не расказвалі мне пра пачуцьцё шчасьця і сваякі — удзельнікі тых разбораў.

Энцыкляпэдычная гісторыя Менску, напісаная навукоўцамі Інстытуту гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук, сьцьвярджае, што першы суботнік па разборы менскіх руінаў адбыўся 8 кастрычніка 1944 году[103]. Афіцыйна — так. Але апытаныя мной старыя менчукі ў адзін голас сьцьвярджалі, што «разбор завалаў» пачаўся ўжо праз два-тры дні пасьля прыходу ў горад савецкіх войскаў, яшчэ пад выбухі сапёрных мінаў.

Вось фрагмэнт інтэрвію старшыні менскага гарсавету К. Бударына газэце «Советская Белоруссия» за 11 ліпеня 1944 году, якая пацьвярджае сьведчаньні старажылаў:

*«Тысячи жителей освобождённого Минска вышли на работы по очистке города. Уже убран и вывезен мусор, улицы и дворы приведены в соответствующий вид. Приступило к работе более ста уличных комитетов. Произведён учёт населения, оставшегося после трехлетнего хозяйничания немецких бандитов. Повсюду ремонтируются помещения... В горсовет, горком партии и другие учреждения приходят женщины, старики и молодёжь, предлагающие услуги по восстановлению родного Минска»*[104].

Удзел у «расчыстцы» і «разборцы» завалаў быў абавязковым. Сэсія Менскага гарсавету ў кастрычніку 1944 году прыняла пастанову, паводле якой кожны дарослы мянчук павінен быў штомесяц адпрацаваць 30 гадзін, а студэнты і школьнікі

---

103 Гісторыя Мінска. С. 438.
104 Советская Белоруссия. 11 ліпеня 1944.

старэйшых клясаў — 15[105]. Гэта быў звычайны савецкі прымус. Для кантролю за ўдзелам менчукоў у разборы завалаў былі ўведзеныя спэцыяльныя «асабістыя кніжкі», іх атрымалі нават школьнікі. За парушэньне правілаў запаўненьня кніжак — жорстка каралі.

«Советская Белоруссия» у кастрычніку 1944 году пісала ў рэдакцыйным артыкуле:

*«Личная книжка — важнейший документ, свидетельствующий об участии трудящихся в восстановлении города. Между тем во многих организациях личные книжки заполняются небрежно. В записях имеются грубые нарушения: учитываются не фактически отработанные часы, а по выполнению норм выработки. Зачастую ведение записей поручается второстепенным лицам. Это недопустимо. Партийные организации, директоры предприятий и учреждений, председатели фабзавкомов должны систематически проверять отметки в книжках участников восстановления города...»*[106]

Празь месяц намесьнік наркама жыльлёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР В. Каменскі паўтараў:

*«Очень важный и серьёзный момент в работе десятника и бригадира — отметка в личной книжке участника восстановления. Есть случаи, когда количество отработанных часов определяется выполнением нормы. Скажем, выполнил гражданин в один час две нормы, а записывают ему два часа.*

105 Советская Белоруссия. 1 красавіка 1945; Гісторыя Мінска. С. 450.

106 Советская Белоруссия. 22 кастрычніка 1944.

*Это является совершенно неправильным и недопустимым. Записывать в книжку нужно фактическое количество выработанных часов, добиваясь максимальной выработки в час»*[107].

Дзе ж тут энтузіязм і добры працоўны настрой? Мужчын мабілізавалі ў войска ў першыя дні. Засталіся жанчыны, старыя і дзеці. Зьнясіленых цяжкай працай на прадпрыемствах і голадам часоў акупацыі людзей прымушалі працаваць фізычна ў выхадныя і нават у працоўныя дні без увагі на стан здароўя і век. Менчукі сталі парабкамі XX стагодзьдзя. Таму і працавалі без энтузіязму.

Зноў цытата з рэдакцыйнага артыкулу «Советской Белоруссии»:

*«Необходимо всячески усилить массово-разъяснительную работу среди населения. В ряде партийных организаций агитаторы побывали на прикреплённых улицах только один-два раза и сочли на этом свою миссию законченной. Агитаторы должны систематически работать среди домашних хозяек , организовывать их на активное участие в восстановительных работах»*[108].

Але агітацыя і нават прымус не спрацоўвалі, і праз паўгода «Советская Белоруссия» зноў патрабавала:

*«Райкомы должны выделить постоянных агитаторов для работы среди домашних хозяек».*[109]

Менчукі рэгулярна зрывалі графікі выхаду на прымусовыя працы.

---

107 Советская Белоруссия. 22 лістапада 1944.
108 Советская Белоруссия. 22 кастрычніка 1944.
109 Советская Белоруссия. 1 красавіка 1945.

*«В последние дни уменьшился выход на работу коллективов предприятий, учреждений и домашних хозяек. Графики выхода срываются, а пропущенные дни не отрабатываются. Это, конечно, ни в коей мере не означает, что у населения уменьшилось желание работать на восстановлении своего города...»*[110]

Для таго, каб «энтузіязм» не зьмяншаўся, газэты паведамлялі, што кожны раз побач з «арганізаванымі» працаўнікамі, на разборы руінаў працуюць і «неарганізаваныя» добраахвотнікі. Напрыклад, з выйшаўшых 14 лістапада 1944 году на вуліцы Менску 16 тысяч менчукоў, як паведамлялі газэты, было каля 3 тысяч добраахвотнікаў[111].

Сёньня людзі ўспамінаюць, што добраахвотнікі сапраўды былі, але ня так шмат. Пераважна хадзілі тыя, хто натхняўся чуткамі пра знойдзенае ў руінах золата. Менчукі памяталі пра выпадкі часоў акупацыі — тады сапраўды пры разборы некаторых руінаў на вуліцы Ленінскай, прыблізна там, дзе цяпер аптэка, са сьценаў сыпаўся дождж з залатых манэтаў. Летам і восеньню 1944 году добраахвотнікі, шукаючы «габрэйскае золата» на тэрыторыі былога гета, ахвотна разьбіралі руіны на Замкавай і Падзамкавай.

Надзвычай актыўна выкарыстоўвалася праца школьнікаў. Дзяцей ганялі на разбор менскіх дамоў пасьля заняткаў, таму гэта звычайна адбывалася непадалёк ад школы. Гэтак вучні 42-й школы, якая месьцілася ў былым будынку езуіцкага кляштару

110 Советская Белоруссия. 22 лістапада 1944.
111 Советская Белоруссия. 14 лістапада 1944.

(Дом губэрнатара, сёньня — музычная школа на Плошчы Свабоды), разьбіралі старыя дамы на вуліцах Ленінскай і на Вольнай.

З наступленьнем халадоў працы стыхійна сталі прыпыняцца. Не дапамагалі ні вымовы, ні пазбаўленьне прагульшчыкаў часткі харчовых картак. І беларускі ўрад паставіў перад працоўнымі новую задачу:

«*В ряде мест пытаются объяснить снижение выхода населения на работу наступившими холодами, дождями, метелью. Безусловно, зима усложняет работу, но не должна прекратить. Необходимо перестраиваться на работу в зимних условиях, подбирать виды работ, позаботиться о соответствующем инструменте и т. д.*»[112].

І ні слова пра тое, дзе ўзяць цёплае адзеньне.

## Трэст разборкі і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў

Ужо праз некалькі тыдняў пасьля вызваленьня быў створаны «Трэст разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў» і яго раённыя канторы.

Спэцыялісты трэсту курыравалі ўсю працу, зьвязаную са здабыцьцём будаўнічага матэрыялу на «аднаўленьне» Менску. Яны забясьпечвалі «разборшчыкаў» адпаведным начыньнем, вызначалі месцы працы, аб'ёмы заданьняў і нормы выпрацоўкі, а таксама разьмеркаваньне здабытага

112 Советская Белоруссия. 22 лістапада 1944.

будматэрыялу. Трэст нават арганізоўваў нешта накшталт «курсаў падвышэньня кваліфікацыі» — удзельнікі «аднаўленьня» маглі авалодаць нескладанымі будаўнічымі прафэсіямі. Былі прыдуманыя спэцыяльныя тэхналёгіі для ачышчэньня цэглы ад рошчыны з выкарыстаньнем саматужных прыладаў і аднаўленьня іншага будаўнічага матэрыялу.

Паколькі сродкаў на аднаўленьне цагельняў і стварэньне новых будаўнічых камбінатаў у ваенных умовах не хапала, трэст стаў па першым часе асноўным пастаўшчыком будаўнічых матэрыялаў. І яго праца, натуральна, выклікала незадавальненьне высокага партыйнага начальства — патрэбныя былі новыя адміністрацыйныя будынкі і кватэры на Савецкай вуліцы. Пленум ЦК КП(б)Б у ліпені 1945 году прыняў пастанову «О ходе строительно-восстановительных работ в Белорусской ССР». Адзін з пунктаў пастановы гучаў так:

*«Предложить Наркомгражданжилстрою, обкомам и горкомам КП(б)Б, облисполкомам и горисполкомам улучшить работу областных и городских стройтрестов по разборке разрушенных зданий и сооружений в городах и восстановлению строительных материалов. Создать при трестах мастерские по восстановлению стройматериалов и склады готовой продукции»*[113].

За некалькі месяцаў да заканчэньня вайны, у студзені 1945 году, у Дзяржаўным выдавецтве БССР у Менску выйшла брашура Л. Бірукова і А. Ісаевіча «Памятка участнику восстановления города Мин-

113 Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 4. Менск, 1986. С. 28.

ска. Разборка разрушенных зданий и восстановление стройматериалов». У якасьці ўстановаў, пад патранажам якіх ажыцьцёўлена выданьне, фігуравалі Наркамат жыльлёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР і Менскі трэст разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў.

У прадмове аўтары сфармулявалі крытэрыі, паводле якіх павінны разьбірацца разбураныя будынкі:

*«Разборке подлежат: 1. Здания, совершенно разрушенные прямым попаданием бомб или в результате пожара. 2. Здания с выгоревшими перекрытиями, перегородками и кровлей, стены и простенки которых имеют крупные трещины по всей высоте, кладка стен выветрилась и неспособна воспринимать нагрузку. 3. Разрушенные отдельные части здания, которое в целом пригодно к восстановлению»*[114].

Аднак з далейшага тэксту вынікала, што аўтары дапускалі і разборку зусім захаваных будынкаў:

*«При разборке... зданий способом валки должны соблюдаться следующие правила: а) Предварительно, идя сверху вниз, производится разборка кровли, перегородок, перекрытий и других элементов здания с соблюдением правил разборки. Территория возможного падения массива должна быть очищена от мусора, материалов и т. п. б) Допускается просечка перемычек и подготовка отдельных массивов к валке путём их подрубки...»*[115]

114 Памятка участнику восстановления города Минска. Разборка разрушенных зданий и восстановление стройматериалов. Менск, 1945. С. 3.

115 Тамсама. С. 7.

Падрабязнае азнаямленьне з тэкстам брашуры дазваляе зрабіць выснову, што галоўным клопатам і аўтараў, і арганізатараў выданьня было менавіта здабыцьцё будаўнічага матэрыялу на новае будаўніцтва ў Менску:

*«При разборке зданий необходимо принимать меры для максимального сохранения в годном виде материалов и отдельных конструктивных частей зданий, как-то: деревянных и металлических балок, пиломатериалов, оконных переплётов, дверных полотен, труб и сантехприборов, электропроводки и т. п. Одновременно должны быть приняты меры к извлечению сохранившегося оборудования и инвентаря»*[116].

А далей — як правільна складаць дошкі, як абавязкова перад складаваньнем зь іх трэба выдзіраць цьвікі, як лепш складаць цэглу ў штабялі, як яе ачышчаць ад рошчыны і г. д.:

*«Доставленный к месту складирования материал должен быть рассортирован и уложен в установленном порядке. Металлические балки, арматура, а также лесоматериалы после рассортировки укладываются в штабеля на выровненных площадках по деревянным подкладкам»*[117].

Асаблівая ўвага надавалася транспартыроўцы. І асабліва ўражваюць яе спосабы. Мэханізацыі не прадугледжвалася практычна ніякай. Згаладнелыя і зьнясіленыя ў часы акупацыі, часта хворыя жанчыны і дзеці павінны былі ўсё гэта цягаць на сабе пад страхам пазбаўленьня харчовых картак:

---

116 Тамсама.
117 Тамсама. С. 16.

*«Очищенный камень носилками или на тачках транспортируется к месту укладки в штабеля... Бутовый камень сбрасывается в подвал, откуда транспортируется... носилками... Сыпучий материал: песок, щебень, строймусор транспортируется лучше всего на тачках или вручную в ящиках-окорёнках (носилках), желательно с наплечниками. Транспортировка кирпича производится тачками, носилками или "козами". Транспортировку мелкого металла и кирпича удобно производить на двуколках, имеющихся в значительном количестве у населения»*[118].

Менчукі памятаюць, як спэцыялісты Трэсту хадзілі па старых кварталах гораду, прыглядаліся ня толькі да руінаў, але і да добра захаваных або троху пашкоджаных пажарам дамоў (напрыклад, на вуліцах Камсамольскай або Інтэрнацыянальнай), як аббівалі тынкоўку, ацэньваючы якасьць цэглы і перакрыцьцяў, і калі яна іх задавальняла, то амаль цэлы дом «разьбіралі». Людзі навокал страшэнна пакутавалі ад недахопу жытла і тым ня менш маўчалі — ня той быў час.

А ў новапабудаваныя дамы на вуліцы Савецкай і яе навакольлях засялялі партыйных і савецкіх чыноўнікаў, афіцэраў МГБ, вайскоўцаў і іншых прадстаўнікоў савецкай эліты. Шараговыя менчукі стаялі ў чэргах на атрыманьне жытла да паловы 60-х гадоў.

Напярэдадні вайны на аднаго жыхара гораду прыпадала 4,5 квадратныя мэтры жылой плошчы, а ў 1951 годзе, нягледзячы на нібыта гераічныя высіл-

118 Тамсама. С. 12–14.

кі ў аднаўленьні жытла, на аднаго менчука прыпадалі толькі 3,5 квадратныя мэтры[119]. На практыцы, з улікам рознага рангу гарадзкіх жыхароў і іх прывілеяў, гэта азначала, што нехта жыў на адноўленай Савецкай вуліцы камфортна і прасторна, а нехта зь сям'ёй з 4–5 чалавек туліўся на 4–6 квадратных мэтрах гарышча ці падвалу.

Актыўнымі памочнікамі «Трэсту разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў» былі члены і старшыні вулічных камітэтаў, якія былі створаныя ўжо праз два-тры дні (!) пасьля вызваленьня. Такая хуткасьць не пакідае сумненьня, што гэта была заплянаваная і добра прадуманая яшчэ да вызваленьня гораду стратэгія. Яшчэ не было вядома, колькі і чаго ў Менску разбурана, яшчэ ішлі налёты на «чыгуначныя вузлы» і «аэрадромы» праціўніка, а савецкія ўлады ўжо добра ведалі, як яны будуць аднаўляць сталіцу БССР.

У абавязкі вулічных камітэтаў, якіх у Менску было больш за 100, уваходзіла і арганізацыя выхаду жыхароў пэўнага кварталу на прымусовыя працы, і агітацыя ў гэтым самым квартале. Таму дырэктывы аб «узмацненьні» і «падвышэньні» прыходзілі ня толькі ў райкамы і выканкамы, але і ў вулічныя камітэты.

Той самы намесьнік наркама жыльлёва-грамадзянскага будаўніцтва БССР В. Каменскі рапартаваў, што паводле стану на 15 лістапада,

*«разобрано, очищено и уложено в штабеля свыше 4 миллионов штук кирпича, заготовлено 2230*

119 Генплан Минска. 1951 год. Раздел «Домовой фонд города». С. 24, 26. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528.

*кубометров щебня, 4972 тоны разного металла и другие материалы»*[120].

1 красавіка «Советская Белоруссия» паведаміла, што з кастрычніка 1944-га па сакавік 1945-га на «восстановлении» Менску адпрацавана 800 000 «человеко-часов» і сабрана больш за 6 мільёнаў цаглінаў[121]. Пасьля былі наступныя рубяжы — 8 мільёнаў штук цэглы, 10 мільёнаў...

Вось як зносы старых будынкаў у першыя месяцы пасьля вызваленьня гораду апісаў іх сьведка — менскі расейскі пісьменьнік Аляксандар Станюта:

*«Здесь, в центре города, вернее того, что от него осталось, взрывали и сносили полуразрушенные здания. Лучшего зрелища нельзя было придумать. Солдаты с красными флажками оцепляли пустырь вокруг и пересвистывались милицейскими свистками. Мальчишки из ближайших улиц, все прохожие рассаживались на камнях, на грудах кирпичей. Все ждали — долго, терпеливо.*

*И вот тяжелая каменная глыба глухо бухала нутром, окутывалась пылью, дымом, вздрагивала, оседала и рассыпалась в прах.*

*Долго не уходило огромное облако на месте взрыва. Долго не удавалось увидеть груды камней там, где только что стояли толстенные стены. Все смотрели как завороженные, как смотрят на огонь, пожар. Все молчали и не спешили расходиться. Не спешили мальчишки и женщины, немецкие военнопленные в своей оборванной и выцветшей, когда-то*

120 Советская Белоруссия. 22 лістапада 1944.

121 Советская Белоруссия. 1 красавіка 1945.

*армейской одежде. Не спешили военные, направлявшиеся перед этим к Дому Красной Армии…»*[122]

Аляксандар Станюта ў часе, які ён апісвае, жыў у адным з будынкаў езуіцкага кляштару побач з Плошчай Свабоды і, адпаведна, бачыў тое, што адбывалася ў яго наваколльі. У гэтай цытаце словы «толстенные стены» недвухсэнсоўна сьведчаць, што выбухамі зьнішчаліся старадаўнія будынкі XVII–XIX стагодзьдзяў, бо ў XX стагодзьдзі сьцены будаваліся ўжо вузейшыя, дый не было, фактычна, у старым цэнтры Менску камяніцаў новых.

Асаблівым дзікунствам уладаў БССР трэба прызнаць знос практычна цалкам захаванай самай старой мураванай вуліцы Менску — Дзям'яна Беднага (Казьмадзям'янаўскай), і захаванай паловы дамоў паміж Дзям'яна Беднага і Вольнай — самага старога мураванага кварталу Менску, які існаваў у горадзе з XVII стагодзьдзя.

Вуліца Дзям'яна Беднага цудоўным чынам перажыла вайну, страціўшы вонкавыя фасады толькі 3–4 будынкаў, пра што пераканаўча сьведчаць нямецкія аэрафотаздымкі 8 і 22 ліпеня 1944 году[123]. Спаленыя дахі на гэтай вуліцы можна было лёгка аднавіць, як гэта было зроблена на многіх іншых спаленых у вайну будынках, што захаваліся да нашага часу, напрыклад, на вуліцах Урыцкага, Валадарскага і шмат дзе яшчэ.

На правым баку ў ніжняй частцы вуліцы Дзям'яна Беднага вайну перажыла камяніца XVII–XVIII стагодзьдзяў, якая некалі належала менскаму бур-

---

122 Станюта А. Городские сны. Менск, 2009. С. 312–313.

123 Гл.: NARA, адзінкі захаваньня пасьлядоўна: gx 10509 sk a 010; gx 8142 sd 008.

містру Мацею Бальцаровічу, у верхняй частцы вуліцы зьлева ў перабудаваным выглядзе захаваўся будынак, дзе з XVII стагодзьдзя былі аптэка і пошта. Ва ўнутранай частцы кварталу паміж вуліцамі Дзям’яна Беднага і Вольнай яшчэ захоўваліся значныя фрагмэнты камяніц Валадковічаў.

Масавыя разборкі і зносы працягваліся да 1947 году, выбарачныя — і ў наступныя гады. Былі разабраныя асобныя дамы і цэлыя кварталы з франтальнай і ўнутрыквартальнай забудовай на вуліцах Валадарскага, Інтэрнацыянальнай, Калініна, Камсамольскай, Камуністычнай, Леніна, Астроўскага, Рэвалюцыйнай, Рэспубліканскай, Урыцкага, Энгельса і іншых.

Мэце хутчэйшага разьмяшчэньня партыйна-савецкай намэнклятуры і камуністычнай карнай машыны ў новых будынках былі прынесеныя ў ахвяру дзясяткі помнікаў грамадзянскай і культавай архітэктуры Менску, напрыклад, добра захаваны першы мураваны паверх Гродзкага суду XVII–XVIII стагодзьдзяў на Замчышчы (беларускія навукоўцы 1920-х гадоў лічылі, што менавіта ў гэтым будынку ў 1862 годзе знаходзілася друкарня Кастуся Каліноўскага[124]), мураваныя фрагмэнты Мясных радоў Нізкага рынку, езуіцкі калегіюм зь вежай на Плошчы Свабоды, самы вялікі храм гораду — дамініканскі касьцёл сьвятога Тамаша Аквінскага XVII стагодзьдзя з кляштарам на вуліцы Энгельса, Францішканскі кляштар XVII стагодзьдзя на рагу вуліц Камуністычнай і Леніна, палац Сапегаў (XVII стагодзьдзе) на Кастрычніцкай, палац Чапскіх (XIX стагодзьдзе) на Савецкай, камяніцы Катніцкага і Жыжэмскага XVIII стагодзьдзя на паўднёва-ўсходнім

124 Гл.: Савецкая Беларусь. 14 красавіка 1925.

баку Плошчы Свабоды пры яе стыку з вуліцай Энгельса і многія іншыя каштоўныя будынкі, якія захаваліся да XX стагодзьдзя ў перабудаваным выглядзе і маглі быць адноўленыя ў наш час.

Першымі справілі ўлазіны супрацоўнікі беларускага МГБ — дом, дзе КГБ месьціцца і сёньня, стаў першым пабудаваным гмахам на новай Савецкай вуліцы. Гэта адбылося ў 1947 годзе. Ніхто сёньня не падлічыць, колькі пры муроўцы яго сьцен было выкарыстана цэглы XVII або XVIII стагодзьдзяў. У пэўным сэнсе — гэта таксама помнік менскай даўніны.

Зрэшты, значным помнікам даўніны трэба лічыць усю галоўную вуліцу беларускай сталіцы. Па-першае, і іншыя будынкі на ёй узьведзеныя з выкарыстаньнем будаўнічага матэрыялу з разабраных старых дамоў. На кінахроніцы 1950-х гадоў добра відаць, што муляры кладуць сьцены, напрыклад, дома №23 (з унівэрсамам «Цэнтральны»), выкарыстоўваючы менавіта старую цэглу, якая складзена на паверхах у акуратныя штабэлі. Па-другое, сёньняшнія менчукі не маглі не заўважыць якасьць асфальтавага пакрыцьця праспэкту Незалежнасьці, якое амаль ніколі не псуецца. Абазнаныя ў будаўніцтве дарог людзі ведаюць, што гэта тлумачыцца добрай «падушкай». І гэта праўда. Пры рэканструкцыі вуліцы Савецкай пад палатно будучага праспэкту быў выкапаны даволі глыбокі катлаван, і ў яго засыпалі тысячы тон будаўнічага друзу, які застаўся пасьля працаў, арганізаваных сапёрамі і «Трэстам разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў» у старой частцы гораду.

Сымбалічна і містычна старажытны Менск лёг пад шырокую і якасную дарогу на Маскву.

## Хто і як аднаўляў сталіцу савецкай Беларусі

У сьнежні 1943 году ў Маскве пры Саўнаркаме БССР было створана Ўпраўленьне па справах архітэктуры. 13 жніўня 1944 году выканаўца абавязкаў начальніка гэтага ўпраўленьня А. Валноў у інтэрвію газэце «Советская Белоруссия» паведаміў аб сытуацыі ў Менску:

*«Подготовительные работы по планировке развернулись более двух недель назад. Сейчас до 15-ти специалистов проводят съёмку города с натуры. Эта работа необходима для создания генерального плана реконструкции города. В Минске создана архитектурно-планировочная мастерская; она будет выполнять работу по планировке городов. Из Москвы ожидается приезд бригады специалистов для опытно-показательной планировки одного из районов Минской области...»*[125]

У Масквы, аднак, былі іншыя пляны, і падобна, што А. Валноў — галоўны на той час архітэктар у БССР — пра іх нічога ня ведаў. Бо ўжо праз два дні, 15 жніўня, у Менск прыбыла не «брыгада спэцыялістаў для вопытна-паказальнай пляніроўкі аднаго з раёнаў Менскай вобласьці», але камісія Камітэту па справах архітэктуры пры СНК СССР у складзе вядомых савецкіх акадэмікаў архітэктуры М. Колі, А. Мардвінава, У. Сямёнава, А. Шчусева, члена-карэспандэнта Б. Рубаненкі, а таксама І. Лангбарда і архітэктара зь Беларусі Н. Трахтэнбэрга. І задача ў іх была зусім іншая. Акадэмікі меліся

125 Советская Белоруссия. 13 жніўня 1944.

«вопытна-паказальна» сплянаваць вызваленым беларусам новую сталіцу.

Маскоўскай камісіі хапіла пары тыдняў, каб разабрацца ў сытуацыі і падрыхтаваць эскізны праект «Идея центра Минска», датаваны ўжо 27-м жніўня 1944 году[126].

Сярод прапановаў гэтага праекту была і прапанова захаваць трасу і значную частку забудовы вуліцы Савецкай з увагі на яе вялікую архітэктурную каштоўнасьць — лішні доказ, што вуліца ў 1944 годзе не выглядала так, як гэта цяпер паказваецца на пазьнейшых здымках[127]. Яе забудова цалкам захавалася ад рога з Камсамольскай да Чырвонага касьцёла, прычым тая яе частка, што знаходзілася на месцы цяперашняй плошчы Незалежнасьці, не была нават спаленая і захавала дахі. Але «беларускія вучні» ня выканалі прапановы расейскіх «настаўнікаў». Прычым, як убачым далей, ня толькі адносна лёсу забудовы вуліцы Савецкай.

Падрыхтавалі расейскія акадэмікі і «Записку» да сваёй «ідэі». У гэтым дакумэнце яны, між іншага, канстатавалі, што паводле сваіх архітэктурных вартасьцяў тагачасны (разбураны!) Менск можна параўнаць з такімі гарадамі СССР, як «Вильнюс и Львов», а ў дадатку да эскізу пад назвай «Основные соображения о планировке и восстановлении города Минска», акадэмікі пісалі:

*«Расположенный у западных границ СССР город Минск сочетает в себе образы русских городов с*

126 Чернатов В. А могло быть иначе... Однако... // Архитектура и строительство. 2005. №4. С. 62.

127 Тамсама.

*большим влиянием городов Запада; он характерен узкими, изломанными в плане улицами, застроен в центре капитальными зданиями, среди которых многие имеют значение как исторические памятники архитектуры. ...На возвышенных частях города расположены монументальные здания церквей, монастырей и городской ратуши, дающие своеобразную красоту силуэту города»*[128].

Але нягледзячы на захапленьне заходнеэўрапейскім выглядам крывых вуліц менскага Старога гораду расейскія акадэмікі не пакінулі гэтай часткі Менску ніякіх шанцаў уратавацца і быць аднаўленай — яны заплянавалі на месцы Замчышча зялёную зону і Паркавую магістраль, як гэта прадугледжвалася і ў даваенным генпляне.

Будынак езуіцкага калегіюму з гадзіньнікавай вежай у тыя часы многія неабазнаныя памылкова лічылі менскай ратушай. Вельмі характэрна, што сярод неабазнаных аказаліся ня толькі маскоўскія акадэмікі, але і ўраджэнец мястэчка Бахмач на Чарнігаўшчыне, адзін з аўтараў праекту дэталёвай пляніроўкі Менску 1939 году, галоўны архітэктар генпляна 1946 і 1951 гадоў Навум Трахтэнбэрг — адзіны прадстаўнік БССР у складзе маскоўскай камісіі. З такімі «ведамі» менскай даўніны ён з калегамі неўзабаве і прыступіў да «рэканструкцыі» гораду паводле маскоўска-акадэмічнай «Идеи центра Минска».

У кастрычніку 1944 году Н. Трахтэнбэрг, тады яшчэ начальнік аддзелу пляніроўкі Ўпраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР, выступае ў беларускім друку з артыкулам «О будущем нашей

128 НАРБ, ф. 903, воп. 1, спр. 18, арк. 92.

століцы». Нягледзячы на тое, што артыкул меў падзагаловак «В порядке обсуждения», ніякіх пярэчаньняў у тагачасным друку выявіць не ўдалося — толькі падтрымка. У сваім артыкуле Н. Трахтэнбэрг пісаў:

*«Задачи восстановительного строительства очень сложны, так как город не только должен быть восстановлен, но должны быть исправлены все недостатки прежней планировки и застройки, созданы наилучшие условия городской жизни и благоустройства, разрешены архитектурно-планировочные задачи, связанные с историческим и общественным значениями Минска как столицы Белоруссии...*

*Основные недостатки городского плана сводятся к следующему: отсутствие архитектурно-выраженного общественного центра города, соответствующего значению Минска как столицы республики; обилие узких, изломанных в плане улиц, не удовлетворяющих ни архитектурным, ни транспортным требованиям... Минск не имел характерного, запоминающегося архитектурного облика»*[129].

Вынесшы прысуд «безаблічнаму» Менску і заявіўшы пра неадпаведнасьць вузкіх і крывых вуліц «архітэктурным і транспартным» патрабаваньням, Н. Трахтэнбэрг перайшоў да апісаньня эскізнага праекту будучага генпляну сталіцы. Ён пісаў пра новыя шырокія вуліцы і плошчы, пра паркі і бульвары, пра архітэктурныя ансамблі будучага Менску, і яшчэ тады, у кастрычніку 1944 году, практычна ні ў чым не памыліўся. Намаляваную ім карціну будучага Менску сёньня можна бачыць наяве. Адрозніваюцца сваім выглядам канкрэтныя будынкі і плошчы, але

129 Советская Белоруссия. 21 кастрычніка 1944.

канцэпцыя замены вузкага на шырокае, старога на новае выканана цалкам.

Не «пацэліў» тады Трахтэнбэрг толькі ў цэнтральны пляц гораду — ён (разам з маскоўскімі акадэмікамі) плянаваў перабудаваць у яго Плошчу Свабоды, але пазьней узьнікла ідэя пабудовы такога пляцу насупраць гарадзкога сквэру.

Пішучы пра сыстэму трох гарадзкіх кольцаў і транспартных дублёраў, Н. Трахтэнбэрг паведаміў:

*«Улицы, трактуемые планом как основные городские магистрали, расширяются... Для разгрузки Советской улицы от грузового транспорта проектируется дублирующая магистраль. Начиная от площади у железнодорожного моста, грузовое движение, направляющееся в район Комаровки, переключается на улицы Мясникова, Немигу и Торговую, которые выпрямляются и расширяются до габаритов, удовлетворяющих транспортное значение этой магистрали. Упрощается и выпрямляется уличная сеть района Немиги»*[130].

Пляны Н. Трахтэнбэрга адносна Нямігі былі выкананыя праз 28 гадоў. У сваім артыкуле ён, фактычна, пераказваў эскіз-праект «Идея центра Минска», створаны зь яго ўдзелам маскоўскімі акадэмікамі архітэктуры. А сам праект «Идея центра Минска» быў тады строга засакрэчаны і пакладзены ў спэцхран, стаўшы даступным для дасьледчыкаў толькі ў 90-я гады XX стагодзьдзя[131].

Тым ня менш канцэпцыя Н. Трахтэнбэрга была амаль цалкам рэалізаваная ў генплянах Менску 1946 і 1951 гадоў. Гэтаму спрыяла становішча

130 Тамсама.
131 Чернатов В. Цыт. тв. С. 62.

Трахтэнбэрга як начальніка аддзелу пляніроўкі Ўпраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР, а ад 1953 году — як кіраўніка майстэрні генпляну ў інстытуце «Белдзяржпраект». Да таго ж ад 1954 да 1976 году Н. Трахтэнбэрг рыхтаваў сабе пасьлядоўнікаў, выкладаючы на архітэктурным факультэце Беларускага палітэхнічнага інстытуту.

У 1945 годзе быў абвешчаны конкурс на архітэктурнае вырашэньне цэнтру Менску, у якім узяло ўдзел шмат архітэктараў з усіх куткоў СССР. У верасьні 1945 году Н. Трахтэнбэрг апублікаваў у часопісе «Беларусь» артыкул «Будучы Мінск», у якім пазнаёміў чытачоў з праектамі, якія выйшлі ў фінальную стадыю. Гэта праект беларускіх аўтараў Асмалоўскага, Казімірава і Савіцкага, а таксама праект Андрэева і Цігачова, праект Алтаржэўскага і праект акадэміка Собалева.

Тым ня менш графічныя матэрыялы да гэтых праектаў і сёньняшні выгляд Менску ў раёне Старога гораду сьведчаць, што Н. Трахтэнбэрг не скарыстаўся з прапановаў калегаў і няўхільна рэалізаваў толькі свае ідэі, выкладзеныя ў кастрычніку 1944 году. У артыкуле 1945 году Н. Трахтэнбэрг зноў назваў езуіцкі калегіюм зь вежай «ратушай» («Плошча Свабоды... аформленая будынкам б. Ратушы») і пагардліва напісаў:

*«Мінск не мае ні закончаных архітэктурных ансамбляў, ні архітэктурных традыцый...»*[132]

Пляны Н. Трахтэнбэрга на раён Плошчы Свабоды і Старога гораду былі наступныя:

*«Плошча Свабоды — гістарычны цэнтар гораду, аформленая будынкам б. Ратушы і іншымі пабудовамі, зьвязваецца з новым цэнтральным ансамблем*

132 Беларусь. 1945. №9. С. 49.

*сыстэмай шырокіх, азелянёных магістраляў (Ленінская вуліца і інш.), зь ніжэйляжачымі вуліцамі (Няміга, Гандлёвая вуліца). Тут жа бярэ свой пачатак запраектаваны шырокі, прадаўжаючы вось плошчы, праспэкт, які зьвязвае цэнтар гораду з Паркам культуры і адпачынку ля штучнага возера і стадыёнам. Праспэкт забудоўваецца толькі з аднаго боку; супрацьлеглы бок, прылягаючы да ракі, вырашаецца ў выглядзе парку. Схілы ўзгорка, на якім разьмяшчаецца комплекс плошчаў цэнтру, мяркуецца не забудоўваць, азеляніць і апрацаваць спускамі, лесьвіцамі і відовымі пляцоўкамі. Такі архітэктурны прыём стварае арганічную сувязь цэнтральнага ансамбля гораду з пэйзажам, прасторам даліны Сьвіслачы, гарадзкім паркам, разьмешчаным на яе берагах, і стварае адчуваньне шырыні і прастору ў цэнтры»*[133].

Вядома, нельга ўсю віну ўскладаць на Навума Трахтэнбэрга. Ён быў усяго толькі добрасумленным выканаўцам плянаў савецкіх уладаў яшчэ 1930-х гадоў.

Генпляны 1946 і 1951 гадоў, створаныя пад кіраўніцтвам Н. Трахтэнбэрга, мала чым адрозьніваліся — другі быў больш распрацаваным варыянтам першага, самі аўтары называлі яго новай «рэдакцыяй». Аўтары — гэта Н. Трахтэнбэрг, М. Андросаў ды іншыя спэцыялісты з інстытуту «Белдзяржпраект»[134]. На-

133 Беларусь. 1945. №9. С. 46.

134 Поўны сьпіс аўтарскага калектыву (паводле расейскамоўнага арыгіналу генпляну 1951 году) выглядае так: Н. Трахтенберг, М. Андросов, Д. Ескевич, И. Перлин, А. Леках, К. Иванов, Г. Кавокин, Г. Пекелис. Быў яшчэ нейкі Сьмірноў (без ініцыялаў, адказны за энэргазабесьпячэньне). У генпляне 1946 году ў разьдзеле «архітэктары» апрача Трахтэнбэрга і Андросава пазначана: «пры ўдзеле Добрецова В., Парсаданова Г.» (так у арыгінале).

самрэч, як мы ўжо ведаем, гэты генплян быў заснаваны на генпляне Менску 1936 году, распрацаваным у Ленінградзе спэцыялістамі Дзяржаўнага інстытуту праектаваньня гарадоў РСФСР.

Пра генплян 1946–1951 гадоў, які стаў фатальным для Старога гораду і наогул для гістарычнага цэнтру нашай сталіцы, у «Гісторыі Менску» сьціпла напісалі наступнае:

*«Паводле яго прадугледжвалася стварэньне новага аблічча горада пры захаваньні толькі самых ацалелых будынкаў (да адной пятай даваеннай забудовы)...»*[135]

А менчукі ў канцы 40-х гадоў пра гэта гаварылі проста: «Вырашылі ўсё зьнесьці і пабудаваць новы горад». Гэтую фразу я ня раз чуў ад сваякоў, а пазьней і ад старажылаў, зь якімі гутарыў, рыхтуючы гэтую кнігу.

Яшчэ ў 1944 годзе, хутка пасьля вызваленьня Менску, жыхары Старога гораду зразумелі, што ім давядзецца перабірацца ў іншыя месцы. І тыя, хто жыў у захаваных дамах, і тыя, хто спадзяваўся адрамантаваць сваё пашкоджанае пажарамі і бомбамі жытло, былі горка расчараваныя пастановай гарадзкіх уладаў. Управа галоўнага архітэктара Менску, якая тады месьцілася ў двары дома на вуліцы Рэвалюцыйнай, 1, прыняла «Временные правила по планировке и застройке гор. Минска»:

*«На здания и сооружения, **подлежащие сносу в связи с генеральным планом восстановления города**, закрепление земельных участков не производится, а выдается лишь документ на время их использования в соответствии с очередностью*

135 Гісторыя Мінска. С. 474.

*застройки города...* ***Запрещается самовольное какое то ни было новое строительство, восстановление зданий и использование коробок разрушенных и сгоревших сооружений*** (вылучэньне ўсюды — маё, С. А.) *без разрешения Управления Главного Архитектора города Минска*»[136].

Натуральна, што ў тых раёнах, дзе паводле генпляну павінна было весьціся новае будаўніцтва і якія падпадалі пад знос, дазволаў на аднаўленьне будынкаў Управа галоўнага архітэктара не давала.

Замчышча якраз і было адным з такіх раёнаў. Яго асудзілі на страту.

У сьнежні 1944 году была прынятая пастанова СНК БССР аб аднаўленьні Менску. У дадатку №1 да гэтага дакумэнту пад назвай «Основные положения восстановления столицы Белорусской ССР г. Минска» гаварылася:

*«Запроектировать прямую магистраль, соединяющую площадь Свободы с районом озера с таким расчетом, чтобы первая очередь строительства от площади Свободы до Колхозной улицы могла быть осуществлена в 1945 году»*[137].

Вось чаму сьпяшаліся спэцыялісты «Трэсту...» Стары горад ня меў шанцаў. І хоць саму Паркавую магістраль пабудавалі ўрэшце значна пазьней, але месца для яе пачалі «расчышчаць» своечасова.

Таму адказ на пытаньне «Што рабілася ў Менску пасьля вызваленьня?» можа гучаць зусім коратка: стары Менск зносілі і называлі знос «аднаўленьнем» сталіцы.

---

136 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 89, арк. 103аб–104.
137 Тамсама, арк. 36.

## Ці бараніў нехта Стары Менск

У часе вайны Сталін зрабіў пэўныя ідэалягічныя саступкі, якія дазволілі савецкай прапагандзе апэляваць да нацыянальнага пачуцьця савецкіх народаў. Пачала вальней адчуваць сябе царква, у вайсковую форму вярнулі некаторыя элемэнты формы царскай арміі, газэты і часопісы на нацыянальных мовах СССР пачалі болей пісаць пра гісторыю і традыцыі сваіх народаў.

Ня стала выключэньнем і беларуская прапаганда. Тут ідэалягічнае паслабленьне тлумачылася ня толькі патрэбай мабілізацыі патрыятычных пачуцьцяў, але і неабходнасьцю проціпаставіць нешта нацыянальнай прапагандзе ў акупаванай Беларусі.

У выніку ў 1943–1946 гадах у беларускіх газэтах і часопісах можна было прачытаць артыкулы пра Рагвалода, Рагнеду, Усяслава Чарадзея, паходы «беларуска-літоўскага князя Жыгімонта Карыбутавіча» ў Чэхію на дапамогу Яну Жыжку, пра першадрукара Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага ды іншыя гістарычныя асобы. На агульным фоне асабліва вылучаўся галоўны грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс «Беларусь» — там такія матэрыялы зьмяшчаліся з нумару ў нумар.

«Беларусь» надавала ўвагу і помнікам даўніны, існавала нават спэцыяльная рубрыка «Архітэктурныя помнікі Беларусі». Але там можна было прачытаць нататкі толькі пра найбольш вядомыя помнікі, кшталту Наваградзкага замку. Спробы адшукаць у беларускім друку 1944–1950 гадоў выступы ў абарону старой менскай архітэктуры аказаліся марныя.

Толькі аднойчы — у верасьні 1945 году — часопіс «Беларусь» зьмясьціў невялікую нататку «Замкавая гара ў Мінску», у якой сярод іншага парай радкоў згадаў і будынак Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага:

*«Паводле сьцьверджаньняў спецыялістаў, гэты дом, у якім калісьці зьмяшчаўся Гарадзкі суд, быў пабудаваны з рэшткаў фундамента старога замка. У часе вайны гэты дом загінуў. Зараз гара зарасла травой. Яна высіцца сярод руін каля былога ніжняга рынку і маста празь Сьвіслач...»*[138]

Але ніхто і ніколі ня згадваў пра магчымасьць рэстаўрацыі або аднаўленьня нейкай часткі Менску — вуліцы, кварталу або дома.

Затое ў друку рэгулярна зьмяшчаліся матэрыялы кшталту таго, што быў апублікаваны ва ўсіх газэтах 5 верасьня 1944 году і займаў цэлую паласу — «Сообщение Чрезвычайной Государственной Комисси по установлению и расследованию злодеяний немецко-фашистских захватчиков и их сообщников “О разрушениях памятников искусства и архитектуры в городах Петродворец, Пушкин и Павловск”». У гэтых «паведамленьнях» грунтоўна і з болем расказвалася пра страты, якія панесла расейская культура ў тых або іншых месцах РСФСР.

І на гэтым фоне «Звязда» аднойчы на першай старонцы зьмясьціла здымак старасьвецкай полацкай камяніцы і радасна паведаміла:

*«У Полацку на Ленінскай вуліцы захаваўся домік, у якім жыў Пётр I у час свайго прабываньня ў горадзе ў 1705 годзе»*[139].

138 Беларусь. 1945. №9. С. 60.
139 Звязда. 25 лістапада 1945.

У той побыт у Полацку п’яны расейскі цар разам са сваім памагатым князем Меншыкавым у Сафійскім саборы забіў шасьцёх беларускіх манахаў-базыльянаў і пасек шабляй абразы сьвятога Язафата Кунцэвіча. «Звязда» у лістападзе 1945 году пра гэта напісаць не магла, яна проста радавалася ўратаванаму «доміку Пятра»— а ў той час у Менску ззаду дамініканскага кляштару яшчэ стаяў рэнэсансны дом Сапегаў — найкаштоўнейшы помнік менскай архітэктуры XVII стагодзьдзя.

Здавалася б, якраз пісьменьнікі і журналісты як самая на той час нацыянальна актыўная частка нешматлікай беларускай эліты маглі выступіць на абарону старой менскай архітэктуры. Аднак гэтага ня сталася. Пісьменьнікі горача падтрымлівалі «аднаўленьне» і нават бралі ў ім актыўны ўдзел. Вось што пісаў у кастрычніку 1944 году драматург Віталь Вольскі:

*«С болью в сердце смотрим мы на руины. Как изменился облик родного города! Так могут разрушать только немцы... Кругом работают люди самых разнообразных профессий... Все они с одинаковым рвением регулярно выходят на работы по очистке Минска от развалин.*

*На одном из участков между улицами Володарского, Интернациональной и Революционной, работает бригада писателей.*

*На неровном выступе полуразрушенной стены виднеется фигура высокого человека. Это — известный белорусский сатирик и драматург Кондрат Крапива. Мерно и сосредоточенно ударяет он ломом о стену. Отскакивают куски цемента. Кирпич за*

*кирпичом отрывается от стены. Груда кирпичей у подножия стены растёт с каждым ударом.*

*Внизу работают другие. Драматург А. Кучар и поэт А. Платнер разбирают строительный материал, очищают кирпич от раствора и на носилках относят его в сторону. Поэты Пятрусь Бровка и Максим Лужанин складывают кирпич в аккуратные штабеля...*

*В 2 часа дня подводится итог. Норма выполнена на 134 процента. Бригадир Крапива делает отметки в личных книжках. В первый выход каждый из писателей отработал 8 часов.*

*На протяжении тысячелетий Минск не однажды разрушали враги. Но каждый раз он снова возвращался к жизни. Из огня и пепла, как феникс, воспрянет Минск ещё более прекрасный, гордый, живописный и благоустроенный*»[140].

Павал Кавалёў называў прымусовыя выхады менчукоў на здабыцьцё будаўнічага матэрыялу «патрыятычным рухам»:

«*У горадзе шырока разгарнуўся выдатны патрыятычны рух за хутчэйшае аднаўленне роднай сталіцы. У ім бяруць удзел усе ад старшыні Саўнаркома Беларусі да хатняй гаспадыні. На вуліцах Мінска плакаты, выпушчаныя дзяржаўнай літаграфіяй. Адзін з іх пытае: "Ці ўкладаеш ты сваю частку працы ў аднаўленне Мінска?"*»[141].

Пералічыўшы далей імёны вядомых людзей накшталт партызана Мачульскага, старшыні СНК БССР Панамарэнкі або актора Грыгоніса, якія са-

140 Советская Белоруссия. 22 кастрычніка 1944.
141 Беларусь. 1945. №1. С. 15.

мааддана працуюць на разборы руінаў і даюць па 180, 200 і нават 300 працэнтаў нормы, Павал Кавалёў намаляваў будучыню сталіцы:

*«У Мінск прыяжджала група вядомых архітэктараў краіны — акадэмікі архітэктуры Мардвінаў, Шчусеў, Сямёнаў, Колі і іншыя. Імі распрацаваны план аднаўленьня Мінска. Гэты план будзе ператвораны ў жыцьцё. Горад-герой, непакораны немцамі, зноў уьзнімецца ўвысь і будзе будавацца на радасьць і шчасьце беларусам»*[142].

Беларускія пісьменьнікі ў тыя гады спалучалі павагу да даўніны ў іншых гарадах СССР і поўную няўвагу да даўніны менскай. Хіба толькі Пімен Панчанка ў 1942 годзе ў вершы «Мінску» прадэманстраваў інтуітыўнае адчуваньне гістарычнасьці сталіцы і замілаваньне яе старадаўнім абліччам:

*Хачу аднаго я: па бруку шурпатым*
*Прайсьціся яшчэ раз, зірнуць на муры...*

«Брук» і «муры» тут выступаюць паэтычнымі атрыбутамі гістарычнага старасьвецкага Менску. Але ўжо ў 1945 годзе ў вершы «Пад'яжджаючы да Мінска» Панчанка злучае боль і роспач ад убачаных разбурэньняў са стэрэатыпамі тагачаснай савецкай прапаганды:

*...Грукоча цягнік...*
*Праз якую гадзіну*
*Ты сыдзеш, мой верш, у журбе на руіны*
*Ты горкага многа ў Мінску пабачыш*

142 Тамсама.

*Бязь сьведак, цішком, можа нават*
*паплачаш...*

*...Стань Мінск мой, такім, як хачу я навекі...*

*...Мінск стольны.*
*Мінск сьветлы.*
*Мінск бела-зялёны.*
*Няма тут завулкаў пакрыўленых, вузкіх.*
*Тут горад навукі, паэзіі, музыкі.*

Далей «пакрыўленымі завулкамі» і «мурамі» Пімен Панчанка захапляўся ўжо толькі ў суседзяў. Наведаўшы Вільню, ён у жніўні 1946 году апублікаваў верш «Сустрэча зь Вільняй»:

*А навокал такі прастор!*
*Такая прыгажосьць!*
*Касьцёлаў, цэркваў, пэўна, сто*
*На дзьвесьце вуліц ёсьць.*
*Муроў і вежаў не зьлічыць...*

А ў гэты час у Менску разьбіралі самую старажытную мураваную вуліцу — Дзям'яна Беднага і рэшту самага старога рынку — Нізкага, зь яго гатычнай пляніроўкай і купецкімі камяніцамі па пэрымэтры. У гэты час рэнэсансны пляц Верхняга гораду яшчэ захоўваў грамадзянскую і культавую забудову на трох са сваіх чатырох бакоў, і стаялі цэлыя або троху пашкоджаныя ўсе культавыя помнікі старога менскага цэнтру — 10 кляштараў, 5 касьцёлаў, царква, сынагога і татарская мячэць...

Падпаў пад уплыў савецкай прапаганды нават Якуб Колас, які, як чытач ужо ведае, мог быць добра абазнаны аб значэньні Старога гораду для беларускай культуры і гісторыі. У сьнежні 1944 году ў лісьце да жонкі зь Менску Колас напісаў:

«*... Мінск разбураны, але твар горада застаўся. Мінск ёсьць Мінск, хоць ён страшны ў сваіх руінах... І страшна прызнацца — я нават задаволен, што пры аднаўленьні сталіцы мы зробім яе больш разумнай, больш планавай і выправім тыя агрэхі, якія з'явіліся ў выніку бяспланавага, непрадуманага будаўніцтва...*»[143]

Найбольш гарачым прыхільнікам ачышчэньня Менску ад старых будынкаў і пабудовы на яго месцы новага сацыялістычнага гораду выявіўся Мікола Лобан. Лобан пэрыядычна друкаваў у часопісе «Беларусь» артыкулы і нарысы пра аднаўленьне Менску, славячы праекты перабудовы сталіцы.

У 1947 годзе Мікола Лобан апублікаваў вялікі нарыс «Мінск заўтра», у якім падрабязным чынам, раён за раёнам, апісаў будучы выгляд Менску паводле генпляну 1946 году, складзенага пад кіраўніцтвам Н. Трахтэнбэрга на падставе «праекту-ідэі» маскоўскіх акадэмікаў. У тым тэксьце можна знайсьці і адсылкі да менскай даўніны:

«*Мінск — горад з тысячагадовай гісторыяй. Аб гэтым, акрамя ўсяго іншага, сьведчаць яго вузкія і крывыя вуліцы, выпадковыя плошчы і паркі*»;

а можна было ўбачыць і пагарду да той самай даўніны:

143 Цыт. паводле: Міцкевіч М. Пад бацькоўскім дахам // Дзеяслоў. 2008. №2. С. 247.

*«У спадчыну ад мінулага нам не дасталася ні цудоўных палацаў, ні ўпарадкаваных плошчаў і вуліц, ні паркаў, ні авеню, чым могуць пахваліцца шмат якія сталіцы»*[144].

Згадаўшы вузкія і крывыя вулкі як сьведкі мінулага, Мікола Лобан далей захапляецца плянамі іх зносу і пашырэньня, часткова ўжо ажыцьцёўленымі:

*«Камсамольская. Вы яе не пазнаеце. З вузкага васьміметровага крывога завулка яна ператварылася ў бульвар, які шырокай паласой зелені, уліваючыся ў спартыўны парк, адчыняе цэнтральны падход да стадыёна "Дынама"»*[145].

Пра тагачасныя Нямігу і Стары горад Лобан пісаў:

*«Між іншым тая спецыяльная магістраль ня толькі разгружае Савецкі праспект, яна з'яўляецца і помнікам старадаўнасьці. Планіроўшчыкі беражліва захавалі яе выгнутую трасу. Тут некалі на паверхні тальвега цякла рака Няміга, вядомая ў гісторыі тым, што на яе беразе ў 1067 годзе сустрэліся войскі полацкага князя Ўсяслава з войскамі Яраславічаў… Цяпер гэтай ракі не відаць, яна глыбока захавана ў грунт пад вуліцай.*

*Наогул раён Нямігі — гэта самы старажытны раён. Тут і рэшткі старадаўніх замкаў і манастыры, тут і рэшткі сельбішчаў X–XI стагодзьдзяў. Да рэвалюцыі Няміга была ўзорам забытай акраіны. Вузенькая, крывая, забрукаваная вялізным круглым каменьнем, брудная і цёмная. Жыхароў было тут*

144 Беларусь. 1947. №1. С. 31.
145 Тамсама. С. 34.

*больш чым трэба, а — ні каналізацыі, ні вадаправода, ні асьвятленьня. Толькі крамкі дробнага гандлю па абодва бакі, ды саматужныя майстэрні.*

*Цяпер гэтая закіданая вуліцаператворана ў трыццаціпяціметровую магістраль, складзеную з вуліц: Мясьнікова, Нямігі, Чырвонай, Лагойскага тракту...*»[146]

Пры чытаньні такіх тэкстаў міжволі ўспамінаецца мэдычная назва псыхічнай хваробы, што азначае раздвоенасьць асобы. І хвароба гэтая, выглядае, празь ціск прапаганды і жах рэпрэсіяў апанавала тады не асобных людзей і не асобных творцаў, але ўсё грамадзтва, усю грамадзкую думку.

Ключ да такіх загадак мэнтальнай раздвоенасьці можна знайсьці ў абавязковых тагачасных заклінаньнях пра Сталіна, яго клопат аб чалавеку, аб «сацыялізме» і «камунізме». Ня быў выключэньнем і Мікола Лобан:

«*Планіроўшчыкі Парыжа імкнуліся стварыць такі "горад, у якім лёгка было б падтрымліваць парадак і сацыяльны мір". Зусім іншая сацыяльная ідэя ляжыць у аснове сацыялістычнай рэканструкцыі гарадоў. Савецкая планіроўка не адмаўляе стварэньня архітэктурна стыльнага ярка падкрэсьленага цэнтра. Але гэтае імкненьне нічога агульнага не мае з осmanаўскім* (граф Жорж Э. Осман — аўтар перапляніроўкі Парыжу ў 60-я гг. XIX ст. — С. А.) *імкненьнем да паказнога, імпазантнага.*

*Душою нашай савецкай планіроўкі зьяўляецца сталінскі клопат аб чалавеку. Наша планіроўка накіравана на тое, каб стварыць горад такі, які б*

146 Тамсама. С. 33.

*адказваў усім павышаным запатрабаваньням сацыялістычнага грамадзтва. Клопат аб чалавеку: аб яго здароўі, аб жыльлі, аб зручнасьці транспарту, аб адпачынку — вось што ляжыць у аснове ідэі сацыялістычнай планіроўкі»*[147].

І сапраўды, вуліцы менскага цэнтру цяпер шырокія і прасторныя, а тыя менчукі, што прагнуць даткнуцца да сівой даўніны і атрымаць эстэтычную асалоду ад старой архітэктуры, цяпер езьдзяць у тыя гарады, дзе ў цэнтрах вуліцы якраз вузкія і старыя, а транспарту цесна.

У 1948 годзе Мікола Лобан выступіў з нарысам «Мінск сёньня», прысьвечаным рэканструкцыі Менску. Тут ужо адсылак да даўніны не было, гэты тэкст — суцэльны панэгірык генпляну 1946 году і «сьветламу сацыялістычнаму заўтру»:

«*Будаўніцтва ідзе па ўсяму гораду. На нашых вачах з руін уьзнімаюцца манументальныя дамы, праспекты і вуліцы мяняюць свае напрамкі, там, дзе некалі былі густа заселеныя кварталы, узьнікаюць новыя прасторныя плошчы. Генеральны план рэканструкцыі сталіцы — у дзеяньні.*

*Тое, што год-два назад было яшчэ толькі марай, сёньня прыходзіць да нас у выглядзе рэальнасьці. Гэта даецца нялёгка: патрэбны вялікія затраты грошай, будаўнічых матэрыялаў і працы, але гэта апраўдаецца, калі высакародная мэта — стварэньне добраўпарадкаванага сацыялістычнага горада — будзе дасягнута... Захады нашай партыі і ўрада накіраваны на тое, каб максімальна аздаравіць нашы сацыялістычныя гарады. Стварэньне высокага*

147 Тамсама. С. 31.

*дабрабыту для насельніцтва горада з'яўляецца асноўнай задачай у праблеме рэканструкцыі горада»*[148].

Акідаючы вокам беларускую рэчаіснасьць другой паловы 40-х гадоў, прыходзіш да высновы, што нейкім чынам процістаяць разбурэньням у Менску мог вядомы мастацтвазнавец і гісторык архітэктуры, колішні супрацоўнік-карэспандэнт Міколы Шчакаціхіна ў Інбелкульце Іван Хозераў, які да вайны кіраваў Смаленскім дзяржаўным музэем. У 1946 годзе Хозераў быў прызначаны начальнікам аддзелу аховы помнікаў Упраўленьня па справах архітэктуры пры Савеце міністраў БССР, але празь некалькі месяцаў раптоўна памёр ва ўзросьце 58 гадоў.

Вось так выглядаў беларускі грамадзка-літаратурны пэйзаж у той час, калі ў Менску грымелі сапёрныя выбухі, калі «Трэст» і вулічныя камітэты здабывалі будматэрыялы на «аднаўленьне» гораду і калі Н. Трахтэнбэрг плянаваў «новы сацыялістычны Менск». Сытуацыя зьмянілася толькі празь дзесяць гадоў. Але ненадоўга. Пра гэта — у пятай частцы кнігі.

## Генплян 1951 году і яго ахвяра — Стары горад. Цытаты

Вернемся зараз на некалькі гадоў назад. Чалавеку, якому блізкія і дарагія гісторыя і культура Беларусі, нельга бяз болю чытаць шматлікія старонкі сакрэтных тлумачальных «запісак» да генпляна ў

148 Беларусь. 1948. №11. С. 26.

1946 і 1951 гадоў. Вось «Пояснительная записка» да Генпляну 1951 году:

*«Район старого Минска — так называемая "Немига", расположен в пойменной террасе реки Свислочь, к северо-западу от площади Свободы. Он характерен средневековой планировкой, изношенным строительным фондом, преимущественно кирпичным, со сроком службы отдельных зданий свыше 80 лет. Чрезвычайно узкие (9–12 м) и кривые улицы, полное отсутствие зелени при плотности застройки кварталов, достигающей в отдельных случаях 80%, создает в этом районе неблагоприятные антисанитарные условия.*

*Почти ежегодно в период весеннего паводка часть района затапливается водами р. Свислочь, а ручей "Немига" — приток р. Свислочь (частично заключенный в трубу), протекающий через этот район, в период наводнения и сильных дождей подтапливает подвалы зданий... Строительный фонд района также серьезно пострадал, хотя и в меньшей мере, чем в центральном районе. Сплошь разрушены кварталы, расположенные на пойменной террасе и склонах холма»*[149].

Прайшло ўсяго 3 гады пасьля поўнага зносу часткова захаваных пасьля пажараў і разборак часоў акупацыі Нізкага рынку і кварталу паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Вольнай, а архітэктары ўжо называюць гэтыя кварталы «сплошь разрушенными» падчас вайны.

149 Пояснительная записка к Генплану Минска. 1951 год. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 529, с. 10.

Але ў гэтай цытаце галоўнае ня гэта. Галоўнае — стаўленьне да беларускай даўніны, адсутнасьць усялякай павагі да гісторыі. Пра старажытныя Замчышча і Нізкі рынак у генпляне абыякава пішуць як пра «пойменную террасу», а тысячагадовую рэчку беларусаў Нямігу, апетую аўтарам «Слова пра паход Ігара», архітэктары пагардліва называюць «ручей» і бяруць яго назву ў двукосьсе.

У гэты самы час па ўсёй Польшчы на вуліцах і ва ўстановах стаялі скарбонкі для збору сродкаў на адбудову цалкам зруйнаванага варшаўскага Starego Miasta. А ў Празе на Бэтлеемскім пляцы аднаўлялі гатычную Бэтлеемскую капліцу, дзе ў пачатку XV стагодзьдзя служыў Ян Гус. Капліца ў XVIII стагодзьдзі была перабудаваная ў жылы дом, і для яе аднаўленьня дом давялося разбурыць.

Яшчэ цытаты. Гэтым разам з асноўнага суправаджальнага тэксту да генпляну 1951 году.

*«Уличная сеть города изобилует узкими, изломанными в плане направлениями (в наиболее старых районах города), затрудняющими развитие городского транспорта и организацию внутригородских магистральных связей, и поэтому нуждается в радикальной реконструкции»*[150].

*«Одновременно со строительством основных магистралей города проведена значительная работа по благоустройству и реконструкции сети существующих жилых улиц. Часть из них расширены в своих габаритах (улицы Комсомольская, Энгельса,*

150 Генплан Минска.1951 год. Раздел «Архитектурно-планировочная характеристика современного города». С.110. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 121.

*Интернациональная, Кирова и др.) и получили усовершенствованные покрытия»*[151].

*«Характерной особенностью плана города Минска является маломерность его кварталов и в связи с этим густота уличной сети. В процессе новой застройки центральной части города кварталы укрупнены и некоторые улицы стали внутриквартальными проездами (Сергеевская, Оборонная, Свердловский переулок, Почтовая, частично Урицкого и др.), что также улучшает условия работы внутригородского транспорта»*[152].

*«Сохранившиеся здания дореволюционного строительства — конца XIX и начала XX вв., своей невыразительной архитектурой повторяли обычные приемы, характерные для архитектуры провинциального губернского города»*[153].

*«В результате массированных воздушных налетов и систематического разрушения, произведенных немецко-фашистскими захватчиками, подавляющее большинство капитальных зданий, особенно в центре, полностью были разрушены, и поэтому с началом восстановительного и нового строительства начался период формирования городского организма столичного города, отвечающего современным требованиям градостроительства с максимально целесообразным учетом сохранившейся уличной сети, строительного фонда и инженерного оборудования городской территории»*[154].

151 Тамсама. С. 111. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 122.
152 Тамсама. С. 111–112. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 122; 123.
153 Тамсама. С. 114. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 125.
154 Тамсама. С. 115. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 126.

*«Ширина основных магистралей принята:*

*а) для транзитных магистралей — 42–52 м.*

*б) для магистралей общегородского значения — 35–40 м.*

*в) для магистралей районного значения — 24–30 м.*

*г) для улиц местного значения — 15–20 м.»*[155].

*«Особое место занимает проблема реконструкции центральной части города. Как указывалось выше, город в прошлом не имел ярко выраженного композиционного центра, достаточно просторных и удобных площадей. Положенная в основу первого послевоенного генерального плана (1945–1946 г.) композиция планировки центральной части города являлась результатом очень большой проектной работы с участием виднейших градостроителей СССР. За период 4-й сталинской пятилетки в процессе восстановления и реконструкции наиболее разрушенной центральной части города проект в значительной степени осуществлен в натуре»*[156].

*«Габариты площади Свободы в основном уже сложились. Расположенные по её периметру колокольни церквей и костёлов в прошлом имели большое значение в формировании силуэта города и замыкали собой перспективы большинства радиальных подходов внешних магистралей. Современное столичное значение города, центра одной из передовых социалистических республик СССР, требует создания нового силуэта города путём введения в него новых*

---

155 Тамсама, разьдзел «Архитектурно-планировочное решение». С. 123. Гл.: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 136.

156 Тамсама. С. 124. Гл.: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 137.

*сучасных высотных композиций, отображающих и подчеркивающих могучий рост народного хозяйства, национальной по форме и социалистической по содержанию культуры...*

*В генеральном плане предлагается на месте существующих в центре площади 2–3-этажных административных зданий, имеющих высокий процент амортизации, соорудить высотное здание для размещения административных и хозяйственных организаций»*[157].

І пры гэтым ці ня кожны разьдзел генпляну пачынаўся нязьменнымі рэвэрансамі ў бок старажытнасьці беларускай сталіцы — усё тая самая раздвоенасьць мысьленьня:

*«Минск относится к числу очень древних городов нашей Родины. Впервые упоминание о нем как о крупном, сильно укрепленном поселении относится к середине XI века»*[158].

Гэтае ненатуральнае суседзтва фразаў кшталту «очень древний город нашей Родины» з плянамі, якія асуджалі Менск на канчатковае разбурэньне, спараджае пытаньне — нашто казаць пра старажытнасьць, каб пасьля ніводным словам не згадаць пра патрэбу аднаўленьня і рэстаўрацыі? Магчыма, гэта было данінай нейкай уяўнай прафэсійнай прыстойнасьці, своеасаблівым «добрым тонам» тагачасных архітэктараў? Часам здаецца, што згадкі пра старажытнасьць былі праявай эгаістычнага самасьцьверджаньня — чым больш даўні горад, тым больш ганарова ў ім будаваць. А можа

157 Тамсама. С. 126. Гл.: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 139.
158 Тамсама. С. 116. Гл.: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 528, арк. 127.

тыя словы пісаліся толькі для таго, каб падвесьці «чытача» да гэтага абзацу:

*«Город... в процессе своего исторического развития многократно подвергался пожарам и разрушениям»*[159].

Маўляў, нічога страшнага не адбываецца, адбудуем яшчэ раз.

Плянуючы татальнае разбурэньне старой часткі гораду, беларускія архітэктары адначасова стваралі ўтапічныя праекты, якія ніколі не былі рэалізаваныя. Архітэктар Аляксандар Воінаў пісаў у 1948 годзе:

*«Мне партыя і ўрад даверылі спраектаваць для вас, дарагія рабяты, Палац піянераў. Гарсавет адвёў для гэтага будынка вялікі ўчастак зямлі, які раскінецца ад вуліцы Кірава праз Гарбарную аж да Сьвіслачы. Тут запруджаная рэчка ўтворыць штучнае возера, дзе пабудуецца дзіцячая водная станцыя. У вялікім парку Палаца будзе адбудован летні тэатр, разьмесьцяцца аранжэрэі, майстэрні юных механікаў і станцыі юнатаў»*[160].

А ў выніку ўсё, што замінала Н. Трахтэнбэргу і М. Андросаву, усё, што паводле іх было вузкае, крывое, ламанае, маламернае, што перашкаджала разьвіцьцю гарадзкога транспарту і не адпавядала «сучасным» патрабаваньням — усё гэта зносілася, спрашчалася і пашыралася. І якраз усё гэта трэба было дбайна і ашчадна захоўваць і рэстаўраваць. Але для разуменьня важнасьці рэстаўрацыі трэба ня толькі мець дастаткова культуры, ведаў і густу,

159 Тамсама.
160 Піонер Беларусі. 14 красавіка 1948.

каб дацэньваць каштоўнасьць той або іншай будыніны, трэба яшчэ мець свабоду выказваць свае погляды і свабоду ўвасабляць іх у жыцьцё.

А вось, да прыкладу, якую свабоду і якія эстэтычныя погляды мог выказаць у 1948 годзе Міхаіл Асмалоўскі, які ў 1945–1951 гадах (гэта значыць, у крытычны і найважнейшы для менскай даўніны час) працаваў начальнікам Упраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР і браў актыўны ўдзел у праектаваньні будучага Менску. Менавіта Асмалоўскі спраектаваў забудову галоўнага праспэкту сталіцы і цяперашняга Кастрычніцкага пляцу:

*«Гістарычныя рашэньні Цэнтральнага камітэта камуністычнай партыі бальшавікоў аб мастацтве і музыцы цалкам адносяцца і да архітэктуры. ЦК партыі асудзіў сумбурнасьць, антынароднасьць, дысананс у музыцы, прапанаваўшы савецкім кампазітарам стварыць музыку, зразумелую для народа...*

*Архітэктура таксама прайшла свой складаны шлях і нарадзіла многа стыляў і напрамкаў. Адным з іх быў так званы канструктывізм — гэта сумныя, не ласкаючыя вока чалавека, не натхняючыя яго, а, наадварот, адштурхваючыя яго каробкі. Ня меншай небясьпекай чым канструктывізм з'яўляецца фармалізм. Як і ў музыцы, ён чужы нам і антынародны. Фармалізм не ўлічвае пытаньня аб зручнасьці жыцьця для савецкага чалавека, ён адрывае сутнасьць ад формы... Наша архітэктура заўсёды павінна адпавядаць ідэі сацыялістычнага рэалізма»*[161].

161 Беларусь. 1948. №7. С. 10.

Такі быў час, такія людзі і такія густы. Зрэшты, у Вільні помнікі пачалі рэстаўраваць з 1950 году. Кіраўніцтва ж Беларусі і аўтары генпляну мысьлілі іншымі «эстэтычнымі» катэгорыямі. Маштаб таго мысьленьня добра выяўляе мэта «создание нового силуэта города путём введения в него новых современных высотных композиций» (гаворка ідзе пра Плошчу Свабоды!!) і яе вынік — банальны і звыродлівы ў тым асяродзьдзі будынак праектнага інстытуту на схіле ад Плошчы Свабоды да Нямігі на месцы старажытных муроў Школьнага двара, якія яшчэ Павал Шпілеўскі называў «особенно замечательными».

Некалькі вышэйпададзеных цытат зьяўляюцца даволі вымоўнымі аргумэнтамі на карысьць «ненаўмыснага» варыянту адказу на пытаньне «Чаму разбурылі Стары горад?» Нізкі культурны ўзровень, пагарда да ўсяго беларускага і «заходняга», палон камуністычных ідэяў «сьветлага заўтра» і адпаведнай яму новай архітэктуры штурхалі аўтараў генпляну і яго заказчыкаў у кіраўніцтве БССР да канчатковага зносу Старога гораду. І яны гэта зрабілі.

Ведаючы сапраўдную гісторыю Менску, яго колішні эўрапейскі выгляд, цяжка пагадзіцца з фактам, што цяпер на месцы Замкавай гары зь дзясяткам старадаўніх вуліц і камяніцамі былой замкавай адміністрацыі на стромым беразе Сьвіслачы – роўнае поле зь некалькімі навабудамі.

І для беларусаў, і для іх сталіцы – гэта рана, якая пакуль не загаілася.

Кожны горад павінен разьвівацца, расьці і разбудоўвацца. У пэўных выпадках для арганізацыі патокаў транспарту можна ісьці і на зносы ня самай важнай пэрыфэрыйнай забудовы старых цэнтраў.

Але для гэтага зусім не абавязкова зьнішчаць сам гістарычны цэнтар і пракладаць па ім дублёры галоўных транспартных артэрый гораду, як гэта было зроблена ў сталіцы Беларусі ў сярэдзіне — другой палове XX стагодзьдзя.

Стары цэнтар Менску складаўся з дзьвюх частак, якія былі і застаюцца яго гістарычнымі лёгкімі — гэта Верхні горад, з аднаго боку, і Нізкі рынак з Замчышчам, з другога. Сёньня адно гістарычнае лёгкае выдалена, Менску не хапае гістарычнага паветра і энэргіі, каб зрабіць магутны рывок у пасьпяховую культурную і палітычную будучыню, каб вярнуцца ў тую цывілізацыйную прастору, да якой ён належаў у вяках.

Гэта важна для краіны, для народу і для астатніх старых гарадоў Беларусі, якія таксама страцілі гістарычныя цэнтры.

Таму рэгенэрацыя Нізкага рынку і Замчышча з дэмантажам навабудаў і адсяленьнем іх жыхароў ва ўзьведзеныя непадалёк за дзяржаўны кошт новыя жылыя дамы, напрыклад, на той самы схіл ад Пішчалаўскага замку да вуліц Гарадзкі вал і Няміга, усё яшчэ зьяўляецца актуальнай задачай нацыянальнага парадку дня.

Беларусы павінны вярнуцца да сябе.

## Ці мог Стары горад быць разбураны наўмысна

Лёгіка развражаньняў пра лёс Старога гораду ў вайну непазьбежна прыводзіць да пытаньня, ці не маглі разбурэньні на Замчышчы, прынамсі часткова, насіць наўмысны характар? Ці не маглі савецкія бамбаваньні Старога гораду ў часе акупацыі, жорсткія бамбардыроўкі напярэдадні вызваленьня і пасьляваенныя падрывы дамоў быць часткай нейкай задумы? Ці ня зьвязаныя бамбаваньні і сапёрныя падрывы з жаданьнем савецкага кіраўніцтва займець, напрыклад, аргумэнты ў пасьляваеннай антынацысцкай прапагандзе або дадатковыя падставы для атрыманьня пасьляваенных рэпарацый?

На першы погляд такія разважаньні гучаць як фантастыка або блюзьнерства. І ўсё ж.

Ніякіх дакумэнтаў на гэты конт апублікавана не было. У беларускіх архівах яны таксама адсутнічаюць. Калі такія дакумэнты ўсё ж існуюць, то яны дагэтуль застаюцца засакрэчаныя. Зь іншага боку, іх магло і ня быць. У ваенны час загады аддаюцца ня толькі пісьмова, але і вусна, а выканаўцы — афіцэры і генэралы — людзі вайсковыя, зьвязаныя прысягай і кодэксам гонару, яны даюць розныя падпіскі і звычайна іх сумленна трымаюцца.

Думкі пра наўмысны характар некаторых разбурэньняў у савецкіх гарадах ужо шмат дзесяціго-

дзьдзяў зьяўляюцца часткай незалежнага інтэлектуальнага дыскурсу ў былым СССР. Адным з тых, хто іх агучыў, зьяўляецца аўтар сусьветна вядомай кнігі «Бабий Яр», кіеўскі пісьменьнік Анатоль Кузьняцоў. Таму нам тут не абысьціся без абшырнага цытаваньня гэтага важнага тэксту.

У адрозьненьне ад Менску, які быў здадзены немцам усяго празь некалькі дзён пасьля пачатку вайны, Кіеў гэткай долі пазьбегнуў. Немцы ўвайшлі ў яго толькі 19 верасьня 1941 году — гэта значыць, амаль праз тры месяцы пасьля пачатку вайны. Тут у савецкіх уладаў было дастаткова часу, каб падрыхтавацца да арганізаванай эвакуацыі з гораду. Але ня толькі да яе.

Пяць дзён немцы ўладкоўваліся ва ўкраінскай сталіцы. Яны занялі ўсе лепшыя будынкі ў цэнтры гораду, у яго гістарычнай частцы, галоўнай вуліцай якой быў Хрышчацік. Ад назвы гэтай вуліцы, фактычна, увесь кіеўскі стары горад называлі Храшчацікам. Далей дамо слова Анатолю Кузьняцову:

«*Это было 24 сентября, в четвертом часу дня. Дом немецкой комендатуры с "Детским миром" на первом этаже взорвался. Взрыв был такой силы, что вылетели стекла не только на самом Крещатике, но и на параллельных ему улицах Пушкинской и Меринга. Стекла рухнули со всех этажей на головы немцев и прохожих, и многие сразу же были поранены. На углу Прорезной поднялся столб огня и дыма. Толпы побежали — кто прочь от взрыва, кто, наоборот, к месту взрыва, смотреть.*

*В первый момент немцы несколько растерялись, но потом стали строить цепь, окружили горящий*

*дом и хватали всех, кто оказался в этот момент перед домом или во дворе…*

*В этот момент в развалинах того же самого дома грянул второй, такой же силы, взрыв. Теперь рухнули стены, и комендатура превратилась в гору кирпича. Крещатик засыпало пылью и затянуло дымом. Третий взрыв поднял на воздух дом напротив — с кафе-кондитерской, забитой противогазами, и с немецкими учреждениями.*

*Немцы оставили кинотеатр и с криками: “Спасайтесь, Крещатик взрывается!” — бросились бежать кто куда... Поднялась невероятная паника. Крещатик действительно взрывался. Взрывы раздавались через неравные промежутки в самых неожиданных и разных частях Крещатика, и в этой системе ничего нельзя было понять.*

*Взрывы продолжались всю ночь, распространяясь на прилегающие улицы. Взлетело на воздух великолепное здание цирка, и его искореженный купол перекинуло волной через улицу. Рядом с цирком горела занятая немцами гостиница “Континенталь”. Никто никогда не узнает, сколько в этих взрывах и пожаре погибло немцев, их снаряжения, документов, а также мирных жителей и имущества, так как никогда ничего на этот счет не сообщалось ни большевиками, ни фашистами.*

*Стояла сухая пора, и потому начался пожар, который можно сравнить, пожалуй, лишь со знаменитым пожаром Москвы во время нашествия Наполеона в 1812 году. На верхних этажах и чердаках зданий было заготовлено множество ящиков боеприпасов и противотанковых бутылок с горючей смесью, ибо советское военное командование собира-*

*лось драться в Киеве за каждую улицу, для чего весь город был изрыт рвами и застроен баррикадами. Теперь, когда к ним подбирался огонь, эти ящики ухали с тяжким характерным взрывом-вздохом, обливая здания потоками огня. Это и доконало Крещатик.*

*Немцы, которые так торжественно сюда вошли, так удобно расположились, теперь метались по Крещатику, как в мышеловке. Они ничего не понимали, не знали, куда кидаться, что спасать. Надо отдать им должное: они выделили команды, которые побежали по домам всего центра Киева, убеждая жителей выходить на улицу, эвакуируя детей и больных. Много уговаривать не приходилось. Жители — кто успел схватить узел, а кто в чем стоял — бежали в парки над Днепром, на Владимирскую горку, на бульвар Шевченко, на стадион. Было много обгоревших и раненых.*

*Немцы оцепили весь центр города. Пожар расширялся: горели уже и параллельные Пушкинская и Меринга, поперечные улицы Прорезная, Институтская, Карла Маркса, Фридриха Энгельса, Пассаж. Было впечатление, что взрывается весь город.*

*До войны в Киеве начинали строить метро, и теперь поползли слухи, что то было не метро, а закладка чудовищных мин под всем Киевом. Но более правдоподобными были запоздалые воспоминания, что по ночам во дворы приезжали грузовики и люди в форме НКВД что-то сгружали в подвалы…*

*Над чудовищным костром, каким стал центр Киева, образовались мощные воздушные потоки, в которых, как в трубе, высоко взлетали горящие щепки, бумаги, головни, посыпая то Бессарабку, то Печерск. Поэтому на все крыши повзбирались нем-*

*цы, полицейские, дворники, добровольцы, засыпали головни песком, затаптывали угли. Погорельцы ночевали в противовоздушных щелях, в кустах бульваров и парков.*

*Немцы не могли даже достать трупы своих погибших или жителей, они сгорали дотла. Горело все, что награбили немцы, горели шестикомнатные квартиры, набитые роялями, горели радиокомитет, кинотеатры, универмаги. После нескольких отчаянных дней борьбы с пожарами немцы прекратили сопротивление, вышли их этого пекла, в котором, кажется, уже не оставалось ничего живого, и только наблюдали пожар издали. Крещатик продолжал гореть в полном безлюдье, только время от времени в каком-нибудь доме с глухим грохотом рушились перекрытия или падала стена, и тогда в небо взлетало особенно много углей и факелов. Город насквозь пропитался гарью; по ночам он был залит красным светом, и это зарево, как потом говорили, было видно за сотни километров и служило ориентиром для самолетов.*

*Сами взрывы закончились 28 сентября. Главный пожар продолжался две недели, и две недели стояло оцепление из автоматчиков. А когда оно было снято и немцы туда пошли, то улиц, собственно, не было: падавшие с двух сторон здания образовали завалы. Примерно месяц шли работы по прокладке проездов. Раскаленные развалины дымились еще долго; даже в декабре я своими глазами видел упрямо выбивающиеся из-под кирпича струи дыма»*[162].

162 Кузнецов А. Бабий Яр. Кіеў, 1991. С.60–63.

Такое вось дакумэнтальна дакладнае і па-мастацку моцнае апісаньне трагедыі гістарычнага цэнтру Кіева пакінуў Анатоль Кузьняцоў (1929–1979). Падлеткам ён стаў сьведкам кіеўскай трагедыі 1941 году. У 50-я гады ён скончыў Літаратурны інстытут у Маскве і пачаў пісаць свой раман-дакумэнт. У 1965 годзе першы варыянт раману Кузьняцоў прынёс у маскоўскі часопіс «Юность», спадзеючыся на публікацыю ва ўмовах савецкай адлігі 60-х гадоў. Пачалася доўгая барацьба за яго апублікаваньне, з рэдактарскімі і цэнзарскімі праўкамі.

У выніку раман безь некаторых разьдзелаў трапіў у ЦК КПСС да галоўнага ідэоляга СССР Міхаіла Суслава. Суслаў і даў «дабро» на публікацыю, спадзеючыся, што раман Кузьняцова стане адказам на скандальную паэму Яўгена Еўтушэнкі «Бабий Яр».

У 1966 годзе раман быў апублікаваны ў «Юности» ў такім выглядзе, што набыў чыста антыфашысцкі зьмест і гучаньне. Пісьменьнік быў глыбока абураны і абражаны фактам такой публікацыі. У 1969 годзе ён уцёк з СССР у Лёндан і пачаў працаваць у лёнданскім бюро Радыё Свабода. Да самай сьмерці Анатоль Кузьняцоў дапрацоўваў сваю кнігу, якая без купюраў была ўпершыню апублікаваная на яго радзіме толькі пасьля распаду СССР. Сам пісьменьнік памёр у ліпені 1979 году ва ўзросьце 49 гадоў пасьля таго, як на працягу некалькіх месяцаў зь ім здарылася сэрыя цяжкіх інфарктаў.

Вось якую ацэнку ў сваёй кнізе Анатоль Кузьняцоў даў падрыву Хрышчаціка:

*«Взрыв и пожар Крещатика, нигде и никем до сего не описанные, должны, по-моему, войти в историю войны принципиальной вехой.*

*Во-первых, это была первая в истории строго подготовленная акция такого порядка и масштаба. Нужно уяснить, что значил Крещатик для Киева. При соответствующем масштабе это все равно, как если бы взорвался центр Москвы в пределах Бульварного кольца. Невский проспект в Ленинграде с окружающими улицами или, скажем, сердце Парижа до Больших бульваров. До Крещатика такое и вообразить было трудно, а вот НКВД вообразило и, так сказать, открыло в войнах новую страницу. Только после Крещатика и у немцев, и у советских родилось это правило: обследовать каждое занятое здание и писать "Проверено. Мин нет". Понятным было уничтожение при отступлении мостов, военных и промышленных объектов. Но здесь взрывалось сердце города сугубо мирное, с магазинами и театрами.*

*Во-вторых, многие приняли акцию с Крещатиком как первое такого размаха проявление подлинного патриотизма. Ни одна столица Европы не встретила Гитлера так, как Киев. Город Киев не мог больше обороняться, армия оставила его, и он, казалось, распластался перед врагом. Но он сжег себя сам у врагов на глазах и унес многих из них в могилу…*

*С другой стороны, уничтожать древний и великолепный центр столицы ради одной патриотической пощечины врагу, губя при этом и множество мирных жителей, — не слишком ли это?*»[163]

Калі праводзіць аналёгію зь Менскам, то гэта азначала б, што выбухі пачаліся ў дамах на вуліцы Савецкай, а затым пажар праз вуліцы Ленінскую

163 Тамсама. С. 63–64.

і Энгельса перакінуўся ў раён Плошчы Свабоды і далей у Стары горад на Нямізе і Замчышчы.

Адказнасьць за разбурэньне гістарычнага цэнтру Кіева Анатоль Кузьняцоў адназначна ўсклаў на НКВД. Ён нават дачакаўся амаль адкрытага прызнаньня гэтым ведамствам у 1963 годзе сваёй адказнасьці за выбухі на Хрышчаціку, і толькі пасьля гэтага вырашыў паспрабаваць апублікаваць сваю кнігу.

*«Никогда, ни в то время, ни после советские власти не признались во взрыве Крещатика, а наоборот, приписали это взрыв... немцам. Они кричали в печати о варварстве фашистов, а потом после войны обтыкали развалины плакатами и писали во всех газетах: "Восстановим гордость Украины Крещатик, зверски разрушенный фашистскими захватчиками".*

*Весь Киев, вся Украина, весь народ прекрасно знали, что Крещатик разрушен советскими, а им вдалбливалось, что это сделали проклятые немцы. То есть, что они вошли в прекрасный город, заняли его великолепный центр, пять дней трудились, закладывая мины под собой, чтобы их под собой же и взорвать. Зачем? На это ответ точный: фашисты есть варвары. С этим никто не спорит, фашисты — варвары, но Крещатик взорвали большевики.*

*Только в 1963 году КГБ выдало для публикации небольшую "Справку КГБ при Совете Министров УССР о диверсионно-разведывательной деятельности группы подпольщиков г. Киева под руководством И. Д. Кудри". Справка эта не говорит об уничтожении Крещатика, но лишь о "взрывах", совершенно обходя само слово "Крещатик". Из нее выясняется,*

*что И. Д. Кудря, под кличкой “Максим”, был работником органов безопасности, по их заданию был оставлен в городе вместе с группой, в которую входили Д. Соболев, А. Печенев, Р. Окипная, Е. Бремер и другие. Цитирую:*

*“В городе… не прекращались пожары и взрывы, принявшие особенный размах в период с 24 по 28 сентября 1941 года, в числе других был взорван склад с принятыми от населения радиоприемниками, немецкая военная комендатура, кинотеатр для немцев и др. И хотя утвердительно никто не может сказать, кто конкретно осуществлял подобные взрывы, уносившие в могилу сотни “завоевателей”, нет сомнения, что к этому приложили руку лица, имевшие отношение к группе “Максима”. Главное же состояло в том, что заносчивым фашистским “завоевателям” эти взрывы давали понять, что хозяином оккупированной земли являются не они”…*

*В 1965 году в “Правде” был опубликован без всяких комментариев указ о присвоении И. Д. Кудре посмертно звания Героя Советского Союза. Более двадцати лет для колебаний по поводу такого решения, видимо, понадобилось, чтобы убедится, что Кудря действительно погиб, а не переметнулся к немцам и не работает сейчас где-нибудь на Западе.*

*Подробности эпопеи Крещатика могло бы осветить только КГБ, но оно хранит тайну. И остается масса неясного, непроверенного… Несомненно одно: мины закладывались основательно, обдуманно, задолго до взятия немцами Киева и по крайней мере в основной своей части имели систему взрывания, позволяющую их взрывать выборочно и в намеченное время.*

*Живы свидетели, видевшие доставку взрывчатки на грузовиках НКВД за месяц-полтора до взрывов. Им тогда и в голову не приходило, что это закладываются мины, потому что немцы были далеко от Киева, а газеты и радио захлебывались, заявляя, что Киев ни за что не будет отдан врагу. Но, видимо, органы безопасности лучше отдавали себе отчет в ситуации»*[164].

Так Камітэт Дзяржаўнай бясьпекі СССР у завуаляванай форме прызнаў-такі сваю адказнасьць за выбухі і, урэшце, пасьмяротна ўзнагародзіў кіраўніка непасрэдных выканаўцаў падрыву гістарычнай часткі Кіева званьнем Героя Савецкага Саюзу. Заставалася толькі пытаньне аб сапраўдных і схаваных мэтах гэтай акцыі. Вось як прычыны зьнішчэньня Старога гораду ў Кіеве бачыў у 1965 годзе Анатоль Кузьняцоў:

*«Так зачем же все-таки был взорван Крещатик? Я выскажу мнение свое и мнение большинства киевлян, а вы судите сами.*

*Взорван был центр, принадлежавший аристократии, бюрократии и самим чекистам. Им конечно не хотелось покидать свои квартиры, свои мягкие кресла. И они решили устроить сюрприз. Взорвав Крещатик вместе с немцами, они так злорадно потирали руки, что даже не догадались придать этому патриотическую окраску, а немедленно свалили вину на врагов. В этом — смысл слов из их вымученной справки-признания: “заносчивым фашистским завоевателям эти взрывы давали понять, что хозяином оккупированной земли являются не они”.*

164 Тамсама. С. 64–65.

*Взрывая мирный Крещатик, они, однако, действительно наносили немцам и ощутимый военный урон, а то, что при этом погибнет втрое больше мирных жителей, это советскую власть никогда не волновало. Тем более, что по советским понятиям люди, оставшиеся на оккупированной территории, — не патриоты, значит, и не люди.*

*Чекисты выжидали целых пять дней, держа руки на взрывателях, чтобы побольше немцев разместилось на Крещатике, чтобы определить порядок взрывов. Первой была взорвана комендатура. И еще эти пять дней давали возможность все свалить на немцев.*

*Но был еще один, самый зловещий аспект Крещатика: обозлить немцев для того, чтобы, озверев, они сняли чистые перчатки в обращении с народом. Госбезопасность СССР провоцировала немцев на беспощадность. Благо, в беспощадности они были хорошими учениками. И немцы на это клюнули»*[165].

Гэтак Анатоль Кузьняцоў падвёў чытача да пачатку рэпрэсіяў супраць кіеўскіх габрэяў, большасьць зь якіх, як вядома, загінула ў Бабіным Яры.

У сваім дакумэнтальным рамане Кузьняцоў апісаў і другую неверагодную падзею ў шматпакутнай гісторыі сталіцы Ўкраіны часоў вайны. Падзея гэтая: разбурэньне выбухамі самога сэрца духоўнага жыцьця ўкраінскага народу — Кіева-Пячэрскай лаўры. Гэта адбылося праз паўтара месяца пасьля разбурэньня Храшчаціку, 3 лістапада 1941 году. Гэты акт меў значна больш культурнага, сымбалічнага і ўнутрыпалітычнага сэнсу і значэньня, чым

165 Тамсама. С. 66.

ваеннага або ваенна-палітычнага. І якраз падрыў велізарнага комплексу Лаўры набліжае нас да, магчыма, нейкіх іншых прычын страты Кіевам яго гістарычнай архітэктурнай спадчыны.

Кіева-Пячэрская лаўра — помнік сусьветнага значэньня. Яна будавалася з XI стагодзьдзя на самых высокіх пагорках Кіева. Да XX стагодзьдзя гэта ўжо сапраўдны горад у горадзе, які складаўся зь дзясяткаў храмаў, многіх несакральных старажытных пабудоваў і па ўсім сваім пэрымэтры быў аточаны высокім мурам. 3 лістапада 1941 году ў Лаўры адбыліся чатыры моцныя выбухі, у тым ліку два — ва Ўсьпенскім саборы, які быў разбураны цалкам. Пасьля пачаўся моцны пажар ва ўсёй Лаўры, як пісаў Кузьняцоў:

*«Территория Лавры оказалась усеяна кусками мозаик, фресок, алтарной резьбы, горящими листами древних рукописей, разнесенными в куски фолиантами с медными застежками.*

*И загорелось все — Трапезная церковь, Архиерейский дом в стиле барокко, древняя типография, все музеи, библиотеки, архивы, колокольня»*[166].

Далей Анатоль Кузьняцоў расказвае пра перакладаньне савецкім кіраўніцтвам адказнасьці за разбурэньне Лаўры на немцаў:

*«Во время обороны Киева музейный городок закрылся, и Лавра стояла безлюдная; кое-что из музеев удалось эвакуировать на восток. А через полтора месяца после прихода немцев Лавра таинственным образом взорвалась и сгорела дотла, причем немцы отчаянно пытались ее потушить.*

166 Тамсама. С. 149.

*Вскоре после этого Молотов апеллировал ко всему миру, обвиняя немцев в уничтожении исторических и культурных святынь.*

*Советскими экспертами составлено "Сообщение Чрезвычайной Государственной Комиссии по расследованию и установлению злодеяний немецко-фашистских захватчиков", где, в частности, сказано: "По приказу немецкого командования военные части ограбили, взорвали и разрушили древнейший памятник культуры — Киево-Печерскую лавру". В путеводителях и исследованиях пишется то же самое. Самое пространное объяснение дано в книге директора Института истории УССР проф. К. Дубины:*

*"Как выяснилось, фашистские вандалы заблаговременно заминировали Успенский собор и другие корпуса, ожидая удобного момента для взрыва. 3 ноября 1941 года Лавру посетил предатель словацкого народа Тиссо. Это послужило подходящим моментом для провокации. Как только Тиссо покинул территорию Лавры — раздались взрывы. Как уже говорилось, оккупанты пытались приписать эти злодеяния советским патриотам, которые якобы покушались на Тиссо. Но даже такой матерый бандит, как подсудимый Шпеер, вынужден был признать, что это — дело рук немецко-фашистских захватчиков".*

*Такова официальная версия, подтвержденная правдивыми показаниями матерого бандита. Из взрыва Лавры немцы не делали никаких пропагандистских выводов, достаточно перелистать газеты тех дней. Немцы взрывали и жгли много, но*

*при отступлении в 1943 году. В 1941 году взрывали, отступая, только русские.*

*Это общие размышления. Подлинные данные и документы, если они вообще существуют, вряд ли когда-нибудь будут обнародованы. Но до сих пор живы свидетели — жители нескольких домов на территории монастыря»*[167].

Кніга К. Дубіны «В годы тяжелых испытаний», якую тут цытуе Анатоль Кузьняцоў, выйшла ў Кіеве ў 1962 годзе. З таго часу да гэтай афіцыйнай савецкай вэрсіі дадаліся і новыя факты. У прыватнасьці, сьцьвярджаецца, што падрыў Усьпенскага сабору немцы здымалі на камэру — у сярэдзіне 90-х гадоў XX стагодзьдзя ў нямецкім горадзе Обэргаўзэн нібыта была знойдзеная старая кінахроніка з кадрамі падрыву. Знайшоўся нібыта і непасрэдны кіраўнік падрыву — обэргрупэнфюрэр СС Фрыдрых Екельн.

Тым ня менш у 60-я гады Анатоль Кузьняцоў у сваёй кнізе выказаў цьвёрдае перакананьне, што Кіева-Пячэрская лаўра 3 лістапада 1941 году была зьнішчаная савецкімі выбухамі. Абапіраўся ён пры гэтым на паказаньні сьведак і сваю памяць.

Вэрсію нямецкага падрыву сёньня адстойвае Расея. Тым часам ва Ўкраіне вэрсія Кузьняцова ў нашы дні зьяўляецца агульнапрызнанаю. Адносна факту падрыву Хрышчаціка савецкімі агентамі існуе кансэнсус і сярод гісторыкаў, і сярод архітэктараў, і сярод музэйнай грамадзкасьці, а экскурсаводы пры азнаямленьні з адноўленым у 2000 годзе Ўсьпенскім саборам расказваюць турыстам пра падрыў Лаўры савецкімі агентамі.

167 Тамсама. С. 146–149.

У апошнія гады ўкраінскія гісторыкі здолелі нават высьветліць тып выбуховых прыладаў, выкарыстаных савецкімі дывэрсантамі (радыёкіраваныя фугасы БЕМИ), і ўдакладнілі імёны выканаўцаў. У прыватнасьці сьцьвярджаецца, што агульнае камандаваньне апэрацыяй ажыцьцяўляў славуты савецкі дывэрсант Ільля Старынаў, а радыёсыгнал на падрыў быў пасланы ў Кіеў з адлегласьці некалькіх сотняў кілямэтраў на ўсход ад сталіцы Ўкраіны[168].

У выніку выбухаў былі цалкам зьнішчаныя вуліцы Храшчацік, Мікалаеўская (цяпер Архітэктара Гарадзецкага), Мерынгаўская (цяпер Занькавецкай), Ольгінская, Музычны завулак, плошча Спартака (Івана Франка), Думская плошча (цяпер Майдан Незалежнасьці), часткі вуліц Інстытуцкай, Лютэранскай, Прарэзнай, Пушкінскай, Фундуклееўскай (цяпер Багдана Хмяльніцкага), Вялікай Васільеўскай, а таксама значная частка бульвару Шаўчэнкі.

Ці магло нешта падобнае да кіеўскіх падзеяў адбывацца і ў Менску? І ці маглі быць іншыя (апрача помсты ворагу) прычыны ў разбурэньні гістарычных цэнтраў абедзьвюх сталіц? Магчыма, так. І пад-

168 Гл.: Форостівский Л. Київ під ворожими окупаціями. Буэнас-Айрэс. 1952; Київ. 1941 – 1943. Фотоальбом / Автор-упор. Д. Малаков. Кіеў, 2000; Малаков Д. Кияни. Війна. Німці. Кіеў, 2008; Себта Т., Качан Р. Києво-Печерська лавра у часи другої світової війни. Дослідження. Документи. Кіеў, 2016; Москаленко А. Как и кто взорвал Крещатик 24 сентября 1941 года. Подлинная история // https://profidom.com.ua/mnenija/blogi/28584-kak-i-kto-vzorval-kreshchatik-24-sentyabrya-1941-goda-podlinnaya-istoriya; Адская осень 1941-го: спецслужбы СССР взорвали центр Киева вместе с жителями — шокирующие фото // https://www.5.ua/ru/kyev/adskaia-osen-1941-ho-spetssluzhbi-sssr-vzorvaly-tsentr-kyeva-vmeste-s-zhyteliamy-shokyruiushchye-foto-224728.html

палы першых дзён вайны, і жорсткія бамбаваньні Менску падчас акупацыі, і зносы вясны 1944 году ў Старым горадзе (на Замчышчы і Нізкім рынку), праведзеныя супрацоўнікамі будаўнічага аддзелу гарадзкой управы, і загадкавыя сапёрныя выбухі ліпеня 1944 году цалкам маглі быць інсьпіраваныя савецкім НКВД з пэўнымі мэтамі.

Вядома, што гарадзкая адміністрацыя Менску ў часы акупацыі была ня толькі пад кантролем акупацыйных уладаў, але, праз падпольшчыкаў, часткова кантралявалася і савецкім НКВД. Дакумэнты пра гэта пакуль не апублікаваныя. Таму і даказаць гэта немагчыма. Можна толькі прыводзіць цытаты зь дзёньніка Ільлі Эрэнбурга, уважліва аналізаваць ваенныя і пасьляваенныя здымкі і выказваць прыпушчэньні. Нічога больш гісторыку не застаецца.

Але факт застаецца фактам. Вясной 1944 году ў Менску, перад самым вызваленьнем, была зьнесеная менавіта тая частка Старога гораду, на месцы якой, у адпаведнасьці зь ленінградзкім генплянам 1936–1939 гадоў, меў пралегчы шырокі бульвар у будучы Цэнтральны парк культуры і адпачынку — так званая Паркавая магістраль. Зьнікла *менавіта* і *толькі* тая частка Старога гораду. Яна была як бы акуратна выразаная зь цела гораду пад капірку з генпляну, пра што яскрава сьведчаць аэрафотаздымкі люфтвафэ 9 верасьня 1942 году, 7 кастрычніка 1943 году, 28 траўня, 6 чэрвеня, 8 і 22 ліпеня 1944 году[169]. Вуліца Вольная пашырылася ў тры

169 Гл. NARA, адзінкі захаваньня пасьлядоўна: gx 1562 sg 001; gx 4274 sk 003; gx 1781 sk (2) 009; gx 10509 sk a 010; dt tm 5 box 68 005-1; gx 8142 sd 008.

разы, а кварталы паміж Рыбным і Нізкім рынкамі і цэнтральная частка Замчышча ператварыліся ў поле.

І яшчэ адзін факт, які зноў і зноў прымушае гісторыка задумвацца пра невыпадковы характар зносу вясной 1944 году менавіта той часткі Старога гораду: астатнія захаваныя ва ўнутранай частцы Замчышча дамы на вуліцах Нова-Мясьніцкай і Завальнай, якія не заміналі пракладцы Паркавай магістралі, пачалі зносіць толькі ў 1960-я гады падчас жылой забудовы таго раёну.

Адпаведна, у іншым сьвятле паўстае і ўжо прыведзенае раней выказваньне першага сакратара ЦК КП(б)Б, старшыні Савету народных камісараў Беларускай ССР Панцеляймона Панамарэнкі на абмеркаваньні генэральнага пляну аднаўленьня і рэканструкцыі Менску 10 сьнежня 1945 году. Панамарэнка тады з палёгкай сказаў:

*«Мы до войны, когда рассматривали генеральный план, много коррективов внесли, но тот план был связан з другими условиями. Нельзя было решаться на многие вещи, потому что вопрос упирался в густо заселённые дома, хотя и небольшие, но их было много. Сейчас мы целый ряд вопросов решаем свободно...»*[170]

Маштабы культурных страт у Кіеве і Менску могуць успрымацца па-рознаму. На першы погляд, адзін падрыў Кіева-Пячэрскай лаўры з Усьпенскім саборам XI стагодзьдзя перавешвае шалі на кіеўскі бок. Зь іншага боку, тыя культурныя страты, якія

170 Освобождённая Беларусь. Документы и материалы. Кн. 2. Январь — декабрь 1945. Менск, 2005. С. 400.

Менск зазнаў пасьля вызваленьня гораду (кляштар францішканаў, кляштар і касьцёл дамініканаў, кляштар і касьцёл бэнэдыктынак, калегіюм езуітаў зь вежай, якая пасьпела стаць сымбалем Менску, палац Сапегаў, палац Чапскіх, будынак Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага і г. д.) маглі б перацягнуць шалі на беларускі бок. Ды ня ў гэтым справа. Культурнае значэньне абодвух гістарычных цэнтраў — і Кіева, і Менску — было для абодвух народаў раўназначнае.

Лёс старых цэнтраў Менску і Кіева прымушае інакш глядзець на цьверджаньні савецкай прапаганды аб тым, што падчас нямецкага адступленьня гераічныя чырвонаармейцы ратавалі, напрыклад, польскія гарады ад падрыву закладзеных фашыстамі мінаў і перашкодзілі плянам нацыстаў нанесьці непапраўную шкоду культурнай спадчыне эўрапейскіх народаў.

Таму варта больш уважліва паглядзець на ідэалягічны і палітычны кантэкст, які суправаджаў разбурэньне старога цэнтру Менску.

## Членства БССР у ААН і рэпарацыі

Некаторыя мае суразмоўцы зь ліку менскіх старажылаў ня раз са скрухай і болем пыталіся: «Чаму Менск так жорстка бамбілі напярэдадні вызваленьня і нават у дзень вызваленьня — 3 ліпеня 1944 году? Чаму сапёры пасьпяхова разьміціравалі Дом Ураду, але падрывалі зусім цэлыя кварталы і дамы? Што ім было мала?..» Дзьве ключавыя часткі

імавернага адказу на гэтае пытаньне могуць гучаць так — членства БССР у ААН і рэпарацыі.

Рыхтавацца да заканчэньня вайны савецкае кіраўніцтва пачало задоўга да яе канца — а менавіта тады, калі канчаткова стала зразумела, што бліцкрыгу ў немцаў не атрымалася. 2 лістапада 1942 году ўказам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР быў утвораны орган з доўгай назвай — «Надзвычайная дзяржаўная камісія па ўстанаўленьні і расьследаваньні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых і прычыненай імі шкоды грамадзянам, калгасам, грамадзкім арганізацыям, дзяржаўным прадпрыемствам і ўстановам СССР». 16 сакавіка 1943 году аналягічныя камісіі былі ўтвораныя ў рэспубліках СССР.

Супрацоўнікі камісіяў валодалі шырокімі паўнамоцтвамі і мелі права прыцягваць для складаньня актаў і здабыцьця дакумэнтальных сьведчаньняў ня толькі насельніцтва, але і працаўнікоў савецкіх, гаспадарчых і прафсаюзных органаў ды грамадзкіх арганізацый. У структуры камісіяў было некалькі аддзелаў, у тым ліку і «Аддзел уліку шкоды, прычыненай прамысловасьці, транспарту, сувязі і камунальнай гаспадарцы». За гады сваёй працы Камісія склала каля 4 мільёнаў актаў аб нанесенай немцамі шкодзе.

Праца гэтай камісіі была шчыльна зьвязаная з пасьляваеннай будучыняй і, адпаведна, тымі органамі, якія той будучыняй займаліся. Адным з такіх органаў была Маскоўская (пазьней Міжнародная) рэпарацыйная камісія. У кастрычніку 1943 году ў Маскве адбылася сустрэча міністраў замежных спраў саюзных дзяржаваў. Паводле яе вынікаў у

пачатку лістапада 1943 году намесьніку наркома замежных спраў СССР Івану Майскаму даручылі сфармаваць камісію для вывучэньня пытаньня аб пасьляваенных рэпарацыях зь Нямеччыны і распрацаваць плян яе дзейнасьці. Майскі справіўся хутка, плян быў гатовы да 10 лістапада.

У канцы лістапада таго самага году пры Наркамаце замежных спраў стварылі «Камісію па кампэнсацыі шкоды, нанесенай СССР гітлераўскай Нямеччынай і яе саюзьнікамі»[171]. Наваствораны орган пачаў вельмі актыўна шукаць аргумэнты для пасьляваеннага спагнаньня зь Нямеччыны рэпарацыяў. Працавала гэтая камісія ў шчыльным супрацоўніцтве з «Надзвычайнай дзяржаўнай камісіяй па ўстанаўленьні і расьсьледаваньні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў» і яе філіяламі пры ўрадах акупаваных рэспублік.

Пытаньне рэпарацыяў і пасьляваеннага ўладкаваньня сьвету Сталіна вельмі турбавала, і ён меў вялікую патрэбу ў аргумэнтах для спрэчак з саюзьнікамі. Адным з галоўных аргумэнтаў якраз і былі разбураныя дамы. На Крымскай (Ялцінскай) канфэрэнцыі ў лютым 1945 году саюзьнікі нават паспрачаліся аб рэпарацыях, і аргумэнтамі ў спрэчцы былі «разбурэньні». Чэрчыль заявіў літаральна наступнае: «Вялікабрытанія вельмі моцна пацярпела ў цяперашняй вайне. Большая частка яе дамоў разбурана або пашкоджана»[172]. Для дакладу

171 Кынин Г. Германский вопрос во взаимоотношениях СССР, США и Великобритании. 1944–1945 гг. // Новая и новейшая история. 1995. № 1. С. 117.

172 Санакоев Ш., Цыбулевский Б. Тегеран. Ялта. Потсдам. Масква, 1970. С. 124.

аб рэпарацыях з савецкага боку Сталін даў слова Майскаму, і той заявіў:

*«Савецкі ўрад прыйшоў да высновы, што калі мы хочам быць рэалістычнымі, то з усіх відаў шкоды павінен быць аплачаны толькі той від, які можа быць ахарактарызаваны як прамыя матэрыяльныя страты — разбурэньні або пашкоджаньні дамоў, заводаў, чыгунак...»*[173]

Як бачым, у абодвух бакоў галоўнымі аргумэнтамі былі разбураныя дамы. У Ялце саюзьнікі вырашылі ўтварыць «Міжнародную рэпарацыйную камісію» зь сядзібай у Маскве і дамовіліся, што яе праца будзе сакрэтнай[174]. Але спрэчкі бакоў і падспудная барацьба, якія вяліся перад стварэньнем «Міжнароднай рэпарацыйнай камісіі», працягваліся і пасьля яе ўтварэньня. Адпаведна намесьнік наркама замежных спраў Іван Майскі раз-пораз ствараў і накіроўваў Молатаву сакрэтныя дакумэнты кшталту «Пазыцыі ЗША і Ангельшчыны ў рэпарацыйным пытаньні і нашы магчымыя контраргумэнты», дзе, вядома ж, гаворка вялася аб разбурэньнях[175].

Другой важнай для Сталіна справай было стварэньне ААН.

Упершыню саюзьнікі па антыгітлераўскай кааліцыі Сталін, Рузвэльт і Чэрчыль утрох сустрэліся на Тэгеранскай канфэрэнцыі 28 лістапада — 1 сьнежня 1943 году. Падчас сустрэчы са Сталіным сам-насам 29 лістапада Рузвэльт прапанаваў утварыць пасьля

173 Тамсама. С. 123.
174 Тамсама. С. 125.
175 СССР и германский вопрос. 22 июня 1941 г. — 8 мая 1945 г. Масква, 1996. С. 555–559.

вайны новую арганізацыю накшталт даваеннай Лігі Нацый, Сталін згадзіўся, і гэта быў галоўны штуршок да зьяўленьня Арганізацыі Аб'яднаных Нацый[176]. У СССР пачалася вялікая падрыхтоўчая праца, якая скончылася ўступленьнем у ААН ня толькі СССР, але і Беларусі ды Ўкраіны. Прычым, як напісаў украінскі гісторык Уладзіслаў Грыневіч пра ўступленьне БССР і ЎССР у ААН, «гісторыя вакол гэтых падзеяў адзначалася скрайняй сакрэтнасьцю»[177].

Сталін спачатку задумаў уключыць у ААН усе савецкія рэспублікі як асобныя дзяржавы. 28 студзеня 1944 году было апублікавана паведамленьне аб пленуме ЦК ВКП(б), які разгледзеў прапанову СНК СССР «Аб пашырэньні правоў саюзных рэспублік у галіне абароны і зьнешніх дачыненьняў» і ўхваліў іх для вынясеньня на наступную сэсію Вярхоўнага Савету СССР. Гэты быў адзіны пленум ЦК за гады вайны, а «наступная» сэсія Вярхоўнага Савету адкрылася ў той самы дзень — 28 студзеня.

1 лютага сэсія прыняла два законы, якія ўразілі назіральнікаў ва ўсім сьвеце. Адзін зь іх называўся «Аб утварэньні вайсковых фармаваньняў саюзных рэспублік і пераўтварэньні ў сувязі з гэтым Народнага камісарыяту абароны з агульнасаюзнага ў саюзна-рэспубліканскі», другі — «Аб прадстаўленьні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у сфэры зьнешніх дачыненьняў і пераўтварэньні ў сувязі з

176 Санакоев Ш., Цыбулевский Б. Цыт. тв. С. 57–58.
177 Гриневич В. Как Украину к вступлению в ООН готовили. Сталинская «конституционная реформа» военной поры. // http://www.zerkalo-nedeli.com/nn/show/569/51558/

гэтым Народнага камісарыяту замежных спраў з агульнасаюзнага ў саюзна-рэспубліканскі»[178].

Іншымі словамі, у саюзных рэспубліках ствараліся свае ўзброеныя сілы і наркаматы абароны, а таксама наркаматы замежных спраў. Прыняцьце законаў афіцыйна тлумачылася ўзмацненьнем абаронча́й магутнасьці СССР і ўзрослай патрэбай саюзных рэспублік ва ўстанаўленьні непасрэдных дачыненьняў з замежнымі дзяржавамі.

Але на Захадзе ніхто не падманваўся з прычыны сталінскай «дэцэнтралізацыі»: 8 з 16 саюзных рэспублік яшчэ цалкам або часткова былі акупаваныя нацысцкай Нямеччынай; да таго ж усе ведалі, што насамрэч у СССР кіруе партыя, а не наркаматы. Рэальных мэтаў у гэтых пераўтварэньняў было дзьве: ААН і заспакаеньне ўзрослай пад акупацыяй нацыянальнай сьвядомасьці народаў СССР. Рашэньні X сэсіі ВС СССР

*«выступалі ў ролі пэўнай саступкі Масквы нацыянальным рэспублікам, перш за ўсё рэгіёнам, растрывожаным нацыянальна-вызваленчымі рухамі. Яны меліся зьмякчыць паўторную інкарпарацыю ў склад СССР прыбалтыйскіх краін і заходніх абласьцей Украіны і Беларусі — рэгіёнаў, дзе вялася сапраўдная партызанская вайна»*[179].

Улады СССР так сьпяшаліся рэалізаваць свае пляны, што не чакалі нават вызваленьня сталіцаў саюзных рэспублік, каб зацьвердзіць новыя рашэньні на ўзроўні рэспубліканскіх Вярхоўных Саветаў. Таму VI сэсія Вярхоўнага Савету БССР,

178 Тамсама.
179 Тамсама.

якая прыняла аналягічныя законы, адбылася ў сакавіку 1944 году ў Гомелі. 30 сакавіка дэпутаты зацьвердзілі ўраджэнца вёскі Лабковічы Магілёўскай вобласьці, лекара-нэўрапатоляга Кузьму Кісялёва на пасаду першага намесьніка СНК БССР і Народнага камісара замежных справаў.

Наркама абароны БССР не прызначалі — наступ у Беларусі разгортваўся так імкліва, што неабходнасьць у прапагандзе і заспакаеньні нацыянальных пачуцьцяў вельмі хутка адпала[180]. Зрэшты прызначаныя для «зьнешнепалітычнага карыстаньня» размовы пра беларускае войска вяліся да самага канца вайны і першы год пасьля яе заканчэньня.

А далей пачаліся «дыпляматычныя гульні». У жніўні 1944 году на канфэрэнцыі ў Дамбартан-Оўксе (Вашынгтон, ЗША), дзе разглядалася пытаньне аб будучым складзе ААН, кіраўнік савецкай дэлегацыі А. Грамыка заявіў, што СССР прапануе ўключыць у сьпіс дзяржаваў-заснавальніц усе 16 савецкіх рэспублік. Дачуўшыся пра гэта, Рузвэльт заявіў дараднікам, што будзе дамагацца для ЗША 48 галасоў у ААН — паводле колькасьці штатаў[181]. Аргумэнтам Вялікабрытаніі таксама была наяўнасьць у яе складзе Шатляндыі ды Ўэльсу.

Дыпляматычная вайна скончылася ў лютым 1945 году на Крымскай (Ялцінскай) канфэрэнцыі. У пачатку перамоваў Сталін і Молатаў дамагаліся апрача СССР яшчэ трох месцаў — для Ўкраіны, Беларусі і Літвы. Але ўрэшце згадзіліся на двух —

---

180 Наркамат абароны быў створаны толькі ў адной рэспубліцы СССР — ва Ўкраіне, але і ён неўзабаве быў ліквідаваны.

181 Гриневич В. Цыт. тв.

Беларусі ды Ўкраіне. І асноўнымі аргумэнтамі тут зноў былі страты і разбурэньні, панесеныя гэтымі рэспублікамі СССР. На адной з нарадаў Молатаў заявіў:

*«Названыя рэспублікі прынесьлі найбольшыя ахвяры ў вайне і былі першымі тэрыторыямі, на якія ўварваліся немцы. Было б справядліва, каб яны апынуліся сярод членаў-заснавальнікаў»*[182].

З гэтым урэшце згадзіліся Рузвэльт і Чэрчыль, якія сказаў:

*«Ахвяры, прынесеныя Ўкраінай і Беларусьсю, вядомыя»*[183].

Намаганьні савецкіх уладаў аказаліся пасьпяховымі і ў справе здабыцьця ў ААН дадатковых галасоў для Беларусі і Ўкраіны, і ў справе атрыманьня ад пераможанай Нямеччыны максымальна магчымай сумы рэпарацыяў.

БССР была запрошаная для ўдзелу ва ўстаноўчай канфэрэнцыі дзяржаваў-заснавальніц ААН у Сан-Францыска, якая пачалася 25 красавіка 1945 году. 26 ліпеня таго самага году наркам замежных спраў БССР Кузьма Кісялёў падпісаў ад імя БССР Статут ААН. Членства ў ААН дазволіла БССР падпісаць у сьнежні 1945 году пагадненьне з Адміністрацыяй дапамогі і аднаўленьня Аб’яднаных Нацыяў (ЮНРРА) і атрымаць у 1945–1947 гадах тэрміновую дапамогу для эканамічнага аднаўленьня і забесьпячэньня насельніцтва харчамі, адзеньнем і лекамі.

182 Санакоев Ш., Цыбулевский Б. Цыт. тв. С. 159.
183 Тамсама.

Падчас канфэрэнцыі дзяржаваў-заснавальніц ААН у Сан-Францыска, 23 траўня 1945 году, упершыню на ўвесь сьвет была агучаная лічба, якая дагэтуль застаецца агульнапрынятаю, калі гаворка заходзіць пра нямецкія разбурэньні ў Менску падчас вайны. У той дзень у «каляніяльнай залі» гатэлю «Сан-Францыска» адбылася прэсавая канфэрэнцыя дэлегацыі БССР на чале з наркамам замежных спраў Кузьмом Кісялёвым.

Замежныя журналісты задавалі каварныя пытаньні — наколькі Беларусь самастойная ў складзе СССР, якія ў яе дачыненьні з Польшчай, ці абмяняецца яна карэспандэнтамі з ЗША, ці аднаўляе даваенныя ўмовы жыцьця габрэйскага насельніцтва і ці праўда, што ў Беларусі закрываюць беларускія школы, што патрыётаў саджаюць у турмы і г. д. Адказваў Кісялёў на беларускай мове і, натуральна, арышты і ўціск адмаўляў, а самастойнасьцю БССР хваліўся, абяцаў нават хуткае зьяўленьне беларускай арміі і Камітэту абароны. Ён нават расказваў пра афіцыйны статус беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім і пры гэтым назваў ВКЛ «Беларускім княствам».

І вось, гаворачы пра страты Беларусі ад нямецкай акупацыі, Кісялёў заявіў:

*«Нямецкія барбары разбурылі гарады: Менск разбураны на 80 працэнтаў, Віцебск — на 90, Гомель — на 80, Ворша — амаль цалкам зьнішчаная»*[184].

З таго часу афіцыйная прапаганда ніколі не мяняла гэтай лічбы. Сёньня ёй апэруюць ужо і гісторыкі. А ў сакрэтным генпляне Менску ў 1951

184 Цыт. паводле: Советская Белоруссия. 26 траўня 1945.

годзе, як памятаем, сьцьвярджалася са спасылкай на дадзеныя інвэнтарызацыйнага бюро Менгарвыканкаму, што паводле стану на 1 студзеня 1946 году ў Менску было разбурана 54,2% усяго жыльлёвага фонду — і гэта ўжо пасьля сапёрных «разьмініраваньняў» і «подзьвігаў» «Трэсту па разборцы разбураных будынкаў і аднаўленьні будаўнічых матэрыялаў».

Пра рэпарацыі саюзьнікі канчаткова дамовіліся на канфэрэнцыях у Ялце (люты) і Патсдаме (ліпень–жнівень) у 1945 годзе. Паводле пагадненьня, праграма спагнаньня рэпарацыяў была разьлічаная на 10 гадоў пасьля заканчэньня вайны. СССР атрымаў 10 мільярдаў даляраў. Гэта была роўна палова ад усёй сумы накладзеных на Нямеччыну рэпарацыяў памерам 20 мільярдаў даляраў. Рэпарацыі Масква брала культурнымі каштоўнасьцямі, станкамі, сыравінай і працоўнай сілай. 10 мільярдаў даляраў — астранамічная па тым часе лічба; увесь «Плян Маршала» для адбудовы эканомік 16 эўрапейскіх краінаў каштаваў Злучаным Штатам 17 мільярдаў.

Зразумела, што для такой архіважнай справы і для дасягненьня такога посьпеху былі прыдатныя ўсе магчымыя спосабы здабыцьця аргумэнтаў — кіна- і фотаматэрыялы, дакумэнты і адпаведныя статыстычныя дадзеныя.

У архіве «Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па ўстанаўленьні і расьследаваньні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў» (НДзК) толькі па Менску і Менскай вобласьці было сабрана каля 92 тысяч здымкаў і складзены дзясяткі тысяч актаў аб шкодзе. Пры гэтым у сёньняшніх сур'ёзных дасьледчыкаў не выклікае сумненьня факт, што

Камісія маніпулявала сваімі дадзенымі і лічбамі на загад Масквы.

Адзін зь вядучых беларускіх дасьледчыкаў вайны Аляксей Літвін адкрыта ставіць пад сумненьне дадзеныя НДзК што да людзкіх стратаў Беларусі падчас вайны — іх камісія на загад кіраўніцтва СССР зьмяншала.

*«Необходим тщательный источниковедческий анализ всех сведений, особенно тех, которые ложились в основу официальных сведений. В первую очередь это относится к материалам ЧГК. Очевидно, что не случайно до последнего времени они являлись закрытыми... Есть все основания считать, что ЧГК, видимо по определенному указанию сверху, искусственно занижала количество уничтоженных как мирных жителей, так и военнопленных»*[185].

Мой параўнаўчы аналіз апублікаваных і неапублікаваных здымкаў, нямецкіх мапаў Менску часоў акупацыі і аповедаў менскіх старажылаў пераканаўча сьведчыць, што НДзК фальсыфікавала весткі і аб разбурэньнях. Для камплектацыі адпаведнага дасье прыдатнымі аказаліся ня толькі вынікі нямецкіх разбурэньняў, але і савецкіх бамбаваньняў часоў акупацыі і вызвольнага штурму, а таксама і савецкіх разбурэньняў у першыя пасьляваенныя месяцы і гады.

«Надзвычайная дзяржаўная камісія па ўстанаўленьні і расьследаваньні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў» працавала ў шчыльным

---

185 Литвин А. К вопросу о количестве людских потерь Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941–1945) // Беларусь у XX стагоддзі. 2002. Вып. 1. Гл. http://www.homoliber.org/indexxx.html

кантакце з прапагандысцкімі структурамі, што было выклікана ня толькі зьнешнімі патрэбамі (ААН і рэпарацыі), але і ўнутранымі.

У верасьні 1943 году ў Маскве ствараецца Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны. У кастрычніку 1944 году ён адкрываецца ў Менску і паказвае наведнікам сваю першую экспазыцыю. На найбліжэйшыя пасьляваенныя гады музэй робіцца галоўнай установай, якая (у публічнай прасторы) мае манаполію на зьбіраньне фактаў і асьвятленьне гісторыі вайны ў Беларусі. Менавіта ў гэтым музэі дагэтуль сканцэнтраваная асноўная колькасьць фотаматэрыялаў па гісторыі вайны і акупацыі ў Беларусі. І, натуральна, музэй ВАВ побач з НДзК быў асноўным пастаўшчыком аргумэнтаў для савецкіх дзяржаўных органаў у іх міжнароднай палітыцы і прапагандзе.

Зразумела, што музэй Вялікай айчыннай вайны мог тады працаваць толькі пад кантролем усёмагутнага НКВД — гэты факт не выклікае сумненьня і не патрабуе асаблівых камэнтароў. Калі ў тагачасным СССР былі мастацтвазнаўцы і літаратуразнаўцы ў пагонах, дык тым больш у такой важнай дзяржаўнай справе, як зьнешнепалітычная дзейнасьць, а таксама прапаганда і выхаваньне насельніцтва, мусілі працаваць музэйшчыкі і архівісты ў пагонах.

Супрацоўнікі Музэю скамплекталі спэцыяльныя тэматычныя фотаальбомы. «Разрушения в населенных пунктах Белоруссии. Преступления немецко-фашистских захватчиков», «Минск, Витебск, Жлобин, Гомель, Бобруйск, Полоцк, Мозырь, Брест, Барановичи, Гродно в 1940–1944 гг.», «Экономические, политические и социальные проявления

оккупационного режима», «Подборки фотодокументов для агитационно-пропагандистских целей», «Зверства врагов» — так гучаць некаторыя з тэмаў тых падборак і калекцый.

Самі альбомы ўяўляюць сабой вялікія тоўстыя кнігі памерам прыблізна 30 на 60 сантымэтраў, у цьвёрдых блакітных вокладках. Іх колькасьць ідзе на многія дзясяткі, колькасьць сабраных у іх здымкаў — на тысячы.

На кардонных старонках наклеены старанна адабраныя і сыстэматызаваныя здымкі — некаторыя добра вядомыя, але большасьць ніколі не публікавалася. Разбураныя фрагмэнты гарадоў або прамысловых прадпрыемстваў даюцца пераважна без навакольнай пэрспэктывы, пярэднім плянам і зблізку — часта гэта фрагмэнты большых выглядаў. І вельмі часта здымкі не паддаюцца дакладнай атрыбуцыі — руіны, горы друзу, рэшткі муроў і подпісы «Завод “Ударник”», «Завод им. Кирова» і гэтак далей.

Калі альбомы выканалі сваю ролю, Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны перадаў іх на захаваньне ў Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакумэнтаў. Адбылося гэта ў 1957 годзе — якраз тады, калі была скончаная праграма спагнаньня зь Нямеччыны рэпарацыяў. Але асноўны комплекс здымкаў па тэмах «Акупацыйны рэжым у Беларусі» або «Разбурэньне населеных пунктаў Беларусі ў гады ВАВ» па-ранейшаму захоўваецца ў музэі Вялікай айчыннай вайны і па-ранейшаму ня надта даступны дасьледчыкам.

## Нацыянальнае задушэньне абуджаных ускраін

Пасьляваенную трагедыю Менску нельга зразумець бязь веданьня некаторых акалічнасьцяў акупацыі 1941–1944 гадоў і таго, што ёй папярэднічала.

Падзеі 30-х гадоў XX стагодзьдзя беларускай грамадзкай думкай яшчэ не да канца асэнсаваныя. Тады быў учынены такі крывавы разгром нацыянальнай беларускай эліты, што яго можна назваць Другім Патопам. Рэшта беларускага грамадзтва зьнямела ў жаху. Людзі ня ведалі, што рабіць, каб уратавацца, даносілі адно на аднаго. Многія праклялі беларушчыну за пакуты, якія яна ім прынесла.

Падчас размоваў з тымі, хто перажыў вайну ў Менску, я са зьдзіўленьнем сутыкнуўся з водгульлем таго першабытнага страху — дзеці нацдэмаў, унукі праваслаўных сьвятароў дажываюць свой век у Менску палякамі! Сем'і многіх рэпрэсаваных пражылі век у Расеі, нават ня робячы спробаў вярнуцца. Польская і расейкая ідэнтычнасьць пасьля пагрому 30-х гадоў сталі добрымі схованкамі ад страху і спосабам выратаваньня.

Магчыма, чытачу для разуменьня менскай атмасфэры 30-х гадоў дапаможа наступная абсурдысцкая цытата зь ліста выканаўцы абавязкаў старшыні Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР Міхася Лынькова ад ліпеня 1938 году на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі аб шкодніцкай дзейнасьці нацдэмаў і нацыянал-фашыстаў у галіне літаратуры і мовы:

«*Националистами была взята ставка на уничтожение или — в лучшем случае — на прозябание на-*

*цыонального искусства... Тянулось дело с открытием белорусской оперы, с созданием оперного репертуара... Сведены были на нет кадры киноработников, знающих язык, быт народа и вообще Белоруссию... В области языка проводилась националистами своего рода двойная бухгалтерия. С одной стороны он усиленно полонизировался... С другой стороны, часть перекрасившихся националистов договорилась до того, чтобы практически ликвидировать белорусский язык, низводя его до "испорченной копии русского языка"...*»[186]

З поўнага тэксту гэтага шызафрэнічнага дакумэнту вынікае, што Лынькоў насамрэч бараніў беларушчыну — бараніў так як мог, як дазвалялі ўмовы таго часу, гэта значыць топчучы адначасна сваіх крэўных братоў-калегаў. Бо тыя радкі пісаліся тады, калі паводле абвінавачаньняў у нацдэмаўшчыне ўжо была зьнішчана пераважная большасьць пісьменьнікаў, навукоўцаў, настаўнікаў, а таксама партыйных і савецкіх дзеячоў беларускага паходжаньня.

Вось так тады баяліся нацдэмаў і абвінавачаньняў у нацыяналізьме. І такую вось атмасфэру стварылі ў Беларусі расейскія камуністы на чале са Сталіным і Панамарэнкам напярэдадні вайны. Таму калі віленскія беларускія дзеячы, прыехаўшы пасьля пачатку акупацыі ў 1941 годзе ў Менск, пыталіся на вуліцах нешта ў менчукоў па-беларуску, тыя ў страху адхісталіся або гаварылі па-расейску, кідаючы на суразмоўцу непрыязныя позіркі.

186 Цыт. паводле: Колас Г. Карані міфаў. Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Менск, 1998. С. 82–86.

На гэтым фоне кантрастам выглядае беларускае нацыянальнае жыцьцё пад акупацыяй[187]. Ужо ў першы навучальны год — 1941/42, у генэральнай акрузе Беларусі было адкрыта 3485 школ, у якіх навучалася 346 тысяч вучняў і працавала 9716 настаўнікаў[188]. Гэта былі пачатковыя сямігодкі. Але галоўнае нават ня самі лічбы, якія бясспрэчна ўражваюць і амаль цалкам ідэнтычныя даваенным (на той самай тэрыторыі). Галоўнае — мова навучаньня: усе гэтыя школы, за выняткам некалькіх польска-беларускіх на захадзе краіны, працавалі па-беларуску.

У 1942 годзе было адкрыта 30 сярэдніх школаў — агульнаадукацыйных (гімназіяў і прагімназіяў) і спэцыяльных (тэхнікумаў і вучэльняў). Было распачата выданьне мэтадычнай літаратуры для настаўнікаў і выкладчыкаў, а таксама мэтадычнага часопісу. Колькасьць беларускіх пэрыядычных выданьняў дасягала некалькіх дзясяткаў.

Была распачатая падрыхтоўка да адкрыцьця ў Менску ўнівэрсытэту. У красавіку 1943 году быў адкрыты Менскі мэдычны інстытут пад кіраўніцтвам беларускага прафэсара Мікалая Сьцяпанава — у траўні таго самага году гэтая ўстанова пераехала ў Магілёў[189]. Яшчэ будучы студэнтам-мэдыкам, у пачатку 20-х гадоў, Мікалай Сьцяпанаў выкладаў фізыку ў адной з дзьвюх менскіх беларускіх школаў.

---

187 Пры пераліку фактаў зь беларускага нацыянальнага жыцьця ў часе акупацыі нельга забывацца і пра пакуты ды ахвяры беларускага сялянства ад карных акцыяў СС. 100 тысяч чалавек, пераважна старых, жанчын і дзяцей, загінула ў спаленых вёсках. Гл. Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі // Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 245.

188 Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 76.

189 Тамсама. С. 134.

Адным зь яго вучняў быў будучы прафэсар гісторыі Мікалай Улашчык.

Беларуская мова атрымала статус афіцыйнай. Толькі на ёй дапускаліся друк, школьніцтва і тэатар. На захадзе краіны, дзе быў значны працэнт польскага насельніцтва, у 1942 годзе ў некаторых акругах было ўведзена грашовае пакараньне за выкарыстаньне ў працоўны час іншых моваў.

Была адноўленая цэхавая арганізацыя рамесьнікаў у гарадах. Былі створаныя беларускія прафсаюзы, беларускія суды, Цэнтральны каапэратыўны саюз, Ліга жанчын[190]. У Менскім гарадзкім тэатры працавалі тры трупы — драматычная, балетная і опэрная. Навукоўцы ў 1943 годзе аб'ядналіся ў Беларускае навуковае таварыства (БНТ). У склад яго прэзыдыюму ўвайшлі прафэсары Шыперка, Шкуцька, Трысмакоў, Кавалёў і Бухвалаў. Старшынём быў абраны прафэсар Вацлаў Іваноўскі, яго намесьнікамі — прафэсары Лыноўскі і Масевіч. Менскі гарадзкі музэй пад кіраўніцтвам Антона Шукелойця займаўся аховай помнікаў архітэктуры, іх рамонтам і кансэрвацыяй. Адным з супрацоўнікаў музэю быў будучы народны пісьменьнік Беларусі Янка Брыль.

У 1943 годзе доля беларусаў у адміністрацыйным апараце складала 80%, а ў паліцыі — да 60%[191].

Сярод усіх суседніх краінаў толькі ў Беларусі было дазволена выкарыстаньне Пагоні, бел-чырвона-белага сьцяга і гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» — украінцы і літоўцы з зайздрасьцю гля-

190 Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі // Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 239.

191 Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. С. 156.

дзелі на, як яны казалі, беларускі рэнэсанс. У Літве і ва Ўкраіне не былі створаныя нават патрыятычныя саюзы моладзі кшталту беларускага СБМ.

Літоўскі ксёндз Зянонас Ігнатавічус, які працаваў літоўскім капэлянам у Менску, настолькі быў уражаны тым, што адбывалася ў горадзе ў апошнія месяцы акупацыі, што ў адным з допісаў ацаніў убачанае як прызнаньне поўнай незалежнасьці Беларусі і шкадаваў, што Літва ад немцаў такога не дачакалася[192].

Выбух нацыяналізму працягваўся да самага ліпеня 1944 году.

«*Варта адзначыць і тое,* — пісаў Юры Туронак, — *што рост нацыяналістычных настрояў адбываўся падчас адступленьня вэрмахту на Ўсходнім фронце, калі ў грамадзтве расло перакананьне, што немцам ня ўдасца пазьбегнуць паражэньня*»[193].

Напярэдадні набліжэньня Чырвонай арміі да Менску гарадзкі камісар Бэкер быў уражаны фактам, што 8 тысяч менчукоў добраахвотна, без прымусу выйшлі на пабудову абарончых умацаваньняў вакол гораду[194]. Той самы Бэкер канстатаваў, што 80% менчукоў не віталі набліжэньня савецкіх войскаў. Юры Туронак у гэтай сувязі зазначыў, што жыхары Менску

«*лепш згаджаліся жыць у акупацыйных умовах і мець перад сабой імглістую нацыянальную пэрспэктыву, чым апынуцца зноў у савецкай рэчаіснасьці*»[195].

192 Тамсама. С. 200.
193 Тамсама. С. 154.
194 Тамсама. С. 188.
195 Тамсама.

У такой сытуацыі і Масква займала вельмі актыўную пазыцыю. З аднаго боку, зрабіўшы ідэалягічныя паслабленьні, яна дазваляла патрыятычную рыторыку ў беларускім савецкім друку, а зь іншага — пры дапамозе дывэрсантаў НКВД, падпольшчыкаў і партызанаў — імкнулася ўсяляк аслабіць беларускі нацыянальны рух пад акупацыяй.

Як вядома, савецкія партызаны вялі вайну на два фронты — яны змагаліся зь немцамі і зь беларускімі нацыяналістамі. Фактычна, гэта было дзьве вайны, якія Масква вяла ў Беларусі. Дзейнасьцю партызанаў фармальна кіраваў Штаб партызанскага руху, а насамрэч гэты рух кантраляваўся НКВД СССР. Як піша Юры Туронак, у ліпені 1942 году нямецкае кіраўніцтва ў Беларусі са зьдзіўленьнем адзначыла, што савецкія партызаны распраўляюцца з прадстаўнікамі беларускай адміністрацыі і беларускім актывам і пры гэтым усяляк ашчаджаюць польскія кадры і польскіх сьвятароў[196].

Але адной з галоўнай «мішэняў» засланых у акупаваную Беларусь партызанскіх групаў НКВД і створаных імі пазьней партызанскіх злучэньняў было беларускае школьніцтва. Сёньня ў Беларусі жывуць яшчэ тысячы сьведкаў жорсткіх распраў партызанаў з настаўнікамі і спальваньня школаў — беларускія дзеці вучыцца ў «нацыяналістычных» школах, паводле Масквы, ня мелі права. Настаўнікаў-«здраднікаў» належала караць сьмерцю.

Афіцыйнай гістарычнай навукай гэтая старонка акупацыі замоўчваецца і беларускай грамадзкай думкай не асэнсаваная дагэтуль. Толькі ў 90-я гады

196 Тамсама. С. 100.

XX стагодзьдзя два выдатныя беларускія пісьменнікі — Васіль Быкаў і Вячаслаў Адамчык — напісалі апавяданьні, у якіх апісалі забойства савецкімі партызанамі беларускіх настаўніц. У 1999 годзе Адамчык апублікаваў навэлу «Леанарда», а ў 2000 годзе Быкаў — апавяданьне «На балотнай сьцяжыне».

Змагаліся партызаны і зь беларускім актывам. Паводле сьведчаньня на Нюрнбэрскім працэсе нямецкага міністра ўсходніх тэрыторыяў Розэнбэрга, за час акупацыі ў Беларусі ад рук партызанаў загінула 500 «бургамістраў» разам зь сем'ямі[197]. Ня трэба тлумачыць, што гэты былі непапраўныя для Беларусі і беларушчыны страты, бо на пасады старастаў і войтаў народ абіраў самых паважаных, разумных і сумленных.

У 1944 годзе насельніцтва Менску складала 100 тысяч чалавек. Напярэдадні прыходу саветаў з гораду ўцякло 70 тысяч жыхароў. 20 тысяч зь іх эмігравалі на Захад, 50 тысяч схаваліся ў навакольных вёсках ад вызвольнага штурму і магчымых рэпрэсіяў. Уцёкі насельніцтва перад вызвольным штурмам — адна з прычынаў цьмянасьці інфармацыі аб разбурэньнях у цэнтры гораду: амаль не засталося сьведкаў.

Маштабы так званай «калябарацыі», з пункту гледжаньня Масквы, былі сапраўды вялікія — усе жыхары недзе працавалі, паўтары сотні заводаў і фабрык былі ўкамплектаваныя ня толькі работнікамі, але і інжынэрамі ды майстрамі, цалкам функцыянавала гарадзкая камунальная гаспадарка.

197 Тамсама. С. 95.

Пасьля вызваленьня гораду тыя 50 тысяч, што хаваліся ў Беларусі, пачалі паступова вяртацца ў горад. Паўгода было адносна ціха — зьнешне НКВД і СМЕРШ прыглядаліся, а насамрэч актыўна працавалі з мэтай выяўленьня «здраднікаў» зь ліку менчукоў. Вынікам іх працы стала магутная хваля арыштаў, якая пракацілася па горадзе (і па ўсёй Беларусі) у сьнежні 1944 году. Забіралі «калябарантаў» зь ліку навуковай і творчай інтэлігенцыі, інжынэрна-тэхнічных і адміністрацыйных службоўцаў, а таксама членаў Саюзу беларускай моладзі — нават 15–16-гадовых. Арышты цягнуліся да 50-х гадоў.

Родны брат маёй бабулі Андрэй Лось у першыя дні вайны трапіў у палон і як мясцовы жыхар быў адпушчаны немцамі дадому. У гады акупацыі ён разам са сваёй жонкай Ганнай Астроўскай працаваў на менскім радыё, а пасьля вызваленьня быў арыштаваны 31 сьнежня 1944 году, атрымаў 10 гадоў лягераў і адседзеў поўны тэрмін. Не дапамагло і тое, што ён праз сваю маці, маю прабабулю Марыю Францаўну, перадаваў у партызанскі атрад, дзе камандзірам групы падрыўнікоў быў мой дзед Васіль Паўлаў, батарэі для радыёпрымачоў і меў пацьверджаньне аб гэтым.

Яшчэ адзін прыклад — лёс сям'і мастака Валянціна Волкава, аўтара вядомай карціны «Мінск 3 ліпеня 1944 году». Волкаў жыў у 1941–1944 гадах у акупаваным Менску і браў удзел у мастацкіх выставах таго часу. Яму, аднак, фільтрацыю 1944 году прайсьці ўдалося, і ў лягер ён ня трапіў. Затое фільтрацыю не прайшлі дзьве ягоныя дачкі, Ірына і Ніна — іх асудзілі за супрацоўніцтва зь немцамі і адправілі ў лягеры, дзе адна зь іх (Ніна) памерла.

Сьведкі тых падзеяў, зь якімі давялося размаўляць, не пазбыліся страху і дагэтуль.

Акупацыйная калябарацыя беларусаў стала прычынай новай хвалі русыфікацыі, якая пачалася адразу пасьля вызваленьня Менску ў ліпені 1944 году. Пачалі з газэтаў. У кастрычніку 1941 году, калі Беларусь акупавалі немцы, «Советскую Белоруссию» пераявялі на беларускую мову і пачалі распаўсюджваць на фронце сярод беларусаў. 3 ліпеня 1944 году Менск вызвалілі, і праз тыдзень, 11 ліпеня, «Савецкая Беларусь» зноў стала «Советской Белоруссией».

Сьледам узяліся за школы. 1944/45 навучальны год пачаўся ў Менску ў два этапы. Вучні пачатковых клясаў пайшлі ў школу 1 верасьня, а старэйшых (ад 5-га і вышэй) — 1 кастрычніка. У вайну ўсе менскія школы былі беларускія, у наступныя за акупацыяй два гады — беларускімі была толькі палова (14 з 28), а ў 1952/53 навучальным годзе з 48 менскіх школ беларускімі былі ўжо толькі 9 — пятая частка, а вучылася ў іх толькі 15% менскіх школьнікаў[198].

Русыфікацыя школы суправаджалася трэскам прапаганды. 22 жніўня 1944 году ў Менску на настаўніцкую канфэрэнцыю зьехаліся 400 настаўнікаў. Паведамляючы пра падзею, «Советская Белоруссия» напісала:

*«Три года минские учителя были оторваны от советской школы, три года не могли вести свою*

198 Лукашук А. Жаркое лето 53-го // Коммунист Белоруссии. 1990. №8. С. 77; Мазец В. Нацыянальна-дзяржаўная палітыка і змены этнічнай структуры насельніцтва Беларусі ў 1945–1989 гг. // Беларусь у XX стагоддзі. 2003. Вып. 2. Гл.: http://www.homoliber.org/indexxx.html

*любимую работу по обучению и воспитанию советских детей»*[199].

А назаўтра, заклікаючы пачаць навучальны году своечасова і ў «поўнай гатоўнасьці», выданьне цьвердзіла:

*«Три года гитлеровские душители культуры разрушали наши школы. Три года дети нашего народа были лишены возможности получать должное образование и воспитание»*[200].

Сваякі расстраляных партызанамі настаўнікаў і вучні спаленых школаў маглі толькі моўчкі чытаць гэтыя радкі — скардзіцца не было каму, савецкая ўлада вярнулася.

У сьнежні 1944 году многія менскія настаўнікі і 15–16 гадовыя вучні 8-х клясаў былі арыштаваныя і асуджаныя за ўдзел у Саюзе беларускай моладзі і за іншыя антысавецкія «грахі» часоў акупацыі. Ім не даравалі гэтага нават пасьля вяртаньня зь лягераў — тым, хто хацеў пасьля здабыць вышэйшую асьвету, адмаўлялі ў прыёме. Некаторым з маіх суразмоўцаў-менчукоў зь ліку былых членаў СБМ давялося вучыцца ў ВНУ ў 30-гадовым узросьце пасьля шматлікіх спробаў паступіць туды раней. Некаму гэта ўдалося пасьля заканчэньня профільных тэхнікумаў.

Вучні менскіх школаў і студэнты ВНУ першае пасьляваеннае дзесяцігодзьдзе мусілі кожныя тры месяцы запаўняць анкеты, у якіх, сярод іншага, трэба было адказваць на пытаньне, што яны і іх сваякі рабілі ў вайну.

199 Советская Белоруссия. 25 жніўня 1944.
200 Советская Белоруссия. 26 жніўня 1944.

Пэўнае ідэалягічнае разьняволеньне ў беларускім друку часоў вайны скончылася ў ліпені 1947 году, калі ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб рабоце Саюза савецкіх пісьменьнікаў і рэдкалегіяў літаратурна-мастацкіх часопісаў БССР па выкананьню пастановы ЦК ВКП(б) Аб часопісах "Звезда" і "Ленінград"». Зноў пачалося цкаваньне «нацыяналістаў» — такіх, як актыўны тагачасны публіцыст-літаратуразнавец Міхась Ларчанка, пачаліся паўторныя арышты тых, хто ўжо пасьпеў вярнуцца зь лягераў, — зноў забралі Андрэя Александровіча, Сяргея Грахоўскага, Барыса Мікуліча, Алеся Пальчэўскага, Станіслава Шушкевіча ды іншых. Як піша дасьледчык таго часу В. Мазец,

*«барацьба за захаваньне і разьвіцьцё беларускай мовы і культуры ўладамі разглядалася як вялікае злачынства, носьбіты крамольных думак былі арыштаваныя і пакараныя»*[201].

На вокладках і першых старонках «літаратурна-мастацкіх часопісаў» з нумару ў нумар зноў пачалі друкавацца розныя вэрсіі партрэтаў Сталіна і здымкі ўдарнага аднаўленьня Менску.

Апрача арыштаў, судоў і высылак была выкарыстана і так званая сыстэма ратацыі кадраў. Прадстаўнікоў беларускай гаспадарча-прафэсійнай эліты, якія пабывалі пад акупацыяй, разглядалі як ненадзейных і, выкарыстоўваючы ратацыю кадраў, вывозілі ў іншыя рэгіёны СССР. За першае паваеннае дзесяцігодзьдзе зь Беларусі на ўсход вывезьлі 1 мільён чалавек[202]. Замест іх у Беларусь былі

201 Мазец В. Цыт. тв.
202 Мазец В. Цыт. тв.

прывезеныя кваліфікаваныя рабочыя і кіраўнікі з усходніх абласьцей СССР. Ужо ў 1946 годзе было заменена 83% старшыняў калгасаў і больш за 90% кіраўнікоў גарадоў і раёнаў рэспублікі[203].

У такой важнай справе як «нацыянальнае задушэньне» ўлады не забыліся і на архітэктуру. Інфармацыя аб нацыянальным жыцьці ў Беларусі пад акупацыяй павінна была выклікаць раздражненьне і грэбліваю пагарду Масквы. У Крамлі і на Лубянцы думалі, што «беларускае пытаньне» вырашана ў 30-я гады канчаткова і незваротна, а тут гэтыя беларусы зноў падымаюць галаву — ствараюць беларускія школы, выдаюць граматыкі, пішуць у акупацыйных газэтах пра разбурэньне Менску савецкім падпальшчыкамі са «зьнішчальных батальёнаў» і савецкімі ж бамбаваньнямі, спрабуюць рамантаваць і кансэрваваць помнікі менскай даўніны і выцягваюць зь немцаў абяцаньні адбудаваць разбураную сталіцу.

У сьнежні 1943 году Масква стварае Ўпраўленьне па справах архітэктуры пры Савеце народных камісараў БССР. У нетрах гэтага ведамства пачынаюць распрацоўвацца пляны «пабудовы і аднаўленьня» беларускіх гарадоў, найперш Менску. Яшчэ вясновы наступ Чырвонай арміі ў Беларусі толькі плянуецца, яшчэ не вядома, чым ён скончыцца, і яшчэ мураваная частка Менску (за выключэньнем некалькіх вуліц у Новым горадзе) збольшага захоўвае даваенны выгляд, а ў Маскве ўжо ствараюцца пляны пабудовы беларусам новай сталіцы — прыгожай, сацыялістычнай і, галоўнае, «нашай».

203 Тамсама.

У сакавіку 1944 году ў часопісе «Беларусь» зьяўляецца артыкул «Важныя пытаньні беларускай архітэктуры», сьціпла падпісаны «архітэктар І. Валадзько». Насамрэч «архітэктар І. Валадзько» быў высокапастаўленым савецкім чыноўнікам — прадстаўніком Упраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР у Маскве. Той артыкул быў знакавы і хаваў у сабе іншы, чым можа падацца на першы погляд, сэнс — гаворка аб гэтым пойдзе ніжэй. А тут варта прыгадаць толькі слоўную патрыятычную завесу, якая была пакліканая той галоўны зьмест схаваць.

У сваім артыкуле Іосіф Валадзько падрабязна апісаў, якім мае быць адноўлены савецкі сацыялістычны Менск, і аддаў даніну контрапрапагандзе — козыры ў нацыяналістаў трэба было выбіваць з рук:

*«Творчы працэс пабудовы і аднаўленьня беларускага горада павінен быць прасякнут наданьнем нацыянальнае формы яго архітэктурным ансамблям... Трэба помніць, што стандартызацыя не павінна прывесьці да пабудовы нудных аднолькавых вуліц накшталт старое мікалаеўскае казармы. Архітэктура асобных кварталаў горада павінна быць радаснай, разнастайнай і мець выразную нацыянальную афарбоўку»*[204].

А далей Іосіф Валадзько раскрыў сутнасьць нацыянальных асаблівасьцяў беларускага гораду — ён напісаў, што яны павінны праявіцца ў... разнастайнасьці колераў дамоў і беларускім арнамэнце на сьценах:

204 Беларусь. 1944. №3. С. 17.

*«Незаслужана забыты арнамент павінен заняць сваё месца ў афармленьні беларускіх сёл і гарадоў. З дапамогаю гэтых вельмі простых сродкаў можна ажывіць будынак, надаўшы яму адзнакі нацыянальнага афармленьня»*[205].

Гэты артыкул — адзіны тагачасны публічны тэкст, дзе наогул згадваюцца нейкія нацыянальныя асаблівасьці беларускай архітэктуры, хай сабе і ў такой недарэчнай форме. Насамрэч заклік да выкарыстаньня арнамэнту цалкам адпавядае тагачаснай вульгарызатарскай ідэалягічнай мадэлі Масквы, паводле якой беларусам пакідаліся толькі некаторыя этнаграфічныя асаблівасьці кшталту саламяных капелюшоў, вышываных кашуль, лапцей і арнамэнту. Недарэмна палова цытаванага артыкулу І. Валадзька і абедзьве часопісныя ілюстрацыі да яго прысьвечаны архітэктуры «новай» сялянскай хаты.

Калі ж Менск вызвалілі, умацавалі савецкую ўладу па ўсёй Беларусі і пачалі ажыцьцяўляць складзены ў Ленінградзе даваенны генплян — тады і маскі ў архітэктурнай справе былі скінутыя. У ліпені 1948 году Міхаіл Асмалоўскі, начальнік Упраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР, г. зн. галоўны тагачасны архітэктурны чыноўнік Беларусі, публікуе артыкул «Архітэктура новага Мінска». Асмалоўскі пісаў:

*«Вышыня будынкаў, якімі будзе забудавана цэнтральная плошча, не павінна перавышаць 3–4 паверхаў, з прыгожай і выразнай архітэктурай, якая павінна ісьці ад вытокаў лепшых узораў рускай класічнай архітэктуры...*

205 Тамсама.

*Сістэма вуліц, плошчаў, забудоў, элементаў дабраўпарадкаваньня ў нашым горадабудаўніцтве прадугледжвае стварэньне аднаго з самых прыгожых і здаровых гарадоў для жыхароў сацыялістычнага грамадзтва...*

*Будуючы новы Мінск, патрэбна ісьці ад вытокаў лепшых узораў рускай класічнай архітэктуры і на яе аснове ствараць сваю беларускую архітэктуру, якая будзе выражэньнем архітэктуры нашага горада, горада эпохі сацыялізма і камунізма, горада эпохі вялікага Сталіна*»[206].

Толькі на адной зь некалькіх часопісных старонак гэтага артыкулу Асмалоўскі тры разы згадвае пра неабходнасьць звароту беларускіх архітэктараў да «рускіх класічных традыцый». Важна падкрэсьліць — гэты чалавек займаў найвышэйшую архітэктурную пасаду ў крытычны для Старога гораду і наогул для гістарычнага цэнтру Менску час — у 1945–1951 гадах.

Зразумела, што «вузкія і крывыя» вуліцы менскага цэнтру не належалі да «лепшых узораў рускай класічнай архітэктуры», таму іх належала пашыраць і выпростваць. Старыя менскія камяні, як і іншыя здабыткі беларускай культуры, сталі ў той час закладнікамі і ахвярамі ідэалягічнага процістаяньня Масквы з абуджанай нацыянальнай ускраінай. А таксама і зь немцамі.

---

206 Беларусь. 1948. №7. С. 10.

## Ідэалягічныя запазычаньні. Нямецкія ідэі ў генпляне Менску

У 2004 годзе гісторык менскай архітэктуры Расьціслаў Баравы апублікаваў генплян Менску, складзены нацысцкім архітэктарам Рудольфам Вэшэ ў 1942–1943 гадах[207]. Тэма артыкулу Баравога непасрэдна не датычыла нямецкага пляну, і таму ён абмежаваўся некалькімі заўвагамі агульнага характару. Тым часам плян Вэшэ заслугоўвае на ўважлівы параўнаўчы аналіз.

Апублікаваны чарцёж, паводле Баравога, зроблены зь невялікага нэгатыва. Сярод іншага, гэта можа азначаць і агентурна-выведнае яго паходжаньне — плян мог быць скрадзены савецкай выведкай. Зрэшты, мог ён быць і захоплены ў вызваленым Менску.

У кожным выпадку, ня могуць ня кінуцца ў вочы асноўныя магістралі будучага нямецкага Менску — даўжэзны праспэкт праз увесь горад на лініі Берасьце — Масква і пэрпэндыкулярныя яму: з паўночнага захаду — шаша на Рыгу, з паўднёвага ўсходу — шаша на Магілёў. Няцяжка пазнаць у гэтых лініях сёньняшнія праспэкт Незалежнасьці, праспэкт Пераможцаў (Паркавую магістраль) і праспэкт Партызанскі.

Нельга не заўважыць і дзьве транспартныя кругавыя дарогі — якраз яны ёсьць і ў сёньняшнім Менску: гэта так званае Малое кальцо і Менская

---

207 Боровой Р. Послевоенная реконструкция и восстановление Минска (История написанная и ненаписанная) // Архитектура и строительство. 2004. №2. С. 7–10.

кальцавая дарога. Плян адрозьніваецца вялікімі ў памерах рэгулярнымі кварталамі-блёкамі. І якраз з такіх даўжэзных дамоў-блёкаў па 100–150 мэтраў складаецца ў сваёй цэнтральнай частцы цяперашні менскі праспэкт Незалежнасьці. Плянаваны Альбэртам Шпэерам Бэрлін, дарэчы, таксама меўся складацца з даўжэзных кварталаў-блёкаў, толькі там іх памеры былі троху большыя — па 200–250 мэтраў.

Асабліва на пляне Вэшэ ўражваюць кальцавыя дарогі. У 30-я гады немцы пабудавалі такія ў некаторых сваіх гарадах. Відавочна, што савецкія ўлады пазычылі гэтую ідэю ў нацыстаў (яшчэ да вайны), і пасьля вайны многія савецкія гарады займелі кальцавыя дарогі — унутрыгарадзкія і вакольныя. А вось у краінах Усходняй Эўропы, якія немцаў не капіявалі (такіх, напрыклад, як Чэхія, Польшча або Славаччына), кальцавыя дарогі ў гарадах пачалі будаваць толькі ў XXI стагодзьдзі.

Ацаніць факт такога перайманьня ў адным канкрэтным генпляне і яго наступствы для лёсу Менску можа дапамагчы кароткі агляд ідэалягічных запазычаньняў паміж нацысцкім і камуністычным рэжымамі.

Як вядома, у абедзьвюх краінах сьпявалі аднолькавыя (часта тыя самыя, толькі перакладзеныя) песьні, разьвівалі масавую фізкультуру і спорт, стваралі падобныя дзіцячыя і моладзевыя арганізацыі, праводзілі індустрыялізацыю, мілітарызоўвалі эканоміку. Тыпалягічных падабенстваў у абодвух таталітарных рэжымаў можна налічыць вельмі шмат. Нават ідэю канцэнтрацыйных лягераў на-

цысты запазычылі ў бальшавіцкай Надзвычайнай камісіі (ЧК).

Асабліва ідэалягічнае процістаяньне і ўзаемнае запазычаньне сродкаў прапаганды ўзмацнілася падчас вайны. Калі немцы, прасоўваючыся на ўсход, увосень 1941 году ўвайшлі на тэрыторыю РСФСР, яны пачалі на цэнтральных пляцах гарадоў ствараць мэмарыяльныя магілы сваіх салдат і афіцэраў, якія загінулі за ўзяцьце гэтых населеных пунктаў.

Калі ж у часе контранаступу Чырвонай арміі зімой 1941–1942 гадоў некаторыя з гэтых гарадоў былі вызваленыя, дык савецкае камандаваньне нават не чакала цёплага надвор'я — чырвонаармейцы на 40-градусным марозе начамі адчайна дзяўблі зьмёрзлую глебу, каб выкапаць ненавісных фашыстаў. Ільля Эрэнбург пісаў у сваіх успамінах пра пачатак 1942 году:

*«Усталые красноармейцы ожесточенно врезались заступами в промерзшую насквозь землю: вырывали трупы немецких солдат, погребенных на площади Малоярославца... Немцы заботливо хоронили своих... в первый год войны они почему-то хоронили своих убитых на площадях русских городов... может быть хотели показать, что пришли надолго»*[208].

Але на гэтым савецкае камандаваньне не спынілася — яно пачало хаваць сваіх забітых на цэнтральных пляцах адваяваных гарадоў. Мэмарыяльныя савецкія магілы зьявіліся і на цэнтральных пляцах многіх вялікіх і малых гарадоў у краінах Усходняй Эўропы. З часам большасьць іх былі

208 Эренбург И. Люди, годы, жизнь. С. 373.

перанесеныя на вайсковыя могілкі, але некаторыя засталіся некранутыя і да нашага часу.

Найбольшую вядомасьць набыло такое пахаваньне ў цэнтры сталіцы Эстоніі Таліну. Калі ў траўні 2007 году эстонскія ўлады задумалі перанесьці парэшткі савецкіх салдатаў на вайсковыя могілкі — гэтае іх рашэньне выклікала вострую адмоўную рэакцыю Расеі, спарадзіла міждзяржаўны канфлікт і набыло сусьветны розгалас.

У ліпені 1944 году зьявілася мэмарыяльнае пахаваньне савецкіх салдатаў і Менску. На тагачасным цэнтральным пляцы гораду — Плошчы Свабоды — савецкае камандаваньне разьмясьціла брацкую магілу некалькіх танкістаў. Праз тыдзень пасьля вызваленьня гораду са штабу танкавай часткі на вуліцы Рэвалюцыйнай (у раёне паваеннай 30-й школы, насупраць былога будынку Інбелкульту і Скарынаўскага цэнтру) на трох танках парэшткі прывезьлі на Плошчу Свабоды і ўрачыста пахавалі пад кананаду халастых танкавых стрэлаў.

Беларускі пісьменьнік Павал Кавалёў пісаў у студзені 1945 году:

*«Вось сквер на Пляцы Волі. Тут некалькі могілак воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях за Мінск. Магілы агароджаны, прыбраны кветкамі. З пашанай спыняюцца каля іх жыхары сталіцы. Кожны ведае, каму ён абавязаны сваім вызваленьнем»*[209].

У 1960-я гады, калі Плошча Свабоды перастала быць цэнтральным пляцам гораду, а русыфікацыя Беларусі дасягнула пэўных посьпехаў, савецкія ма-

209 Беларусь. 1945. №1. С. 13.

гілы з Плошчы Свабоды перанесьлі на Вайсковыя могілкі на вуліцы Даўгабродзкай.

У ідэалягічным процістаяньні з нацыстамі і пераймаіньні сродкаў савецкія ўлады не абышлі ўвагай і сфэру культуры. У пачатку вайны немцы масава рабавалі музэі і бібліятэкі на акупаваных тэрыторыях. Паводле афіцыйных савецкіх ацэнак, немцы вывезьлі з захопленай тэрыторыі СССР чатыры з паловай мільёны тамоў рэдкіх і старадрукаваных кніг.

Калі ж Чырвоная армія набліжалася да Бэрліну ў складзе Дзяржаўнага камітэту абароны СССР у лютым 1945 году стварылі Асобы камітэт для ажыцьцяўленьня рэпарацыяў. У складзе Асобага камітэту працавала і Камісія культуры. У яе былі адкамандзіраваныя вядомыя савецкія бібліёграфы і музэйныя працаўнікі, напрыклад, дырэктарка Дзяржаўнай цэнтральнай бібліятэкі замежнай літаратуры Маргарыта Рудаміна і дырэктар НДІ музэйнай і краязнаўчай працы Аляксей Малеўскі. Спэцыялісты атрымалі высокія вайсковыя званьні і былі накіраваныя ў Нямеччыну для пошуку і вяртаньня скрадзеных кніг і вывазу нямецкіх у якасьці кампэнсацыі.

Колькасьць вывезеных зь Нямеччыны кніг толькі адной групай Рудаміна дасягала 2 мільёнаў тамоў, агулам жа СССР вывез да 10 мільёнаў старадрукаваных і рэдкіх кніг зь нямецкіх сховішчаў[210]. Лёс гэтых помнікаў трагічны — большасьць зь іх

210 Больш падрабязна пра гэта гл.: Рудомино А. Полвека в плену // Наше наследие. 1994. №32; Яе ж: Книги войны: Письма М. И. Рудомино из Германии 1945–1946 годов и некоторые документы того времени // Наше Наследие. 1999. №49.

да нашых дзён схаваная ў «спэцхранах» і недаступная дасьледчыкам і студэнтам. Было знойдзенае і многае са скрадзенага немцамі ў Беларусі і Ўкраіне, аднак вывезена яно было зь Нямеччыны ў Маскву, Ленінград і некаторыя глыбінныя гарады Расеі, а не туды, адкуль было скрадзена.

Да сфэры культуры належала і архітэктура. І тут процістаяньне зь немцамі і запазычаньне іх досьведу праявілася вельмі моцна, а для Менску і Кіева — трагічна.

Гітлер, як вядома, надаваў велізарнае значэньне архітэктуры і яе сымбалічным магчымасьцям. З успамінаў галоўнага архітэктара Трэцяга Райху Альбэрта Шпээра паўстае яскравая карціна будаўнічай мэгаламаніі фюрэра — на думку Шпээра, мэсіянства Гітлера і яго жарсьць да архітэктуры былі неразрыўныя.

Архітэктар намаляваў у сваіх успамінах шмат сцэнаў, калі Гітлер захоплена аддаваўся сваім архітэктурным марам. Поўную перабудову Бэрліну Гітлер сам задумаў і сплянаваў яшчэ ў 20-я гады; у 1925 годзе ён пасьля шэрагу палітычных паразаў намаляваў эскізы Трыюмфальнай аркі і Купальнага палацу, якія некалі меліся ўвянчаць яго вялікія дасягненьні. Галоўны тэзіс Гітлера:

«*Бэрлін павінен зьмяніць сваё аблічча, каб адпавядаць сваёй новай місіі*»[211].

Шпээр расказвае, як Гітлер захоплена станавіўся наўсколенцы ля стала з макетамі і падоўгу на іх глядзеў. У канцы 30-х ён прыступіў да выканаьня

211 Шпеер А. Воспоминания. Москва, 1997. С. 204.

сваіх плянаў, дзеля чаго была зьнесеная ці не палова Бэрліну.

Гітлер задумаў пабудаваць у Бэрліне так званую Пышную вуліцу шырынёй 120 мэтраў і даўжынёй 5 кілямэтраў, якая мелася заканчвацца Трыюмфальнай аркай, Купальны палац вышынёй 290 мэтраў з пляцам Адольфа Гітлера перад ім (у галоўнай залі гэтай спаруды меліся зьмяшчацца 180 тысяч чалавек), новую Райхсканцылярыю, новы Райхстаг, гіганцкі палац Герынга, Палац салдацкай славы, некалькі гіганцкіх вакзалаў зь велізарнымі пляцамі перад імі, гандлёвыя дамы па 150 мэтраў даўжынёй ды іншыя гмахі.

Для расчысткі месца пад гэтыя навабуды пляналіся (і былі ажыцьцёўленыя) масавыя зносы. Калі ў 1938 годзе пачалі будаваць новую Райхсканцылярыю, то для расчысткі месца зьнесьлі цэлую бэрлінскую вуліцу Фосштрасэ. Для так і не пабудаванага Купальнага палацу расчысьцілі пляц, разбурыўшы сотні старых дамоў.

У Гітлера былі спэцыяльныя сакрэтныя памяшканьні, дзе на перасоўных сталах з колцамі на ножках знаходзіліся макеты перабудаванага Бэрліну. Фюрэр з ліхтарыкам вадзіў туды абраных гасьцей, ссоўваў і рассоўваў цэлыя вуліцы і кварталы, захоплена расказваў і паказваў будучую сталіцу, імітуючы пражэктарам узыход сонца над дахамі дамоў. Узорамі для фюрэра былі Парыж і Вена — ён толькі хацеў перасягнуць гэтыя гарады шырынёй і вышынёй. Пышная вуліца была задуманая шырынёй 120 мэтраў толькі таму, што Элізэйскія палі мелі ўшыркі 90 мэтраў.

Усьлед за Бэрлінам нацысты прыступілі да масавай рэканструкцыі іншых гарадоў — кожны гаўляйтэр меў за гонар пакінуць па сабе помнік у выглядзе перабудаванай ім сталіцы той або іншай часткі Райху. У пачатку вайны Гітлер падпісаў указ, якім да ўжо рэканструяваных Бэрліну, Мюнхэну, Нюрнбэргу і Лінцу далучыў яшчэ 27 гарадоў, у тым ліку Гановэр, Аўгсбург, Брэмэн і Ваймар[212].

Зразумела, што савецкае кіраўніцтва было добра паінфармаванае аб будаўнічай дзейнасьці і грандыёзных архітэктурных плянах Гітлера, маскоўскія кіраўнікі, у тым ліку Молатаў, наведваліся перад вайной у Бэрлін і бачылі сапраўдныя маштабы перабудовы гораду. Няма сумневу, што ідэалягічны аспэкт новага будаўніцтва прыцягваў і іншага тырана — крамлёўскага. Праблема была толькі ў недахопе сродкаў.

Ведала пра тое, што адбываецца ў Нямеччыне, і архітэктурная «грамадзкасьць» СССР — цяжка было не паддацца спакусе перайманьня, асабліва калі ёй і ня надта супраціўляліся.

Сталін, як і Гітлер, хварэў на мэгаламанію. У пачатку 30-х гадоў Гітлер пачынае захады для пабудовы ў Бэрліне грандыёзнай спаруды — Купальнага палацу вышынёй 290 мэтраў. Тады ж у Маскве задумваецца грандыёзны Палац саветаў — толькі вышыня яго мелася быць ужо 500 мэтраў. Для расчысткі пляцоўкі пад Палац саветаў зносяць храм Хрыста Збаўцы. Побач з палацам мелася стаяць высачэзная вежа: толькі статуя Леніна на яе вяршыні плянавалася вышынёй да 100 мэтраў! Абодва

212 Тамсама. С. 252.

праекты не былі ажыцьцёўленыя — дыктатарам не хапіла гістарычнага часу. Але пасьпелі абодва шмат.

У 1934–1936 гадах Сталін быў задумаў пабудаваць на Краснай плошчы гіганцкую вежу Наркамату цяжкага машынабудаваньня і, паводле аднаго з праектаў, зьнесьці для расчысткі тэрыторыі сабор Васіля Блажэннага. Быў абвешчаны конкурс на найлепшы праект, але ніводзін зь іх правадыра не задаволіў. А ўрэшце зьмянілася ўнутрыпалітычная кан'юнктура: у лютым 1937 году скончыў жыцьцё самагубствам (паводле афіцыйнай вэрсіі) наркам цяжкага машынабудаваньня Сярго Арджанікідзэ, наркамат стаў дзяліцца на драбнейшыя структуры, яго значнасьць зьменшылася, і вежу так і не пабудавалі.

Калі Гітлер плянаваў у новым Бэрліне ды іншых нямецкіх гарадах кожную драбязу аж да шырыні вуліц, вышыні дамоў і працягласьці кварталаў, то і Сталін ад яго не адставаў. Вось цытата з аповеду акадэміка архітэктуры Аляксея Шчусева пра ўдзел Сталіна ў абмеркаваньні генпляну Масквы ў палове 30-х гадоў:

«*Он* (Сталін — С. А.)... *детально проанализировал вопросы планировки отдельных магистралей, вопросы ширины той или иной улицы или площади... важными были замечания товарища Сталина о высоте домов на тех или иных улицах и площадях, о мостовых, о парковых зеленых насаждениях*»[213].

Менавіта Сталін быў аўтарам ідэі сацыялістычнай перабудовы гарадоў СССР і стварэньня для

213 Цыт. паводле: Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. Масква, 2007. С. 207–208.

гэтай мэты генплянаў іх разьвіцьця, ён наогул быў аўтарам усіх значных горадабудаўнічых ідэяў і нават фактычным аўтарам найбольш значных архітэктурных праектаў у СССР 30–50-х гадоў. Менавіта ён выбраў для савецкай архітэктуры стылістыку позьняга клясыцызму, вядомую сёньня пад назвай «сталінскі ампір». Захавалася шмат дакумэнтальных крыніцаў, у тым ліку, перапіска членаў Палітбюро ЦК ВКП(б), якія пераканаўча сьведчаць аб гэтым[214].

Расейскі гісторык Дзьмітры Хмяльніцкі, аўтар грунтоўнай працы «Зодчий Сталин», піша:

*«... Формальные вожди Союза архитекторов и Академии архитектуры — Алабян, Мордвинов, Чечулин, Власов, Виктор Веснин — никак не могли реально управлять советской архитектурой и принимать самостоятельные решения... нити управления архитектурой сходились в ту же точку, что и все остальные — в Политбюро. То есть — лично к Сталину...»*[215]

Прааналізаваўшы на некалькіх сотнях старонак эвалюцыю савецкай архітэктуры 20–50-х гадоў, Хмяльніцкі падмацоўвае свае папярэднія высновы гэткай канстатацыяй у заключэньні кнігі:

*«Никаких самопроизвольных стилеобразующих процессов начиная с весны 1932 г. в СССР не наблюдается. Формирование советского государственного стиля в 30–50 гг. было только иллюзией процесса естественной художественной эволюции. Этот*

214 Гл.: Сталин и Каганович. Переписка 1931–1936 гг. Масква, 2001.

215 Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. С. 7–8.

*процесс совершенно не зависел от воли, вкуса и художественных взглядов архитекторов. Он не был результатом изменения профессиональных взглядов архитектурного сообщества в целом. Наоборот, он был их причиной.*

*Это был процесс формирования вкусов и художественных концепций самого Сталина, и более никого... Путем отбора образцовых проектов... и прямого участия в проектировании самых важных объектов, Сталин руководил формированием сталинского художественного стиля. Образцы тиражировались, обеспечивая удивительное единство стиля по всей стране»*[216].

А што можа падабацца маскоўскаму дыктатару з замашкамі бізантыйскага імпэратара ў XX стагодзьдзі? Тое, што і дыктатару ў Бэрліне з замашкамі Напалеона і Аляксандра Македонскага. Сталін загадаў выкарыстоўваць толькі элемэнты клясычнай архітэктуры — дазвалялася пазычаць формы ў старажытных Грэцыі і Рыму, італьянскага Рэнэсансу і расейскага клясыцызму, дакладней, яго апошняй, пышнай фазы — ампіру.

Пабудаваны ў Маскве ў 1929–1930 гадах маўзалей Леніна злучае ў сабе рысы кубістычнага канструктывізму, які панаваў у СССР у часы змаганьня Сталіна з апазыцыяй (1920-я гады), і клясыцызму. Да эстэтыкі маўзалея вельмі блізкі стадыён для партыйных зьездаў нацысцкай партыі ў Нюрнбэргу (1937 г.).

Пасьля ўмацаваньня абодва рэжымы адчулі цягу да клясыцызму. Сталін канчаткова замацаваў сваю

---

216 Тамсама. С. 307–308.

ўладу да 1930-га году. І ўжо ў красавіку 1932-га ўсе незалежныя суполкі архітэктараў у СССР забараняюцца і ствараецца адзіны Саюз архітэктараў. Тады ж усе архітэктурныя кадры Крамлём арыентуюцца на адраджэньне «клясычнай спадчыны».

Готыка і барока як эстэтычныя канцэпцыі пэрыядаў рэакцыі трапілі пад забарону. Тое самае сталася з мадэрнам і канструктывізмам-функцыяналізмам — першы паплаціўся за «ўпадніцтва», другі — за «буржуазнасьць».

Высновa Дзьмітрыя Хмяльніцкага адназначная:

«...*Архитектурой Сталин управлял не менее решительно, чем литературой. Более того, именно он и был Главным Архитектором сталинской архитектуры, а вовсе не бесправные марионетки, возглавлявшие Союз архитекторов*»[217].

Як і Гітлер, Сталін бязьлітасна ставіўся да гістарычных помнікаў архітэктуры, якія заміналі ажыцьцяўленьню яго плянаў. У 1932 годзе ён асабіста загадаў зьнесьці частку старых дамоў на Смаленскім бульвары ў Маскве для лепшага руху транспарту[218]. У 1933 годзе для пашырэньня вуліцы вырашыў зьнесьці вядомы маскоўскі помнік архітэктуры — Сухараву вежу[219]. Пасьля публікацыі ў жніўні 1933 году паведамленьня аб маючым адбыцца зносе вежы да Сталіна зь лістом пратэсту зьвярнуліся архітэктары І. Грабар, І. Жалтоўскі і І. Фамін, якія пісалі, што

217 Тамсама. С. 10.
218 Сталин и Каганович. Переписка 1931–1936 гг. С. 259.
219 Тамсама. С. 348.

*«уничтожение высокоталантливого произведения искусства, равносильно уничтожению картины Рафаэля»*[220].

Але вежу ўсё ж зьнесьлі ў пачатку 1934 году.

Тады група архітэктараў яшчэ адважылася Сухараву вежу бараніць. А вось калі ў 1936 годзе задумвалі зьнесьці храм Васіля Блажэннага для пабудовы вежы Наркамату цяжкага машынабудаваньня, ужо ніхто не пратэставаў. Тым больш ніхто не пратэставаў і ў 1947 годзе, калі на Краснай плошчы пачалі праектаваць манумэнт Перамогі, і для гэтага, паводле адной з прапановаў, прадугледжваўся знос Гістарычнага музэю.

На шчасьце для маскоўскай архітэктуры, час дыктатара скончыўся — неўзабаве ён памёр. На няшчасьце для беларускай архітэктуры, ён дажыў аж да 1953 году... Стары горад у 30–50-я гады бараніць не наважыўся ніхто, ды ніхто і ня мог. Расейскі гісторык Дзьмітры Хмяльніцкі не без падставаў канстатаваў:

*«Убедить Сталина, что современная архитектура вполне может сосуществовать с исторической, было невозможно»*[221].

Пасьля ўсяго вышэйсказанага можна сьмела сьцьвярджаць, што лёс Менску да вайны, у вайну і пасьля яе вырашаўся ў Маскве. Найбольш яскрава пра гэта сьведчыць… сам сёньняшні Менск, а дакладней — архітэктурнае аблічча яго цэнтральнай часткі. Цытаваны раней Дзьмітры Хмяльніцкі піша:

220 Цыт паводле: Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. С. 106; Гл. таксама: Известия ЦК КПСС. 1989. №9. С. 110.
221 Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. С. 168.

*«… В 1931–1933 гг... Сталин произвел резкую смену типологических приоритетов. Вместо современного массового жилья и новых городов советским архитекторам было предписано разрабатывать исключительно престижные государственные объекты — министерства, дворцы правительств, театры, очень дорогие дворцового типа жилые дома для номенклатуры. Все советские архитекторы внезапно и на несколько десятилетий стали специалистами по дворцово-храмовым ансамблям»*[222].

Кожны жыхар Менску ў пераліку дазволеных правадыром будынкаў пазнае ўсе найбольш значныя пабудовы Менску 30-х гадоў, а таксама створаныя пасьля вайны ў новым менскім цэнтры — Дом Ураду, Опэрны тэатар, Акадэмію навук, Дом афіцэраў, шматлікія адміністрацыйныя дамы-палацы ўздоўж шырокай трасы на Маскву — Паштамт, КДБ, Нацбанк, ГУМ і суседнія зь імі жылыя будынкі ў выглядзе італьянскіх палацца.

Застаецца прыгадаць, што стыль новага Бэрліну яго аўтар-праектыроўшчык Альбэрт Шпэер вызначыў як «разьняволены ампір» або нэа-ампір[223]. Ну а стыль палацаў адбудаванай у 40–50-я гады XX стагодзьдзя галоўнай вуліцы беларускай сталіцы таксама вызначаюць як «ампір», а больш дакладна — «сталінскі ампір».

Сярод 15 савецкіх рэспублік Беларусь – адзіная, у сталіцы якой зьнесьлі большую частку гістарычнага цэнтру і пабудавалі непадалёк новы цэнтар — сацыялістычны. Падобныя да менскага праспэ-

---

222 Тамсама. С. 308.
223 Шпеер А. Воспоминания. С. 196, 232–233.

кту вуліцы ёсьць і ў Маскве, і ў Кіеве, і ў іншых гарадах былога СССР, але толькі ў Менску такая вуліца стала галоўнай магістральлю сталіцы, яе горадабудаўнічым, візуальным і адміністрацыйным цэнтрам. Сталінскія ампірныя палацы на менскім праспэкце сталі ідэалягічным і эстэтычным сымбалем вяртаньня беларускага народу ў склад савецкай імпэрыі пасьля некалькіх гадоў нямецкай акупацыі.

## Культуролягі ў пагонах

Падчас жахлівага антыбеларускага пагрому 30-х гадоў — другога Патопу, які на загад Масквы правялі ЦК КП(б)Б і НКВД БССР, была створана адпаведная ідэалягічная кан'юнктура, якая ў канцы 30-х і ў 40-я гады рабіла ініцыятывы аб рэстаўрацыі і захаваньні помнікаў архітэктуры ў Беларусі вельмі рызыкоўнай, фактычна, немагчымай справай. Прычым — і на гэта ўвагу чытача трэба зьвярнуць асабліва — у этнічнай Расеі такія прапановы несьлі іх аўтарам значна меншую рызыку: там ня толькі заклікі дазваляліся, але і аднаўленьне вялося з ініцыятывы ўраду СССР.

Вядомы факт: пасьля вайны, у лістападзе 1945 году, СНК СССР прыняў пастанову №2722 «Аб мерапрыемствах па аднаўленьні разбураных нямецкімі захопнікамі гарадоў», у якой падаваўся сьпіс з 15 старажытных расейскіх гарадоў, якія падлягалі першачарговаму аднаўленьню[224]. Сярод іх былі названыя Ноўгарад, Пскоў, Смаленск, Цьвер (Калінін) ды іншыя — Масква архітэктурную спадчыну РСФСР паважала.

Для Беларусі такога сьпісу ніколі ніхто не складаў — тут і ў 30-я, і ў 40-я гады нацыянальная

224 Гл.: http://www.muar.ru/exibitions/2005/exibit_28_04_2005_vozr.htm

культура душылася і зьнішчалася, а на яе месца прыходзіла побытавая расейшчына і ўзоры «сацыялістычнага рэалізму» ў мастацтве і архітэктуры.

У студзені 1937 году «ЛіМ» пісаў пра выставу работ мастакоў БССР:

«*Не знайшла адлюстраваньня на выстаўцы вялікая сталінская Канстытуцыя. Ні ў каго з мастакоў ня ўзьнікла чамусьці жаданьня перадаць на палатне ці ў скульптуры гераічныя справы нашай радзімы, вобразы яе герояў. Стаханаўскі рух па сутнасьці не паказаны... Калі тэматычна ёсьць некалькі работ пра сацыялістычную вёску, дык сацыялістычны горад амаль не паказаны на выстаўцы. Характэрна, што на выстаўцы ёсьць нямала "Старых Менскаў", "Старых Віцебскаў", але няма ні аднае работы на тэму "Новы Менск" ці "Новы Віцебск"*»[225].

У 30-40-я гады ў афіцыйных артыкулах прыхаваны сэнс шукалі нават між радкоў. Але ў Беларусі ўсё рабілася адкрыта. Вышэй ужо цытаваўся артыкул Іосіфа Валадзька, прадстаўніка Ўпраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР у Маскве. Якраз той тэкст ня трэба было чытаць між радкоў, бо насамрэч у сакавіку 1944 году, напярэдадні мерканага вызваленьня Менску, артыкул Валадзька быў адначасова сыгналам і папярэджаньнем для рэшткаў недабітай беларускай інтэлектуальнай эліты. Ужо ў чацьвёртым абзацы на першай старонцы Іосіф Валадзько напісаў (або падпісаў) радкі, якія і былі галоўным зьместам яго артыкулу і якія

225 Літаратура і мастацтва. 16 студзеня 1937.

сьведчаць аб невыпадковым іх зьяўленьні менавіта ў той час:

*«... Лічыць кожную старую будыніну здабыткам старажытнай беларускай архітэктуры толькі праз тое, што прастаяла яна колькі сот гадоў, было б безразважна»*[226].

І далей:

*«Новая беларуская архітэктура павінна арганічна вырастаць з новых грамадзкіх форм і дачыненьняў, што зладжыліся за дваццацігадовае жыцьцё Савецкай Беларусі. Пакаленьне, узьнятае і вырашчанае Кастрычніцкай рэвалюцыяй, высоўвае рад патрабаваньняў, якія ўзьніклі на аснове новых грамадзкіх дачыненьняў, са зьменай псіхікі і духоўных інтарэсаў. Усё гэта павінна прадыктаваць архітэктару своеасаблівае вырашэньне планіроўкі горада...»*[227]

Як бачым, у артыкуле Валадзька рэчы названыя сваімі імёнамі: колькісотгадовыя будынкі — ня помнікі, а заклікі да захаваньня нацыянальнага аблічча беларускай архітэктуры былі ня больш чым прапагандысцкім прыёмам — як памятаем, нацыянальнай асаблівасьцю беларускай архітэктуры Валадзько лічыў... арнамэнт.

Тэкст Валадзька нездарма называўся «Важныя пытанні беларускае архітэктуры». Гэта сапраўды былі найважнейшыя для беларускага народу пытаньні, і тыя, хто за плянам зносу Старога гораду і пабудовы беларусам новай сацыялістычнай сталіцы стаяў, гэта добра разумелі і не асабліва хаваліся.

226 Беларусь. 1944. №3. С. 17.
227 Тамсама.

У пошуках і развагах аб лёсе Старога гораду непазьбежна зноў і зноў сутыкаесься з роляй НКВД у гэтай беларускай трагедыі. Удзел гэтага ведамства ў зьнішчэньні беларускіх палітыкаў і дзеячоў беларускай культуры сёньня ўжо даволі добра вядомы. Значна менш вядомая роля НКВД у зьнішчэньні матэрыяльных і духоўных помнікаў беларускай культуры.

Як вядома, падчас арыштаў у пісьменьнікаў і мастакоў канфіскоўвалі іх неапублікаваныя творы і рукапісы. У 90-я гады XX ст. многія дасьледчыкі гісторыі беларускай літаратуры кінуліся ў архівы КДБ шукаць творы рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў. І былі расчараваныя — твораў няма, толькі матэрыялы крымінальных спраў.

Надзея нешта ў тых архівах знайсьці выцякае з чыстай людзкой натуры і павагі да культуры, маўляў, і людзі НКВД павінны былі разумець, што такое культура — нават калі аўтара забівалі, то маглі ж хоць яго творы схаваць у «спэцхран». І сапраўды, у НКВД вельмі добра разумелі, што такое культура — асабліва нацыянальная культура на ўскраіне імпэрыі. Творы рэпрэсаваных ніколі ня знойдуцца, іх зьнішчалі ўсьлед за зьнішчэньнем аўтара — ад пэўнай культурнай адзінкі не павінна было застацца і сьледу.

1 жніўня 1937 году група супрацоўнікаў НКВД БССР на чале з намесьнікам начальніка менскай унутранай турмы НКВД Сакаловым у двары «Амэрыканкі» на вялікім вогнішчы спаліла некалькі дзясяткаў тысяч рукапісаў рэпрэсаваных беларускіх

літаратараў[228]. Так піша ў адной са сваіх кніг гісторык сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі Леанід Маракоў. А вось дакумэнтальнае сьведчаньне беларускага паэта Сяргея Грахоўскага, арыштаванага 19 кастрычніка 1936 году і зьмешчанага ў «Амэрыканку»:

*«Рукі назад, сьвіст — і павялі праз вузкі двор, а ў ім, як у доўгай трубе, скавыча пранізьлівы вільготны вецер. У канцы двара ляжаць стосы папер, папак, канвэртаў зь лістамі і здымкамі. Іх кідае ў спэцыяльную печ невысокі вайсковец, а другі доўгаю качаргою варочае і разьбівае попел. Колькі там згарэла рукапісаў, дакумэнтаў, дысэртацый, здымкаў, дзёньнікаў і лістоў! Год, пакуль быў пад сьледзтвам, не патухала тая страшная печ. А колькі яна палілася да мяне і пасьля мяне?»*[229]

Насамрэч рукапісы гараць, і яшчэ як — попелам і дымам пайшлі творчыя парывы сотняў беларускіх творцаў, месяцы і гады напружанай працы: недаспаныя ночы, ня вымаўленыя публічна замілаваньні, захапленьні і сумненьні, не аддадзеная людзям прыгажосьць. Зьбедненай і абкрадзенай засталася беларуская літаратура, неадплачанымі — недагадаваныя дзеці, недакаханыя жонкі і асіроцелыя бацькі. У гэтых вогнішчах і печках гарэлі творы арыштаваных мастакоў, чарцяжы расстраляных архітэктараў і навуковыя тэксты зьнішчаных супрацоўнікаў Інбелкульту, а пазьней Акадэміі навук БССР.

228 Маракоў Л. Ахвяры і карнікі. Менск, 2007. С. 10.
229 Грахоўскі С. Зона маўчання // Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2. Крыжавы шлях. Менск, 1994. С. 39.

Гісторыкі, шукаючы творы беларускай літаратуры ў архівах КДБ, думалі пра рэпрэсіі як пра трагічную памылку, а яны не былі памылкай — гэта была добра прадуманая сыстэма зьнішчэньня беларускай культуры і русыфікацыі народу. Выслужваючыся перад начальствам або проста датрымліваючыся інструкцыяў, выканаўцы пакінулі па сабе шматлікія акты аб спаленьні рукапісаў арыштаваных.

Але спальваліся ня толькі рукапісы. 3 чэрвеня 1937 году прыпісаная да Наркамату асьветы структура НКВД пад назвай «Галоўліт» выдала загад №33 пад назвай «Список литературы, которая подлежит конфискации из библиотек общественного пользования, учебных учреждений и книготорговли»[230].

Сьпіс кніг, якія падлягалі канфіскацыі і зьнішчэньню на мовах народаў СССР заняў 111 старонак. Беларускі разьдзел дакумэнту займаў 12 старонак і налічваў 421 пазыцыю, але выданьняў і твораў, якія належала спаліць паводле гэтага сьпісу, было значна болей — насупраць 53 прозьвішчаў дзеячоў беларускай навукі і культуры стаяў грыф «все книги»[231].

Загад прадпісваў:

*«Производить уничтожение путем пропуска через резальные машины типографий. Макулатуру в мелкопорезанном виде сдавать в утиль. В райцентрах, где в типографиях нет резальных машин, принятую литературу сжигать с отметкой на акте сожжения»*[232].

230 Лукашук А. «За кіпучай чэкісцкай работай». З жыцьця катаў. Менск, 1997. С. 103.

231 Тамсама. С. 105.

232 Тамсама. С. 104–105.

Сярод тых 53-х, чые кнігі належала зьнішчаць усе — г. зн. выданьні і перавыданьні ў поўным наборы, былі Ф. Аляхновіч, А. Бабарэка, В. Ластоўскі, А. Цьвікевіч, С. Некрашэвіч, М. Гарэцкі, У. Дубоўка, С. Дарожны, Я. Лёсік, А. Дудар, А. Луцкевіч, У. Пічэта, Дз. Прышчэпаў, Я. Пушча, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, Я. Скрыган і іншыя[233]. Трапілі ў гэты трагічны сьпіс і выдатныя беларускія гісторыкі, якія мелі дачыненьне да прыцягненьня ўвагі грамадзтва да лёсу Старога гораду ў Менску ў 10–20-я гады XX стагодзьдзя: М. Доўнар-Запольскі, Дз. Даўгяла і В. Друшчыц[234].

Зьнішчальная дзейнасьць Крамля і яго карных органаў не абмяжоўвалася толькі помнікамі духоўнай культуры. Зьнішчаліся і помнікі культуры матэрыяльнай. Украінскія дасьледчыкі апярэджваюць беларускіх у вывучэньні і кансалідацыі такіх фактаў. У 30-я гады па ўкраінскіх музэях пракацілася хваля зьнішчэньня экспанатаў, якія былі зьвязаныя з украінскай нацыянальнай гісторыяй. Напрыклад, у Днепрапятроўскім музэі быў цалкам ліквідаваны аддзел Запароскай Сечы, а яго экспанаты — старажытныя партрэты казацкіх дзеячоў, старыя абразы, зброя з дарчымі надпісамі на ўкраінскай мове і казацкае адзеньне — фізычна зьнішчаныя[235].

Асабліва моцны ўдар па матэрыяльных помніках украінскай культуры НКВД-МГБ нанёс падчас пасьляваеннага нацыянальнага задушэньня Заход-

233 Тамсама. С. 106–119.

234 Тамсама.

235 Міллер М. Історично-археологічні музеї в Україні // На Слідах. 1956. Ч. 4. С. 4–8.

няй Украіны. У 1945–1955 гадах у Нацыянальным музэі ў Львове адбыліся дзясяткі зьнішчальных акцыяў НКВД. Сотні каштоўных карцін і абразоў былі спаленыя або зьнішчаныя мэханічна проста ў двары музэю. А скульптуры, з увагі на іх вялікую вагу, зьнішчаліся проста ў фондах — з абласной управы НКВД у музэйныя сховішчы прыходзілі некалькі асілкаў з кувалдамі, загадвалі паказаць, дзе захоўваюцца працы таго або іншага аўтара, і ўшчэнт іх разьбівалі — музэйным працаўнікам пад вечар адно заставалася прыбраць рэшткі гіпсавых, гліняных або бронзавых скульптур.

Толькі ў адной публікацыі аб гэтым барбарстве ў Нацыянальным музэі ў Львове прыводзяцца імёны больш чым пяцідзесяці мастакоў, каля дзесяці скульптараў і назвы некалькіх сотняў іх зьнішчаных твораў[236]. Віна многіх была толькі ў тым, што жылі яны ў той час за мяжой — як, напрыклад, вядомы ўкраінскі скульптар Аляксандар Архіпенка — або былі арыштаваныя.

Вышэй ужо ішла гаворка пра дзеяньні савецкіх сапёраў у першы тыдзень пасьля вызваленьня Менску — пра так званыя «сапёрныя выбухі» і дзіўнае «разьмініраваньне» жылых будынкаў. Але тыя выбухі ў старой частцы гораду пачаліся, паводле шматлікіх сьведчаньняў апытаных мной менчукоў, яшчэ да вызваленьня гораду.

У 1998 годзе ў Дзяржаўным архіве Расейскай Фэдэрацыі быў знойдзены важны для менскай гісторыі дакумэнт. Гэта даклад пісьменьніка Ільлі Эрэн-

236 Гречко І. Ще раз про втрати Національного музею у Львові // Містецькі студії. №2–3. 1993. С. 23–28.

бурга на паседжаньні Габрэйскага антыфашысцкага камітэту 26 ліпеня 1944 году — г. зн. праз 23 дні пасьля апісаных падзеяў. Вось урывак зь яго:

«… *Когда я приехал в Минск, то прошло уже 4 часа после того, как первые советские танки вошли в город. Еще дома взрывались на улицах. При мне на улице, где я стоял, упало два дома. Город горел. Как только я столкнулся с первыми жителями, мне сказали, что некоторые евреи остались в живых в Минске в помещении СД. Я пошел туда и в кузнице СД нашел их. Это было несколько человек в очень тяжелом физическом состоянии*…»[237]

Зьвяртае на сябе ўвагу, што абедзьве згадкі Эрэнбурга пра выбухі ў Менску могуць датычыць розных месцаў гораду. У цытаваным раней урыўку з мэмуараў («Я поглядел на длинную улицу и обрадовался: почти все дома невредимы; четверть часа спустя раздались взрывы, и домов не стало») і прыведзенай толькі што цытаце з выступу перад Габрэйскім антыфашысцкім камітэтам («При мне на улице, где я стоял, упало два дома») гаворка, верагодна, ідзе пра розныя месцы гораду.

У першым выпадку Эрэнбург убачыў цэлую вуліцу, пайшоў у іншы бок і праз 15 хвілін толькі *пачуў* выбухі, якімі вуліца была разбураная, а вынікі выбухаў пісьменьнік убачыў пазьней. У другім выпадку Эрэнбург *стаў непасрэдным сьведкам* падрыву і падзеньня двух дамоў. Адсюль вынікае, што выбухі 3–4 ліпеня ў Менску не былі адзінка-

237 Смиловицкий Л. Илья Эренбург о преступлениях нацизма в Белоруссии. – http://www.souz.co.il/clubs/read.html?article=790&Club_ID=1

вымі, яны гучалі па ўсім цэнтры Менску на розных яго вуліцах — неацэннае сьведчаньне аб іх нам і пакінуў пісьменьнік. Гэта супадае са сьведчаньнямі некаторых старых менчукоў, якія расказвалі пра выбухі ў Менску і 2 ліпеня.

Як мы ўжо ведаем, 3 ліпеня 1944 году ўсе, хто рухаўся з усходу па цэнтральнай менскай магістралі, з прычыны таго, што мост празь Сьвіслач каля электрастанцыі быў разбураны, паварочвалі на Круглым пляцы направа і праз ваколіцы Опэрнага тэатру і Траецкае прадмесьце па Хлусавым або Лаўскім мастах траплялі на Нізкі рынак у Старым горадзе.

Цытаваны ўрывак дакладу Ільлі Эрэнбурга, а таксама згадка ў яго мэмуарах пра доўгую менскую вуліцу з амаль не пашкоджанымі дамамі, якая была падарваная ў яго на вачах, якраз і прымушаюць думаць, што падрывы дамоў праз 4 гадзіны пасьля захопу гораду савецкімі танкамі адбываліся менавіта недзе ў цэнтры Менску, магчыма, непадалёк ад гістарычнага цэнтру.

Але думаць так прымушае і яшчэ адно меркаваньне. Як члена Габрэйскага антыфашысцкага камітэту і аўтара-складальніка «Чорнай кнігі» пра пакуты габрэйскага народу падчас вайны Ільлю Эрэнбурга ў кожным вызваленым горадзе на захадзе СССР цікавіла найперш гета і месцы масавых распраў над габрэямі. Таму ён і павінен быў найперш апынуцца на тэрыторыі былога гета ў ваколіцах Замкавай вуліцы, Юбілейнага пляцу і далей, у бок вуліц Сухой і Калектарнай.

Якраз непадалёк, на вуліцы Астроўскага, знаходзілася смаленскае СД, дзе Эрэнбург, паводле

яго сьведчаньня, знайшоў жывых вязьняў-габрэяў. Ведаць аб іх існаваньні маглі толькі тыя, хто жыў непадалёку — г. зн. жыхары Старога гораду: да ліпеня 1944 году заселенымі былі Траецкае прадмесьце, Няміга, часткова Падзамкавая, Завальная і Нова-Мясьніцкая.

Што ж гэта былі за выбухі? Аўтарства немцаў выключаць нельга, хоць у крыніцах і гістарычных працах згадваецца мініраваньне імі толькі самых значных аб'ектаў у горадзе — грамадзкіх будынкаў і прамысловых прадпрыемстваў. У іх лік, натуральна, не ўваходзілі даўно пакінутыя жыхарамі, напалову спаленыя старажытныя будынкі гістарычнага цэнтру Менску.

Аналіз нямецкіх аэрафотаздымкаў сьведчыць пра істотную розьніцу ў стане забудовы на вуліцах Энгельса, Камуністычнай, Інтэрнацыянальнай, Камсамольскай, Рэвалюцыйнай, Астроўскага, Віцебскай і Плошчы Свабоды паміж 6 чэрвеня і 8 ліпеня. Многія будынкі на гэтых вуліцах, у тым ліку езуіцкі калегіюм зь вежай і дамініканскі касьцёл з кляштарам, аказаліся спаленымі і часткова разбуранымі[238]. Магчыма, яны сталі ахвярамі ня толькі вызвольнага штурму гораду, але і тых апісаных Эрэнбургам загадкавых выбухаў.

Магчыма таксама, што апісаныя выбухі адбываліся ня ўздоўж трасаў вуліц, а ў захаваных каробках дамоў на ўнутрыквартальнай тэрыторыі гістарычнага цэнтру Менску. Маглі яны гучаць і ў іншых месцах. Так ці іначай, непасрэдна ў Старым

238 Гл.: NARA, адзінкі захаваньня пасьлядоўна: gx 10509 sk a 010; dt tm 5 box 68 005-1.

горадзе ў названы прамежак часу нічога не памянялася — там «доўгіх вуліц» не было ўжо зь вясны 1944 году.

У працах гісторыкаў і мэмуарах апрача савецкіх сапёраў, якія ўвайшлі ў Менск разам зь першымі танкамі, згадваюцца яшчэ нейкія савецкія дывэрсійныя атрады.

Савецкі партызанскі рух у Беларусі і савецкае падпольле, як вядома, цалкам знаходзіліся пад кантролем НКВД. Значная частка каманднага складу партызанскіх атрадаў і злучэньняў былі кадравымі афіцэрамі НКВД. І вось сьведчаньне аднаго з такіх кадравых энкавэдзістаў, камандзіра партызанскага атраду «Мясцовыя», які дзейнічаў у Менскай вобласьці, Станіслава Ваўпшасава[239]:

*«26 октября 1943 года горком записал в своем постановлении: "Организовать на всех предприятиях и в учреждениях города диверсионные и повстанческие боевые группы с задачей проведения диверсий и сохранения предприятий и учреждений города при отступлении немцев. Имеющимся в городе диверсионным и повстанческим группам, наряду с проведением диверсий, уничтожением складов и техники противника, в связи с приближением фронта поставить новые задачи по вопросу захвата и со-*

239 С. Ваўпшасаў, літовец паводле паходжаньня, служыў у органах з пачатку 1920-х да 1958 году, у 1920–1925 гг. кіраваў антыпольскай партызанкай у Заходняй Беларусі, з 1925 году — у Маскве, у НКВД. Быў у Гішпаніі ў 1936–1939 гг. У верасьні 1941-га — камандзір батальёну асобнай мотастралковай брыгады спэцпрызначэньня, з сакавіка 1942-га — камандзір партызанскага атраду «Мясцовыя» ў Менскай вобласьці. У органах НКВД-КДБ да 1958 году. Герой Савецкага Саюзу (1944).

*хранения техники врага, сохранения оборудования заводов, зданий предприятий и учреждений города”...*

*Партизаны с большим воодушевлением узнали о создании подпольного горкома и стали энергично выполнять его решения... Бригаде “Беларусь” было, например, поручено организовать на 18 промышленных объектах подпольные группы для диверсий, наблюдения за минированием зданий и предотвращения взрывов вражеских мин...*

*А в январе горком сообщал в докладной записке Минскому подпольному обкому, что в городе организовано 79 боевых групп, в которые вошли 326 подпольщиков»*[240].

Магчыма, менавіта дзейнасьцю гэтых дывэрсійных групаў і тлумачацца многія незразумелыя выбухі ў Менску 2 і 3 ліпеня 1944 году, якія так запомніліся старым менчукам і пра якія двойчы напісаў Ільля Эрэнбург.

Члены дывэрсійных атрадаў маглі атрымаць заданьне ўчыняць выбухі менавіта ў цэнтры Менску і выконвалі яго, думаючы, што дэстабілізуюць сытуацыю ў горадзе, дэзарганізуюць немцаў, сеюць сярод іх паніку і хаос і тым самым дапамагаюць Чырвонай Арміі хутчэй вызваліць сталіцу Савецкай Беларусі. Так ці іначай арганізатары такіх акцый (што ў Менску, што ў Кіеве) заўсёды будуць называць іх «дывэрсіямі супраць ворага».

У Менск маглі быць дасланыя і непасрэдныя выканаўцы такіх дывэрсій. Якраз у 1944 годзе ў

240 Цыт. паводле: Ваупшасов С. На тревожных перекрестках: Записки чекиста. Масква, 1988 – http://militera.lib.ru/memo/russian/vaupshasov/39.html

складзе НКВД СССР быў створаны аддзел спэцзаданьняў пад кіраўніцтвам генэрал-маёра Ўладзіміра Егнарава. Праз год гэтую структуру падзялілі, і ўзьнік яшчэ аддзел «С» пад кіраўніцтвам П. Судаплатава. Дык вось сфэрай інтарэсаў аддзелу Егнарава і былі якраз нацыянальныя ўскраіны СССР.

Гісторыкі цьвердзяць, што большасьць дакумэнтаў аб апэрацыях аддзелу спэцзаданьняў НКВД ня будзе рассакрэчаная ніколі. Тым ня менш сюжэты пра ўдзел ведамства генэрала Егнарава ў рашэньні менавіта ідэалягічных задачаў у нацыянальных рэспубліках СССР, такіх як устаноўка помнікаў і пахаваньне савецкіх салдатаў у цэнтры вызваленых гарадоў (у тым ліку і на пагорку Тынісмягі ў Таліне), і нават удзел у цэнзуры вынікаў archeaлягічных раскопак сталі ўжо сюжэтамі расейскай літаратуры[241].

Цалкам магчыма, што калі дакумэнты некалі ўсё ж будуць рассакрэчаныя, то і беларускіх гісторыкаў чакае шмат незвычайных адкрыцьцяў. Магчыма, тады і стане вядома, хто дакладна арганізаваў і правёў сэрыю выбухаў у цэнтры Менску летам 1944 году.

## Бэрыя і Менск

Пішучы пра магчымую ролю НКВД у разбурэньні Менску, нельга абысьці ўвагай і злавесную постаць кіраўніка гэтага ведамства — усёмагутнага

241 Гл.: Петряков Д. Тексты. – http://zhurnal.lib.ru/d/dmitrij_petrjakow/karlowyjgolem-9.shtml

Лаўрэнція Бэрыі. Будучы правай рукой Сталіна і кіраўніком спэцслужбы, на якую завязваліся ўсе сакрэтныя апэрацыі ў СССР, у тым ліку і выкананьне асабістых плянаў і пажаданьняў правадыра, ён ня мог не сутыкнуцца і з такой важнай для Сталіна справай, як архітэктура і яе новае сацыялістычнае аблічча. І ён зь ёй сутыкнуўся, ды так, што стаў галоўнай даверанай асобай Сталіна ў ажыцьцяўленьні сакрэтных праектаў у галіне архітэктуры і горадабудаўніцтва.

21 жніўня 1943 году пры СНК СССР быў створаны Камітэт па аднаўленьні гаспадаркі ў раёнах, вызваленых ад нямецкай акупацыі. У склад Камітэту ўвайшлі Г. Малянкоў (старшыня), Л. Бэрыя, А. Мікаян, М. Вазьнясенскі і А. Андрэеў[242]. Членства Бэрыі ў гэтым Камітэце давала яму фармальную падставу займацца пытаньнямі аднаўленьня разбураных гарадоў. Праз камітэт можна было праводзіць рашэньні, якія мелі для Сталіна і для НКВД зусім іншыя, чым «трывіяльнае» аднаўленьне таго або іншага гораду, мэты і значэньне.

Сам факт удзелу НКВД і яго кіраўніка Лаўрэнція Бэрыі ў плянаваньні і рэканструкцыі гарадоў тлумачыцца ня толькі асабістай блізкасьцю Бэрыі да Сталіна, але і роляй НКВД у тагачаснай сыстэме савецкага кіраўніцтва. Непасрэдны ўдзельнік рэканструкцыі Масквы, у 30-я гады — першы сакратар Маскоўскага гарадзкога камітэту ВКП(б) Мікіта Хрушчоў вельмі яскрава ахарактарызаваў ролю

242 Лаврентий Берия. 1953. Стенограмма июльского пленума ЦК КПСС и другие документы. Москва, 1999. С. 406.

ГПУ-НКВД-МГБ у 30–50-я гады XX стагодзьдзя на шматлікіх старонках сваіх успамінаў.

Пра 1937 год Хрушчоў напісаў так:

«*Проводил я Московскую партийную конференцию в 1937 году. Все кандидатуры, которые выдвигались в члены Московского городского и областного комитетов, заранее просматривались и “освящались” Наркоматом внутренних дел. Не ЦК, тем более не члены партии решали, а именно НКВД... Это он высказывал последнее слово о достоинствах того или другого избранника, о его возможности работать в руководящем партийном органе... Органы НКВД имели решающее слово при любых выдвижениях или передвижках партийных, государственных и хозяйственных кадров, и они всегда согласовывались с НКВД*»[243].

А вось сьведчаньне Хрушчова пра 1938 год, калі Бэрыя стаў наркамам унутраных спраў і пачаў дасылаць у рэспублікі сваіх стаўленікаў. У Беларусь на пасаду наркама НКВД ён прыслаў Лаўрэнція Цанаву, які, як і Бэрыя, быў мінгрэлам:

«*В те же недели другой человек Берии поехал с тем же назначением в Белоруссию. Берия повсюду рассылал свои кадры. К той поре сложилась такая ситуация, что все кадры при выдвижении их на партийную, советскую, хозяйственную и военную работу проходили через через “чистилище” в НКВД. Последний становился главным органом страны. А любые ведущие кадры вообще выдвигались с предварительного согласия Берии*»[244].

---

243 Хрущев Н. Воспоминания. Масква, 2007. С. 251–252.
244 Тамсама. С. 257.

Урэшце Хрушчоў, які, як мала хто іншы, быў абазнаны з сытуацыяй у савецкім кіраўніцтве, характарызуючы злавесную атмасфэру 30-х гадоў, канстатаваў:

*«Над партией встала ЧК»*[245].

Яшчэ да вайны, у 1936 годзе, у НКВД СССР пад назвай «інжынэрна-будаўнічы» і пад кіраўніцтвам А. Лур’е быў створаны архітэктурны аддзел, у якім працавалі прафэсійныя архітэктары «ў пагонах»[246]. Яны наглядалі за працай праектных інстытутаў, карэктавалі ў выпадку патрэбы дзейнасьць гэтых установаў, зацьвярджалі найбольш важныя рашэньні і нават самі займаліся праектаваньнем грамадзянскіх будынкаў. Прычым вельмі часта гэта былі праекты ключавых гмахаў савецкіх гарадоў. Мікіта Хрушчоў пісаў у сваіх мэмуарах:

*«То же самое могу сказать о здании Совнаркома СССР на Охотном ряду, напротив гостиницы “Москва”. Тот проект готовил архитектор Лангман. Он работал в Наркомате внутренних дел СССР у Ягоды»*[247].

Засьведчыў Хрушчоў і непасрэдны ўдзел Бэрыі ў будаўніцтве і рэканструкцыі гарадоў:

*«Шефствовал над Госстроем Берия. Это усложняло ситуацию. Каждый руководитель госстроевского учреждения старался при любом разговоре сначала заручиться поддержкой Берии, чтобы потом чувствовать себя более твердо»*[248].

245 Тамсама. С. 61.
246 Гл.: http://www.memo.ru/HISTORY/NKVD/STRU/by_year.htm
247 Хрущев Н. Воспоминания. С. 369.
248 Тамсама. С. 380.

А пішучы пра пасьляваенны ўплыў Бэрыі на архітэктурна-будаўнічыя пытаньні, Хрушчоў толькі ўсклікнуў:

*«А после войны — и говорить нечего!»*[249]

У сярэдзіне жніўня 1944 году ў Менск з Масквы прыбыла камісія акадэмікаў архітэктуры для стварэньня праекту аднаўленьня беларускай сталіцы. Ужо самі абставіны прыезду акадэмікаў сьведчылі пра іх важную дзяржаўную і сакрэтную місію — у Беларусі пра іх прыезд нічога ня ведалі. Як памятаем, нават кіраўнік Упраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР А. Валноў чакаў зусім іншых людзей і зь іншымі мэтамі.

А вось яшчэ адна дэталь. Сёньняшнія аўтары, пішучы пра маскоўскую камісію, называюць яе кіраўніком акадэміка архітэктуры Аляксея Шчусева[250]. Тым часам аўтары генпляну 1946–1951 гадоў, якія бясспрэчна валодалі больш поўнай інфармацыяй, чым сучасныя дасьледчыкі, пісалі ў тэксьце пад назвай «Пояснительная записка» наступнае:

*«... После освобождения г. Минска от немецкой оккупации комиссия под руководством председателя Комитета по делам архитектуры при СНК СССР, действительного члена Академии Архитектуры СССР тов. Мордвинова А. Г., в составе Академика Щусева А. В., действительных членов Академии Архитектуры СССР тт. Семенова В. Н., Колли Н. Я. и члена-корреспондента Академии Архитектуры СССР тов. Рубаненко Б. Р. и др. разработала основ-*

---

249 Тамсама. С. 259.

250 Чернатов В. А могло быть иначе... Однако... // Архитектура и строительство. 2005. №4. С. 62.

*ные соображения о планировке и восстановлении г. Минска. На основе этих соображений и соответствующих техно-экономических изысканий в 1945–46 гг. был разработан новый генеральный план восстановления и развития г. Минска...»*[251]

Акадэмік Аляксей Шчусеў, аўтар праекту маўзалея Леніна, хутчэй за ўсё быў фармальным (творчым) кіраўніком камісіі, што пацьвярджае і асобнае яго месца ў пераліку членаў камісіі, а рэальна ёю мог кіраваць толькі Анатолій Мардвінаў — галоўны паводле пасады архітэктар у тагачасным СССР і наогул высокапастаўлены дзяржаўны чыноўнік. І, натуральна, акадэмікі падпісалі ўсё тое, што падчас абмеркаваньняў прапанаваў ім зрабіць Мардвінаў. А гэта, сярод іншага, зялёная зона і шырокі бульвар на месцы Замчышча і Старога гораду.

У Мардвінава ў складзе дэлегацыі быў яшчэ адзін важны памочнік — аўтар першага савецкага праекту пляніроўкі Менску 1926 году, акадэмік архітэктуры Ўладзімір Сямёнаў, які мог забясьпечыць пераемнасьць даваенных генплянаў з праектам-ідэяй цэнтру Менску, якая ўрэшце выйшла з-пад пяра акадэмікаў.

Анатолій Мардвінаў яшчэ ў 20–30-я гады праявіў сябе як блізкі да НКВД адданы камуніст. У 30-я гады з пазыцыяў дагматычнага марксізму ён браў актыўны ўдзел у арганізаванай Сталіным барацьбе супраць незалежных архітэктурных плыняў, у прыватнасьці, у 1935 годзе ўдзельнічаў у цкаваньні

251 Пояснительная записка к Генплану Минска. 1951 год. Гл: БДАНТД, ф. 3, воп. 4, спр. 529, арк. 7.

таленавітага архітэктара Міхаіла Ахітовіча, які ў выніку быў арыштаваны і загінуў[252].

Пасьля вайны Анатолій Мардвінаў паводле пасады наогул быў непасрэдным падначаленым Лаўрэнція Бэрыі, які зьяўляўся ня толькі наркамам НКВД, але і намесьнікам старшыні Савету народных камісараў СССР — куратарам «Дзяржбуду». Калі ў 1946 годзе Сталін даручыў Бэрыю арганізацыю і выкананьне новага сакрэтнага праекту ў галіне архітэктуры — пабудову ў Маскве васьмі хмарачосаў для падтрыманьня прэстыжу СССР у вачах іншаземцаў, то з усіх членаў камісіі, што вырашала будучыню Менску, сярод аўтараў тых «высотак» аказаўся толькі Мардвінаў.

Тэкст падпісанага маскоўскай камісіяй дакумэнту пад назвай «Основные соображения о планировке и восстановлении города Минска» сьведчаць пра яго выключна ідэалягічны і заказны характар. З васьмі старонак тэксту толькі 10 радкоў на першай старонцы гавораць пра Менск як пра заходні горад. Астатні тэкст прысьвечаны задачы... архітэктурна-пляніровачнай і будаўнічай ліквідацыі гэтага заходняга аблічча беларускай сталіцы:

*«До Великой отечественной войны... скученность застройки, особенно в центральной части города, не позволила провести радикальных мероприятий по реконструкции сложившегося средневекового плана города в соответствии с требованиями современного столичного города и его*

252 Hugh D. Hudson, Jr. Blueprints and Blood: The Stalinization of Soviet Architecture, 1917-1937. Princeton: Princeton: Princeton University Press, 1994. C. 152–153.

*санитарного оздоровления путем проветривания и аэрации... С точки зрения их ширины большинство улиц города не удовлетворяло ни архитектурным, ни транспортным требованиям*»[253].

Менавіта гэтыя словы і гэтыя аргумэнты пра вузкія і крывыя вуліцы ды іх неадпаведнасьць транспартным патрабаваньням пазьней шматкроць паўтараліся ў пасьляваенных генплянах Менску.

Цяжка паверыць, што архітэктары старой школы Колі і Шчусеў ня ведалі, што для любога эўрапейскага гораду азначае цэнтральны рынкавы пляц з ратушай, і не разумелі, чым для Менску зьяўляецца амаль цалкам захаваная на той момант Плошча Свабоды. Акадэмік Колі падчас побыту ў Менску нават зрабіў шэсьць малюнкаў розных фрагмэнтаў менскай каталіцкай катэдры, зь любоўю выводзячы на іх барокавыя архітэктурныя дэталі помніка. Тым ня менш абодва акадэмікі паставілі свае подпісы пад тэкстам, дзе да асноўных недахопаў Менску адносілася і «отсутствие архитектурно-выраженного общественного центра... в соответствии с требованиями, предъявляемыми к крупному столичному городу»[254].

Далей дакумэнт утрымліваў інструкцыю:

*«Город Минск должен быть восстановлен как современный столичный центр одной их крупнейших союзных республик. Для этого, прежде всего, должен быть создан ярко выраженный общественно-административный центр, на котором будут сооружены лучшие монументальные здания города. В этих*

253 БДАНТД, ф. 3, воп. 1, спр. 1, арк. 171, 171 аб.

254 Тамсама, арк. 171 аб.

*целях должны быть использованы разрушенные кварталы центральной части...»*[255]

Зададзены тады альгарытм дзейнічаў наступныя 30 гадоў — ва ўсіх наступных генплянах канстатавалася адсутнасьць «ярко выраженного центра» і прадугледжваліся ўсё новыя і новыя крокі дзеля стварэньня такога цэнтру. Аж пакуль Менск не набыў свой сёньняшні выгляд. Дарэчы, і сам генплян Менску 1946 году і ўсе яго наступныя мадыфікацыі былі створаныя ў выніку «настойлівай рэкамэндацыі» маскоўскай камісіі:

*«Разработка проекта генерального плана города Минска должна вестись на месте под контролем и с участием Комиссии Комитета по Делам Архитектуры при СНК СССР...»*[256]

Як верныя выканаўцы волі савецкага дыктатара маскоўскія акадэмікі павінны былі ў «Основных соображениях» азначыць і тагачасныя архітэктурныя густы і запатрабаваньні Сталіна — а менавіта яго пагарду да «ўпадніцкага» і «дэкадэнцкага» канструктывізму і яго запазычанае ў нацыстаў замілаваньне рэнэсансам і ампірам. Акадэмікі зрабілі гэта мімаходзь, але адначасова рашуча і настойліва:

*«Большинство монументальных зданий* (да вайны — С. А.) *было выстроено в упрощенных архитектурных формах... Архитектура города должна быть полноценной, добротной, художественной по значимости, использующей... мировое наследие классики...»*[257]

255 Тамсама, арк. 171 аб., 172.
256 Тамсама, арк. 174.
257 Тамсама, арк. 171 аб., 172 аб.

А галоўная ідэалягічная задача, якую Крэмль і асабіста маскоўскі валадар вырашалі пры зносе старога Менску і пабудове беларусам новай сталіцы, у тэксьце была выяўлена гэткім чынам:

*«Исторически сложившаяся центральная часть города, используя огромные разрушения в ней, произведенные немецкими оккупантами, решается как центр столичного города путем создания системы площадей, включая в нее также и площадь Свободы.*

*Для развития основного центра используется территория 2-х кварталов, расположенных между улицами Ленина и Энгельса, вплоть до Советской улицы. Эта система центральных площадей должна быть связана с Домом Правительства и вокзалом реконструируемой Советской улицей...*

*Архитектура и общее композиционное решение должно отобразить героическую борьбу белорусского народа с немецко-фашистскими захватчиками. В соответствии с этим центр решается в виде обширной озелененной эспланады, украшенной памятниками, фонтанами и т. п. сооружениями. Здесь должен быть сооружен монумент, посвященный героической борьбе белорусского народа за освобождение своей родины от оккупантов. По обеим сторонам площади располагаются здания СМ БССР, Верховного Совета БССР, а также музей Отечественной войны, Пантеон героям партизан Белоруссии и т. п...*

*Восстановленная из пепла и развалин столица Белоруссии Минск будет символом счастливой жизни процветающего героического народа»*[258].

---

258 Тамсама, арк. 172 аб., 173, 174 аб.

Як бачым, далей беларусам належала толькі жыць і замілоўвацца сваім подзьвігам падчас вайны, і больш нічога — ніякай іншай памяці, ніякай іншай гісторыі.

Усе гэтыя пляны зь невялікімі карэктывамі былі рэалізаваныя. Пляц зьмясьцілі ўбок, на былы Новы рынак і вуліцу Камуністычную са зносам дамініканскага кляштару і палацу Сапегаў — Кастрычніцкая плошча, як вядома, раней называлася Цэнтральнай. Пабудавалі на ёй і гмах будучага музэю Вялікай айчыннай вайны, а пасьля дадалі і пачварны Палац рэспублікі. А манумэнт перамогі проста аднесьлі трохі далей — на Круглую плошчу, павялічыўшы такім чынам цэнтральную сакральна-ідэалягічную прастору.

Важна таксама, што менавіта ў гэтым сакрэтным дакумэнце акадэмікі ўпершыню назвалі вызначаную ў Маскве лічбу менскіх разбурэньняў — 80 працэнтаў[259]. Пасьля гэтая лічба пачынае цыркуляваць у архітэктурных колах і прапагандысцкіх тэкстах. Важна таксама, што менавіта ў «Основных соображениях» прадугледжвалася і стварэньне цэнтралізаванай структуры, якая будзе разьбіраць на будаўнічы матэрыял старыя менскія кварталы — сумнавядомага «Трэсту разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў»[260].

Усё гэта прымушае думаць, што маскоўскія акадэмікі падпісалі дакумэнт, асноўныя палажэньні якога былі распрацаваныя ў нетрах НКВД СССР і даведзеныя да іх ведама кіраўніком камісіі — пад-

259 Тамсама, арк. 171 аб.
260 Тамсама, арк. 174.

началеным Бэрыі, начальнікам Упраўленьня па справах архітэктуры пры СНК СССР Анатоліем Мардвінавым.

Падчас паседжаньняў камісіі акадэмік Аляксей Шчусеў прапаноўваў захаваць у Менску вуліцу Савецкую, цьвердзячы, што дамы XIX стагодзьдзя на ёй маюць вялікую мастацкую вартасьць[261]. Але гэтая прапанова падтрыманая не была. Ланцужок Сталін-Бэрыя-Мардвінаў дзейнічаў выключна ў інтарэсах нэаклясыцызму, а шыкоўныя прыклады эклектыкі і рэтраспэктыўных стыляў у архітэктуры дамоў на Захараўскай-Савецкай густам Сталіна і яго памагатых не адпавядалі. У 1946 годзе Шчусеў быў адпраўлены на пэнсію і заняўся стварэньнем Музэю архітэктуры ў Маскве, які цяпер носіць ягонае імя.

Гісторыкі ведаюць, што Бэрыя пасьля вайны захапіўся архітэктурай, лічыў сябе спэцыялістам, ганарыўся сваёй роляй у шэрагу праектаў, у тым ліку ў пабудове маскоўскіх хмарачосаў, і сувязямі з архітэктурнай грамадзкасьцю. Ужо пасьля арышту, на ліпеньскімі пленуме ЦК КПСС у 1953 годзе, яму сярод іншага закідалі, што шмат архітэктараў-будаўнікоў зь яго ініцыятывы атрымалі прэміі і дзяржаўныя ўзнагароды[262].

261 Гл.: Чернатов В. Цыт. тв. С. 62.

262 Лаврентий Берия. 1953. Стенограмма июльского пленума ЦК КПСС и другие документы. С. 80.

## Падабенства лёсаў Кіева і Менску

Гісторыя з разбурэньнем гістарычнага цэнтру Менску і маскоўскімі хмарачосамі — даволі яскравае сьведчаньне непасрэднага ўдзелу НКВД СССР і яго кіраўніка Лаўрэнція Бэрыі ў вырашэньні важных пытаньняў савецкай архітэктуры і горадабудаўніцтва. НКВД разбураў і будаваў — у залежнасьці ад патрэбаў правадыра і галоўнага архітэктара СССР І. В. Сталіна.

Але ў Менску быў і «брат па няшчасьці». Гэта — сталіца Ўкраіны Кіеў.

Калі ў 1938 годзе Сталін прызначаў Мікіту Хрушчова на пасаду першага сакратара ЦК КП(б)У, ён забараніў Хрушчову займацца пытаньнямі архітэктуры і будаўніцтва ва Ўкраіне:

*«Я по существу был согласен со Сталиным и принимал его указание как должное. Авторитет Сталина тогда для меня был всем! Потому на Украине я меньше занимался вопросами строительства и менее общался с архитектурно-строительным миром ее городов»*[263].

Гэтае прызнаньне Хрушчова — найяскравейшае сьведчаньне асабістага зацікаўленьня і асабістай улучанасьці Сталіна ў справу рэканструкцыі сталіцы брацкага беларусам народу, у нацыянальным задушэньні якога ён таксама быў вельмі зацікаўлены. У гэтай справе Сталін давяраў толькі Бэрыю і НКВД.

У выніку пасьля вайны выявілася, што цэнтры Кіева і Менску спасьцігла аднолькавая бяда. У Кіе-

263 Хрущев Н. Воспоминания. С. 371.

ве быў цалкам разбураны гістарычны Храшчацік. (Пра тое, як гэта адбылося, чытач ужо ведае.) А вось як пасьля вайны пра гэта пісаў савецкі лётчык Арсені Варажэйкін:

*«С Владимирской горки мы спустились на Крещатик. Разрушения, страшные разрушения, увидели мы. Груды камня и щебня. Ни одного уцелевшего дома. Гнетущее зрелище. Сколько гитлеровцы оставили на земле горя! Отстроятся заново города и села, еще краше будет Крещатик, встанут из руин заводы и фабрики, ярче зацветут сады и поля — все сделают человеческие руки. Только раны в человеческих сердцах, нанесенные войной, никогда не зарубцуются»*[264].

Як бачым, дакладна тыя самыя словы, якімі іншыя аўтары апісвалі разбурэньні ў беларускай сталіцы. Але і тыя, і тыя, натуральна, не зьвярталі ўвагі на адзін «невялікі» нюанс. І ў Кіеве, і ў Менску нямецкія бамбавікі «чамусьці» не пацэлілі ў асноўныя адміністрацыйныя будынкі, якія не зьяўляліся гістарычнымі помнікамі, а былі проста дыхтоўна пабудаваныя да вайны для кіруючых органаў Украіны і Беларусі, а нямецкія сапёры перад адыходам са сталіцаў «чамусьці» не пасьпелі іх падарваць. У Менску цэлымі засталіся Дом Ураду і будынак ЦК КПБ. У Кіеве — тое самае. Слова Мікіту Хрушчову:

*«...Некоторые довоенные постройки уцелели (дом Совета Министров УССР...) Было построено также здание для командования войск Киевского Особого военного округа. Потом там размещался ЦК Коммунистической партии Украины. Эти дома сохра-*

264 Ворожейкин А. Рассвет над Киевом. Масква, 1966. С. 179.

*нились целыми, только на некоторых этажах в них выгорел паркет. В целом же Крещатик и площадь Хмельницкого были разрушены. Особенно жалел я здания университета с его сгоревшей библиотекой... Разбитый Крещатик меня сокрушил. Я каждый день, проезжая мимо, смотрел на его руины»*[265].

Але, пішучы пра разбурэньне Храшчаціку падчас вайны, Мікіта Хрушчоў зрабіў і яшчэ больш значнае прызнаньне:

***«Я так и не смог разобраться, кто там взрывал и поджигал*** (вылучэньне маё — С. А.)**.** *Немцы заявляли, что это делали оставшиеся в городе партизаны. Таких заданий партизанам никто не давал, и я полагаю, что это была проделка гестаповцев, которые пытались направить гнев рядовых граждан против партизан»*[266].

Член палітбюро ЦК ВКП(б), першы сакратар ЦК КП(б)У прызнаецца ў тым, што так і не даведаўся, хто арганізаваў выбухі ў гістарычнай частцы гораду перад прыходам Чырвонай арміі!! Зрэшты, магчыма, што Хрушчоў, пішучы мэмуары ў статусе пэнсіянэра, баяўся гаварыць праўду. Калі ж ня ведаў сапраўды, дык і гэта дадатковы аргумэнт на карысьць цьверджаньня, што там дзейнічалі людзі Бэрыі.

А ўжо пасьля, падчас рэканструкцыі Кіева, «высьветлілася» што гістарычны Храшчацік, як і менскія вуліцы, быў занадта вузкі і не адпавядаў «требованиям, предъявляемым к крупному столичному городу»:

---

265 Хрущев Н. Воспоминания. С. 372.
266 Тамсама.

*«Расширяя Крещатик, мы сделали проезжую часть более свободной, а тротуары раздвинули, особенно тот, который идет от Днепра к западу, левее проезжей части. Там соорудили дорожки, поставили скамейки, завели цветники, а потом и хорошие насаждения, посадив липы, каштаны и немного рябины...»*[267]

Сёньня Храшчацік паводле стылістыкі мала адрозьніваецца ад галоўнай вуліцы Менску.

Адначасова з актыўным удзелам у «аднаўленьні» гарадоў НКВД займаўся і рэпрэсіямі, г. зн. (у літаральным перакладзе) задушэньнем народаў, культур і асобных пластоў грамадзтва. Бэрыя быў высокім прафэсіяналам гэтай справы. У 1943–1944 гадах ён кіраваў апэрацыямі па высяленьні зь месцаў іх пражываньня шэрагу народаў СССР, абвінавачаных у калябарацыі — чачэнцаў, інгушаў, карачаеўцаў, балкарцаў, калмыкаў, крымскіх татар, мэсхетынскіх туркаў, курдаў ды іншых. 8 мільёнаў жыхароў Беларусі выселіць было немагчыма, таму тут рэпрэсаваліся, г. зн. душыліся нацыянальная культура і памяць уключна зь іх матэрыяльнымі сьведчаньнямі.

Вось адзін яскравы факт. Адразу пасьля вайны ў складзе Ўпраўленьня па справах архітэктуры пры СНК БССР быў створаны Аддзел аховы помнікаў. Аддзел імкнуўся рамантаваць і ахоўваць помнікі архітэктуры ў межах рэспублікі, але не валодаў для гэтага дастатковымі кадравымі і матэрыяльнымі рэсурсамі. У 1949 годзе аддзел абвясьціў адкрыты конкурс на складаньне эскізнага праекту рэстаўра-

267 Тамсама. С. 374.

цыі і рэканструкцыі вежы езуіцкага калегіюму на Плошчы Свабоды, якую тады называлі «Мінская гарадзкая вежа»[268]. У лістападзе 1949 году з друку выйшаў буклет з праграмай і ўмовамі конкурсу, складам журы ды іншай неабходнай інфармацыяй. Архітэктары рэспублікі прыступілі да складаньня праектаў рэстаўрацыі, у кулюарах пачаліся спрэчкі аб аптымальнай колькасьці ярусаў і форме купала, але ў 1952 годзе вежу нечакана і без тлумачэньня прычынаў... зьнесьлі.

Пішучы пра гэты выпадак і пра справу зь няўдалай арганізацыяй у тагачаснай Беларусі рэстаўрацыйных майстэрняў, гісторык Расьціслаў Баравы заўважае:

«*Как и в случае с городской башней, соответствующие документы, освещающие процесс решения данного вопроса на государственном уровне, следует, видимо, искать в других архивных фондах*»[269].

Гэтае інтуітыўнае набліжэньне Баравога да ісьціны тым ня менш не прывяло яго да канкрэтных высноваў. Далей ён толькі заўважае, што

«*отсутствие (в течении 20 лет) единого центра по координации исследовательских, охранных и реставрационных работ в сфере культурного наследия нанесло непоправимый вред памятникам, сохранившимся после Великой Отечественной войны... Этот "культурно-правовой вакуум" развязал руки не только строительным управлениям, но и многочисленным сторонникам так называемых*

268 Боровой Р. Послевоенная реконструкция и восстановление Минска (История написанная и ненаписанная) // Архитектура и строительство. 2004. №2. С. 7–10.

269 Тамсама.

*простых решений — администраторам и, к сожалению, архитекторам»*[270].

Хто ж дапамог таму «вакууму» ўзьнікнуць? І хто ўзяў на сябе сьмеласьць зьнесьці помнік архітэктуры ў той час, калі ўрад БССР праводзіць конкурс на яго рэстаўрацыю? Хто ў тыя часы быў мацнейшы за галоўную архітэктурную ўправу пры СМ БССР? Адказ вельмі просты — НКВД-МГБ. Знос у 1952 годзе выдатнага помніка беларускага барока — Менскай гарадзкой вежы — цалкам укладаецца ў палітыку нацыянальнага задушэньня і помсты беларусам за калябарацыю часоў вайны, якую праводзілі ў тыя гады Масква і яе карныя органы НКВД-МГБ.

І сапраўды, дакумэнты аб гэтым трэба шукаць у іншых архівах — рэч у тым, што падчас акупацыі купал гарадзкой вежы зь бел-чырвона-белым сьцягам на ім быў... лягатыпам галоўнага органу беларускіх калябарантаў — «Беларускай газэты», якая была даволі папулярным сродкам масавай інфармацыі ў Беларусі часоў акупацыі. Вежа ў галовах тысяч людзей была сымбалем беларушчыны, а для НКВД-МГБ — сымбалем ненавіснага беларускага нацыяналізму і калябарацыі, які падлягаў зьнішчэньню.

Цікава, што падчас конкурсу на рэстаўрацыю вежы некаторыя архітэктары прапаноўвалі яе разбурыць і аднавіць наноў з новых трывалых матэрыялаў. Яшчэ больш цікава, што абгрунтоўваліся такія прапановы так сама, як і ў нашыя дні — нібыта «зношанасьцю» канструкцый і «ветхостью» будматэрыялаў. А вось сьведчаньні двух архітэкта-

270 Тамсама.

раў, якія падлеткамі назіралі за разбурэньнем вежы. Менскі архітэктар Ігар Байцоў згадвае:

«*Я нават бачыў, як яе хацелі паваліць, але не ўдавалася. Падчасалі адзін зь пілонаў і цягнулі гэтую вежу танкам з тросам*»[271].

Іншаму беларускаму архітэктару, Барысу Кадушыну, таксама запомнілася, як зьнішчалі выдатны помнік менскага барока:

«*Памятаю, як будучы яшчэ школьнікам другой альбо трэцяй клясы, калі я вучыўся на Рэвалюцыйнай вуліцы, гэтая зьнесеная вежа ляжала на рагу Рэвалюцыйнай. Яе быццам бы нейкім тросам узялі і сьцягнулі, ляжала яна так роўненька. Мне было так цікава — ляжыць такая цэлая, непашкоджаная вежа...*»[272]

Як бачым, пасьля падзеньня езуіцкая вежа нават не развалілася на кавалкі.

Гэтаксама як і вежу, ціха і без пратэстаў, пасьля вайны зьнішчылі два дамы Луцкевічаў, якія захаваліся на беразе Сьвіслачы ў раёне цяперашняга Купалаўскага сквэру (на іх месцы пабудавалі грамадзкую прыбіральню); дом акадэміка Ўсевалада Ігнатоўскага, пры якім аднойчы ў вайну сябры СБМ складалі прысягу (цяпер на яго месцы стаіць савецкі танк, што першым увайшоў у горад); выдатны помнік архітэктуры барока, касьцёл кляштару бэнэдыктынак на вуліцы Інтэрнацыянальнай, дзе ў 1942 годзе была абвешчаная аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай царквы (цяпер там будынак Генэ-

---

271 Гл.: http://www.svaboda.org/content/Transcript/1045683.html
272 Тамсама.

ральнай пракуратуры), і многія іншыя помнікі, у якіх НКВД-МГБ згледзеў ідэалягічную небясьпеку.

У органах, відаць, сядзелі «стылёвыя» людзі, бо злавесная сымболіка праглядаецца нават у тым, што на месцы зьнішчанага было пабудавана пасьля.

## Вялікая загадка менскай фотагісторыі

У гісторыі Менскай архітэктуры ёсьць адна вялікая загадка. У архівах і музэях Беларусі сабраныя тысячы фатаздымкаў Менску. Гэта выявы ня толькі вялікіх і прыгожых цэнтральных вуліц і пляцаў гораду, а таксама ўсіх значных будынкаў на іх, але і здымкі занядбаных ускраінаў — дзясяткі вуліц і завулкаў, незабрукаваных, брудных, залітых вадой, забудаваных амаль звычайнымі вясковымі хатамі са згнілымі стрэхамі і пахілымі платамі, са старымі студнямі і «калёнкамі-вадакачкамі».

Сфатаграфаваныя ўсе дарэвалюцыйныя прадпрыемствы гораду, галоўныя грамадзкія і дзяржаўныя ўстановы, рынкі, клюбы, сквэры і паркі, фантаны, ускраінныя шляхецкія сядзібы, гіпадром, вакзал, тэатры і гатэлі. Сфатаграфаваныя дамы рамесьнікаў зьмешанай, муравана-зрубнай канструкцыі, пасёлкі працаўнікоў Лібава-Роменскай чыгункі, драўляныя татарскія дамы і шыкоўныя мураваныя культавыя помнікі, усе гарадзкія шпіталі і кляштары. У інтэр’еры і экстэр’еры. Сотні і сотні здымкаў.

Няма толькі ніводнага (!) здымку самых старых цэнтральных менскіх вуліц Замкавай, Падзамкавай, Завальнай, Нова-Мясьніцкай і Стара-Мясьніцкай

(Старазамкавай) — вузкіх, крывых, эўрапейскіх, з каменным брукам, забудаваных 2-3-4-павярховымі мураванымі дамамі, некаторыя зь якіх у 1920-я гады яшчэ былі накрытыя дахоўкай, з трамвайнымі рэйкамі і ліхтарамі. Іншымі словамі, няма зробленых да вайны фотавыяваў месца, адкуль Менск пачынаўся, самога сэрца Старога гораду — унутранай тэрыторыі Замчышча з вышэйназванымі вуліцамі. Дзе ж тыя здымкі, няўжо ніхто ніколі іх не зрабіў? Ці магчыма гэта?

У жніўні-верасьні 1938 году архіўная сетка Беларусі была перададзеная ў склад НКВД. Цэнтральнае архіўнае ўпраўленьне было ператворанае ў архіўны аддзел НКВД, а абласныя архіўныя ўпраўленьні — у архіўныя аддзелы абласных упраў НКВД. Вобразна кажучы, савецкія архівісты «атрымалі пагоны» і на доўгі час сталі супрацоўнікамі самага страшнага і злавеснага ведамства СССР, дзе любыя, нават самыя неверагодныя і жорсткія загады не абмяркоўваліся, а выконваліся хутка, якасна і безь пярэчаньняў.

У сакавіку 1941 году ў сыстэме НКВД БССР у Менску ствараецца Цэнтральны архіў кінафотафонадакумэнтаў. Беларускія архівы знаходзіліся ў складзе НКВД-МУС да сакавіка 1960 году — г. зн. 22 гады. Але і пасьля вываду з сыстэмы органаў унутраных спраў у кіраўнічым складзе архіўных упраўленьняў рэспублікі і абласьцей застаюцца структуры, якія надалей вырашаюць, што накіроўваць у сакрэтныя фонды — так званыя спэцхраны, а што — не.

Зразумела, што калі НКВД займаўся архітэктурнымі праектамі, арганізоўваў выкананьне ідэяў і

пажаданьняў Сталіна аб стварэньні новага аблічча гарадоў СССР, у тым ліку Менску, ён, натуральна, ня мог не заняцца і фатаздымкамі. Выявы менскага Старога гораду сьведчылі ня толькі пра эўрапейскае мінулае беларусаў, але і пра злачынства тых, хто Стары горад канчаткова разбурыў.

Засакрэчваньне здымкаў і іх наступная ліквідацыя маглі забясьпечыць неабходны ідэалягічны грунт для выкананьня як зьнешнепалітычных задачаў СССР (ААН, рэпарацыі, прапаганда), так і ўнутрыпалітычных — а менавіта, нацыянальнага аслабленьня і задушэньня беларусаў.

Ведаючы, як палілі творы беларускіх пісьменьнікаў у двары ўнутранай турмы НКВД у Менску, як разьбівалі кувалдамі працы ўкраінскіх скульптараў у Нацыянальным музэі ў Львове і як падрывалі менскія кварталы ў ліпені 1944 году, можна меркаваць, што і выявы Старога гораду (прынамсі тыя, што існавалі на тэрыторыі СССР), ніколі ня будуць знойдзеныя. Іх магла спасьцігнуць тая самая доля, што і многае іншае, спаленае, зьнішчанае, зьнесенае, падарванае і раструшчанае энкавэдзістамі ў іх мэтадычнай працы для задушэньня нацыянальных ускраінаў і ліквідацыі помнікаў іх матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Апэрацыі па кансалідацыі і ліквідацыі ўсяго комплексу здымкаў Старога гораду маглі быць праведзеныя НКВД у другой палове 40-х гадоў, балазе, архівы ўваходзілі ў яго ўласную структуру.

Зрэшты, засакрэчаныя ў 40-я гады здымкі менскага Старога гораду могуць і ў нашы дні захоўвацца ў маскоўскіх спэцхранах. І вось чаму.

У няспынным працэсе пасьляваеннага нацыянальнага задушэньня ўскраінаў СССР у сакавіку-чэрвені 1953 году наступіла нечаканая паўза. І зьвязаная яна была зь імем усё таго самага Лаўрэнція Бэрыі. У сьнежні 1945 году Бэрыя быў вызвалены ад абавязкаў наркама ўнутраных спраў СССР — ад жніўня 1945-га ён быў кіраўніком Асобага камітэту, які займаўся распрацоўкай атамнай і вадароднай зброі, ад сакавіка 1946-га стаў членам Прэзыдыюму ЦК ВКП(б), а таксама выконваў іншыя, асабліва далікатныя і сакрэтныя даручэньні правадыра.

У дзень сьмерці Сталіна, 5 сакавіка 1953 году, адбылося супольнае пасяджэньне Пленуму ЦК КПСС, Савету міністраў СССР і Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР. На ім было прынятае рашэньне аб аб'яднаньні МГБ СССР і МУС СССР у адно Міністэрства ўнутраных спраў СССР, на чале новага супэрведамства стаў Лаўрэнцій Бэрыя, адначасова ён заняў і пасаду першага намесьніка старшыні Савету міністраў СССР.

Пры гэтым абавязкі куратара савецкіх сакрэтных праектаў з Бэрыі ня толькі не былі зьнятыя, але дадаліся яшчэ і новыя — на яго ўсклалі «кіраваньне ўсімі спэцыяльнымі працамі па атамнай прамысловасьці, сыстэмамі "Беркут" і "Камета" і ракетамі далёкага дзеяньня»[273].

А далей пачаліся нечаканыя падзеі. Бэрыя стаў надзвычай актыўна і наступальна працаваць у галіне ўнутранай і зьнешняй палітыкі. Ён вы-

273 Лаврентий Берия. 1953. Стенограмма июльского пленума ЦК КПСС и другие документы. С. 403.

ступіў зь ініцыятываю прыняцьця многіх важных і незвычайных для тагачаснага СССР рашэньняў. Памочнікі з сакратарыяту Бэрыі адзін за адным нараджалі праекты пастановаў Прэзыдыюму ЦК, а Бэрыя ўмела арганізоўваў іх прыняцьце.

Пачаліся масавыя рэабілітацыі рэпрэсаваных, справы якіх былі сфальшаваныя ў пэрыяд, калі Бэрыя не кіраваў НКВД. Шмат хто пачаў вяртацца з ГУЛАГу. Бэрыя прапанаваў Прэзыдыюму ЦК КПСС скасаваць пашпартныя абмежаваньні і рэжымныя вобласьці ў СССР, пачаў размовы аб правядзеньні новай эканамічнай палітыкі, якую пазьней Хрушчоў назаве «адмовай ад сацыялізму», і аб магчымым аб'яднаньні дзьвюх нямецкіх дзяржаваў[274]. Бэрыя выступаў за аслабленьне кантролю Масквы над краінамі так званага сацыялістычнага лягеру.

Але найбольш шырока і пасьлядоўна Бэрыя заняўся распрацоўкай новай нацыянальнай палітыкі ў СССР. 26 траўня 1953 году ён ініцыяваў прыняцьце пастановы Прэзыдыюму ЦК КПСС аб палітычным і гаспадарчым стане заходніх абласьцей Украінскай ССР, а 12 чэрвеня 1953 году — пастановы Прэзыдыюму ЦК КПСС аб становішчы ў Беларускай ССР[275].

Зьмест гэтых дакумэнтаў быў нечуваны — у іх крытыкавалася насаджэньне расейскай мовы і расейскіх кадраў у названых рэспубліках і зьмяшчаліся заклікі да апоры на нацыянальныя кадры і пашырэньня сфэры ўжываньня ўкраінскай і бела-

274 Тамсама. С. 97.
275 Тамсама. С. 46, 49.

рускай моваў. Першыя тры пункты пастановы па Беларусі гучалі так:

*«1. Освободить т. Патоличева Н. С. от обязанностей первого секретаря ЦК КП Белоруссии, отозвав его в распоряжение ЦК КПСС.*

*2. Рекомендовать первым секретарем ЦК КП Белоруссии т. Зимянина М. В., члена ЦК КПСС, бывшего второго секретаря ЦК КП Белоруссии, освободив его от работы в Министерстве иностранных дел СССР.*

*3. Обязать ЦК КП Белоруссии выработать необходимые меры по исправлению отмеченных извращений и недостатков и обсудить их на Пленуме ЦК КП Белоруссии»*[276].

Мікіта Хрушчоў успамінаў:

*«Следующая записка Берии касалась прибалтов, потом Белоруссии. И все — той же направленности. В его предложениях далеко не все было неправильно. ЦК КПСС и сам к тому времени взял курс на выдвижение национальных кадров. И мы приняли решение, что в республиках пост первого секретаря ЦК должен занимать местный человек, а не присланный из Москвы русский.*

*Вообще же у Берии имелась антирусская направленность. Он проповедовал, что на местах царит засилье русских, что надо их осадить. Так все и поняли и начали громить не только русские, но и национальные кадры, которые не боролись с русским "засильем". Это произошло во многих партийных организациях национальных республик...*

---

276 Тамсама.

*Он поставил этот вопрос под резким углом антирусской направленности в выращивании, выдвижении и подборе кадров. Он хотел сплотить националов и объединить их против русских»*[277].

А далей — болей. Згаданыя пастановы сталіся толькі падставай для далейшых дзеяньняў. Хутка быў зьняты з пасады першы сакратар ЦК кампартыі Ўкраіны Леанід Мельнікаў. На чарзе быў першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі Мікалай Патолічаў. Для яго замены ў Менску 25 чэрвеня 1953 году быў скліканы пленум ЦК КПБ. Вытрымкі з матэрыялаў таго пленуму і фрагмэнты ўспамінаў удзельнікаў у беларускім друку ўпершыню зьявіліся толькі ў 1990 годзе[278].

Напярэдадні пленуму за сьпінаю Патолічава на загад Масквы адказныя супрацоўнікі ЦК КПБ пачалі апрацоўваць абласных і раённых партыйных сакратароў, асобна размаўлялі з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку зь Якубам Коласам.

Незадоўга да пленуму Бэрыя пазваніў Міхаілу Зімяніну, які на той час, пакінуўшы пасаду другога сакратара ЦК КПБ, каля двух месяцаў працаваў у Маскве ў МЗС СССР. Намесьнік старшыні Савету міністраў СССР пацікавіўся, ці размаўляе Зімянін па-беларуску і паведаміў яму аб плянах прапанаваць яго на пасаду першага сакратара беларускага ЦК. Зімянін паехаў у Менск, маючы з сабой тэкст

277 Хрущев Н. Воспоминания. С. 274, 280.

278 Гл.: Лукашук А. Жаркое лето 53-го // Коммунист Белоруссии. 1990. №7, 8.

узгодненага з Бэрыям і яго апаратам дакладу на пленуме ЦК КПБ.

На пленуме Зімянін выступіў з рэзкай крытыкай палітыкі партыйнага кіраўніцтва Беларусі ў нацыянальным пытаньні, асабліва ў заходніх абласьцях БССР. Ён заявіў, што сярод партыйных і савецкіх кіраўнікоў там пераважаюць небеларусы — з 1175 партыйных чыноўнікаў беларусаў толькі 121 чалавек; з 1408 супрацоўнікаў аблвыканкамаў мясцовымі беларусамі былі толькі 114, з 321 супрацоўніка гарвыканкамаў мясцовых было толькі 25 чалавек[279].

Асабліва рэзка Зімянін гаварыў аб становішчы ў органах НКВД-МУС: у цэнтральным і абласных апаратах МУС беларусаў — адзінкі, з 173 начальнікаў райаддзелаў МУС беларусаў было толькі 33; у заходніх абласьцях з 840 апэратыўных супрацоўнікаў органаў МУС мясцовых ураджэнцаў толькі 17 чалавек; у органах міліцыі заходніх абласьцей з 150 кіраўнікоў беларусам быў толькі 1, а з 92 начальнікаў гаррайаддзелаў міліцыі ўраджэнцаў заходніх абласьцей было толькі 5[280].

Далей Зімянін перайшоў да пытаньня мовы друку, мовы выкладаньня ў школах і мовы працы партыйных і савецкіх органаў улады. Назваўшы незадавальняючыя лічбы суадносінаў накладу расейскіх і беларускіх газэтаў і часопісаў, колькасьці расейскіх і беларускіх школаў, Зімянін адназначна заявіў, што справаводзтва партыйных і савецкіх органаў павінна быць неадкладна пераведзена на

279 Зенькович Н. Чья Белоруссия? (Границы, споры, обиды) Масква, 2002. С. 151.
280 Тамсама. С. 151–152.

беларускую мову; на гэтай мове павінны абслугоўваць насельніцтва ўстановы культуры і гандлю[281].

А тыя, — сказаў Зімянін, — хто за гады працы ў Беларусі ня змог або не захацеў вывучыць беларускую мову, атрымаюць магчымасьць перавесьціся ў адпаведныя рэспублікі і вобласьці СССР[282].

Ухвальныя выступы ўдзельнікаў пленуму з падтрымкай ідэі неадкладнай беларусізацыі і крытыкай ранейшых парадкаў пачаліся адразу пасьля выступу маскоўскага пасланца ў поўнай адпаведнасьці з традыцыямі тых часоў.

Тым ня менш кідаецца ў вочы, што адназначна падтрымалі Зімяніна менавіта этнічныя беларусы зь ліку партыйнай намэнклятуры. Большасьць удзельнікаў прамаўлялі па-беларуску. Даклад горача падтрымалі першы сакратар Палескага абкаму Ўладзімер Лабанок, першы сакратар Берасьцейскага абкаму Ціхан Кісялёў, першы сакратар Менскага гаркаму Іван Варвашэня і многія іншыя выступоўцы.

Варвашэня, паведаміўшы, што ў Менску на той момант па-беларуску навучаліся толькі 15% вучняў, заклікаў скасаваць практыку, калі выпускнікі беларускіх школ здаюць выпускны экзамэн з расейскай мовы і літаратуры, а выпускнікі расейскіх школаў — зь беларускай мовы і літаратуры — не[283].

Варвашэня таксама заклікаў вярнуць выкладаньне па-беларуску ў БДУ, дзе, паводле яго, да 1941 году па-беларуску чыталіся курсы матэматычнага

281 Тамсама. С. 152.
282 Тамсама. С. 153.
283 Лукашук А. Жаркое лето 53-го // Коммунист Белоруссии. 1990. №8. С. 77.

аналізу, дыфэрэнцыяльных вылічэньняў, агульнай фізыкі, асноў дарвінізму, анатоміі і марфалёгіі расьлін, а да 1946 году — курсы аналітычнай і дыфэрэнцыяльнай геамэтрыі[284].

Кісялёў казаў:

*«Можна не сумнявацца, што чарговыя пленумы абкамаў партыі, таксама як і гэты пленум ЦК, будуць праходзіць на беларускай мове, і таксама, як і ў ЦК, будзе весьціся і справаводзтва на беларускай мове. І калі мы пачнем практычна карыстацца беларускай мовай, будзем пісаць і размаўляць па-беларуску, і ў школах зьменяцца адносіны да беларускай мовы, і гэты недахоп або, больш правільна, памылкі ў гэтых пытаньнях будуць ліквідаваныя»*[285].

Гэтыя падзеі так уразілі расейца Патолічава, што ў сваіх успамінах, апісваючы сытуацыю на пленуме, ён працытаваў кавалак Зімянінавага дакладу, зробленага яшчэ перад пленумам, на паседжаньні Бюро ЦК КПБ, і паставіў у адпаведным месцы клічнік:

*«Конечно, сейчас русским труднее будет работать в Белоруссии, не все они хорошо знают белорусский язык. Русские товарищи во многом помогли нам, белорусам. Земной поклон им за это. А сейчас, кому из них будет очень трудно, мы им поможем переехать (!) в другое место»*[286].

Цяжка меркаваць, як бы разгортвалася гісторыя Беларусі пасьля гэтага пленуму, але перамагчы Бэрыі наканавана не было. 26 чэрвеня, на другі дзень працы пленуму ЦК у Менску, Бэрыя быў

284 Тамсама.
285 Цыт. паводле: Зенькович Н. Цыт. тв. С. 161.
286 Цыт. паводле: Зенькович Н. Цыт. тв. С. 178.

арыштаваны спэцыяльна выкліканай групай вайскоўцаў на чале з маршалам Г. Жукавым.

Партыйнае кіраўніцтва СССР, найперш Малянкоў і Хрушчоў, баючыся, што Бэрыя за гады працы ў НКВД назапасіў дастаткова кампрамэтуючага матэрыялу аб іх удзеле ў рэпрэсіях, а таксама апасаючыся падрыву вядучай ролі Расеі і расейскага народу ў СССР, нанесла па сваім канкурэнце ў бойцы за ўладу прэвэнтыўны ўдар.

Бэрыя быў пасаджаны ў адзін з маскоўскіх бункераў і праседзеў там паўгода. 23 сьнежня 1953 году Спэцыяльная судовая калегія Вярхоўнага суду СССР пад старшынствам маршала І. Конева прысудзіла былому наркаму НКВД найвышэйшую меру пакараньня, і ў той самы дзень у тым самым бункеры яго расстралялі.

У дзень арышту Бэрыі ў партыйнага кіраўніцтва Беларусі з ініцыятывы Масквы адбылося некалькі размоваў з Хрушчовым і Малянковым. У выніку пленум у Менску даў задні ход і скончыўся 27 чэрвеня без асаблівых вынікаў — Патолічава пакінулі на пасадзе першага сакратара ЦК КПБ, Зімяніна рэкамэндавалі на пасаду Старшыні Савету міністраў БССР (адмовіўся — С. А.), а беларусізацыя так і не пачалася.

Тым ня менш некаторыя зрухі ўсё ж былі: вядома, напрыклад, што першы сакратар ЦК КПБ Кірыла Мазураў у канцы 50-х гадоў вёў пленумы ЦК па-беларуску — ён таксама ўдзельнічаў у чэрвеньскім пленуме ў рангу першага сакратара Менскага абкаму.

Можна не сумнявацца, што не апошнім матывам дзеяньняў Хрушчова і Малянкова была якраз

іх як расейцаў нязгода з аслабленьнем кантролю Масквы над нацыянальнымі ўскраінамі. Недарэмна на тэрмінова скліканым для асуджэньня «варожай дзейнасьці» Бэрыі пленуме ЦК КПСС 2 ліпеня 1953 году Малянкоў і Хрушчоў неадкладна прапанавалі скасаваць пастановы Прэзыдыюму ЦК па Ўкраіне, Беларусі, Латвіі і Літве.

Вось вытрымка з прамовы Хрушчова паводле стэнаграмы пленуму:

*«Товарищи, решения, которые мы приняли по Западной Украине, Белоруссии, Литве и Латвии, — товарищ Маленков по этому вопросу говорил, и я полностью согласен с этим, — нам надо отозвать эти записки. Надо центральным комитетам и областным комитетам посмотреть более внимательно. Может быть, даже придется коррективы в свои решения внести»*[287].

Пра кароткі пэрыяд узвышэньня Бэрыі ў сакавіку-чэрвені 1953 году, які можна было б назваць «бэрыеўскай адлігай», напісана даволі шмат, але ніхто з аўтараў тых прац не задаўся пытаньнем, чаму Бэрыя для дасягненьня сваіх вузкаэгаістычных мэтаў захопу ўлады выбраў менавіта нацыянальныя паслабленьні ў «турме народаў»?

Мне адказ здаецца відавочным. Займаючыся, паводле пасады, шматгадовым задушэньнем нацыянальных культураў у СССР, асабліва беларускай і ўкраінскай, і вынішчэньнем нацыянальнага супраціву на ўскраінах Савецкага Саюзу, Бэрыя, можа, як ніхто іншы ў савецкім кіраўніцтве, ведаў

287 Лаврентий Берия. 1953. Стенограмма июльского пленума ЦК КПСС и другие документы. С. 96.

магутную, невынішчальную сілу нацыянальных пачуцьцяў; ведаў, якая містычная, надпрыродная энэргія хаваецца ў душы кожнага народу.

У другой палове 40-х гадоў на хвалі перамогі ў вайне ў Савецкім Саюзе якраз пачалася новая магутная хваля русыфікацыі — пачалося, тое, што Аляксандар Салжаніцын назваў

*«...Ідыёцкім, сьмехатворным узвышэньнем расейскага "першынства" ва ўсіх, усіх галінах навукі, тэхнікі і культуры»*[288].

Бэрыя добра ведаў ня толькі пра ўзрослыя за часы акупацыі нацыянальныя пачуцьці і амбіцыі некаторых савецкіх народаў, але і пра рэакцыю тых народаў на далейшае насаджэньне расейскай мовы і культуры. А таму ў сваіх плянах захапіць уладу ў СССР ён плянаваў абаперціся на разьняволеныя і ўдзячныя яму за гэта нацыянальныя ўскраіны.

Яшчэ адзін матыў Бэрыі — асабісты. Незадоўга да сьмерці Сталін, які, паводле некаторых гісторыкаў, меў намер пазбавіцца ад усяго свайго атачэньня і замяніць яго на кіраўнікоў маладзейшага пакаленьня, нанёс удар па Бэрыі. У прынятых у лістападзе 1951 і сакавіку 1952 году пастановах ЦК

288 Солженицын А. Двести лет вместе. Т. 2. Масква, 2002. С. 402. З А. Салжаніцыным зьвязана і яшчэ адно ўскоснае пацьверджаньне гэтай аўтарскай высновы. У 1965 годзе КГБ падслухоўвала размовы Салжаніцына і пасьля закідала яму, што ён прадказвае распад СССР. Зразумела, што ў 1965 годзе (!) зрабіць такую выснову А. Салжаніцын мог толькі на падставе лягернага досьведу і назіраньня за паводзінамі ў зьняволеньні прадстаўнікоў народаў СССР — менавіта ў лягеры будучы нобэлеўскі ляўрэат зразумеў невынішчальную сілу нацыянальнага духу. Магчыма, прыклад нерасейскіх народаў СССР дапамог А. Салжаніцыну яшчэ болей умацавацца ў расейскім патрыятызьме.

ВКП(б) выкрывалася так званая «справа мінгрэльскай нацыяналістычнай групы на чале з Барамія». У лістападзе 1951 — сакавіку 1952 году ў Грузіі пачаліся рэпрэсіі супраць мінгрэльскай меншасьці: закрывалі газэты, арыштоўвалі мінгрэлаў у кіраўніцтве на чале з другім сакратаром кампартыі Грузіі М. Барамія, з рэспублікі было выселена 11 тысяч мінгрэлаў.

Кіраваў разгромам мінгрэлаў на загад Сталіна — Бэрыя, сам мінгрэл паводле паходжаньня. Можна толькі здагадвацца, зь якім пачуцьцём нянавісьці да гаспадара выконваў ён ускладзеную на яго місію. Адпаведна, пасьля сьмерці правадыра, адной зь першых ініцыятываў Бэрыі было скасаваньне абвінавачаньняў супраць мінгрэлаў — 10 красавіка 1953 году прэзыдыюм ЦК КПСС прыняў пастанову аб прызнаньні фальсыфікацыяй справы аб так званай мінгрэльскай нацыяналістычнай групе.

Ведаючы пра тую кароткую бэрыеўскую адлігу, было натуральна пашукаць і доказаў, што НКВД сапраўды канфіскаваў і засакрэціў (або зьнішчыў) здымкі менскага Старога гораду.

На сёньняшні дзень у Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакумэнтаў захоўваецца толькі адзін здымак Старога гораду, які яскрава сьведчыць пра яго былое аблічча і пра цывілізацыйную прыналежнасьць старадаўняй менскай архітэктуры да Эўропы. Гэта здымак хоць і ня ўласна Замчышча з вуліцамі Замкавай, Падзамкавай, Завальнай, Нова-Мясьніцкай і Стара-Мясьніцкай, але ўсё ж выява адной з найважнейшых частак Старога гораду — самай старой менскай мураванай вуліцы,

Дзям’яна Беднага (колішняй Казьмадзям’янаўскай), зроблены ў 1930–1931 гадах[289].

Я вырашыў даведацца, як і калі гэты здымак трапіў у Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакумэнтаў. На шчасьце, у гэтай установе ёсьць своеасаблівы архіў архіву, дзе фіксуецца ўся інфармацыя аб той або іншай адзінцы захаваньня: як і калі паступіла, на якім носьбіце, хто аўтар і былы ўладальнік і г. д.

Увосень 2006 году я накіраваўся ў Дзяржынск, дзе цяпер месьціцца згаданы архіў, і зрабіў адпаведны запыт. Супрацоўніца чытальнай залі схадзіла ў падвальнае памяшканьне і вярнулася праз паўгадзіны з надзвычай значным для беларускай гісторыі адказам на мой запыт.

Зрэшты, інтуітыўна я здагадваўся, якім будзе адказ. Так і сталася. Здымак вузкай і крывой вуліцы Дзям’яна Беднага паступіў у беларускі архіў без тлумачэньня прычынаў з архіву кінафотафонадакумэнтаў СССР у Маскве на пачатку траўня 1953 году — якраз у разгар бэрыеўскай адлігі.

Вельмі вымоўны факт. Зьвяртае на сябе ўвагу, што здымак з Масквы прыйшоў усяго адзін. Якраз гэта можа быць доказам таго, што астатняе пасьпелі зьнішчыць. Калі ж іншыя падобныя фотадакумэнты проста не пасьпелі перадаць у Беларусь, дык цалкам верагодна, што яны захоўваюцца ў маскоўскіх сховішчах і ў нашы дні.

289 Некалькі гадоў назад у альбоме «Мінск незнаёмы» Ільлі Куркова друкавалася яго няякасная копія. У гэтай кнізе падаецца яго арыгінал.

## Дэзінфармацыя чужых і сваіх

Прычыны, ініцыятары і выканаўцы зносаў у гістарычным цэнтры Менску ўжо апісаныя. Не хапае толькі апошняга зьвяна — аўтараў фальсыфікацыі праўды пра вайну і разбурэньні. Гэтае зьвяно называецца проста — органы савецкай вайсковай цэнзуры, адна з найважнейшых структурных частак ЧК-ГПУ-НКВД.

Бальшавікі заняліся цэнзураваньнем публічнай інфармацыі і дэзінфармацыяй яшчэ ў часы Грамадзянскай вайны. Тады гэтая справа рэгулявалася шэрагам загадаў і пастановаў. Першы адмысловы орган — Спэцыяльны аддзел пры ВЧК пад кіраўніцтвам Г. Бокія быў створаны ў траўні 1921 году[290].

У кастрычніку таго самага году для рэгуляваньня працы згаданага аддзелу Савет народных камісараў РСФСР зацьвердзіў «Палажэньне аб вайсковай цэнзуры ВЧК». Гэтым дакумэнтам для «ограждения политических, экономических и военных интересов РСФСР» уводзілася «цензура печатных произведений, почтово-телеграфной корреспонденции и контроль за радиотелеграфными связями»[291].

Але цэнзуры было недастаткова — адчувалася моцная патрэба падманваць зьнешніх ворагаў і ўласны народ. Таму ў канцы 1922 году намесьнік старшыні ЧК-ГПУ Іосіф Уншліхт прапанаваў кіраўніцтву краіны стварыць адмысловы орган для фабрыкацыі і распаўсюджаньня дэзінфармацыі.

---

290 История системы и органов защиты информации. – http://www.agentura.ru/equipment/psih/info/story/

291 Тамсама.

Прапанова была прынятая з разуменьнем, і 11 студзеня 1923 году пастановай Палітбюро ЦК РКП(б) было створана спэцыяльнае міжведамаснае Бюро дэзінфармацыі, так званае Дэзінфбюро, з дэлегаваньнем у яго склад прадстаўнікоў ГПУ, ЦК РКП(б), Народнага камісарыяту замежных спраў, Рэвваенсавету і Разьведвальнай управы Штабу РККА[292].

Сярод задач гэтага ведамства пастанова Палітбюро называла і такую:

*«Составление и техническое изготовление целого ряда ложных сведений и документов...»*[293]

Пры гэтым дзейнасьць наваствоpанага органу павінна была ахопліваць як вайсковыя, так і цывільныя сфэры. Куратар Дэзінфбюро ад савецкай вайсковай разьведкі Ян Берзін пісаў у адным з сакрэтных дакладаў:

*«Дезинформация, так же как и всякая разведка, должна работать по вопросам как военного, так и мирного времени»*[294].

У 20-я гады найважнейшай справай бальшавікі лічылі дэзінфармацыю заходніх дзяржаваў аб ваеннай і прамысловай магутнасьці СССР — адпаведна, на Захад ішлі хлусьлівыя зьвесткі аб колькасьці войскаў і зброі, а таксама аб росьце аб’ёмаў вытворчасьці. Але вельмі хутка спахапіліся, што такая дэзінфармацыя можа ў адказ выклікаць рост ваеннай і прамысловай магутнасьці Захаду, заклапочанага савецкімі «посьпехамі». І тады нават рэальныя савецкія дасягненьні пачалі прымяншаць.

292 Тамсама.

293 Тамсама.

294 Горбунов Е. Фактор стабильности — стратегическая дезинформация // Независимая газета. 12 траўня 2006.

У наступныя гады задачы органаў вайсковай цэнзуры і дэзінфармацыі ня раз удакладняліся рознымі пастановамі ды інструкцыямі, а іх структура і штаты — мяняліся ды раздуваліся. Нязьменнай заставалася толькі іх прыналежнасьць да НКВД-КГБ. Пры гэтым, паступова адбыўся сынтэз функцыяў вайсковай і цывільнай палітычнай цэнзуры. З канца 30-х гадоў пры СНК СССР і саюзных рэспублік хоць і існавалі асобныя аддзелы вайсковай цэнзуры і Галоўліты, але ўзначальвалі іх, як правіла, тыя самыя асобы — афіцэры НКВД[295].

Вайсковая дэзінфармацыя праціўніка ва ўсе гады была адной з галоўных задачаў і важнай складовай часткай працы органаў цэнзуры. Гэтая функцыя стала асабліва важнай у гады Другой сусьветнай вайны. І тут органы дэзінфармацыі НКВД у супрацоўніцтве з вайсковай выведкай СССР дасягнулі вялікіх маштабаў і значнага посьпеху. Вось заява Сталіна на адным з паседжаньняў Тэгеранскай канфэрэнцыі, калі гаворка зайшла аб формах падману ворага:

«*Мы в таких случаях обманываем противника, строя макеты танков, самолетов, создавая ложные аэродромы. Затем мы при помощи тракторов приводим эти макеты танков и самолетов в движение. Разведка доносит противнику об этих передвижениях, причем немцы думают, что именно в этом месте готовится удар. В то же время там, где действительно готовится наступление, царит полное спокойствие. Все перевозки произво-*

295 Протько Т. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.). Менск, 2002. С. 243–244.

*дятся ночью. Мы создаем в ряде мест до 5–8 тысяч макетов танков, до 2 тысяч макетов самолетов, большое число ложных аэродромов. Кроме того, мы обманываем противника при помощи радио»*[296].

Для абароны савецкіх гарадоў ад нямецкіх бамбаваньняў у канцы вайны пачалі прымяняцца задымленьне важных аб'ектаў і фальшывыя пажары ў розных месцах, каб дэзінфармаваць праціўніка аб выніках яго акцый. Такія пажары наладжваліся савецкімі войскамі і ў Менску ў ліпені 1944 году падчас нямецкіх бамбардзіровак[297].

Але ў гады вайны рэзка вырасла і значэньне дэзінфармацыі грамадзтва. Маштабы апарату і аб'ёмы працы органаў вайсковай цэнзуры і дэзінфармацыі падчас вайны добра ілюструе прыклад толькі адной неакупаванай адміністрацыйнай адзінкі СССР — Горкаўскай вобласьці.

Савецкае насельніцтва не павінна было мець ніякай інфармацыі аб становішчы на фронце і ў Чырвонай арміі, апрача той, што афіцыйна паведамлялася ў газэтах і па радыё. Гэтаксама салдаты і афіцэры Чырвонай арміі не павінны былі ведаць праўды аб жыцьці, голадзе і цяжкай фізычнай працы на абаронных прадпрыемствах іх жонак і дзяцей. За гэтым пільна сачылі органы вайсковай цэнзуры НКВД. У Горкаўскай вобласьці было створана 17 пунктаў пэрлюстрацыі пошты са штатам супрацоўнікаў 250 чалавек[298].

296 Санакоев Ш., Цыбулевский Б. Цыт. тв. С. 85.

297 Воронкова И. Цыт. тв. С. 260.

298 Забвению не подлежит: Страницы нижегородской истории (1941–1945 годы). Книга третья. Нижний Новгород, 1995. С. 80.

Пры гэтым толькі праз адзін Горкаўскі гарадзкі пункт штодзень праходзіла больш за 200 тысяч лістоў[299]. Цэнзары не спраўляліся, і таму ў сакрэтным паведамленьні Горкаўскага абкаму ВКП(б) сакратару ЦК ВКП(б) А. Андрэеву ў кастрычніку 1942 году паведамлялася, што праз вобласьць ідуць лісты на 40 мовах, а мясцовыя супрацоўнікі вайсковай цэнзуры здольныя чытаць толькі на 20 мовах — у выніку назапасіліся цэлыя мяхі непрачытанай карэспандэнцыі[300]. У сытуацыю былі вымушаныя ўмяшацца ЦК і НКВД СССР, пасьля чаго абкам канстатаваў:

*«Сейчас, после постановления ЦК и обкома ВКП(б), в органах цензуры наводится порядок. В целях ликвидации задержки корреспонденции областное управление НКВД по указанию обкома партии организует дополнительно в районах области 9 пунктов военной цензуры. НКВД СССР разрешил увеличить штат работников цензуры по нашей области на 130 человек. Отдел кадров обкома ВКП(б) подобрал уже 45 человек, и в ближайшее время будут подобраны остальные. Одновременно с этим просматривается весь старый личный состав цензоров и не соответствующие своему назначению освобождаются от работы»*[301].

Такі быў маштаб ідэалягічнага кантролю органаў вайсковай цэнзуры НКВД толькі па адной вобласьці СССР. У 1945 годзе вайна скончылася, а дзейнасьць гэтых органаў пасьпяхова працягвалася

299 Тамсама. С. 81.
300 Тамсама.
301 Тамсама. С. 81–82.

і ў пасьляваенны час. Напрыклад, у адной з запісак у Прэзыдыюм ЦК КПСС у сакавіку 1953 году Бэрыя паведамляў:

*«О недовольстве среди местного населения свидетельствуют многочисленные письма жителей западных областей Украины. Только за три месяца 1953 года военной цензурой конфисковано около 195 тысяч писем, адресованных за границу из западных областей Украины, в которых содержатся отрицательные высказывания о действиях местных органов власти. Серьезное недовольство населения западных областей Украины вызывают имеющиеся там факты грубого искривления ленинско-сталинской национальной политики...»*[302]

Пэрлюстрацыя — гэта толькі замеры грамадзкіх настрояў, а ў гады вайны і пасьля яе вельмі важна было ня толькі ведаць пра настроі грамадзтва, але і ўплываць на іх, фармаваць іх адпаведна з патрэбамі савецкай прапаганды.

Брыгады фотакарэспандэнтаў у пагонах і групы кінахронікі езьдзілі па прыфрантавой паласе і здымалі ў толькі што вызваленых раёнах тысячы фатакадраў і кілямэтры кінахронікі, якія пасьля ў лябараторыях НКВД старанна вывучаліся, клясыфікаваліся, мантавалася, кампанаваліся і толькі пасьля гэтага зьяўляліся ў друку. Сотні спэцыялістаў займаліся стварэньнем адпаведных прапагандысцкіх тэкстаў і паведамленьняў друку.

Вельмі важнай часткай другога пэрыяду вайны стала насаджэньне сярод нацыянальных мяншы-

302 Лаврентий Берия. 1953. Стенограмма июльского пленума ЦК КПСС и другие документы. С. 46.

няў СССР расейскай сьвядомасьці і расейскай мовы. Гэтая тэндэнцыя, як, зрэшты, і ўсё іншае ў тагачасным СССР, ішла ад самага верху, ад самога Сталіна. Дыктатар у гады вайны так натхніўся расейскай гісторыяй і «славой русского оружия», што залічыў сябе, грузіна, да расейскага народу. Пра гэта сьведчаць стэнаграмы паседжаньняў Тэгеранскай і Патсдамскай канфэрэнцыяў, дзе Сталін дзясяткі разоў называе СССР Расеяй, а савецкі народ — «рускімі». Фраза «мы, русские» была ў тыя часы для правадыра ня рэдкасьць.

Гэта адбілася і на працы органаў вайсковай цэнзуры і дэзінфармацыі. Створаны ў Маскве ў верасьні 1943 году Беларускі дзяржаўны музэй Вялікай айчыннай вайны і яго першая экспазыцыя, што адкрылася ў Менску ў кастрычніку 1944 году, былі плёнам працы органаў дэзінфармацыі НКВД. Экспазыцыя музэю, які павінен быў расказваць пра гісторыю Вялікай айчыннай вайны, сягала яшчэ ў часы Кіеўскай Русі і крыжацкай агрэсіі і расказвала, як на працягу доўгіх стагодзьдзяў беларусы і расейцы пляча ў пляча разам змагаліся са зьнешнімі, прычым, заходнімі агрэсарамі — «псамі-рыцарамі», швэдамі ды войскамі Напалеона.

Дзейнасьць органаў вайсковай цэнзуры і дэзінфармацыі была настолькі плённай, што сучасныя і будучыя гісторыкі могуць так ніколі і не даведацца праўды пра многія падзеі і працэсы ў СССР 20–50-х гадоў. І бальшавікі тут не былі вынаходнікамі нечага новага — фальсыфікацыяй гісторыі Расейская імпэрыя займалася на працягу ўсяго часу свайго існаваньня — мяняліся толькі аб'екты фальсыфікацыі. Таму дагэтуль застаюцца невядомымі многія

ключавыя падзеі і працэсы больш далёкага гістарычнага мінулага ўсходніх славянаў.

Пачынаючы ад XVI стагодзьдзя Расея займалася ідэалягічным цэнзураваньнем і фальсыфікацыяй летапісаў і хронік. У выніку цалкам зацемненай і перахлушанай аказалася ўсходнеславянская гісторыя IX–XII стагодзьдзяў і роля ў ёй выхадцаў са Скандынавіі. Зьнікненьне славутага Полацкага летапісу, які асьвятляў падзеі ў нявыгадным для расейцаў ключы, магчыма, было падзеяй з таго самага шэрагу[303].

У XIX стагодзьдзі дашчэнту зацямнілі і перахлусілі ўсю царкоўную гісторыю ВКЛ (а заадно і ўласную), у 50–70 гады XX стагодзьдзя — прыдумалі міт пра «барацьбу беларускага народу за ўзьяднаньне з Расеяй», украінцам перапісалі ўсю іх гісторыю пасьля Пераяслаўскай рады 1653 году, у выніку чаго шмат хто і цяпер ня ведае пра барацьбу ўкраінскіх гетманаў пасьля Хмяльніцкага, у тым ліку легендарнага Мазепы, за аддзяленьне Ўкраіны ад Расеі і г. д.

Увага бальшавікоў да архітэктуры таксама ня стала для Расеі нечым новым і незвычайным. У мінулыя стагодзьдзі ў Сталіна былі вельмі добрыя настаўнікі. Дастаткова назваць двух — цар Пётар I і віленскі генэрал-губэрнатар Міхаіл Мураўёў-вешальнік. Абодва гэтыя гістарычныя дзеячы вельмі добра разумелі значнасьць архітэктуры для самаідэнтыфікацыі народу, яе функцыю носьбіта

303 Прафэсар Мікалай Улашчык лічыў, што Полацкі летапіс зьнішчылі польскія езуіты. Гл.: Мікалай Улашчык. Выбранае. Менск, 2001. С. 145.

нацыянальнага коду і фіксатара матэрыяльных і духоўных асаблівасьцяў культуры.

Падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай войскі цара Аляксея Міхайлавіча дашчэнту зруйнавалі большасьць беларускіх гарадоў. Мэтай расейцаў у той вайне было як мага большае абяскроўліваньне спрадвечнага ворага і пазбаўленьне яго матэрыяльнага багацьця. Таму яны без разбору руйнавалі гарады, выразалі жыхароў і выводзілі ў палон цэхавых майстроў як носьбітаў невядомых у Маскоўшчыне тэхналёгіяў. Менавіта таму ў беларускіх гарадах да нашага часу захаваліся лічаныя адзінкі помнікаў грамадзянскай або культавай архітэктуры, якія былі збудаваныя да Патопу.

Гэтая традыцыя захавалася і ў ХХ стагодзьдзі. Польскі пісьменьнік Рышард Капусьцінскі пакінуў гэткае сьведчаньне аб першым дні пасьля ўваходу Чырвонай арміі ў Пінск у верасьні 1939 году:

«...*Як толькі расейцы ўвайшлі ў горад, дык перш чым яны адсапліся, перш чым разгледзеліся, дзе якая вуліца, перш чым паелі і перш чым зацягнуліся махоркай, адразу ўстанавілі на пляцы гармату, прывезьлі боепрыпасы і пачалі страляць у касьцёл. Паколькі ўся артылерыя паехала на фронт, ім засталася толькі адна гармата. Стралялі зь яе бяз ладу. Калі траплялі, зь вежы ўзьніматіся клубы цёмнага пылу, часам бліскаў язык полымя. Вакол пляцу ў глыбокіх брамах хаваліся людзі, якія глядзелі на гэтае бамбардаваньне панура, але і зь цікаўнасьцю. Жанчыны кленчылі і адмаўлялі ружанец. Па пустым пляцы хадзіў п'яны артылерыст і крычаў: "Бачыце, страляем у вашага Бога! А ён нічога, ціха сядзіць!*

*Баіцца, ці як?" Сьмяяўся, а потым на яго нападала ікаўка...»*[304]

Гэтак Рышард Капусьцінскі задакумэнтаваў факт зьнішчэньня вежаў аднаго з надзвычайных архітэктурных шэдэўраў стылю барока на Палесьсі — Пінскага касьцёла Панны Марыі кляштару езуітаў. Гэты храм быў і застаўся самым вялікім у Рэчы Паспалітай, якая перастала існаваць у 1795 годзе. Канчаткова яго зьнесьлі ў 60-я гады XX стагодзьдзя ўлады БССР.

І ў тыя самыя 60-я гады 20-гадовы заходнебеларускі хлопец Валеры Фінюк у якасьці камандзіра танка браў удзел ва ўварваньні савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну. Танк Фінюка займаў пазыцыі на ўзвышшы за 500 мэтраў ад паўднёвачэскага гарадка Тын-над-Влтавай. З таго часу ў архіве спадара Фінюка захавалася схема стральбы, намаляваная яму камандзірам роты. У выпадку атрыманьня каманды пачынаць абстрэл, танк Фінюка павінен быў разбурыць 5 галоўных будынкаў гораду і... касьцёл XIII стагодзьдзя. Гэта сьведчыць аб тым, што і савецкія афіцэры былі адпаведным чынам навучаныя і падрыхтаваныя да разбурэньня архітэктурных дамінантаў і нанясеньня менавіта культурных стратаў праціўніку.

А ў 1661 годзе жыхары захопленага расейцамі Магілёва паўсталі супраць акупантаў, цалкам выразалі расейскі гарнізон колькасьцю 2000 жаўнераў і вярнулі свой горад у склад Вялікага Княства Літоўскага. За гэты гераічны чын сябры гарадзкога

304 Цыт. паводле: Капусьцінскі Р. Імпэрыя // Дзеяслоў. 2007. №5. С. 142.

магістрату згодна з пастановай Сойму атрымалі шляхецтва, а на гербе Магілёва зьявіўся дзяржаўны герб ВКЛ — Пагоня.

Менавіта ў справе Магілёва мы ўпершыню сустракаемся з помстай расейцаў непакорным беларусам, якая выявілася ў разбурэньні помнікаў архітэктуры. 47 гадоў маскоўцы марылі пра адплату. Нарэшце, у першай палове 1708 году Магілёў занялі расейскія войскі на чале з Аляксеем Меншыкавым, якія адразу пачаў плянаваць татальнае разбурэньне гораду[305]. Аднак з розных прычынаў яму гэта не ўдалося. Падчас другой акупацыі Магілёва восеньню 1708 году справа была зробленая.

На досьвітку 8 верасьня 1708 году загарэўся магілёўскі замак, а ў горад з розных бакоў на загад Пятра I увайшлі аддзелы калмыкаў, татараў і маскоўцаў. Іх задачай было менавіта поўнае зруйнаваньне Магілёва, таму людзей чапалі мала, толькі адбіралі грошы. Усходняе войска ня ведала літасьці менавіта да архітэктуры — дом за домам, краму за крамай, палац за палацам і царкву за царквой мэтадычна рабавалі, а пасьля падпальвалі або разбуралі парахавымі выбухамі.

Да канца дня справа была скончаная. Самы вялікі, багаты і прыгожы пасьля Вільні мураваны беларускі горад, славянская Вэнэцыя, гандлёвы канкурэнт Данцыгу, Рыгі, Вільні і Масквы быўператвораны ў попел і руіны і ніколі ўжо ня здолеў аднавіцца ў тым выглядзе — далей яму была наканаваная роля занядбанага правінцыйнага места

305 Катлярчук А. Швэды ў гісторыі і культуры беларусаў. Вільня, 2007. С. 110.

Рэчы Паспалітае і шараговага губэрнскага цэнтру Расейскай імпэрыі[306].

І вось якраз у справе разбурэньня Магілёва Пётар І падаў добры гістарычны ўрок сваім нашчадкам з НКВД. Менш чым праз два месяцы пасьля апісаных падзеяў, 6 лістапада 1708 году, расейскі цар выдаў «Указ всему малороссийскому народу», у якім абвінаваціў у разбурэньні Магілёва... швэдаў[307]. З таго часу і да нашых дзён гісторыкі раз за разам паўтараюць вэрсію Пятра І аб гібелі славянскай Вэнэцыі.

А між тым вядома, што швэды нават харчаваньне ў магілёўскіх месьцічаў, у адрозьненьне ад расейцаў, куплялі за грошы, а ўся іх шкода зьвялася да канфіскацыі срэбра ў магілёўскіх цэрквах на выплату заробку нямецкім наймітам і разбору некалькіх пакінутых жыхарамі дамоў для пабудовы двух мастоў праз Дняпро.

Асаблівае і сымбалічнае значэньне маюць дзьве акалічнасьці падзеяў 1708 году: загад аб зруйнаваньні Магілёва Пётар І аддаў генэралу Радыёну Боўру праз свайго ад'ютанта Фёдара Барценева на словах, вусна. А абвінаваціў швэдаў у разбурэньні сталіцы беларускага праваслаўя пісьмова, ва ўказе... Так бы мовіць, для нашчадкаў. Як тут ня ўспомніць пра 40-я гады XX стагодзьдзя, пра НКВД, вайсковую цэнзуру і савецкую прапаганду. І другая

306 Падрабязнае апісаньне магілёўскай трагедыі 1708 году зьмешчана ў Магілёўскай хроніцы Сурты і Трубніцкіх. Хроніка апублікавана М. Улашчыкам у 1980 годзе ў 35-м томе «Полного собрания русских летописей». Упершыню была надрукаваная ў расейскім перакладзе ў 1887 годзе.

307 Катлярчук А. Цыт. тв. С. 118.

акалічнасьць: у лісьце да генэрала Боўра Пётар I згадаў толькі, што Барценеў на словах перакажа яму канкрэтны загад і з салодкім прадчуваньнем хуткай адплаты ненавісным ліцьвінам-магілёўцам загадкава дадаў: «понеже золотые дни настоят»[308].

Як бачым, 236 гадоў перад падзеямі 1941–1944 гадоў у Менску адзін маскоўскі валадар ужо адпомсьціў іншаму беларускаму гораду за здраду.

Другім настаўнікам бальшавікоў быў граф Міхаіл Мураўёў, вядомы ў Расеі як Мураўёў Віленскі, а ў Беларусі — як Мураўёў-вешальнік. Гэты гістарычны пэрсанаж дзейнічаў больш вытанчана, але ня менш брутальна — помнікі за часамі яго кіраваньня ў Паўночна-Заходнім краі ў палове XIX стагодзьдзя ўжо не руйнавалі — іх перабудоўвалі да непазнавальнасьці ў стылі казённага расейскага праваслаўя, што, фактычна, можа быць прыроўненае да разбурэньня.

Мураўёў і яго атачэньне добра разумелі ідэалягічную функцыю архітэктуры, асабліва культавай. Так званыя цэрквы-мураўёўкі пакрываюць усю тэрыторыю Беларусі і сёньня. Зьнявечаная эстэтыка беларусаў да іх прызвычаілася настолькі, што простым людзям цяпер гэтыя спаруды ўжо здаюцца прыгожымі, а сучасныя менскія архітэктары нават дазваляюць сабе праектаваць мураўёўскія варыяцыі. Тым часам, яшчэ ў XIX стагодзьдзі ў самой Расеі «мураўёўкі» Паўночна-Заходняга краю ганілі як безгустоўныя і немастацкія падробкі. Тым часам

308 Цыт. паводле: Катлярчук А. Цыт. тв. С. 117. Больш падрабязна пра гэта гл.: Письма и бумаги императора Петра Великого. Т. 8. Вып. 1. Масква, Ленінград, 1948; Т. 8. Вып. 2. Масква, Ленінград, 1951.

у самой Расеі шмат будавалі прыгожых, стылёва вытрыманых храмаў: архітэктары зьвярталіся да клясыцызму, нэабарока і г. д.

Урокі Пятра I і графа Мураўёва паказалі іх духоўным нашчадкам, як трэба з забранымі народамі абыходзіцца і якую ролю ў гэтым абыходжаньні можа адыграць вайна з помнікамі архітэктуры і наступная фальсыфікацыя праўды пра яе.

Фальсыфікацыя ў гэтай справе прыносіць падвойныя дывідэнды — з аднаго боку, забраны народ пазбаўляецца гістарычнай памяці і матэрыяльных сьведкаў сваёй даўніны, а з другога, яшчэ больш прывязваецца да акупанта ў іх супольнай нянавісьці да агульнага ворага-«разбуральніка».

## Чаму так цяжка шукаць праўду

Дэзінфармацыя ЧК-ГПУ-НКВД была такой жа нахабнаю ў сваёй прастаце, як і гёбэльсаўская прапаганда. Галоўнай формай фальсыфікацыі і дэзінфармацыі было элементарнае перакладаньне адказнасьці за свае «подзьвігі» на ідэалягічных ці ваенных ворагаў. Так было ў гады Грамадзянскай вайны, калі зьверствы ЧК на поўдні Расеі і ва Ўкраіне прыпісваліся белым, так было і пазьней, ужо пасьля стварэньня Дэзінфбюро ЧК-ГПУ-НКВД.

У Грамадзянскую вайну савецкія газэты друкавалі здымкі ахвяраў ЧК — закатаваных, з адрэзанымі рукамі і нагамі і выкалатымі вачыма, а подпісы сьведчылі, што гэта «ахвяры белых вылюдкаў».

Пасьля Другой сусьветнай вайны ў ходзе нацыянальнага задушэньня Заходняй Украіны актыўныя

баявыя дзеяньні войскі НКВД вялі з ваяўнікамі Ўкраінскай паўстанцкай арміі. Жорсткія рэпрэсіі зазналі і вернікі-ўніяты — да Грэка-Каталіцкай царквы належала большасьць насельніцтва Галічыны, тысячы людзей былі адпраўленыя ў турмы і сыбірскія лягеры. У 2001 годзе папа рымскі Ян Павал II падчас наведаньня Ўкраіны бэатыфікаваў у Львове 27 уніяцкіх мучанікаў — некаторыя зь іх у часы ганеньняў у 40-я гады XX стагодзьдзя былі зажыва звараныя энкавэдзістамі ў гіганцкіх катлах. Тым часам у другой палове 40-х гадоў савецкія газэты актыўна паведамлялі пра зьверствы «бандэраўцаў» на Заходняй Украіне, якія, нібыта, варылі зажыва ў гіганцкіх катлах чырвонаармейцаў.

Пра зьверствы бандэраўцаў былі, натуральна, зьнятыя і дакумэнтальныя фільмы, якія павінны былі выклікаць у савецкіх людзей абурэньне і нянавісьць да ўкраінскіх «буржуазных нацыяналістаў». У адным з такіх фільмаў кадры відэахронікі перамяжаюцца з фатаздымкамі павешаных бандэраўцамі ахвяраў — але абазнаны глядач у тых ахвярах лёгка пазнае павешаных у 1941 годзе ў Менску савецкіх падпольшчыкаў. Увосень 1941 году гітлераўцы ў розных месцах беларускай сталіцы павесілі некалькі групаў падпольшчыкаў. Адна з групаў у складзе трох чалавек была пакараная сьмерцю 26 кастрычніка: паводле афіцыйнай вэрсіі, на браме Дражджавога заводу на Камароўцы павесілі Кірылу Труса, Уладзімера Шчарбацэвіча і Машу Брускіну.

У інфармацыйнай вайне органы вайсковай цэнзуры НКВД важнае значэньне надавалі і архітэктуры. І тут таксама ўсё перакладалася на немцаў — проста, ясна і адназначна. Ніякая згадка пра вынікі

разбуральных акцыяў зьнішчальных батальёнаў у пачатку вайны або пра вынікі савецкіх бамбаваньняў беларускіх гарадоў у часы акупацыі і вызвольнага штурму, а тым больш пра выбухі ў цэнтры Менску 2–4 ліпеня 1944 году — трапіць у друк не магла і ня трапіла.

Вось характэрная мадэль дэзінфармацыі аб разбурэньнях у беларускіх гарадах. 11 ліпеня 1944 году ўжо расейскамоўная «Советская Белоруссия» зьмясьціла чарговае паведамленьне «Совинформбюро» «Бомбардировка нашей авиацией железнодорожных узлов Белосток, Кайшадоры, Ораны, Гродно»:

*«В ночь на 9 июля наша авиация произвела массированный налет на железнодорожный узел... Гродно... Возникшие пожары сопровождались сильными взрывами»*[309].

У наступныя тыдні такія паведамленьні зьяўляліся рэгулярна. Прайшло два месяцы, і «Советская Белоруссия» за подпісам «И. Денисова (наш кор.)» друкуе артыкул «Гродно сегодня»:

*«Немецко-фашистские захватчики причинили большие разрушения этому городу-красавцу... уничтожили его достопримечательности... Мерзавцы уничтожили до 40 процентов жилищного фонда... Немцы варварски разрушили Гродненский железнодорожный узел...»*[310]

Прыклад Горадні, а ня Менску, паказвае на ўнівэрсальны характар прыведзенай мадэлі савец-

309 Советская Белоруссия. 11 ліпеня 1944.
310 Советская Белоруссия. 23 верасьня 1944.

кай прапаганды — адказнасьць за ўсе разбурэньні нясуць толькі немцы.

У сваіх успамінах маршал Георгі Жукаў, які кіраваў Беларускай апэрацыяй, наступным чынам апісаў свае ўражаньні ад вызваленага Менску:

*«К исходу дня 3 июля Минск был полностью очищен от врага. Столицу Белоруссии нельзя было узнать. Семь лет я командовал полком в Минске, хорошо знал каждую улицу, все важнейшие постройки, мосты, парки, стадион и театры. Теперь всё лежало в руинах, и на месте жилых кварталов остались пустыри, покрытые грудами битых кирпичей и обломков»*[311].

Гэта пісаў чалавек, які сам прапанаваў Сталіну выкарыстаць у Беларускай апэрацыі ўсю цяжкую авіяцыю СССР далёкага дзеяньня, адклаўшы на пазьнейшы тэрмін яе налёты на Нямеччыну. Два месяцы сотні савецкіх самалётаў бамбілі беларускія гарады, сеючы сьмерць і разбурэньні ня толькі немцам, але і самім гарадам ды іх насельніцтву! Адчуваецца, што паводле пасады Жукаў быў добра абазнаны ў мэтадах і сродках ідэалягічнай дэзінфармацыі НКВД і Генэральнага штабу.

А вось яшчэ адно сьведчаньне. На гэты раз пра жорсткае савецкае бамбаваньне Баранавічаў у апошнія дні перад вызваленьнем. Згадвае старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла:

*«Баранавічы збамбілі ў апошнія дні вайны разам з ваколіцамі. Памятаю, як уцякалі мы з падпаленай бомбай цётчынай хаты ў начным бялізьні, і як ляскалі зубы васьмігадовага дзіцяці падчас бамбёжкі.*

311 Жуков Г. Воспоминания и размышления. С. 565–566.

*Назаўтра дзядзька плакаў, гледзячы на спаленую гаспадарку, зь якой толькі выжыла качка з качанятамі. Перад вачыма, на фоне рэштак спаленай хаты, яшчэ яе бачу... Цёця была забрала нас да сябе ў Дубава, бо казалі людзі, што будуць зноў бамбіць горад. Гэта было дзесь каля 27-га чэрвеня — тата быў на Кангрэсе ў Менску. Аказалася, што ў тую ноч бамбілі і вёскі...»*[312]

Зразумела, што ні падчас вайны, ні пасьля яе ніхто ня сьмеў нават заікнуцца пра нейкую віну савецкіх войск-пераможцаў, і ўсе ўсё прывычна сьпісвалі на немцаў — за гэтым пільна сачыла НКВД-МГБ.

Пры гэтым фальсыфікацыя не была аднамомантным актам — гэта была вызначаная ў Крамлі і НКВД на доўгія гады тэндэнцыя. Пад «нямецкія разбурэньні» былі залічаныя (і цяпер яшчэ залічаюцца) ня толькі вынікі савецкіх бамбаваньняў беларускіх гарадоў часоў акупацыі і вызвольнага штурму, але і наступствы зьнішчальных акцыяў Чырвонай арміі і НКВД у першыя тыдні вайны пры адступленьні.

Вось сьведчаньне жыхаркі вёскі Ляды Жлобінскага раёну Гомельскай вобласьці Настасьсі Ламянок пра падзеі ў яе вёсцы ўлетку 1941 году:

*«Нашы адступалі... Немцы пагналі, да Масквы ледзь не дайшлі. Дык нашыя... Мы з маткаю бялізну мылі. На канаву хадзілі. Дык салдаты прыбеглі. "Мамаша, мо ў вас бутэлькі ёсьць?" — "А нашто вам бутэлькі?" — "Нам трэба бутэлькі". А яны ў тыя бутэлькі налівалі бэнзін і ў хаты — швыр, і яно гарыць. І туды-сюды, і загарэлася вёска ўся. Уся*

312 Зь ліста Івонкі Сурвілы аўтару, дасланага ў ліпені 2009 году.

*сярэдзіна выгарала, і тады пагарэла багата хат. Салдаты самі нашы папалілі. Каб не заставалася ворагу. Сорак першы год. Людзі паўцякалі, хто ў балота, хто ў лес. Уцякалі хто куды. І так папала, што нашы палілі так жа сама, як немцы»*[313].

У Заходняй Беларусі зьнішчальных акцыяў з прычыны хуткага наступу немцаў НКВД і камандаваньне Чырвонай арміі правесьці не пасьпелі. Затое Ўсходняя Беларусь ад іх пацярпела вельмі моцна.

Спэцыяльнымі падлікамі, натуральна, ніхто з гісторыкаў не займаўся, але можна сьмела, бяз рызыкі памыліцца, сьцьвярджаць, што лёс вёскі Ляды ў першыя месяцы вайны падзялілі сотні ўсходнебеларускіх вёсак і мястэчак. Тое самае сталася і зь дзясяткамі раённых цэнтраў і абласнымі гарадамі — савецкія зьнішчальныя батальёны амаль цалкам спалілі Віцебск, Полацак, Воршу, Гомель і іншыя гарады. Зрэшты, магчыма, у 1941 годзе ў НКВД або ў Генэральным штабе адпаведная статыстыка вялася, і тыя падлікі ў маскоўскіх спэцхранах захоўваюцца і ў нашы дні.

Вось цытата з успамінаў чалавека, які тры гады акупацыі пражыў у Полацку:

*«Выконваючы загад Сталіна, у Полацку, як і ў іншых месцах, чырвоныя войскі і адмысловыя камсамольскія брыгады падпальвалі жылыя будынкі, крамы ды склады. Пад жудасны плач ды енк мясцовага насельніцтва яны хадзілі па вуліцах і кідалі бутэлькі з бэнзінам. Людзі ледзь пасьпявалі выскачыць на вуліцу, баронячы з маёмасьці толькі тое, што мелі*

313 Аўдыёархіў Радыё Свабода за 22 лістапада 2007 году. (перадача «Падарожжы Свабоды», аўтар Зьміцер Бартосік)

*на сабе. Ніякія пратэсты не дапамагалі: у тых, хто спрабаваў супраціўляцца або тушыць пажар, стралялі.*

*Жах гэтай першай і для шматлікіх людзей, магчыма, самай галоўнай бяды другой сусьветнай вайны, якая надарылася яшчэ да таго, як немцы занялі горад, не паддаецца ніякаму апісаньню. Горад быў амаль цалкам драўляны; ён згарэў на тры чвэрці, тысячы людзей засталіся бяз даху над галавой, без маёмасьці і безь якіх-кольвек сродкаў на існаваньне. Значная частка гарадзкога насельніцтва разышлася па бліжэйшых вёсках. Немцы ўваходзілі ў горад руінаў: на многіх вуліцах не засталося ніводнага жылога будынку...*»[314]

У першыя дні і месяцы акупацыі нямецкія ўлады і новая беларуская адміністрацыя шырока выкарыстоўвалі факт шматлікіх падпалаў гарадоў і мястэчак савецкімі зьнішчальнымі батальёнамі і дывэрсантамі ў сваёй прапагандзе. Друкаваліся дзясяткі ўлётак і каляровых плякатаў з назвамі кшталту «Забойца і падпальшчык Сталін закончыў сваю гульню»[315]. Сярод надпісаў на тых плякатах і ўлётках былі такія:

«*Праграма забойцы і падпальшчыка Сталіна: ... Падпальваньне Вашых гарадоў і сёлаў, каб Вы засталіся бяз даху*»

або

«*...Людзі, якія нахабна называюць сябе “партызанамі” й гэтай мянушкай хочуць пакрыць свае*

314 Ільінскі П. Тры гады пад нямецкай акупацыяй у Беларусі (Жыцьцё Полацкай акругі 1941-1944) // ARCHE. 2004. №3. С. 211.

315 Гл.: ARCHE. 2008. №5. С. 235.

*праступствы адносна нашага народу, у сапраўднасьці нізкія, купленыя Сталіным — падпальшчыкі й забойцы»*[316].

Савецкая пасьляваенная прапаганда сьцьвярджала, што гарады падпальвалі і падрывалі нямецкія дывэрсанты, каб пасьля перакласьці адказнасьць за іх на савецкія органы. Тым часам зразумела і відавочна, што ва ўмовах, калі пераважная большасьць насельніцтва была сьведкам гэтых савецкіх падпалаў і засталася жыць пад акупацыяй у спаленых беларускіх гарадах, хлусіць аўтарам вышэйзгаданых агітацыйных матэрыялаў часоў акупацыі сэнсу не было — ім бы ніхто не паверыў. Такая нямецкая прапаганда была дзейснаю менавіта таму, што ў гарадах і мястэчках жылі тысячы сьведак тых савецкіх падпалаў. Жывуць яны ў Беларусі і за мяжой і ў нашы дні.

Яшчэ адна крыніца інфармацыі аб фальсыфікацыях — акты і рэестры «Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па ўстанаўленьні і расьсьледаваньні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых і прычыненай імі шкоды...», створанай 2 лістапада 1942 году ўказам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР. 16 сакавіка 1943 году аналягічныя камісіі былі ўтвораныя ў рэспубліках СССР. Сёньня гэтыя паперы рассакрэчаныя і даступныя дасьледчыкам.

Беларуская камісія прыступіла да працы ў Менску ў жніўні 1944 году. Складаньне актаў аб нанесенай шкодзе працягвалася ўвесь першы год пасьля вызваленьня. Дакумэнты складаліся дзяржаўнымі

316 Тамсама. С. 235, 241.

службоўцамі, кіраўнікамі вытворчых прадпрыемстваў, а таксама афіцыйнымі асобамі гарадзкіх камунальна-бытавых службаў і трэстаў «с участием экспертов-свидетелей»[317].

Пры чытаньні запоўненых ад рукі арыгіналаў гэтых папераў робіцца зразумелым, што, па-першае, большасьць іх складальнікаў былі праінструктаваныя, як акты складаць, а, па-другое, паперы гэтыя пасьля кімсьці рэдагаваліся (цэнзураваліся).

Вось прыклады стандартных фармулёвак, якія маюць 95 працэнтаў усіх актаў:

*«Разрушения произведены 24 июня 1941 года при воздушной бомбардировке и потере гор. Минска...»*[318]

*«Имущество уничтожено полностью во время военных действий в июне м-це 1941 года...»*[319]

*«Ущерб и убытки произошли от пожара, произошедшего 24 июня 1941 г. от воздушной бомбардировки и сбрасывания зажигательных бомб...»*[320]

Але сярод збольшага малапісьменных чыноўнікаў трапляліся і сумленныя (або кепска праінструктаваныя). Таму зрэдку можна сустрэць і такія заключэньні:

*«Разрушено и разграблено в период оккупации 1941 — июль 1944 г.»*[321].

*«Уничтожено и расхищено в период времени оккупации г. Минска немецкими захватчиками с июля 1941–1944»*[322].

317 ДАМн, ф. 354, воп. 9, спр. 6, арк. 22.
318 Тамсама, арк. 39.
319 Тамсама, арк. 41.
320 Тамсама, арк. 45.
321 Тамсама, арк. 58.
322 Тамсама, арк. 43.

І вось тады за справу браліся цэнзары. Канцавыя часткі фразаў з указаньнем часу закрэсьліваліся, і над імі надпісваліся «паліткарэктныя» «в июле 1941 г.», або (як у апошнім выпадку), прыназоўнік «с» выпраўляўся на «в», «я» у слове «июля» перараблялася на «е», а 1944 год закрэсьліваўся, каб атрымалася «в июле 1941». Такім чынам усе разбурэньні і ўся шкода былі прыпісаныя немцам у першыя месяцы вайны.

Гэта была нават ня акцыя — гэта была тэндэнцыя, якой трымаліся пасьля вайны ўсе — партыйныя і савецкія ўлады, сродкі масавай інфармацыі, навукоўцы, музэі, настаўнікі. Трымаюцца гэтай тэндэнцыі ў Беларусі і ў нашы дні.

Тое самае з фатаграфіямі. Да вайны ў страшныя 30-я гады фатографаў-аматараў практычна не было — людзі былі напалоханыя рэпрэсіямі, баяліся ўсяго, нават самай бяскрыўднай правіны, любога маглі абвінаваціць у шпіянажы на карысьць варожай выведкі, тым больш саматужнага фатографа. Калі ж прыйшлі немцы — яны таксама загадалі здаць усе фотаапараты, гэта натуральна для ваеннага часу і стану акупацыі чужой тэрыторыі.

Але такое самае становішча захоўвалася і ў першае пасьляваеннае дзесяцігодзьдзе. Фатаграфія заставалася выключна прафэсійнай справай. Супрацоўнікі нешматлікіх фотаатэльье, фотакарэспандэнты савецкіх газэт ды агенцтваў і «фотакарэспандэнты ў пагонах» — вось і ўвесь пералік «дапушчаных» да гэтай небясьпечнай справы.

Тут органы дэзінфармацыі НКВД пайшлі двума шляхамі — мантаж здымкаў і зьмена іх датаў, балазе, агульная тэндэнцыя перакладаньня ўсіх разбурэньняў на немцаў даволі добра і хутка прыжыла-

ся на ідэалягічных пляцоўках — у газэтах, музэях і школьных падручніках. Мяняць датаваньне здымкаў з выявамі разбурэньняў было нескладана — іх проста перамяшчалі ў музэйных і архіўных фондах у адпаведныя разьдзелы і калекцыі. Балазе, архівы былі ў сыстэме органаў НКВД, а музэі — пад іх пільным кантролем.

Троху больш працы патрабаваў фотамантаж, але й тут уладных і тэхнічных магчымасьцяў НКВД было дастаткова.

Падчас сваіх росшукаў мне давялося пагутарыць з дасьведчанай архіўнай працаўніцай, якая доўгія гады адказвала за фармаваньне калекцыі фатаздымкаў у адным зь беларускіх архіваў[323]. Яна расказала, што некалі ёй давялося прымаць калекцыю здымкаў і нэгатываў ад вядомага савецкага фотакарэспандэнта Васіля Аркашова. Падчас атрыбуцыі яе моцна зьдзівіла, што многія нэгатывы не адпавядалі апублікаваным у фотаальбомах здымкам Аркашова. Яна зьвярнулася да старога фатографа па тлумачэньні, і ён ня стаў хаваць праўды.

Вось запіс расказу Васіля Аркашова, зроблены са словаў архіўшчыцы:

*«Дарагая мая, вы і ўявіць сабе ня можаце, які гэта быў час! Усё і ўсе былі пад няспынным кантролем... Калі нашы адступалі і Менск гарэў, я хадзіў па вуліцах і здымаў палаючыя будынкі. Раптам да мяне падышлі двое ў цывільным, паказалі пасьведчаньні і адабралі стужкі разам з фотаапаратам. Так і не*

323 Гэтая жанчына дагэтуль жыве і працуе ў Беларусі, таму яе імя тут не называецца.

*засталося нічога аб першых днях вайны і эвакуацыі зь Менску...*

*Пасьля вайны яны таксама кантралявалі ўсё. Ніякай свабоды, ніякай “адсябяціны”. Толькі тое, што ім трэба. Кожны здымак табе дыктавалі як зрабіць, як апублікаваць у газэце ці альбоме — тут дом стаіць, а яго быць не павінна, а тут наадварот патрэбны дом, тут перад танкам чыстая дарога, а павінны ляжаць некалькі нямецкіх трупаў...*

*Мы працавалі на нашу прапаганду, мы былі яе шрубкамі...»*[324]

Паводле словаў маёй суразмоўніцы, у здадзенай у архіў калекцыі Васіля Аркашова было больш за 500 (!) змантажаваных нэгатываў пэрыяду апошняга году вайны і першых пасьляваенных гадоў. А гэта ж прыклад толькі аднаго з многіх дзясяткаў беларускіх савецкіх фотакарэспандэнтаў.

Вось чаму цьверджаньні пра разбурэньне Менску на 80 і болей працэнтаў нямецка-фашысцкімі захопнікамі падчас нападу і акупацыі трэба лічыць прадуктам савецкай прапаганды. Насамрэч да гэтага прычыніліся абодва бакі ваеннага канфлікту, а савецкія ўлады дадаткова прыклалі да гэтага руку і пасьля вызваленьня гораду.

324 Аўдыёзапіс з архіву аўтара, зроблены 24 лістапада 2006 году.

## Спробы абароны. Міхаіл Кацар

Пасьля сапёрных выбухаў і працы «Трэсту разборкі і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў» тэрыторыя амаль дашчэнту разбуранага Старога гораду затоптвалася менчукамі і зарастала палыном да 1949 году, калі ў гарадзкіх уладаў дайшлі, нарэшце, рукі і да яе. Добраўпарадкаваньне гэтай тэрыторыі цягнулася аж да 1956 году, калі пачаліся падзеі, аб якіх гаворка пойдзе далей.

Летам 1951 году Менгарвыканкам зацьвердзіў «План осенне озеленительных работ на 1951 год по Фрунзенскому району г. Минска». Пад нумарам 10 у ім было запісана:

*«Сквер на площади 8-го Марта. План посадок: деревья 70 и кусты 2200. Кем выполняется работа: фабрика им. Кагановича»*[325].

Вось так сіламі работнікаў абутковай фабрыкі, што месьцілася на Нямізе, быў закладзены сквэр на тэрыторыі былых Нізкага і Рыбнага рынкаў. У наступныя гады пасадкі працягваліся.

У тыя часы ўсе менскія паркі мелі прымацаваных да іх спэцыялістаў, пераважна з Акадэміі навук. Парк на тэрыторыі Старога гораду, відавочна, ня меў для ўладаў вялікага значэньня, яго не зьбіраліся рабіць творам садова-паркавага мастацтва, таму

---

325 ДАМн, ф. 354, воп. 9, спр. 15, арк. 156.

і навукоўца-садоўніка да яго не прымацоўвалі. У 1952 годзе адказным за «Сквер на пл. 8-го Марта и площади по ул. Вольная» быў прызначаны супрацоўнік Міністэрства лясной (!) гаспадаркі БССР С. Лічко[326].

Менскія ўлады, ня маючы яшчэ канкрэтных плянаў забудовы таго або іншага месца, настойліва зносілі часта зусім цэлую гістарычную забудову і закладалі там зялёныя зоны. Так сталася зь левым бокам Нямiскай вуліцы ў раёне той самай абутковай фабрыкі. Там уздоўж Нямігі і ўверх на схіле аж да Пішчалаўскага замку заставаўся цэлы квартал цалкам захаваных мураваных дамоў з дахамі. Уздоўж вуліц Валадарскага і Рэспубліканскай заставаліся спаленымі каробкі, якія цалкам надаваліся да аднаўленьня. Але ў 1951–1952 гадах іх разбурылі, а ў 1956-м вырашылі стварыць там зялёную зону і пасадзіць дрэвы. Так і стаіць тая мясьціна да нашага часу незабудаваная.

25 красавіка 1956 году ў беларускім друку была апублікаваная пастанова Савету міністраў Беларускай ССР і ЦК КПБ «Аб жыллёвым і культурна-бытавым будаўніцтве, развіцці гарадской гаспадаркі і добраўпарадкаванні г. Мінска ў 1956 г.» Не апошняе месца ў ёй было адведзена і тэрыторыі Старога гораду:

*«Правесьці работы па ачыстцы р. Сьвіслач з разборкай старога маста і перакладкай кабеляў сувязі на суму 200 тыс. руб...*

326 Тамсама, арк. 12.

*Абавязаць Упраўленьне камунальнай гаспадаркі Мінгарвыканкома (тав. Талочку) і будупраўленьне №131 (тав. Нікіценку):*

*а) Закончыць работы па добраўпарадкаваньню вул. Калініна на суму 300 тыс. рублёў з пакрыцьцём асфальта-бетонам праязной часткі плошчай 4,6 тыс. кв. м. і будаўніцтвам асфальтавых тратуараў 4,8 тыс. кв. м. у ліпені.*

*б) Выканаць работы па добраўпарадкаваньню сквера на набярэжнай р. Сьвіслач па вул. Калініна на суму 200 тыс. рублёў у верасьні»*[327].

Праца закіпела, і апошнія сьляды Нізкага рынку зьніклі незваротна.

Але ня гэта было галоўным у пастановах таго году адносна тэрыторыі Старога гораду. Галоўным стала рашэньне будаваць на Замчышчы Дом спорту «Трудовые резервы» і стадыён таго самага спартовага таварыства на Татарскіх агародах.

1956 год быў незвычайны. Абцугі савецкай прапаганды і яе ідэалягічная маналітнасьць троху аслаблі пасьля XX зьезду КПСС, які адбыўся ў лютым 1956 году і на якім М. Хрушчоў зрабіў свой гістарычны даклад «О культе личности и его последствиях». У чэрвені таго самага году ЦК КПСС прыняў пастанову «О преодолении культа личности и его последствий».

Так ненадоўга, менш чым на год, была аслаблена пільнасьць савецкай ідэалягічнай машыны, і гэтага аказалася дастаткова, каб тэма Старога гораду і Замчышча зноў загучала ў Беларусі на публічным узроўні.

327 Звязда. 25 красавіка 1956.

Гэта быў апошні ўсплёск — зьнясілены вайной і рэпрэсіямі, запалоханы народ, купка сумленных прадстаўнікоў яго эліты і, здаецца, сама менская даўніна на містычным узроўні зрабілі апошнюю і, на жаль, няўдалую спробу захаваць менскае Замчышча і рэшткі яго забудовы. Спроба гэтая была загадзя асуджаная на паразу, бо што тады магло канкураваць з усёмагутнасьцю савецкай сыстэмы?

Аўтарам гэтай спробы стаў выдатны беларускі гісторык мастацтва і архітэктуры, прафэсар Міхаіл Кацар. Яшчэ юнаком ён зазнаў на сабе ўплыў патрыятычных поглядаў Максіма Гарэцкага — у 1925 годзе знакаміты пісьменьнік жыў у сялянскай хаце Кацараў у вёсцы Клімавічы Сеньненскага раёну.

У сакавіку 1945 году Міхаіл Кацар, працуючы ў Міністэрстве культуры БССР начальнікам Інспэкцыі па ахове помнікаў архітэктуры, склаў пратаколы аб пашкоджаньнях менскіх помнікаў даўніны. Сярод тых пратаколаў былі і акты аб пашкоджаньнях менскага палацу Сапегаў, дамініканскага кляштару і гарадзкой вежы былога кляштару езуітаў.

Наступны іх знос (пасьля атрыманьня ад Нямеччыны адпаведных рэпарацыяў) дапамог Кацару лепш зразумець і адчуць цынізм савецкай сыстэмы і каляніяльны статус Беларусі — у той час, напрыклад, у Пскове аднаўлялі разбураныя да падмуркаў храмы XII стагодзьдзя.

І вось калі вясной 1956 году на менскім Замчышчы зьявіліся бульдозэры і экскаватары, якія пачалі скопваць Замкавую гару і рыць у яе цэнтры гіганцкі катлаван, Міхаіл Кацар пачаў самы гераічны і адчайны бой свайго жыцьця. Бой гэты вёўся ў

форме лістоў пратэсту і лістоў з просьбамі аб дапамозе ва ўсе магчымыя інстанцыі тагачаснага СССР і органы друку — і аўтар іх дакладна ня ведаў, чым яго эпісталярная і публіцыстычная актыўнасьць скончыцца: перамогай і ўратаваньнем Замчышча або звальненьнем з Акадэміі навук і высылкай у Сыбір. Тым ня менш годнасьць і сумленьне не дазвалялі маўчаць.

Летам 1956 году Міхаіл Кацар даслаў дзясяткі лістоў з просьбай аб дапамозе аўтарытэтным савецкім навукоўцам пэрсанальна, у розныя навуковыя ўстановы і органы ўлады Савецкага Саюзу.

У пачатку чэрвеня 1956 году Кацар зьвярнуўся з адчайным лістом да намесьніка міністра культуры СССР М. Міхайлава:

*«Уважаемый Николай Николаевич. Взываю к Вам о помощи. В БССР творится страшное варварство. На Минском замчище, в самом его центре вырыт котлован площадью около 100 на 50 метров, глубиной от 4 до 6 метров. Здесь решили строить спортздание для "Труд. резервов". Несмотря на протесты стройку не прекращают. Одновременно с двух сторон Замковую гору разрывают экскаваторы и погружают на автомашины. Т. е. скоро гора будет совершенно уничтожена. Ведь это страшное варварство...»*[328]

Кацар прасіў М. Міхайлава зьвярнуцца да дзяржаўных установаў БССР з пратэстам.

З наступнага ліста, таксама датаванага чэрвенем 1956 году, да славутага савецкага археоляга М. К. Каргера, вынікае, што намесьнік міністра куль-

328 Копія ліста з асабістага архіву У. Дзянісава.

туры СССР М. Міхайлаў у адказ на зварот прафэсара Кацара запатрабаваў ад Міністэрства культуры БССР і менскіх гарадзкіх уладаў спыніць будаўніцтва на Замкавай гары, але яго пратэст праігнаравалі:

*«Здесь в Минске мне удалось провести совещание четырех секторов (искусства, истории, литературы, отдела строительства БССР и сектора археологии и этнографии Института истории). Протокол и резолюции шлю Вам.*

*Написал статью в белорусскую газету "Літаратура і мастацтва" и другие. Весь этот материал я передал Н. Михайлову в Министерство культуры СССР. Н. Михайлов направил письмо в Минкультуры БССР и в горсовет с требованием прекратить уничтожение памятников культуры.*

*Но все же дом на Замковой горе в Минске строят и ее разрушают.*

*Дело также еще, очевидно, и в том, что председатель Совета министров БССР Мазуров подписал постановление о строительстве здесь дома. Поэтому никто не желает выступить против "авторитета". Даже спасовали и наши археологи, что крайне неприлично.*

*К Вам такая просьба. Написать протест против этого варварства и послать его в газету или прислать в Совет министров БССР или в ЦК КПБ. Думаю, что это Вы можете сделать с другими учеными-археологами. Ведь Вы тоже заинтересованы в спасении этих ценнейших памятников культуры. Не забудьте и Витебск.*

*С глубоким уважением М. С. Кацар»*[329].

---

329 Копія ліста з асабістага архіву У. Дзянісава.

У Менску супраць аўтарытэту Кірылы Мазурава сапраўды ніхто ісьці не хацеў, тым больш, што праз некалькі месяцаў яго прызначылі першым сакратаром ЦК КПБ. Гэты чыноўнік вылучаўся поўнай абыякавасьцю да праблемаў захаваньня гістарычнай спадчыны. Менавіта ў часы яго кіраваньня ў Беларусі канчаткова зьнесьлі менскую Замкавую гару і рэшткі забудовы на ёй, у Віцебску выбухамі падарвалі Дабравешчанскую царкву XII стагодзьдзя, а ў Полацку зьнішчылі частку былога езуіцкага калегіюму разам з саборам.

14 чэрвеня 1956 году Міхаіл Кацар зьвярнуўся з заявай да Навуковай рады Інстытуту матэрыяльнай культуры АН СССР, у якой пісаў ужо ня толькі пра менскую трагедыю, але і пра іншыя факты барбарскага абыходжаньня з помнікамі культуры ў Беларусі:

*«В БССР варварски уничтожаются памятники археологии и вообще культуры. На минском Замчище для постройки спортивного здания под “Трудовые резервы” вырыт котлован размером 100 на 50 метров при глубине 4–6 метров. Кроме того Замковая гора разрушается и с другой стороны, культурный слой экскаваторами погружается на автомашины.*

*В Витебске на Замковой горе строят новый театр, прокладывают через нее улицу. Уничтожаются Банцеровское, Туровское и другие городища.*

*Взываю к вам о помощи — если не прекратить этот вандализм, то все эти памятники будут уничтожены. Просьба поставить этот вопрос на Ученом совете, высказать свое мнение по этому вопросу.*

*Материалы по уничтожению памятников культуры мною посланы в Министерство культуры СССР тов. Михайлову. Просьба оказать нам помощь в этом деле. Дело в том, что те, кто по долгу службы должны защищать от уничтожения памятники культуры, этого не делают. Следовательно только ученые могут стать на защиту памятников культуры. Задача ученых — защитить памятники культуры от уничтожения.*

*С глубоким уважением М. Кацар»*[330].

Знайшоў М. Кацар падтрымку і ў рэдакцыі газэты «Літаратура і мастацтва», якая тады выходзіла як поўнафарматнае выданьне на чатырох старонках. 2 чэрвеня 1956 году «ЛіМ» пад рубрыкай «Пісьмо ў рэдакцыю» надрукаваў артыкул Кацара «Патрэбны тэрміновыя меры». Навуковец пісаў:

«... *У свой час мінскае Замчышча было абʼяўлена дзяржаўным запаведнікам, паколькі яно мела вялікае гістарычна-навуковае значэньне. Замчышча было ўключана ў сьпіс помнікаў, якія павінны асабліва ахоўвацца. На выканком Мінскага гарадзкога Савета быў ускладзены абавязак паставіць агароджу вакол Замчышча. Аднак мінскае Замчышча, г. зн. месца, дзе ўзьнік і разьвіваўся у XI–XIII стагодзьдзях Мінск, зьнішчаецца.*

*Для пабудовы спартыўнага будынка на Замчышчы выкапаны катлаван плошчай каля 500 квадратных метраў, глыбінёй ад чатырох да васьмі метраў. Калі не спыніць работу экскаватараў, будзе зьнішчаны каштоўны помнік культуры СССР. Са зьнішчэньнем Замчышча мы не будзем мець маг-*

330 Копія ліста з асабістага архіву У. Дзянісава.

*чымасьці вывучаць і што-небудзь ведаць аб старажытным Мінску...»*[331]

Паколькі ў той час барбарскае абыходжаньне зь беларускімі помнікамі мела месца ня толькі на менскім Замчышчы, Кацар, карыстаючыся нагодай, вырашае ў сваім артыкуле прыцягнуць увагу грамадзтва і да лёсу астатніх помнікаў. Ён малюе бязрадасную карціну татальнага пагрому помнікаў гісторыі і культуры па ўсёй рэспубліцы:

*«На вялікі жаль, у нашай рэспубліцы многія каштоўныя творы мастацтва і культуры не ахоўваюцца, а ў радзе выпадкаў зьнішчаюцца.*

*Нават ня ўсе помнікі ўлічаны, хаця было адпаведнае ўказаньне Савецкага ўрада закончыць складаньне іх сьпісаў на працягу 1948–1949 гг. Да гэтага часу зацьверджаны сьпісы толькі на 300 з лішнім помнікаў культуры, што ахапляе толькі невялікую частку іх. Не ўключаны ў сьпісы многія каштоўныя архітэктурныя і культурна-гістарычныя помнікі.*

*У Магілёве не ўключаны ў сьпісы па ахове будынак ратушы, пабудаваны ў XVII стагодзьдзі народнымі беларускімі майстрамі, і Ўсьпенская царква. Адсутнічаюць у сьпісах слонімская капліца і касьцёл XVII стагодзьдзя, палац і парк у Альберціне (паблізу Слоніма), рэдкі па архітэктуры жылы будынак XVII стагодзьдзя ў Жыровічах Слонімскага раёна, драўляная царква ў Смальянах на Віцебшчыне і многія іншыя.*

*Пераважная большасьць помнікаў не ахоўваецца, а некаторыя і разбураюцца.*

331 Літаратура і мастацтва. 2 ліпеня 1956.

*У Мінску на плошчы Свабоды зьнішчаны выдатны будынак архітэктуры барока XVIII стагодзьдзя — вежа ратушы... Зьнішчаецца старажытнае гарадзішча Віцебска. На ім таксама выкапан катлаван для будаўніцтва тэатра. Зьнікае вядомае Банцараўскае гарадзішча. На ім пабудавана дача. Разбураюцца гарадзішчы ў Оршы, Тураве, Полацку і інш. ... Разбураюцца такія каштоўныя помнікі, як замкі ў Лідзе, Крэве, у Навагрудку, Смальянах...»*[332]

Урэшце Міхаіл Кацар, спаслаўшыся на пастановы савецкага ўраду, якія сьцьвярджалі, што

*«усе помнікі культуры, якія знаходзяцца на тэрыторыі СССР і маюць навуковае, гістарычнае ці мастацкае значэньне, зьяўляюцца недатыкальным усенародным здабыткам і знаходзяцца пад аховай дзяржавы»,*

пераходзіць да бескампраміснай крытыкі беларускіх уладаў і заклікае ўратаваць менскае Замчышча і іншыя помнікі культуры:

*«Безадказныя адносіны да старажытнай культуры Беларусі выклікаюць законнае абурэньне. Неабходна тэрмінова палепшыць работу аддзелаў Міністэрства культуры БССР, якія закліканы займацца аховай помнікаў, ажывіць работу навукова-метадычнага савета Акадэміі навук БССР. Павіны быць прыняты тэрміновыя меры для аховы і аднаўленьня помнікаў культуры»*[333].

У гэтым апошнім закліку Міхаіла Кацара зьвяртае на сябе ўвагу фраза «аднаўленьне помнікаў». Гэта сьведчыць пра яго бескампраміснае стаўленьне

332 Тамсама.
333 Тамсама.

да страчаных помнікаў культуры — Кацар марыў аб іх аднаўленьні, рэгенэрацыі. А найпершы клопат гэтага выдатнага беларускага навукоўца менавіта аб менскім Замчышчы тлумачыцца яго глыбокім разуменьнем вялікага значэньня Старога гораду для беларускай культуры і беларускай нацыянальнай сьвядомасьці.

У 1956 годзе, калі Кацар пачаў свой няроўны бой за Замкавую гару, у заходняй частцы Замчышча яшчэ захоўвалася гістарычная забудова — пяць мураваных камяніц на абодвух баках вуліцы Замкавай у межах унутранай тэрыторыі старога Замку, а таксама значная частка дамоў на вуліцах Завальнай і Нова-Мясьніцкай. Захаваньне Замкавай гары ў некранутым стане пакідала магчымасьць пазьнейшага аднаўленьня і гістарычнай забудовы на ёй — гэта значыць вяртаньня менчукам Старога гораду і яго ваколіцаў.

Роўна праз тыдзень пасьля публікацыі артыкулу Кацара, 9 чэрвеня 1956 году «ЛіМ» зьмяшчае чарговы ліст на тую самую тэму — на гэты раз з Магілёва. У лісьце пад назвай «Шанаваць помнікі» навуковы супрацоўнік абласнога краязнаўчага музэю В. Коган і мастакі А. Балдзянкоў, Э. Карповіч і Д. Старалаўнікаў пісалі:

*«У сваім пісьме "Патрэбны тэрміновыя меры" доктар мастацтвазнаўчых навук М. Кацар узьняў выключна важнае пытаньне, якое мае вялікае значэньне для вывучэньня гісторыі Беларусі, — аб архітэктурных помніках — каштоўнай культурнай спадчыне беларускага народа.*

*У пісьме прыводзіўся факт і з Магілёўскай ратушай. На вялікі жаль, будынак Магілёўскай ратушы*

*разбураны вясной 1956 года. На яго месцы засталася толькі вежа, якую зьбіраюцца зьнішчыць у бліжэйшыя дні. Такое ж становішча і з іншымі помнікамі старажытнасьці.*

*Абласное ўпраўленьне культуры не прымае ніякіх мер да захаваньня помнікаў мінулага. Інспектар упраўленьня культуры па музеях і помніках апраўдваецца тым, што ў яго сьпісах гэтых помнікаў няма…*

*Час пакончыць з безадказнымі адносінамі да аховы гістарычных і культурных помнікаў рэспублікі»*[334].

Аднак ні пратэст Міністэрства культуры СССР, ні аналягічныя пратэсты з інстытутаў Акадэміі навук у Маскве, ініцыяваныя Міхаілам Кацарам, плёну ня мелі — за лета 1956 году Замкавую гару скапалі цалкам і пасьпяхова працягвалі будаўніцтва на яе месцы дому спорту «Трудовые резервы», а таксама вялі падрыхтоўку для закладкі на Татарскіх агародах стадыёну таго самага спартовага таварыства.

Але і Міхаіл Кацар не супакойваўся. Ён працягваў рассылаць лісты з заклікам аб дапамозе, грукаўся ва ўсе магчымыя ўладныя кабінэты — трэба было ратаваць тое, што яшчэ можна было ўратаваць. Увосень 1956 году ён арганізаваў збор подпісаў пад новым лістом пратэсту сярод найбольш знакамітых дзеячоў беларускай культуры і навукі таго часу.

Далёка ня ўсе, да каго Кацар зьвяртаўся, той ліст падпісалі, але тыя, хто падпісаў, пакінулі прыгожае

334 Літаратура і мастацтва. 9 ліпеня 1956.

гістарычнае сьведчаньне сваёй глыбокай чалавечай прыстойнасьці і адданасьці сваёй зямлі. Новы пратэст прафэсара Кацара разам зь ім падпісалі (парадак паводле апублікаванага тэксту) член-карэспандэнт АН СССР і акадэмік АН БССР гісторык Мікалай Нікольскі, член-карэспандэнт АН БССР паэт Пятро Глебка, пісьменьнік Піліп Пестрак, народны артыст СССР кампазытар Яўген Цікоцкі, народны артыст СССР Уладзімер Уладамірскі і доктар філялёгіі, дэкан філфаку БДУ Міхась Ларчанка.

Іх зварот «У абарону помнікаў культуры» быў апублікаваны ў «ЛіМе» 20 кастрычніка 1956 году. Вось вытрымкі зь яго:

*«Беларускі народ за сваю шматгадовую гісторыю стварыў багатыя скарбы ў галіне архітэктуры, жывапісу, скульптуры і ў іншых відах мастацтва...*

*На вялікі жаль, пераважная большасьць помнікаў беларускай культуры загінула ў час многіх войнаў, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі...*

*Не захавалася ў Беларусі ніводнага жылога будынка, а таксама ніводнага драўлянага збудаваньня, узьведзенага раней XVI стагодзьдзя. Зьнішчана пераважная большасьць твораў народнай разьбы па дрэву, багата афармленых кніг, выдадзеных у беларускіх друкарнях у XVI–XVIII стагодзьдзях, твораў жывапісу, скульптуры і народнай творчасьці.*

*Нашы музеі бедныя экспанатамі беларускай культуры дасавецкага перыяду. Мы вельмі слаба ведаем сваё мінулае, сваю старажытную і сярэдневяковую культуру. Усё гэта абавязвае нас старанна зьбіраць, беражліва захоўваць і ўважліва вывучаць помнікі беларускай культуры.*

*Між тым, работа па ахове помнікаў старажытнасьці пастаўлена ў нас вельмі дрэнна. Асобы, якія адказваюць за гэтую работу ў Міністэрстве культуры БССР і Дзяржаўным Камітэце Савета Міністраў БССР па справах будаўніцтва і архітэктуры, па сутнасьці бязьдзейнічаюць. Да гэтага часу не складзена поўнага сьпіса помнікаў, якія падлягаюць ахове дзяржавы, не наладжаны кантроль за тымі помнікамі, якія знаходзяцца пад аховай, не праводзіцца работа па іх аднаўленьню і рэстаўрацыі»*[335].

У якасьці доказу сваёй рацыі аўтары звароту прывялі ўнушальны сьпіс архітэктурных і археалягічных помнікаў, якія на той час у Беларусі разбураліся або нядаўна былі разбураныя. Увайшлі ў гэты сьпіс помнікі Віцебску, Горадні, Ліды, Магілёва, Міра, Наваградку, Пінску. Пісалі яны, напрыклад, пра зьнішчаны выбухамі езуіцкі касьцёл XVIII стагодзьдзя ў Пінску, пра магілёўскую ратушу, пабудаваную «беларускімі народнымі майстрамі Фескай і Ігнатам у XVII стагодзьдзі», пра магілёўскія Ўсьпенскую і Пакроўскую цэрквы, якія якраз у той час разбураліся, і яшчэ пра шмат якія помнікі культуры. Але пачалі свой пералік яны, натуральна, зь Менску:

*«У выніку такога безадказнага стаўленьня на нашых вачах гінуць многія каштоўныя помнікі культуры... У Мінску на плошчы Свабоды зьнесена нядаўна ратушная вежа — выдатнае архітэктурнае збудаваньне XVIII стагодзьдзя. Па-варварску*

335 Літаратура і мастацтва. 20 кастрычніка 1956.

*зьнішчаюцца гарадзішчы (замчышчы) у Мінску і Віцебску...»*[336]

У канцы свайго звароту Кацар з паплечнікамі прапанавалі канкрэтныя захады, якія, на іх думку, павінны былі палепшыць становішча з аховай помнікаў у БССР:

«... *Калі так злачынна нядбайна, як цяпер, будзе працягвацца ахова помнікаў старажытнасьці, дык большасьць і тых нямногіх, захаваных да нашых дзён помнікаў культуры, загіне ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі. Усё гэта прымушае нас сур'ёзна падумаць аб гэтым і прыняць радыкальныя меры, каб спыніць зьнішчэньне помнікаў культуры і арганізаваць іх ахову і вывучэньне...*

*Мы лічым, што для гэтага ў першую чаргу неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы:*

*Стварыць пры Саветах міністраў нацыянальных рэспублік камітэты, якія б займаліся аховай помнікаў культуры, гісторыі і прыроды, і арганізаваць пры гэтых камітэтах вучоныя саветы з вучоных адпаведных спецыяльнасьцей.*

*Для аховы і адшуканьня помнікаў культуры прыцягнуць таксама мясцовае насельніцтва і ў першую чаргу настаўнікаў, арганізаваць камітэты з мясцовага насельніцтва для аховы кожнага канкрэтнага помніка старажытнасьці.*

*Унесьці ў кодэкс законаў СССР пункт аб прыцягненьні да суровай адказнасьці і адданьні пад суд асоб, якія зьнішчаюць або садзейнічаюць зьнішчэньню помнікаў культуры.*

336 Тамсама.

*На працягу 1957 года закончыць складаньне сьпісаў помнікаў культуры, узятых пад дзяржаўную ахову. Пры складаньні гадавых бюджэтаў па будаўніцтву прадугледжваць неабходныя сумы на рамонт і рэстаўрацыю гэтых помнікаў.*

*Наладзіць работу па папулярызацыі помнікаў культуры праз газеты, часопісы, лекцыі і брашуры.*

*Арганізаваць у Мінску гісторыка-этнаграфічны музей і музей народнай творчасьці»*[337].

Як бачым, асноўны зьмест гэтага ліста і асноўныя пункты накрэсьленай у ім праграмы аховы помнікаў цалкам супадаюць са створанай за 30 гадоў да таго аналягічнай праграмай Інбелкульту. Відавочна, што перад намі ня толькі сьведчаньне існаваньня ў Беларусі тых самых праблемаў у справе аховы помнікаў у 20-я і ў 50-я гады, але і доказ абазнанасьці Міхаіла Кацара ў справах Інбелкульту і яго ідэйнай пераемнасьці зь дзеячамі 20-х гадоў.

## Беларусы ўздымаюць галаву

Тым часам імпэт беларусаў набіраў абароты, тэма аховы помнікаў і рэстаўрацыі рабілася ўсё больш папулярнай. Таму «ЛіМ» у тым самым нумары ад 20 кастрычніка прысьвячае ўсю трэцюю паласу помнікам Полацку. Спэцкор «ЛіМу» С. Александровіч друкуе вялікі артыкул «Горад гістарычных помнікаў», а археоляг В. Тарасенка тэкст «Зямля старажытнага Полацка чакае дасьледчыка». Зьмеш-

337 Тамсама.

чаны былі на паласе і чатыры прыгожыя малюнкі полацкіх краявідаў з помнікамі архітэктуры.

Адчайная барацьба Міхаіла Кацара і публікацыі ў друку выклікалі грамадзкі розгалас. Аб разбурэньні менскага Замчышча і іншых помнікаў архітэктуры загаварылі ў акадэмічных і творчых колах, у асяродзьдзі тэхнічнай і гуманітарнай інтэлігенцыі, прычым, як у сталіцы, так і ў правінцыі. У газэты ў падтрымку «звароту сямі» патокам пайшлі лісты заклапочаных беларускіх грамадзянаў.

Неўзабаве «ЛіМ» зьмясьціў агляд чытацкай пошты «Ахоўваць помнікі культуры».

*«Шырокую грамадзкасьць нашай рэспублікі, — пісала газэта, — па-сапраўднаму ўсхвалявала пісьмо вучоных, дзеячоў літаратуры і мастацтва, надрукаванае ў нашай газеце 20 кастрычніка 1956 года. У рэдакцыю пачалі паступаць пісьмы працоўных, у якіх яны расказваюць аб тым, як у іх раёнах ахоўваюцца помнікі культуры, што трэба зрабіць, каб належным чынам арганізаваць іх ахову.*

*У кожным такім допісу выказваюцца слушныя прапановы аб тым, каб аб'яднаць у адзіным цэнтры шматлікую армію энтузіястаў-краязнаўцаў, каб у вывучэньні роднага краю — яго гістарычнага мінулага... актыўны ўдзел прымалі ўсе ўстановы культуры рэспублікі, школы, студэнты навучальных установ, музеі, уся наша інтэлігенцыя.*

*Аматар-краязнавец М. Мельнікаў з Крычаўскага раёна лічыць, што ўся наша грамадзкасьць павінна пільна ахоўваць гістарычныя помнікі... Для актывізацыі работы па вывучэньню роднага краю тав. Мельнікаў прапануе стварыць у кожным раёне,*

*горадзе, вобласьці Беларусі таварыствы краязнаўцаў-аматараў...*

*Рэдакцыя атрымала пісьмо выкладчыка гісторыі Беліцкай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна Ф. Быкава. Ён расказвае, што ўсе настаўнікі школы горача абмяркоўвалі зьмешчаныя ў нашай газеце матэрыялы аб ахове помнікаў культуры. Тав. Быкаў піша, што і ў Рагачове загінуў старажытны архітэктурны помнік — замак каралевы Бонны, пабудаваны яшчэ ў пачатку XVI стагодзьдзя...*

*Супрацоўнік Крычаўскай раённай газеты “Шлях сацыялізма” Э. Ялугін паведамляе рэдакцыі, якую разнастайную работу праводзяць мясцовыя краязнаўцы...*

*Але больш за ўсё рэдакцыя атрымлівае пісем аб тым, што ў многіх раёнах нашай рэспубліцы ўсё яшчэ дрэнна ахоўваюцца помнікі культуры беларускага народа. Тав. Мальдзіс з Радашковіцкага раёна паведамляе, што ля вёскі Краснае захавалася арыгінальная драўляная будоўля XVIII стагодзьдзя, якая цяпер разбураецца...*»[338]

І вось пасьля доўгага пераліку атрыманых лістоў і пераказу іх зьместу рэдакцыя «ЛіМу» зрабіла гэткае падсумаваньне:

«*Нельга мірыцца з такім абыякавым стаўленьнем да аховы помнікаў. Мясцовыя партыйныя, савецкія і камсамольскія арганізацыі, уся наша грамадзкасьць павінны старанна ахоўваць усе помнікі культуры беларускага народа*»[339].

338 Літаратура і мастацтва. 27 сьнежня 1956.
339 Тамсама.

Шырокі грамадзкі рэзананс і занепакоенасьць справай аховы помнікаў, заклікі судзіць вінаватых у разбурэньнях архітэктараў і чыноўнікаў, патрабаваньні адрадзіць у БССР шырокі краязнаўчы рух і выдаткоўваць грошы на рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры аднаўлялі ў палахлівых галовах савецкіх ідэолягаў прывід Інбелкульту 20-х гадоў. Гэтыя заклікі несьлі пагрозу нацыянальнай дэстабілізацыі — змрочная стабільнасьць у гэтай сфэры была дасягнута яшчэ перад вайной у выніку разгрому нацыянальнага руху, а таксама ў выніку пасьляваеннага задушэньня акрыялых у вайну нацыянальных рухаў на ўскраінах савецкай імпэрыі.

Барацьба за захаваньне помнікаў архітэктуры спусьціла пэўнае разьняволеньне ў іншых гуманітарных сфэрах Беларусі. Пачалі гучаць галасы супраць пераводу школаў на расейскую мову навучаньня. Актыўна загаварылі літаратуразнаўцы. 8 ліпеня 1956 году Юльян Пшыркоў друкуе ў «ЛіМе» артыкул «Глыбей вывучаць гісторыю літаратуры». Празь месяц, 11 жніўня, Рыгор Шкраба публікуе ў «ЛіМе» артыкул «За творчае разьвіцьцё крытыкі і літаратуразнаўства». А яшчэ неўзабаве, адзін з аўтараў «ліста сямі» прафэсар Міхась Ларчанка выступае з артыкулам «Некаторыя пытаньні гісторыі літаратуры» (17 лістапада).

У артыкулах рабілася спроба рэабілітацыі рэпрэсаваных беларускіх літаратараў і ў пэўнай ступені апазыцыйных да савецкага рэжыму літаратурных аб’яднаньняў «Полымя» і «Ўзвышша». Міхась Ларчанка, напрыклад, адкідаў тэзу пра вялікі ўплыў расейскай культуры на культуру беларускую. Ён пісаў, што Скарына амаль на паўстагодзьдзя раней

за Фёдарава выдаў беларускую Біблію. Ларчанка таксама прапанаваў аб'ектыўна ацэньваць нацыянальна-адраджэнскі рух дарэвалюцыйнага пэрыяду і настойваў на вялікім значэньні газэты «Наша Ніва» для беларускай гісторыі і культуры.

У паветры запахла «адраджэньнем». Натуральна, што заснаванае «жалезным Фэліксам» ведамства, якое на той час ужо называлася Камітэтам дзяржаўнай бясьпекі пры Савеце міністраў СССР і было паклікана дапільноўваць непахіснасьць ідэалягічных устояў савецкай сыстэмы, не магло спакойна назіраць за гэтымі варожымі праявамі.

## Разгром абаронцаў і канец Замчышча

І вось тут у 1956 годзе ўпершыню на грамадзкай сцэне Беларусі зьяўляецца тады яшчэ кандыдат гістарычных навук, дацэнт Адам Залескі — своеасаблівы Бэндэ ад гісторыі, якому будзе суджана адыграць ролю аднаго з пагромшчыкаў незалежнай беларускай гістарычнай навукі ў 80-я і 90-я гады XX стагодзьдзя.

У 1953 годзе Адама Залескага зь вельмі адказнай і падкантрольнай КГБ пляцоўкі — факультэту замежных моваў Курскага пэдагагічнага інстытуту, дзе ён працаваў дэканам (!), перакінулі ў Беларусь на пасаду загадчыка сэктару этнаграфіі і народнай творчасьці Інстытуту гісторыі АН БССР. Заняўся новасьпечаны «этнограф» вывучэньнем побыту насельніцтва ў партызанскіх зонах Беларусі.

Увосень 1956 году прыйшоў час першы раз націснуць на кнопку «Залескі». Пасьля яе націснуць

яшчэ шмат разоў, і А. Залескі (ужо прафэсар) са сваімі паплечнікамі, былымі кадравымі афіцэрамі НКВД прафэсарам А. Хахловым і дацэнтам К. Дамарадам будуць змагацца зь нефармаламі ў 80-я гады і граміць «буржуазна-нацыяналістычную» плынь у беларускай гістарычнай навуцы ў 90-я гады XX стагодзьдзя.

А тады, у 1956 годзе, пасьля першых публікацыяў Кацара і пачатку размоваў у колах інтэлігенцыі аб згубе Замчышча і іншых помнікаў гісторыі і культуры, было вырашана зрабіць тое, што на прафэсійным слэнгу тагачасных прапагандыстаў называлася «перахапіць ініцыятыву», «узяць сытуацыю пад кантроль», «загаварыць тэму».

Размовы аб замках і «барокко» выклікалі ў КГБ і КПСС абгрунтаваную трывогу — яшчэ троху, і аб «залатым веку» загавораць. Таму было вырашана вярнуць ап'янелых ад XX зьезду беларускіх інтэлектуалаў на грэшную зямлю.

І вось калі прафэсар Кацар толькі плянаваў зьбіраць подпісы пад «лістом сямі», 15 верасьня 1956 году загадчык сэктару этнаграфіі Інстытуту гісторыі Адам Залескі публікуе ў «ЛіМе» артыкул «Шанаваць культурныя скарбы народа». А ў тым артыкуле ледзь не на палову старонкі — палымяныя заклікі зьбіраць і захоўваць сапраўдныя народныя помнікі: лапці, вышываныя кашулі, ручнікі і цабэркі.

А калі 20 кастрычніка «ЛіМ» нарэшце зьмясьціў на першай старонцы зварот сямі славутых дзеячоў «У абарону помнікаў культуры», то на другой старонцы таго самага нумару быў апублікаваны «сьціплы» ліст навуковых супрацоўніц Белару-

скага дзяржаўнага музэю гісторыі Вялікай айчыннай вайны С. Левінай і В. Раманоўскай пад назвай «Захаваць помнікі партызанскай славы». Музэйшчыцы наракалі, што ў БССР не даглядаюцца і разбураюцца лясныя стаянкі партызанскіх брыгад і злучэньняў, згніваюць зямлянкі, зарастаюць травой магілы партызанскіх камандзіраў, і трэба іх адчайна ратаваць і аднаўляць.

У выніку, як і трэба было чакаць, лісты «кнопак» былі ўбачаныя і пачутыя тымі, каму прызначаліся, а лісты абаронцаў «барокка» — тымі, каму не прызначаліся.

Адказ Залескаму варта працытаваць падрабязна. 10 лістапада 1956 году «ЛіМ» друкуе афіцыйнае паведамленьне:

*«“Шанаваць культурныя скарбы народа”. Пад такім загалоўкам у газеце ад 15 верасьня г. г. быў надрукаваны артыкул загадчыка сектара этнаграфіі і народнай творчасьці Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР А. Залескага, у якім аўтар узьняў пытаньне аб зборы і захаваньні этнаграфічных і мастацкіх каштоўнасьцей беларускага народа.*

*Намесьнік міністра культуры БССР М. Мінковіч паведамляе, што міністэрства дало ўказаньне аб стварэньні ў Дзяржаўным гісторыка-краязнаўчым музеі, які знаходзіцца ў горадзе Гродна, аддзела этнаграфіі. Прымаюцца меры да паляпшэньня работы па зьбіраньню матэрыялаў па гісторыі, этнаграфіі і мастацкай творчасьці ўсімі музеямі і новаарганізуемым Дзяржаўным музеем, будаўніцтва якога будзе распачата ў наступным годзе.*

*Пастановай Савета міністраў БССР ад 22 верасьня г. г. у Мінскім мастацкім вучылішчы адкры-*

*ваецца група прыкладнога мастацтва па ткацтву і вышыўцы.*

*Пытаньні, узьнятыя ў артыкуле А. Залескага, будуць абмеркаваны ў бліжэйшы час на пасяджэньні калегіі Міністэрства культуры БССР»*[340].

Гэты тэкст — бліскучы гістарычны дакумэнт-сьведчаньне аб ідэалягічных распрацоўках і «контрмерах» савецкага агітпропу і КГБ. Усяго праз 7 (!) дзён пасьля публікацыі Залескага, ужо падчас распачатага навучальнага году, у Менскай мастацкай вучэльні пастановай ураду (!) адкрываецца новая спэцыяльнасьць «па ткацтву і вышыўцы». Арганізоўваецца новы этнаграфічны аддзел у гарадзенскім музэі, а па выніках публікацыі «сьціплага этнографа» і ўсяго толькі кандыдата навук Залескага зьбіраецца засядаць цэлая калегія Міністэрства культуры.

Натуральна, як чытач ужо здагадваецца, акадэмік М. Нікольскі, член-карэспандэнт АН П. Глебка, народныя артысты СССР У. Уладамірскі і Я. Цікоцкі, а таксама пісьменьнік П. Пестрак і прафэсары М. Кацар і М. Ларчанка такога гонару не дачакаліся. Яны наогул не дачакаліся ніякага афіцыйнага адказу на свой зварот.

Акадэмікі і народныя артысты дбалі аб уратаваньні помнікаў высокай культуры — архітэктурных шэдэўраў, гарадзкой забудовы і замкаў. А тым часам, у поўнай адпаведнасьці з ідэалягічнымі пастулятамі адміністратараў колішняга Паўночна-Заходняга краю Расеі, беларусам і ў другой палове XX стагодзьдзя прапаноўвалі замілоўвацца толькі

340 Літаратура і мастацтва. 10 лістапада 1956.

сваёй сярмяжнай этнаграфічнай культурай — лапцямі, вышыванымі кашулямі і «калтуном».

Але гэта было б занадта просталінейна і непрыхавана — ратаваць толькі лапці і партызанскія зямлянкі замест помнікаў «барокко». Таму адказ быў дадзены і на публікацыю пра полацкія помнікі, праўда са значна ніжэйшага ўзроўню — ад полацкіх гарадзкіх уладаў. І гэты адказ — таксама ўзор бюракратычнай адпіскі і «загаварваньня тэмы».

Сьцяпан Александровіч у сваім артыкуле абураўся, што гарадзкія чыноўнікі нават ня ведаюць, якія будынкі ў Полацку ўзятыя пад ахову, старшыня Полацкага гарсавету Несьцярэнка на пытаньне журналіста зь цяжкасьцю прыгадаў два помнікі — Сафійскі сабор і Спаса-Эўфрасінеўскую царкву. Александровіч патрабаваў узяць пад дзяржаўную ахову і адрэстаўраваць тады яшчэ цалкам захаваныя будынкі езуіцкай Акадэміі разам з саборам і іншыя помнікі старой полацкай, у тым ліку грамадзянскай, архітэктуры, а таксама крытыкаваў гарадзкі фінаддзел за недастатковае фінансаваньне краязнаўчага музэю.

У адказе полацкія гарадзкія чыноўнікі абяцалі папрасіць Віцебскі аблвыканкам перадаць будынак езуіцкай Акадэміі дзіцячай бальніцы, выдаткаваць грошы на раскопкі, зьмяніць профіль гарадзкога краязнаўчага музэю на гісторыка-краязнаўчы, закончыць капітальны рамонт музэйнага будынку да 25 сьнежня 1956 году і добраўпарадкаваць «вал Івана Грознага» да 1 чэрвеня 1957 году[341]. І ні слова пра залічэньне ў сьпіс помнікаў, якія ахоўваюцца

341 Літаратура і мастацтва. 15 сьнежня 1956.

дзяржавай, згаданых Александровічам будынкаў культавай і грамадзянскай архітэктуры Полацку.

Так тэму загаварылі, а пасьля і закрылі. 12 студзеня 1957 году орган ЦК КПБ «Звезда» надрукавала артыкул Л. Абэцэдарскага і А. Сідарэнкі «За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазіцый», у якім даваўся адлуп усім, хто ў 1956 годзе насьмеліўся ідэалізаваць буржуазнае мінулае Беларусі.

А праз 11 дзён, 23 студзеня, адбыўся разгром «ЛіМу» — галоўны рэдактар Васіль Вітка і большасьць членаў рэдкалегіі былі звольненыя. Газэту ўзначаліў М. Ткачоў, і калі пачытаць яе падшыўку за 1957 год — дык ніякай згадкі пра праблемы захаваньня помнікаў высокай культуры ў Беларусі вы ня знойдзеце.

Далей ужо праводзіліся толькі ідэйная падчыстка і прэвэнтыўныя захады. Адным зь іх стаўся перавод Беларускага дзяржаўнага музэю гісторыі Вялікай айчыннай вайны з былой цэнтральнай плошчы гораду (Плошчы Свабоды) на новую Цэнтральную.

Чытач, верагодна, заўважыў у адказе Міністэрства культуры Адаму Залескаму згадку пра «новаарганізуемы Дзяржаўны музей, будаўніцтва якога будзе распачата ў наступным годзе». 1 сьнежня 1956 году «ЛіМ», якім яшчэ кіраваў Васіль Вітка, зьмясьціў нататку «Гісторыка-краязнаўчы музей БССР»:

*«На Цэнтральнай плошчы Мінска, побач з Палацам культуры прафсаюзаў будаўнікі паставілі агароджу. Нямногія мінчане ведаюць, што тут праз два гады будзе ўзвышацца прыгожы будынак гісторыка-краязнаўчага музея, праект якога склалі беларускія архітэктары Г. Бенядзіктаў і Г. Заборскі.*

*Будынак музея будзе адным з прыгажэйшых у Саюзе. У сярэдзіне яго ўпрыгожаць мармуровыя калоны. Паверхі злучаць мазаічныя лесьвіцы, а вестыбюлі, экспазіцыйныя залы і пакоі будуць прыгожа аддзеланы. На першым паверсе музея разьмесьціцца аддзел прыроды. На другім і трэцім — аддзел гісторыі Беларусі»*[342].

Нататку суправаджаў малюнак будынку, які 50 гадоў быў вядомы менчукам як Музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны на Кастрычніцкай плошчы сталіцы (зьнесены ў 2014 годзе).

Як бачым, будынак той прызначаўся для Дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музэю, які цяпер месьціцца на вуліцы Карла Маркса ў Менску. І адмова разьмясьціць яго на Цэнтральнай плошчы таксама стала адным з адказаў на нацыянальнае ажыўленьне 1956 году.

Пабудаваць новы музэйны будынак змаглі не праз два гады, а праз цэлых сем. І ў 1966 годзе туды перасялілася ўстанова, для якой будынак не прызначаўся — Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны, які да 1964 году знаходзіўся ў памяшканьні былога мужчынскага кляштару базыльянаў на Плошчы Свабоды.

Тады ж з Плошчы Свабоды на Вайсковыя могілкі былі вынесеныя і пахаваньні савецкіх салдатаў. Стары цэнтар — Плошча Свабоды — страціў сваё значэньне, таму і галоўныя ідэалягічныя сымбалі пасьляваеннага савецкага рэжыму ў Беларусі зь яго прыбралі.

Засяленьню Музэю Вялікай айчыннай вайны ў новы будынак на Цэнтральным пляцы папярэднічала цэлая эпапэя, бо спачатку туды заехаў, як

342 Літаратура і мастацтва. 1 сьнежня 1956.

і плянавалася, Беларускі Дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музэй. Гэты музэй быў утвораны пастановай ЦК КПБ ад 7 лістапада 1964 году на базе Арганізацыйнай групы і праз пяць дзён, 12 лістапада, заехаў у новы будынак, дзе адразу ж была разгорнута юбілейная выстава «900 год Менску».

Але ў лістападзе 1965 году памылка менскіх таварышаў была папраўленая, і ЦК КПБ прыняў пастанову аб абмене будынкамі паміж двума музэямі. Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны, які месьціўся тады ў цяперашнім будынку Нацыянальнага гістарычнага музэю на вуліцы Карла Маркса, 12, перабраўся на Цэнтральную плошчу, адкуль, адпаведна, на вуліцу Карла Маркса быў выселены гісторыка-краязнаўчы музэй

Што датычыць патрабаваньняў 1956 году ратаваць помнікі архітэктуры, у тым ліку і менскае Замчышча — дык лёс іх вядомы. Замчышча, як і сотні іншых каштоўных помнікаў па ўсёй рэспубліцы, уратаваць не ўдалося.

Адзін з падпісантаў ліста Міхаіла Кацара Пятро Глебка ў 1957 годзе быў абраны акадэмікам і прызначаны дырэктарам Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру АН БССР. Там ён дапамог прафэсару Кацару рапачаць цяжкую і доўгую працу па падрыхтоўцы да складаньня будучага Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі — падставы для стварэньня дзяржаўнага рэестру гісторыка-культурных каштоўнасьцяў.

У 1957 годзе быў складзены новы Дзяржаўны сьпіс помнікаў, якія падлягаюць ахове дзяржавы. Увайшла туды і тэрыторыя цалкам зьнішчанага Менскага замчышча. І знаходжаньне яе ў тым сьпісе

не ўратавала былы Менскі замак ад забудовы яго ў 60-я гады.

Таксама ў гады кіраваньня К. Мазурава, а пасьля П. Машэрава ў Беларусі была зьнішчана і большасьць тых помнікаў, пра якія ў 1956 годзе пісалі ў сваіх пратэстах беларускія інтэлектуалы. Сярод зьнішчанага аказаліся і згаданыя ўжо царква Дабравешчаньня XII стагодзьдзя ў Віцебску, і будынкі полацкай езуіцкай Акадэміі, і захаваная забудова заходняй часткі менскага Замчышча — яе разбурылі падчас забудовы новай Паркавай магістралі ў 60-я гады. А ў 80-я гады падчас пашырэньня рэчышча Сьвіслачы зьнікла паўночна-ўсходняя частка Замчышча разам са старым вусьцем Нямігі.

Справу давяршыла крывадушная пастанова Савету міністраў Беларускай ССР ад 13 сьнежня 1982 году «Аб мінскім Замчышчы». Вось вытрымкі з гэтага трагічнага дакумэнту:

«*Учитывая особую историческую и археологическую ценность территории минского Замчища и в целях обеспечения ее охраны и изучения Совет министров Белорусской ССР постановляет:*

*1. Объявить минское Замчище историко-культурной заповедной территорией общей площадью 3 га. в границах: с востока набережная реки Свислочь, с запада — средняя школа №44, с севера — край стадиона "Трудовые резервы" и жилой дом №5 по проспекту Машерова, с юга — площадь 8 Марта от реки Свислочь до Белорусского Республиканского Дома моделей.*

*2. Минскому горисполкому с участием Министерства культуры БССР и Академии наук БССР установить и обозначить на местности в соот-*

*ветствии с настоящим постановлением границы территории минского Замчища, а также совместно с Академией наук БССР разработать по согласованию с Министерством культуры БССР и утвердить Положение об указанной историко-культурной заповедной территории...»* [343]

А вось чым тая пастанова заканчвалася — гэта і ёсьць сапраўдная мэта яе прыняцьця. Савет міністраў Беларускай ССР вырашыў:

*«Разрешить частичное размещение на территории минского Замчища станции метрополитена "Немига", перегонных тоннелей, инженерных сетей в соответствии с утвержденными проектами...»*[344]

Так закончылася гісторыя менскага Замчышча.

У 80-я гады спробу перашкодзіць будаўніцтву на Замчышчы станцыі мэтро «Няміга» рабіў Зянон Пазьняк, і гэта яму, з дапамогай Дзяржбуду СССР, на нейкі час удалося. Але менскія чыноўнікі, як аказалася, зрабілі ў другой палове 80-х гадоў толькі часовае адступленьне. Станцыя была пабудаваная і ўрачыста адкрытая 31 сьнежня 1990 году. Падчас яе будаўніцтва былі зьнішчаныя падмуркі старасьвецкіх дамоў Нізкага рынку і прылеглых вуліц, а пад імі — археалягічныя пласты старажытнага Менску.

---

343 Архіў Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Пастанова Савету міністраў Беларускай ССР ад 13 сьнежня 1982 году №369. Урадавы адбітак.

344 Тамсама.

## Заключэньне

У часы падрыхтоўкі, абвяшчэньня і змаганьня за БНР у 1917–1920 гадах беларускія публіцысты і палітыкі зрабілі беларускую гісторыю галоўнай крыніцай і духоўным апірышчам барацьбы за дзяржаўнасьць беларускага народу.

Тагачасныя грамадзкія дзеячы, навукоўцы і журналісты імкнуліся выпрацаваць у грамадзянаў будучай незалежнай Беларусі гонар за сваю мінуласьць і за сваю гістарычную спадчыну. Сьведчаньнем гэтаму — сотні газэтных і часопісных публікацый, а таксама многія пастановы ўраду БНР, якія болей нагадваюць гістарычныя лекцыі з апісаньнем далёкай і блізкай гісторыі Беларусі. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову, што адной з асноўных прыкметаў ідэалёгіі БНР быў гістарызм.

Найвышэйшай сілы гістарызм БНР набраў у 1919–1920 гадах, у часы польскай акупацыі Беларусі, калі ў беларускіх дзеячоў існавалі надзеі (як высьветлілася пасьля — ілюзорныя) на хуткае адраджэньне дзяржаўнасьці з дапамогаю Польшчы.

З прычыны таго, што ў выніку Першай сусьветнай вайны Вільня засталася за лініяй фронту, з 1917 году адбывалася палітычнае ўзвышэньне Менску, дзе сканцэнтравалася значная колькасьць беларускіх палітыкаў і вялікія культурныя сілы. Менск становіцца палітычным цэнтрам Беларусі, і ў сакавіку 1918 году менавіта ў гэтым горадзе абвяшчаецца незалежная Беларуская Народная Рэспубліка.

Ня дзіўна, што гісторыя гораду і яго помнікі прыцягнулі ўвагу тагачасных публіцыстаў і палітыкаў — ідэолягаў БНР. У лістападзе 1919 году галоўны

тагачасны орган беларускага друку — штодзённая газэта «Беларусь» — праводзіць спэцыяльную акцыю для прапаганды менскай гісторыі і менскай спадчыны, апублікаваўшы ў пяці нумарах артыкулы пра менскую гісторыю і гістарычныя помнікі гораду.

Зь лістападаўскіх публікацый на гэтую тэму асабліва вылучаецца нарыс Рамуальда Зямкевіча «Стары замак у Менску». Якраз у гэтай публікацыі газэта «Беларусь» прапанавала правесьці археалягічнае дасьледаваньне менскай Замкавай гары, архітэктурную рэстаўрацыю помнікаў старога замку і пабудаваць на Замчышчы новую сядзібу для ўраду і сойму Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапанова тая была прыязна сустрэтая грамадзкасьцю, пакінула трывалы сьлед у беларускіх сэрцах і галовах, а таксама ў мастацтве (Язэп Драздовіч, Леў Дашкевіч).

Нададзеная ў часы БНР увага менскай гісторыі не прайшла дарэмна, і клопат аб менскіх помніках зноў праявіўся ўжо ў БССР — адразу, як толькі была наладжаная сыстэматычная праца беларускіх навуковых кадраў. Гэтаму дапамагло і тое, што амаль усе ўдзельнікі падзеяў у Менску 1919–1920 гадоў засталіся працаваць у БССР або вярнуліся туды пасьля нядоўгай эміграцыі.

Ужо вясной 1925 году культурныя сілы, аб’яднаныя вакол Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, пачалі дамагацца ўпарадкаваньня менскага Замчышча і пабудовы там помніка Кастусю Каліноўскаму. Лічылася, што падпольная друкарня Каліноўскага, дзе ў пачатку 1860-х гадоў выдавалася «Мужыцкая

праўда» і паўстанцкія ўлёткі, знаходзілася на менскім Замчышчы ў будынку Гродзкага суду.

У красавіку 1925 году паэт Ўладзімер Дубоўка пісаў:

*«... Адначасова вырашыць і пытаньне наконт месца для пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму, тым больш, што па досьледах некаторых вучоных у адным са старых будынкаў — (дзе цяпер між іншым кузьня, што зусім небясьпечна для гістарычнага дому) — месьцілася друкарня Каліноўскага.*

*Дом мае добра захаваны стары, надзвычайна цікавы стыль і з надворку і зь сярэдзіны, і ў ім, пасьля належнага абсталяваньня, можна будзе зрабіць... невялічкі музэй...*

*Трэба спадзявацца, што і “Маладняк” і Інбелкульт прымуць належныя крокі, каб зьвярнуць увагу нашых кіраўнічых устаноў і грамадзянства на замчышча, і што ў недалёкім часе яно будзе вабіць да сябе сваёй прыгажосьцю»*[345].

Камісія аховы помнікаў, а таксама Камісія гісторыі мастацтва Інбелкульту пачалі дамагацца і дамагліся ад уладаў стварэньня пляну рэстаўрацыі і музэіфікацыі Замкавай гары і Старога гораду ў Менску. На жаль, гэтае дасягненьне дзеячоў Інбелкульту супала па часе з пачаткам згортваньня толькі што распачатай палітыкі беларусізацыі — гэта адбылося ўжо ў канцы 1925 году. Ні мэмарыялізаваць Замчышча, ні стварыць там музэй і помнік

345 Савецкая Беларусь. 14 красавіка 1925. У гэтым самым нумары газэты была надрукаваная першая частка паэмы Анатоля Вольнага «Кастусь Каліноўскі».

Каліноўскаму, ні надаць ягонае імя адной з вуліц у Старым горадзе не ўдалося.

У сваім настойлівым клопаце аб Старым горадзе і Замчышчы дзеячы Інбелкульту непазьбежна ўвайшлі ў канфлікт з грозным органам пралетарскай дыктатуры — НКВД, у склад якога ў 20-я гады ўваходзілі і ўправы камунальнай гаспадаркі — так званыя камгасы.

Нягледзячы на часовае ведамаснае разьдзяленьне ГПУ і НКВД у 1923–1930 гадах Народны камісарыят унутраных справаў, як мы бачылі, захаваў за сабой значныя палітычныя функцыі і браў актыўны ўдзел у прыняцьці чыста палітычных рашэньняў. НКВД, напрыклад, кантраляваў кадравы склад саветаў народных дэпутатаў і для «ажыцьцяўленьня сацыялістычнай законнасьці» ў гэтай сфэры часткова ажыцьцяўляў палітычны вышук.

У адказ на клопат інбелкультаўцаў аб Старым горадзе, пад якім тады разумелася вуліца Няміская з усім яе навакольлем — Замкавай гарой, Нізкім і Рыбным рынкамі і дзясяткам сумежных вуліц, камгас НКВД пры дапамозе запрошанага з Масквы прафэсара архітэктуры Ўладзіміра Сямёнава распрацаваў плян сацыялістычнай рэканструкцыі і пляніроўкі Менску, які прадугледжваў поўнае зьнішчэньне Старога гораду з закладаньнем парку і возера на месцы Замкавай гары і Татарскіх агародаў.

Плян той быў настолькі грандыёзны і радыкальны, што Дзяржплян БССР з прычыны недахопу грошай адмовіўся яго зацьвярджаць, але загадаў акруговаму камгасу стварыць на яго аснове пяцігадовы плян пляніроўкі і добраўпарадкаваньня Менску. Гэтага аказалася дастаткова, каб адмовіцца ад

праектаў рэстаўрацыі Замкавай гары і яе помнікаў, чаго раней дамогся Інбелкульт.

Неўзабаве пачаліся рэпрэсіі супраць беларускіх дзеячоў, а ў 1931 годзе з удзелам адмыслова прысланых з Масквы і Ленінграду спэцыялістаў пачаліся грандыёзныя работы па сацыялістычнай рэканструкцыі Менску, якія праходзілі пад спэцыяльным наглядам ЦВК СССР і асабіста яго старшыні Міхаіла Калініна.

У 1934–1936 гадах у ленінградзкім аддзяленьні «Государственного института по проектированию, съемке и планировке населенных мест», так званым «Гипрогоре» РСФСР, на падставе пляну прафэсара Сямёнава (які ў той час ужо быў галоўным архітэктарам Масквы) быў складзены першы варыянт генпляну Менску, які прадугледжваў поўнае зьнішчэньне Старога гораду з усёй яго забудовай, скопваньне Замкавай гары і закладаньне на іх месцы так званага Цэнтральнага парку культуры і адпачынку.

Характэрна, што пасьля вайны ўсю працу па стварэньні і рэалізацыі генпляну Менску ўзначаліў Навум Трахтэнбэрг, які ў 30-я гады, у часе стварэньня першага генпляну, быў непасрэдным распрацоўшчыкам праекту Цэнтральнага парку культуры і адпачынку на месцы Старога гораду і Замкавай гары.

Парк той, у рэшце рэшт, не пабудавалі. Але пракладзены па Замчышчы праспэкт, названы ў гонар плянаванага парку Паркавай магістральлю, а таксама дзьве «паркавыя» спартовыя установы — стадыён «Трудовые резервы» і Дом спорту таго самага спартовага таварыства, засталіся ў гісторыі

сьведкамі тых грандыёзных плянаў і прычыніліся да непасрэднага разбурэньня Замкавай гары ў 1950-я гады.

У выніку Другой сусьветнай вайны і сакрэтных (у сэнсе, хаваных яшчэ і сёньня ад нашчадкаў) захадаў савецкіх уладаў вясной-летам 1944 году ў Менску дзіўным чынам аказаліся цалкам разбуранымі менавіта тыя кварталы Старога гораду і Замчышча, якія прадугледжваліся пад знос генплянам 1934–1936 гадоў і яго варыянтам 1939–1940 гадоў. Стары горад у Менску — а гэта Замкавая гара, Нізкі і Рыбны рынкі, а таксама дзясятак вузкіх і пакручастых вуліц таго раёну — аказаліся ахвярамі процістаяньня ідэі беларускага адраджэньня з расейскай імпэрскай ідэяй нацыянальнага задушэньня ўскраін у яе савецка-камуністычным абліччы.

Сёньня з прычыны амаль поўнай адсутнасьці архіваў камгасу НКВД БССР і недаступнасьці архіваў КГБ мы ня можам дакладна акрэсьліць ролю Масквы ў самы раньні пэрыяд трагедыі Старога гораду — у 1925–1926 гадах, калі НКВД проціпаставіў пляну рэстаўрацыі Замчышча і яго помнікаў, распрацаванаму Інбелкультам, свой плян пляніроўкі Менску, створаны прафэсарам Сямёнавым.

Улічваючы, аднак, той факт, што камгас НКВД у тыя гады ўсімі сваімі рашэньнямі толькі дубляваў аналягічныя пастановы і загады Масквы, можна меркаваць, што без яе справа тут не абышлася. Магчыма, некалі беларускія гісторыкі дабяруцца да адпаведных сховішчаў, якія сёньня дзеля зразумелых прычынаў недаступныя аўтару гэтых радкоў, і пацьвердзяць або абвергнуць гэтае меркаваньне.

Зрэшты, абвергнуць яго будзе даволі цяжка, бо сам ход падзеяў у Беларусі ў 20–60-я гады XX стагодзьдзя паказаў, што нацыянальнае задушэньне беларускага народу выявілася ня толькі ў разгроме нацыянальных кадраў, татальнай русыфікацыі і саветызацыі, але і ў далейшым разбурэньні найкаштоўнейшых помнікаў беларускай архітэктуры, якое пачалося з канца XVIII стагодзьдзя і асабліва ўзмацнілася ў 60–70-я гады XIX стагодзьдзя пры віленскім генэрал-губэрнатары М. Мураўёве.

У гісторыі існуе трагічная недаацэнка гэтага боку расейскай палітыкі ў Беларусі. Сёньня гісторыкі прывычна пералічаюць захады расейскага ўраду пасьля далучэньня Беларусі да Расеі, скіраваныя на «абрусеньне» краю — закрыцьцё Віленскага ўнівэрсытэту і Полацкай акадэміі, скасаваньне Ўніяцкай царквы, адмену дзеяньня Літоўскага статуту, забарону беларускага друку і г. д. Зрэдку ў гэты пералік трапляюць і спрамленьне вуліц у гістарычных цэнтрах гарадоў і грандыёзная кампанія перабудовы беларускіх помнікаў манумэнтальнай архітэктуры, найперш кляштараў, цэркваў і касьцёлаў у эклектычным стылі казённага праваслаўя. Ініцыятарам той перабудовы называюць віленскага генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва.

А тым часам яшчэ Аляксандар Цьвікевіч нагадваў, што ў XIX стагодзьдзі ў сыстэме дзяржаўнай улады Расейскай імпэрыі існаваў таемны «Западный комитет», які і распрацоўваў усе вышэйзгаданыя захады па русыфікацыі Беларусі, у тым ліку і «мураўёўскую» перабудову гарадоў і храмаў[346]. Зада-

346 Цьвікевіч А. «Западно-руссизм»... С. 15.

ча гэтага таемнага органу, створанага 2 кастрычніка 1862 году, фармулявалася так:

*«Прыраўнаць заходнія губэрні, ад Польшчы далучаныя, ва ўсіх адносінах да ўнутраных велікарускіх губэрняў»*[347].

Бальшавікі, у рукі якіх пасьля кастрычніцкага перавароту перайшлі ўсе дзяржаўныя архівы Расейскай імпэрыі, ня толькі перанялі ад царскага ўраду шмат якія бюракратычныя традыцыі і парадкі, яны яшчэ і аказаліся ўдзячнымі вучнямі і пасьлядоўнікамі «Западного комитета».

Сёньня кожнаму зразумела, што для таго, каб зрабіць горад сучасным і зручным для жыцьця, не абавязкова разбураць яго старое ядро — дастаткова стварыць новы дзелавы цэнтар побач са старым і правесьці адпаведныя камунікацыі ў абыход гістарычных кварталаў, не разбураючы іх. Але так зробіць (і робіць) той, чыя мэта — захаваньне культуры.

У Менску ж сытуацыя была адваротнаю. Нацыянальнае задушэньне, ліквідацыя нацыянальнай культуры і русыфікацыя — вось зьмест і сэнс усяго, што рабілі Крэмль і НКВД у Беларусі ў 20–50-я гады — у тым ліку і «сацыялістычнай рэканструкцыі гарадоў». І мэты гэтыя зусім ня розьніліся ад тых, што ставілі перад сабой у XIX стагодзьдзі дзеячы «Западного комитета».

Ураджэнец вёскі Калінаўка Курскай губэрні, верны шматгадовы паплечнік Сталіна, у 30-я гады — першы сакратар Маскоўскага гаркаму ВКП(б) і актыўны ўдзельнік рэканструкцыі Масквы Мікіта Хрушчоў, выступаючы ў 1958 годзе на перадвыбар-

347 Тамсама.

чым сходзе ў сталіцы СССР, дакладна выказаў горадабудаўнічыя прыярытэты і арыенціры савецкага кіраўніцтва 30–50-х гадоў:

*«Я старого Минска не видел, но слышал, что это был невзрачный город. В январе я был в Минске и убедился, что город построен хорошо, удачно спланирован. Когда проезжаешь по главной улице Минска, создается впечатление, что ты словно едешь по Невскому проспекту...»* [348]

Так беларусаў набліжалі да Расеі, і яны за гэта плацілі яшчэ падвойную цану. Прафэсар М. Улашчык у адным з прыватных лістоў у 1962 годзе пісаў:

*«Сёньня гаварыў з акадэмікам Тихомировым. Ён хоча сваю калекцыю рукапісаў перадаць у Навасібірск, але сярод іх ёсьць беларускія і ўкраінскія. Зь беларускіх ён назваў евангельле, пісанае ў канцы XV ст. у Друцку, і евангельле, пісанае ў Мінску ў XVI ст. Вядома, што ўсё гэта трэба было б аддаць у Мінск, але каму і куды? У Віцебску ўзарвалі царкву XII ст., у Мінску разбурылі замчышча. З гэтага ён робіць зусім разумны вывад, што ў Беларусі да помнікаў культуры адносяцца па-варварску...»*[349]

Друцкае і Менскае Эвангельлі і цяпер захоўваюцца ў бібліятэцы Новасібірскага аддзяленьня Расейскай акадэміі навук.

Разбурэньне помнікаў архітэктуры, як і іх аднаўленьне, — заўсёды было і ёсьць справай ідэалягічнай. Абстаўленая сталінскімі ампірнымі палацамі цэнтральная вуліца Менску, па сутнасьці, ніколі не была толькі натуральным выяўленьнем

348 Советская Белоруссия. 15 сакавіка 1958.

349 Улашчык М. Ліст да Ю. Бібілы ад 21 сакавіка 1962 году // Выбранае... С. 480–481.

савецкага сацыялістычнага рэалізму або ўтапічнай мары камуністаў аб сьветлым заўтра. Яна стала тым, чым і павінна была стаць паводле задумы крамлёўскіх валадароў — сродкам ідэалягічнага занявольваньня і сымбалем палітычнага задушэньня абуджанага ў рэвалюцыю і вайну беларускага народу, аднаго з ускраінных народаў імпэрыі.

І доказ гэтаму — першы паўсталы будынак на новай цэнтральнай вуліцы Менску. Ім стаў не Паштамт, ня ГУМ, не Дзяржбанк, не, тым больш, жылы дом. У 1945 годзе на рагу Камсамольскай і Савецкай сярод яшчэ не да канца разабраных руінаў пачаў узводзіцца і ў 1947 годзе быў скончаны новы будынак галоўнай савецкай карнай установы таго часу — Міністэрства дзяржаўнай бясьпекі (МГБ).

Улічваючы вышэйсказанае, няцяжка зрабіць выснову, што беларусы ня вызваляцца ад савецкай (і расейскай) спадчыны, пакуль не адновяць менскі Стары горад, старыя цэнтры Горадні, Наваградку, Берасьця, Віцебску, Магілёва ды іншых гарадоў. Але найперш і перш за ўсё — Менск.

Помнікі архітэктуры, прычым ня толькі гарадзкія дамінанты, але і шараговае гарадзкое асяродзьдзе, закладаюць у людзкія душы код прыналежнасьці да той або іншай цывілізацыйнай прасторы.

Выдатны чэскі лінгвіст і дыплямат, прафэсар Іржы Марван у сваім эсэ «Белая Русь у нашай гісторыі і думках. На мосьце паміж Эўропай і велізарнасьцю Русі Вялікай» у 1990-я гады пісаў:

«*Праяжджаючы па Беларусі па сьлядах разбуральных войскаў Напалеона і Гітлера, а таксама назад па сьлядах ня менш разбуральных войскаў Кутузава і Сталіна, мы задаем сабе пытаньне, што пасьля гэ-*

*тулькіх матэрыяльных і духоўных катастрофаў — улучна з савецкай уладай і Чарнобылем — што ад гэтай некалі квітнеючай краіны засталося.*

*І тут для нас, непадрыхтаваных, але ўважлівых назіральнікаў, у якіх яшчэ не сьцерліся ўражаньні ад цыбуляватых вежаў маскоўскіх, наўгародзкіх і загорскіх храмаў, Беларусь рыхтуе сюрпрыз: нас агортвае сьвет готыкі, барока і рэнэсансу.*

*Пабачыўшы Барысаглебскую царкву XII стагодзьдзя ў Горадні, магутны замак XV–XVI стагодзьдзяў у Міры і шэраг іншых сьвецкіх і духоўных памятак XVI–XVIII стагодзьдзяў у ваколіцах Ліды, у Нясьвіжы або ў Магілёве, мы ўсьведамляем, што мы пакінулі Вялікую Русь і апынуліся ў старой добрай Эўропе, якую мы ведаем з Брандэнбургу, Чэхіі, Швайцарыі ці Ютляндыі, або з эўрапейскага ўзьбярэжжа Атлянтыкі»*[350].

Менавіта «старой добрай Эўропай» у архітэктурным сэнсе да Другой сусьветнай вайны і была сталіца БССР — наш Менск. Гэты горад у XVII–XVIII стагодзьдзях будавалі тыя самыя архітэктары і майстры, што будавалі Вільню. У архітэктурным сэнсе стары Менск заўсёды і быў Вільняй, толькі меншай па памерах (дарэчы, не нашмат). Гэта быў тыповы цэнтральна-ўсходнеэўрапейскі горад, якіх нямала ў Польшчы, Чэхіі, Славаччыне і іншых краінах рэгіёну.

І гэтае эўрапейскае аблічча раней ці пазьней павінна быць Менску вернутае.

*Прага,*
*2006–2021*

---

350 Marvan J. Brána jazykem otvíraná aneb o češtině světové. Praha, 2004. С. 223. Пераклад Сяргея Шупы.

## Зьмены назваў вуліц

У дужках падаецца год зьмены. Ня ўлічаныя зьмены часоў савецкай і польскай акупацыяў у 1919–1920 гадах

Вялікая Татарская, **Дзімітрава** (1934)
Падзамкавая на Балоце, **Кустарная** (1931)
Васкрасенская, **Вызваленьня** (1924)
Ракаўская, **Астроўскага (1937)**, Ракаўская (1993)
Рыбны рынак, **Біржавы завулак** (1926)
Школьная, **Вольная** (1931)
Нізкі рынак, **Плошча 8 Сакавіка** (1931)
Аляксандраўска-Набярэжная, **Камунальна-Набярэжная** (1922)
Зыбіцкая, Балотная (1866), **Гандлёвая** (1882), Зыбіцкая (2010)
Няміга-Школьная, Кацярынінская (1866), **Калініна** (1926), Няміга (1954)
**Няміская**, Няміга (1954)
Казьмадзям’янаўская, **Дзям’яна Беднага** (1931)
Койданаўская, **Рэвалюцыйная** (1922)
Фэліцыянаўская, Багадзельная (1866), **Камсамольская** (1922)
Высокі рынак, Саборная плошча (1866), Пляц Волі (1917), **Плошча Свабоды** (1933)
Вялікая Бэрнардынская, Манастырская (1866), **Бакуніна** (1922), Кірыла і Мяфодзія (1990)
Малая Бэрнардынская, Мала-Манастырская (1866), **Герцана** (1922)
Петрапаўлаўскі завулак, **Музыканцкі завулак** (1882), Музычны завулак (пасьля 1945)
Дамініканская, Петрапаўлаўская (1866), **Энгельса** (1922)
Зборавая, Турэмная (1866), Прэабражэнская (1882), **Інтэрнацыянальная** (1922)
Валоцкая, Хрышчэнская (1866), **Кастрычніцкая** (1922), Інтэрнацыянальная (1961)
Францішканская, Губэрнатарская (1866), **Ленінская** (1922), Леніна (1945)




1. Плян-схема гістарычнай часткі Менску. Назвы вуліц пададзеныя паводле стану на 1941 год.





2. 23 чэрвеня 1941 году. Немцы сфатаграфавалі Менск перад пачаткам бамбаваньняў, якія пачаліся на наступны дзень. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.

3. 24 чэрвеня 1941 году, раніца. Першыя нямецкія бомбы ўпалі ў раёне Ляхаўкі. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.





4. 24 чэрвеня 1941 году, вечар. Палае зарэчная частка гораду, у тым ліку Траецкая гара. Моцны пажар у раёне вуліцы Пралетарскай, ніжніх частках вуліц Акцябрскай, Камуністычнай, Садовай і Садова-Набярэжнай на левым беразе Сьвіслачы. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.

5. 25 чэрвеня 1941 году, раніца. Немцы мэтадычна адзначылі белай рамкай раён найбольшых разбурэньняў ад налётаў 24 чэрвеня. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.



6. 26 чэрвеня 1941 году, раніца. Уся цэнтральная вуліца Менску — Савецкая, і яе навакольлі ўключна з Новым горадам, вуліцамі Энгельса, Ленінскай ўжо спаленая. На здымку пажары працягваюцца на вуліцы Інтэрнацыянальнай непадалёк ад Плошчы Свабоды і ў раёне вуліцы Рэспубліканскай. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.

7. 26 чэрвеня 1941 году. Белымі рамкамі адзначаныя пацярпелыя ад бамбаваньняў і пажараў 24–25 чэрвеня вялізныя тэрыторыі ў цэнтральнай і паўночна-ўсходняй частках Менску. Гістарычны цэнтар, у тым ліку Стары горад, па-ранейшаму некранутыя. Адказу на пытаньне, калі і як загарэлася частка Старога гораду, а менавіта кварталы паміж вуліцамі Вольнай і Дзям’яна Беднага і паміж Біржавым завулкам і Нізкім рынкам (былі гэта бомбы ці падпалы), нямецкія здымкі першых дзён вайны не даюць. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.





8. Пачатак ліпеня 1941 году. У такім выглядзе Стары горад перажыў першыя два тыдні вайны. Самыя старыя мураваныя кварталы Менску — паміж вуліцамі Вольнай і Дзям’яна Беднага а таксама паміж Біржавым завулкам і Нізкім рынкам — ужо спаленыя. Але частка дамоў на Дзям’яна Беднага нават захавалі дахі. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.



9. Так выглядаў Стары горад у пачатку ліпеня 1941 году. Апрача раней згаданых кварталаў вакол Нізкага рынку і вуліцай Дзям'яна Беднага цалкам згарэў правы бок вуліцы Стара-Мясьніцкай на Замчышчы. Гэта тое самае Замчышча, праект рэстаўрацыі якога Інбелкульт распрацаваў яшчэ у 1925 годзе і дзе Ўладзімер Дубоўка марыў паставіць помнік Кастусю Каліноўскаму. Гэты раён падлягаў поўнаму зносу паводле ленінградзкага генпляну Менску 1936 году. Нізкі рынак засыпаны нямецкімі агітацыйнымі ўлёткамі. Аэрафотаздымак люфтвафэ.

10. Ліпень 1941 году. Панарама гістарычнага цэнтру Менску з паўночнага захаду з Плошчай Свабоды, Новым горадам і часткай Старога гораду. Лявей ад цэнтру ў ніжняй частцы здымку добра відаць крывы завулак-праход, які перасякаў квартал паміж Біржавым завулкам і вуліцай Вольнай. Гэты завулак — рэшта старажытнай вуліцы Юраўскай, якая некалі адыходзіла ад Нямiскай і пад вуглом да яе вяла да Нізкага рынку і замку. Аэрафотаздымак Люфтвафэ.






11. Фрагмэнт папярэдняга здымку, на якім унізе ў цэнтры яшчэ лепш відаць той вузкі крывы завулак-праход, які зьвязваў вуліцу Вольную і Біржавы завулак і які адсутнічае на ўсіх спробах тапаграфічнай рэканструкцыі забудовы Старога гораду. Вышэй зьлева добра відаць каменныя джунглі самага старога мураванага кварталу Менску з вузкім доўгім завулкам-дваром, у які можна было трапіць з Плошчы Свабоды і з вуліцы Дзям'яна Беднага праз арачныя праходы.



12. Спаленая пажарамі першых дзён вайны забудова Новага гораду і кварталаў паміж вуліцамі Інтэрнацыянальнай, Савецкай, Карла Маркса і Кірава. Ліпень 1941 году.



13. Панарама гістарычнага цэнтру Менску з паўднёвага ўсходу. Восень 1941 году. Здымак з так званай калекцыі Ганса Руфа ў музэі Вялікай Айчыннай вайны. Некалькі дзясяткаў авіяздымкаў 1941 году з гэтай калекцыі, зробленых з малой вышыні, застаюцца найлепшымі гістарычнымі фотадакумэнтамі па гісторыі старой архітэктуры Менску.



14. Панарама старога гораду. Фрагмэнт папярэдняга здымку. Адзін з самых інфарматыўных і вымоўных кадраў з калекцыі Руфа, які дазваляе адчуць шчыльнасьць забудовы. Добра відаць абодва рынкі Старога гораду (Рыбны зьлева і Нізкі справа), роўныя трасы Замкавай і Вольнай вуліц і крывыя трасы вуліц Дзям'яна Беднага, Нова-Мясьніцкай, Завальнай і Стара-Мясьніцкай. Асабліва ўражваюць паўкругі Нова-Мясьніцкай і Завальнай зьлева. Добра відаць таксама Мясныя рады справа і, лявей ад іх, спалены будынак Гродзкага суду, які захаваў толькі мураваны першы паверх.

15. Іншы кадар з калекцыі Руфа, зроблены за імгненьне да папярэдняга падчас яго кругавога аблёту восеньню 1941 году цэнтральнага пляцу тагачаснага Менску — Плошчы Свабоды, з пэрспэктывай на Траецкае прадмесьце і Татарскія агароды. Ужо разабраная частка руінаў гатэлю «Эўропа».

16. Адзін з наступных кадраў з калекцыі Руфа. На пярэднім пляне вуліца Энгельса, далей справа дамініканскі кляштар з касьцёлам Тамаша Аквінскага.





17. Далей самалёт нямецкага лётчыка павярнуў налева, каб цалкам абляцець і сфатаграфаваць у дэталях Плошчу Свабоды.

18. На гэтым (як і на папярэднім) кадры зьвяртае на сябе ўвагу паўночна-ўсходні бок Вялікага гасьцінага двара, які на працягу XIX стагодзьдзя склаўся зь пяці купецкіх дамоў, што шчыльна прымыкалі адзін да аднаго. Гэта вельмі характэрная для эўрапейскіх рынкаў сытуацыя, і выглядае, што аднаўленьне ў XXI стагодзьдзі на месцы гэтых дамкоў аднаго вялікага і невысокага дому ў стылі правінцыйнага клясыцызму з калёнамі — тыповы прыклад неразумнай і непатрэбнай рэгенэрацыі.



19. Здымак Плошчы Свабоды з паўночнага захаду. У кадар трапіла і Няміская вуліца зь Біржавым завулкам. Унізе зьлева добра відаць той завулак-праход, што вёў з вуліцы Вольнай на рынкавы пляц. На здымках з калекцыі Руфа — тыповы цэнтральна-ўсходнеэўрапейскі горад з квадратным рэнэсансным пляцам у цэнтры і дзясяткам вуліц з густой забудовай, што падыходзілі да яго з розных бакоў.



20. На пярэднім пляне ўнізе — забудова вуліц Гандлёвай і Гандлёва-Набярэжнай з Лаўскім мостам, які працягваў вуліцу Герцана. Зьлева добра відаць комплекс былога жаночага ўніяцкага кляштару сьвятой Тройцы, у якім разьмяшчалася другая менская лякарня. А перад ёй — дахі прыватнай забудовы на месцы колішняй ВДНГ, дзе на той час яшчэ захоўваўся дом Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

21. Вуліца Савецкая пры сутыку з Валадарскага (на пярэднім пляне) і з Урыцкага (на другім пляне). Адзін з двух здымкаў часопісу «Life» за верасень 1941 году, які суправаджаўся подпісам: «...Чыстыя вуліцы Менску, без варонак ад бомбаў або друзу, паказваюць, што гэтыя разбурэньні былі вынікам тактыкі "выпаленай зямлі". Пажары былі пачатыя расейцамі праз падпалы на лесьвічных пляцоўках сучасных каменных будынкаў з мэтай пашкодзіць іх настолькі, каб зрабіць непрыдатнымі для выкарыстаньня ў якасьці казармаў для нямецкіх войскаў».





22. Нягледзячы на сьцьвярджэньні амэрыканскага часопісу, хапала на менскіх вуліцах і друзу ад абрынутых будынкаў. А вось варонак ад бомбаў на вуліцах сапраўды не было — прынамсі на тагачасных здымках іх знайсьці цяжка. Скрыжаваньне вуліц Савецкай і Энгельса, зьлева — агароджа Гарадзкога сквэру. Ліпень 1941 году.

23. У першыя месяцы акупацыі для расчысткі вуліц выкарыстоўвалі палонных савецкіх салдатаў. Разбор завалаў на рагу вуліц Савецкай і Энгельса. Ліпень 1941 году.





24. Восеньню 1941 году на расчыстку завалаў і разбор пашкоджаных будынкаў пачалі ганяць і вязьняў менскага гета. Расчыстка вуліцы Ленінскай. Выгляд у бок Савецкай.

25. Менчукі назіраюць за перамяшчэньнем цяжкай нямецкай артылерыі на вуліцы Савецкай. Справа — пэрспэктыва забудовы Новага гораду ад чатырохпавярховага дома на рагу Савецкай і Энгельса і да завулку Луначарскага на месцы цяперашняй Кастрычніцкай плошчы. Некаторыя з тых дамоў былі да вайны надбудаваныя. Немцы адразу вырашылі, што іх статыка небясьпечная і пагражае абвалам, таму асудзілі іх да зносу. Чэрвень 1941 году.





26. Зьнесеная франтальная забудова Новага гораду па вуліцы Савецкай насупраць Гарадзкога сквэру. Цяпер гэтыя дамы не пагражалі абвалам. Мураваная забудова Новага гораду пачалася ў XVII стагодзьдзі. 1942 год.

27. Паралельна з расчысткамі вуліц і зносам небясьпечных руінаў немцы ў Менску адразу пачалі рабаваць антыкварную мэблю з кватэраў, якія цудам ацалелі ў пажарах першых дзён вайны. 1941 год.





28. Стык вуліц Няміскай і Астроўскага. Ліпень 1941 году.
У адрозьненьне ад ваколіц Нізкага рынку і Новага гораду Нямiская вуліца ў вайну захавалася амаль цалкам. Падчас савецкіх бамбаваньняў 1942–1943 гадоў згарэў дом (застаўся за кадрам), які прымыкаў да таго, што на гэтым здымку крайні зьлева. Таксама згарэлі два дамы і ўнутрыквартальныя мураваныя прыбудовы да іх на цотным (правым) баку вуліцы непадалёк ад Т-падобнага скрыжаваньня з Камсамольскай, бліжэй да стыку з Астроўскага. І цалкам згарэлі драўляныя пабудовы на стыку Нямiскай і Нямiскага завулку.

29. Вуліца Нямiская зімой 1941–1942 гадоў.





30. Вуліца Няміская летам 1942 году.

31. Паводка пасьля навальніцы на стыку вуліц Няміскай і Рэспубліканскай летам 1942 году. Лявей уверсе траса Няміскай заварочвае направа, а над ёй пануе дах былой Кацярынінскай царквы з ацалелай правай вежай бяз купала. Пад вадой схаваны даволі якасны брук гэтага скрыжаваньня з глыбокімі рыштокамі.





32. Вуліца Віцебская, якая выходзіла на Нямiскую, утвараючы Т-падобнае скрыжаваньне зь ёй. Няміская за сьпінай фатографа. 1941 год.

33. Вуліца Камсамольская. Калёна савецкіх ваеннапалонных паварочвае зь Нямiскай. Добра відаць выгiнастая траса вуліцы Камсамольскай. Гэта была важная вуліца старога Менску, на ёй знаходзіліся вельмі старыя мураваныя помнікі грамадзянскай архітэктуры. Лета 1941 году.





34. Велізарная чарга па хлеб у краму на рагу Камсамольскай і Рэвалюцыйнай. З сьпінай фатографа — вуліца Няміская. На краме з даваенных часоў захоўвалася шыльда з расейскім надпісам «ХЛЕБО-БУЛОЧНЫЙ». Зіма 1941–1942 гадоў.

35. Тое самае скрыжаваньне Камсамольскай і Рэвалюцыйнай, зьнятае ў бок Нямiскай. Дом на рагу зьлева, у якім была хлебная крама, і белы дом справа, таксама на рагу з Рэвалюцыйнай, існавалі ўжо ў XVIII стагодзьдзі. А нядаўна гісторык Расьціслаў Баравы даказаў, што белы дом зьлева, які захаваўся да нашых дзён, пабудаваны ў другой палове XVII стагодзьдзя. Вясна 1942 году.





36. Яшчэ раз тое самае месца. На здымку больш выразна відаць дэкаратыўныя дэталі двух будынкаў зьлева, якія адсылаюць нас да XVIII–XIX стагодзьдзяў. Вясна 1942 году.

37. Рог Камсамольскай і Інтэрнацыянальнай. Будынак у цэнтры захаваўся да нашых дзён. Зіма 1941–1942 году.






38. Самая верхняя частка вузкай і пакручастай вуліцы Камсамольскай пры яе стыку з Савецкай. Зьнішчаныя бамбаваньнямі і пажарамі першых дзён вайны старыя менскія муры. У цэнтры — двары вуліцы Савецкай. Жнівень 1941 году.

39. Самая вузкая частка вуліцы Калініна насупраць былога Школьнага двара з пэрспэктывай на Біржавы завулак і вуліцу Астроўскага. Ліпень 1941 году. Будынак зьлева меў два паверхі і скляпеністыя столі, у 1942–1943 навучальным годзе ў яго перавялі беларускую школу, якая да таго была на вуліцы Рэвалюцыйнай.





40. Выгляд былога Школьнага двара і вуліцы Вольнай з Рыбнага рынку. Восень 1941 году. Зьвяртае на сябе ўвагу фігурны франтон двухпавярховага дому ў цэнтры з аркай. Разьмяшчэньне будынкаў тарцом на вуліцу не было правілам для Менску, але не было і рэдкасьцю. Праз пару будынкаў уверх па Школьнай быў яшчэ адзін такі дом. Былі такія самыя дамы на Нямiскай, Камсамольскай, Плошчы Свабоды і ў іншых месцах. Дом зьлева неўзабаве будзе зьнесены.

41. Фронт забудовы цотнага (правага) боку самага вузкага кавалку вуліцы Калініна. Выгляд з былога Школьнага двара. Восень 1941 году.





42. Тое самае месца ў 1942 годзе. Трохпавярховы дом на рагу вуліцы Калініна і Біржавога завулку ўжо зьнесены.

43. Выгляд на Школьны двор і вуліцу Вольную зь Біржавога завулку. 1942 год. На будынку зьлева відаць вялікі чорны крыж. Так зь лета 1941 году нямецкія ўлады пачалі пазначаць прызначаныя пад знос дамы ў цэнтры Менску, будаўнічая экспэртыза якіх паказала, што яны пагражаюць абвалам.





44. Вуліца Вольная і Школьны двор. На першых паверхах двух дамоў у цэнтры можна разгледзець рэшткі былых скляпеньняў, што сьведчыць пра іх старажытнасьць. Гэта частка самага старога мураванага кварталу Менску. 1941 год.

45. Тое самае месца з больш глыбокай пэрспэктывай вуліцы Вольнай. Тут яшчэ лепш відаць магутныя старажытныя скляпеньні першых паверхаў, асабліва дома ў цэнтры (над будкай для продажу газы і лявей ад яе). Жнівень 1941 году.



46. Халодная сынагога на Школьным двары. 1941 год. Адносна гэтага помніка менскай архітэктуры існуюць розныя погляды навукоўцаў на час яго будаўніцтва: адны датуюць яго 1570 годам, іншыя пачаткам XVII стагодзьдзя. Ёсьць нават меркаваньне, што гэта царква ці капліца праваслаўнага манастыра, перададзеная ў XVIII стагодзьдзі габрэйскай грамадзе. Так ці іначай гэты выдатны гатычна-рэнэсансны помнік вайну перажыў і быў зьнішчаны ў 1971 годзе.

47. Кацярынінская (сёньня Петрапаўлаўская) царква на вуліцы Астроўскага. Выдатны помнік менскага Рэнэсансу 1612 году, перабудаваны расейцамі ў XIX ст. Да вайны ўсё навакольнае насельніцтва было перакананае, што гэта былая ўніяцкая царква з будынкам мужчынскага кляштару пры ёй. Здымак гэтага храму, зроблены ў 1920-я гады інбелкультаўцамі, які цяпер захоўваецца ў ЦНБ НАН, падпісаны «г. Мінск. Царква св. Кацярыны. Былая уніяцкая». Аднак сёньняшнія гісторыкі мяркуюць, што царква адразу будавалася як праваслаўная. 1941 год.

48. Інтэр’ер Кацярынінскай царквы. Беларускія жанчыны скарысталіся магчымасьцю бясьпечна памаліцца ў разгромленым у 1930-я гады храме. Два кузавы аўтамабіляў бяз колаў зьлева і справа сьведчаць пра тое, што савецкія ўлады перад вайной зрабілі ў храме аўтамайстэрню. Восень 1941 году.





49. Верхняя частка вуліцы Дзям'яна Беднага пасьля бамбаваньняў і пажараў чэрвеня 1941 году. Гэтая вуліца — чэмпіён па нямецкай увазе сярод усіх вуліц Старога гораду. Толькі ў гэтай кнізе прыведзена 11 яе здымкаў часоў акупацыі. Гэта без сумневу сьведчыць пра эўрапейскую спадчыну Менску. Увагу немцаў прыцягвала менавіта вузкая і крывая вуліца, якіх шмат было і ў іх родных гарадах. Ліпень 1941 году.

50. Яшчэ адзін нямецкі здымак вуліцы Дзям'яна Беднага, зроблены ў самым пачатку акупацыі. Сама траса вуліцы неўзабаве будзе ачышчаная, але куча друзу ад абвалу дома справа так і будзе перакрываць ходнік увесь час акупацыі. Першы дом зьлева захаваўся, быў адрамантаваны, дабудаваны і прастаяў пасьля вайны больш за 40 гадоў. Ліпень 1941 году.

51. Вуліца Дзям'яна Беднага ў жніўні 1941 году.

52. Вуліца Дзям'яна Беднага, зьнятая ў бок Нізкага рынку. Лета 1941 году.





53. Гэты здымак вуліцы Дзям’яна Беднага ў музэі Вялікай Айчыннай вайны датуецца 1944 годам, але выглядае, што ён значна ранейшы. Хутчэй за ўсё гэта лета 1941 году. Дом зьлева яшчэ на месцы, і няма навіслых над вуліцай жалезных швэлераў, якія зьявіліся там у выніку далейшых абвалаў і нямецкіх расчыстак.

54. А гэта ўжо ачышчаная вуліца Дзям’яна Беднага ў сваёй цэнтральнай частцы позьняй вясной 1942 году. Вельмі характэрная дэталь — арачны праход у двор справа закладзены цэглай. Скляпеньні аркі маглі вытрымаць пажары першых дзён вайны, і менчукі мелі магчымасьць зрабіць там жылое памяшканьне. Здымак пацьвярджае аповеды старажылаў пра тое, што на правым баку вуліцы ў вайну былі адрамантаваныя кватэры, у якіх жылі людзі.



55. Вуліца Дзям’яна Беднага пасьля 2 верасьня 1942 году. У верхняй частцы вуліцы ўжо відаць сьляды нямецкіх расчыстак, а, магчыма, і савецкіх бамбаваньняў. Паколькі забудова Замчышча была спаленая і часткова разбураная якраз у выніку савецкіх бамбаваньняў 1942 году, то нейкая бомба магла трапіць і ў верхнюю частку вуліцы Дзям’яна Беднага. Датуецца паводле параўнаньня з аэрафотаздымкам Люфтвафэ 2.09.1942.





56. Вуліца Дзям’яна Беднага пасьля 2 верасьня 1942 году ў сваёй верхняй частцы.

57. Вуліца Дзям’яна Беднага пасьля 2 верасьня 1942 году, верагодна, у брудную адлігу зімы 1942–1943 гадоў.





58. Вуліца Дзям’яна Беднага зімой 1943–1944 гадоў.

59. Пачатак вуліцы Дзям’яна Беднага на Нізкім рынку. Старасьвецкі двухпавярховы дом зьлева зьнікне ў 1942 годзе ў выніку савецкіх бамбаваньняў. 1941 год.



60. Нямецкі транспарт і цывільныя жыхары Менску на Нізкім рынку. Лета 1941 году. Зьвяртае на сябе ўвагу адсутнасьць бруку на значнай частцы гандлёвага пляцу, за выключэньнем трасы вуліцы Стара-Мясьніцкай уздоўж дамоў справа і працягу вуліцы Калініна ўздоўж дамоў зьлева. Можа быць два тлумачэньні гэтаму. Або савецкія ўлады ў рамках выкананьня генэральнага пляну 1936–1939 гадоў паскоранымі тэмпамі рыхтавалі Нізкі рынак да зносу і прыбралі брук, каб выкарыстаць яго ў іншым месцы, або брук прыбралі, каб замяніць яго на новы (што менш верагодна). Вядома, што з дамоў справа перад вайной выселілі жыхароў, патлумачыўшы ім, што чакаецца капітальны рамонт.

61. Заходні бок Нізкага рынку і выхад на яго вузкай вуліцы Калініна ў жніўні 1941 году. У цэнтры, ніжэй за ўзровень вуліцы, месца, дзе да вайны былі гандлёвыя рады.

62. Паўднёва-заходні фронт забудовы Нізкага рынку. Сяляне па старой звычцы прывезьлі ў Менск для продажу прадукты сваіх гаспадарак. Лявей у цэнтры відаць брукаваную трасу вуліцы Стара-Мясьніцкай. Справа відаць дом на рагу Стара-Мясьніцкай і Нова-Мясьніцкай зь ня спаленым дахам. На Замчышчы пажар першых дзён вайны захапіў толькі правы, цотны бок вуліцы Стара-Мясьніцкай. Астатнія вуліцы не пацярпелі (гл. Здымак №7). Жнівень 1941 году.



63. Бліжэй да Замчышча і Мясных радоў гандлёвы дзень на Нізкім рынку выглядаў больш ажыўлена. Цэлы дом з дахам зьлева — адзіны з франтальнай забудовы паўночна-заходняга боку рынку, які застаўся цэлы пасьля даваенных зносаў. Дамы вакол яго і ззаду былі разбураныя яшчэ да вайны ў рамках падрыхтоўкі да зносу ўсяго Старога гораду. Правей у цэнтры на першым паверсе разбуранага будынка можна бачыць старажытнае скляпеньне. Вышэй над ім — муры Мясных радоў пад замкам. 1941 год. Дом справа захаваўся да 1950-х гадоў.

64. Калёна жанчын-вязьняў гета на Нізкім рынку. Восень 1942 году. Разбомбленыя савецкай авіяцыяй дамы ў цэнтры ўжо разабраныя, і гэта адкрыла ўнутраныя канструкцыі будынкаў, у тым ліку арачныя праёмы і апоры старажытных скляпеньняў. На сьценах — сьляды шматлікіх перабудоваў. Некалі на гэтым месцы быў касьцёл сьвятога Яна і кляштар баніфратраў, пабудаваныя ў XVIII стагодзьдзі.  Расейскія ўлады іх зачынілі і дазволілі мясцовым жыхарам у першай палове XIX стагодзьдзя разабраць касьцёл на будаўнічыя матэрыялы. А яшчэ раней, у XVII стагодзьдзі, тут была ўніяцкая царква Кузьмы і Дзям’яна з кляштарам базыльянаў.





65. Від з паўночнага кута Нізкага рынку. Меркавана 1943 год. Фронт забудовы самага старога кварталу паміж вуліцамі Дзям’яна Беднага і Вольнай на Плошчы Свабоды ўжо падарваны, ад яго відаць толькі ўнутраная сьцяна аднаго з дамоў характэрнай формы з чатырма аконнымі праёмамі.



66. На наступных трох здымках — выгляд забудовы Старога гораду з боку Замчышча з панарамай Нізкага рынку і Верхняга гораду. Кожнае фота, калі фатограф стаіць на тэрыторыі Замчышча, бясцэннае. Спачатку – самы каштоўны з гэтай сэрыі здымкаў. Двор былога Гродзкага суду. Справа — першы мураваны паверх суду, упрыгожаны клясычнай рустыкай, бяз спаленага другога драўлянага паверху і мансарды. Яшчэ правей — руіны дамоў нумар 8 і 10 па Стара-Мясьніцкай вуліцы. А зьлева ад Гродзкага суду — руіны старых замкавых будынкаў, якія могуць датавацца канцом XVII — пачаткам XVIII стагодзьдзяў. Усе тры здымкі зробленыя перад самым зносам амаль усяго гэтага раёну, за выключэньнем вуліцы Дзям’яна Беднага. Не раней за другую палову 1943 году.

67. Тая самая пэрспэктыва крыху зь іншага ракурсу. На пярэднім пляне вельмі каштоўная рэч — траса былога вузкага завулку, які ішоў ад Стара-Мясьніцкай вуліцы да схілу над Сьвіслаччу. Завулак гэты можна бачыць на шматлікіх аэрафотаздымках. Не раней за другую палову 1943 году.

68. На гэтым здымку добра адчуваецца шчыльнасьць забудовы Старога гораду. На пярэднім пляне ў цэнтры — муры Мясных радоў, якія падпіралі Замкавую гару з усходу. Далей у цэнтры — уваход у вуліцу Дзям’яна Беднага. Добра відаць, што пасьля пажараў першых дзён вайны адзін дом разбурыўся і ў ніжняй частцы вуліцы справа. Не раней за другую палову 1943 году.



69. Панарама Старога гораду з акна Другой савецкай лякарні (колішняга жаночага базыльянскага кляштару сьвятой Тройцы). Зьлева вышэй відаць вузкую трасу вуліцы Калініна, справа — спалены правы бок вуліцы Стара-Мясьніцкай на Замчышчы. Але галоўная каштоўнасьць здымку ў яго цэнтры — паўночна-ўсходні бок кварталу арачных Мясных радоў, патынкаваны ў белы колер. 1941 год.

70. Сытуацыя ў паўночна-ўсходнім куце Плошчы Свабоды летам і восеньню 1941 году нагадвала даваенныя часы. Два бэрнардынскія касьцёлы, Малы гасьціны двор і гандлёвыя рады Высокага рынку «Віленчукі» яшчэ не кранутыя вайной. Калі меркаваць па гэтым здымку, то ствараецца ўражаньне, што гандлёвыя рады ў XXI стагодзьдзі былі адноўленыя троху ў зьменшаным маштабе — арыгінал выглядае больш высокім.

71. Малы гасьціны двор з боку тагачаснай вуліцы Бакуніна. Аўтэнтычныя камяніцы менскіх купцоў і мяшчан XVIII стагодзьдзя з закрытымі мураванымі сьценамі дварамі, з дубовымі брамамі і контрфорсамі. 1941 год.



72. І зімой 1941–1942 гадоў паўночна-заходні бок Плошчы Свабоды выглядаў зусім як у мірны час.

73. У цэнтры Плошчы Свабоды, калі не азірацца па баках, сытуацыя магла не нагадаць пра вайну. Як бачым, летам 1942 году ў Менску нават расьлі пальмы.

74. Яшчэ адно спакойнае месца каля комплексу езуітаў на Плошчы Свабоды, дзе ў 1942 годзе пра вайну нагадвалі толькі заклееныя паперай для аховы ад ударнай хвалі вокны.





75–76. А ззаду езуіцкага комплексу летам 1942 году менчукі заснавалі вялікі гарод. Тут таксама сытуацыя нагадвала зусім спакойныя мірныя часы. Здымак дае вельмі каштоўныя дэталі культавай і грамадзянскай архітэктуры Менску XVIII–XIX стагодзьдзяў, якая, бясспрэчна, мела эўрапейскі характар. Асабліва шкада ўнутрыквартальнай забудовы, што прымыкала да езуіцкага комплексу (на здымку справа); яна цалкам захавалася і была зьнішчаная пасьля вайны. За 50 мэтраў адсюль, за сьпінай фатографа ўправа, і цяпер стаіць дом, у якім да восені 1943 году жыла сям’я маёй маці.





77. Але іншыя часткі Высокага рынку, які ў XX стагодзьдзі назвалі Плошчай Свабоды, жорстка нагадвалі пра вайну. Гэтак выглядаў паўночна-заходні бок плошчы летам 1941 году. Дакладная прычына пажару ў самым старым мураваным квартале Менску невядомая, але ў дом Царфіна на вуліцы Вольнай (на здымку другі зьлева з абрынутай сьцяной) у першыя дні вайны сапраўды трапіла бомба.

78. Бліжэйшая да вуліцы Дзям'яна Беднага частка паўночна-заходняга фронту забудовы Плошчы Свабоды летам 1941 году. Зьвяртае на сябе ўвагу беларускамоўная назва ўстановы ў Вялікім гасьціным двары, якая засталася з даваенных часоў — «Фарбарня».





79. Так выглядаў паўночны кут Плошчы Свабоды і выхад на яе вуліцы Дзям’яна Беднага позьняй зімой 1941–1942 гадоў.

80. І на другім баку Высокага рынку вайна адразу паказала сваё вусьцішнае аблічча. Паўднёвы кут Плошчы Свабоды ў першыя дні акупацыі. Большая частка спаленых падчас пажараў 25–26 чэрвеня дамоў на вуліцы Ленінскай яшчэ захоўваюць свае каробкі. Захаваную ў такім стане старую Францішканскую-Губэрнатарскую яшчэ можна было аднавіць. Але неўзабаве немцы пачнуць яе зносіць, зрабіўшы выснову, што каробкі пагражаюць абвалам. Аднапавярховы дом на рагу Ленінскай і Інтэрнацыянальнай пасьля пажару рассыпаўся ўшчэнт.





81. Ліпень 1941 году. Бомба ў гатэль «Эўропа» трапіла 25 чэрвеня. Пакладзеныя на жалезныя швэлеры драўляныя перакрыцьці згарэлі, і частка будынку абрынулася.

82. Восеньню 1941 году немцы пачалі выбухамі разбураць небясьпечныя, на іх думку, руіны спаленых менскіх дамоў. На гэтым унікальным фота — нямецкія сапёры падрываюць старажытныя дамы на вуліцы Ленінскай. З боку Плошчы Свабоды выстаўлена вайсковае ачапленьне. 10 кастрычніка 1941 году.





83. У 1942 годзе разбомбленая частка гатэлю «Эўропа» была ўжо разабраная.

84. Імправізаваны сялянскі кірмаш на Плошчы Свабоды. У канцы лета 1942 году. Разборка гатэлю «Эўропа» працягвалася. З боку плошчы відаць, што ад гатэлю заставалася ўжо невялікая частка.





85. Выгляд паўднёва-ўсходняга боку Плошчы Свабоды са званіцы каталіцкай катэдры. 1942 год.

86. Вясной 1943 году славуты гатэль «Эўропа» ў Менску перастаў існаваць. Застаўся толькі будынак гарадзкога тэатру (у цэнтры), які быў зьнесены ў 1984 годзе нягледзячы на пратэсты грамадзкасьці (у 1852 годзе ў ім была пастаўленая першая беларуская опэра — «Сялянка» Станіслава Манюшкі). На здымку — жонка генэральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ Аніта і нямецкі афіцэр, верагодна, Яахім Ройшэр, які быў супрацоўнікам Кубэ. Ройшэр пакінуў па сабе 171 здымак з жыцьця акупаванай Беларусі, афіцыйнага і прыватнага жыцьця сям'і Кубэ.



87. Так выглядала вуліца Ленінская летам 1942 году.

88. Так пасьля пажараў першых дзён вайны выглядаў фронт забудовы паўднёва-заходняга кута Плошчы Свабоды, які прымыкаў да езуіцкага комплексу. Лявей у цэнтры здымку відаць старадаўнія арачныя праёмы. Гэта былі дамы, аснова якіх магла ўзыходзіць да XVI–XVII стагодзьдзяў, калі рэнэсансны гандлёвы пляц Высокага рынку пачынаў забудоўвацца.

89. Салдаты нямецкіх інжынэрных войскаў абсьледуюць разбураны ўнутры будынак на рагу Плошчы Свабоды і вуліцы Інтэрнацыянальнай. Сьцены вырашаць не чапаць, і ў такім выглядзе яны дажывуць да пасьляваеннага часу, калі будуць зьнесеныя. Восень 1941 году.



90. А вось так гэтыя дамы выглядалі летам 1942 году, калі ўжо поўным ходам ішлі нямецкія разборы і расчысткі. Прыгледзеўшыся, можна ўбачыць і арачныя праёмы, і асновы скляпеньняў, і фрагмэнты саміх скляпеньняў у кавалках друзу. Лявей уверсе відаць патынкаваны ў белае дом з трайным акном. Гэта адзін з будынкаў комплексу францішканскага кляштару, які захаваўся і быў разбураны пасьля вайны. Вуліца Ленінская ўжо ў значнай ступені зьнесеная.

91. Нямецкі салдат стаіць на абрынутых скляпеньнях першага паверху дома на рагу Плошчы Свабоды і вуліцы Інтэрнацыянальнай. Такія вось старыя камяніцы мы страцілі. Франтон за сьпінай немца захаваўся да пасьляваенных часоў і быў разабраны разам са скляпеньнямі Трэстам разборкі. Справа — фрагмэнт будынку францішканскага кляштару. 1942 год.

92. Выгляд вуліцы Інтэрнацыянальнай са званіцы каталіцкай катэдры. Справа ў цэнтры — кляштар бэнэдыктынак і пазбаўлены вежаў касьцёл сьвятога Войцеха, помнік архітэктуры першай паловы XVII стагодзьдзя, перабудаваны ў грамадзянскі будынак. У цэнтры добра відаць, якой вузкай была траса вуліцы Інтэрнацыянальнай у раёне Плошчы Свабоды. Унізе справа двор, у якім вырасла бабуля аўтара. 1942 год.



93. Рог Рэспубліканскай і Інтэрнацыянальнай. (Да 1950-х гадоў вуліца Інтэрнацыянальная працягвалася да турмы, цяпер гэты працяг — ужо вуліца Валадарскага.) Гэты здымак можна лічыць візуальным прыкладам добраўпарадкаваньня гораду, якое ў канцы XIX стагодзьдзя пачаў Караль Гутэн-Чапскі. Брук, рыштокі, пліты на ходніках. 1941 год.

94. Траса вуліцы Інтэрнацыянальнай ад рогу з Рэспубліканскай. Зьлева — паварот на Ўрыцкага, уверсе — Пішчалаўскі турэмны замак. Аднапавярховы дом зьлева, які добра відаць на папярэднім здымку, захаваўся і быў зьнесены пасьля вайны. Астатнія дамы пацярпелі ад пажараў першых дзён вайны, але выстаялі і таксама былі разбураныя Трэстам разборкі і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў у пасьляваенны час. 1941 год.

95. Задворкі вуліцы Інтэрнацыянальнай, схіл ад Пішчалаўскага замку да вуліц Рэспубліканскай і Нямiскай. Гэтыя дамы згарэлі ў першыя дні вайны і былі разбураныя пасьля вызваленьня, нягледзячы на тое, што ў іншых месцах гораду, напрыклад на вуліцах Урыцкага або Карла Маркса, згарэлыя дамы аднавілі. 1941 год.





96. Бліжэйшая да Дому ўраду частка вуліцы Савецкай захавалася ў часы акупацыі адносна няблага. Менавіта таму пасьля вызваленьня гораду савецкія акадэмікі архітэктуры прапаноўвалі яе захаваць. 1944 год.

97. Цудоўны помнік канструктывізму 1930-х гадоў — Дзяржаўны банк БССР, які перажыў усе бамбаваньні гораду і быў зьнесены пасьля вайны, бо перашкаджаў пашырыць вуліцу Савецкую. Здымак 1944 году. Аўтары генпляну 1951 году ў прадмове хлусілі: «Почти все общественные здания за время оккупации были полностью разрушены или частично повреждены. Полностью разрушены: Госбанк, Промбанк, почтамт...»





98. Касьцёл сьвятога Тамаша Аквінскага і кляштар дамініканаў на рагу вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса. 1942 год. Каб не савецкія бамбаваньні чэрвеня 1944 году, гэты храм мог застацца цалкам непашкоджаным.

99. Нямецкія афіцэры ўнутры касьцёлу Тамаша Аквінскага. Справа — Вільгельм Кубэ. 1942 год. Драўляныя перакрыцьці ў храме былі зробленыя яшчэ ў 1860-я гады, калі ён быў канфіскаваны Міхаілам Мураўёвым і перароблены на вайсковыя казармы. У 1918 годзе перакрыцьці пачалі разьбіраць, каб вярнуць касьцёлу першапачатковы ўнутраны выгляд, але перашкодзіла вайна. У 1929–1930 гадах савецкія генэралы, у распараджэньні якіх быў храм, хацелі яго разбурыць і пабудаваць з атрыманай цэглы сучасную казарму, але гэтаму перашкодзіла Акадэмія навук. Так і захаваліся драўляныя перакрыцьці да бамбаваньняў і пажараў чэрвеня 1944 году.





100–101. Летам 1943 году акупацыйныя ўлады гораду пачалі выбухамі разбураць самы стары мураваны квартал Менску паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Вольнай. Закладка толавай шашкі ў прасьвідраваную адтуліну на сьцяне аднаго з дамоў у Старым горадзе. Кадры нямецкай кінахронікі.





102. Кіраўнік падрываў, супрацоўнік цывільнай адміністрацыі Менску, стоячы на вуліцы Вольнай пры яе выхадзе на Плошчу Свабоды, падае каманду на прывядзеньне выбухоўкі ў дзеяньне. Заручальны пярсьцёнак на правай руцэ можа азначаць, што гэта беларус, расеец або паляк. Тэарэтычна яго можна апазнаць, бо ёсьць фота і ў анфас. Будынак, насупраць якога ён стаіць — родны дом беларускіх гісторыкаў Анатоля і Валянціна Грыцкевічаў. Праз некалькі хвілін ён будзе падарваны. Кадар нямецкай кінахронікі.

103. Прывядзеньне выбухоўкі ў дзеяньне. Кадар нямецкай кінахронікі.



104. Паўночна-заходні фронт забудовы Плошчы Свабоды за імгненьне да выбуху. Кадар нямецкай кінахронікі.

105. Момант першага выбуху, бліжэй да вуліцы Вольнай. Задняя сьцяна гэтага дому характэрнай формы (на здымку справа) захаваецца да пасьляваенных часоў. Кадар нямецкай кінахронікі.

106. Пасьля другога выбуху, бліжэй да цэнтру кварталу ў бок вуліцы Дзям'яна Беднага. Франтальная забудова перастала існаваць. Але дом на рагу з Вольнай, у якім да вайны жыла сям'я Грыцкевічаў (на здымку зьлева), часткова ацалеў. Кадар нямецкай кінахронікі.





107–108. Нямецкі апэратар наблізіў фокус так, што ствараецца ўражаньне падрыву вялікіх будынкаў. Насамрэч гэта падрыў апошняй часткі ўсё таго самага першага дому на вуліцы Вольнай з боку Плошчы Свабоды, дзе жылі Грыцкевічы. Наступным выбухам будзе ўзарваны і другі дом з прыгожым франтонам (на здымку зьлева). Кадрs нямецкай кінахронікі.

109–111. Так выглядаў пасьля падрываў паўночна-заходні бок Плошчы Свабоды восеньню 1943 году.



112. 2 верасьня 1942 году. Фрагмэнт нямецкага аэрафотаздымку. Пасьля пачатку савецкіх бамбаваньняў вясной 1942 году большая частка забудовы Замчышча аказалася спаленай. Страцілі дахі амаль усе дамы на Замкавай, Падзамкавай, Завальнай і левым баку Нова-Мясьніцкай вуліц. На Плошчы Свабоды спаленыя гандлёвыя рады «Віленчукі». Малы гасьціны двор, езуіцкі комплекс, Камсамольская і Няміская вуліцы пакуль не пацярпелі.

113. Стары горад 7 кастрычніка 1943 году. Фрагмэнт нямецкага аэрафотаздымку. На Замчышчы захоўваецца статус-кво — за год ад часу папярэдняга здымку нічога не зьмянілася. А вось самы стары мураваны квартал Менску паміж вуліцамі Дзям’яна Беднага і Вольнай зазнаў зьмены. Значная частка яго франтальнай забудовы з боку Плошчы Свабоды падарваная. Але забудова вуліц Вольнай і Калініна пакуль на месцы.

114. 28 траўня 1944 году. Фрагмэнт нямецкага аэрафотаздымку. У Старым горадзе — драматычныя зьмены. Зьнесеныя два кварталы паміж колішнімі Рыбным і Нізкім рынкамі, уся вуліца Вольная, квартал паміж Нова-Мясьніцкай і Замкавай, амаль уся вуліца Калініна, палова самага старога мураванага кварталу Менску паміж вуліцамі Вольнай і Дзям’яна Беднага. Уражвае, што тую частку забудовы Замчышча, якая не перашкаджала пракладцы задуманай у генпляне 1936–1939 гадоў Паркавай магістралі, нямецкія ўлады чамусьці не кранулі. Тры дамы на Нямiскай вуліцы ўжо спаленыя, пасьля вайны іх разьбяруць. Трапіла бомба і ў Малы гасьціны двор, дах на яго паўднёвым баку спалены. Езуіты і Камсамольская пакуль цэлыя.



115. 6 чэрвеня 1944 году. Фрагмэнт нямецкага аэрафотаздымку. Тут лепш відаць забудова Замчышча, якая засталася некранутая нямецкімі падрывамі. Унізе здымку добра відаць, што дамініканскі кляштар і касьцёл Тамаша Аквінскага захоўваюць дахі. Цэлыя таксама бэнэдыктынскі жаночы кляштар з касьцёлам на Інтэрнацыянальнай і езуіцкі комплекс на Плошчы Свабоды.



116. 8 ліпеня 1944 году. Стары горад у вызваленым Менску. Фрагмэнт нямецкага аэрафотаздымку. Добра відаць, што жылы комплекс з трох дамоў на стыку вуліц Калініна і Дзям'яна Беднага цудам захаваў дахі. Бліжэй да ніжняга левага кута разбомбленая і спаленая забудова Ракаўскага прадмесьця пры стыку вуліц Вызваленьня, Віцебскай і Астроўскага. Спалены хлебазавод №1. Спаленыя езуіцкі і дамініканскі комплексы з касьцёламі, спалены правы бок вуліцы Камсамольскай і ўвесь стары мураваны квартал паміж Камсамольскай, Рэвалюцыйнай, Інтэрнацыянальнай і Рэспубліканскай. Вельмі важна, што цалкам захаваўся паўднёва-ўсходні фронт забудовы Плошчы Свабоды, там, дзе цяпер Акадэмія музыкі, а былы гарадзкі тэатар, які ў часы Рэчы Паспалітай быў менскім палацам Радзівілаў, нават захаваў дах.





117. 22 ліпеня 1944 году. Фрагмэнт нямецкага аэрафотаздымку. Тут яшчэ лепш відаць стан самага старога мураванага кварталу Менску, які захаваў больш за палову сваёй забудовы. У любой нармальнай сытуацыі квартал падлягаў бы аднаўленьню і рэгенэрацыі. Але не ў Беларусі ў складзе СССР. Добра відаць, што дамы XVII–XVIII стагодзьдзяў на паўднёва-ўсходнім баку Плошчы Свабоды (там, дзе цяпер кансэрваторыя) цалкам захаваліся і былі пасьля зьнесеныя Трэстам разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў.

118. Фрагмэнт папярэдняга здымку. Цудам захаваная ў вайну самая старая мураваная вуліца Менску — Казьмадзям’янаўская (Дзям’яна Беднага), якая праіснавала 480 гадоў. Па ёй да вайны любілі менавіта хадзіць. «Машыны езьдзілі па Школьнай, а па Казьмадзям’янаўскай людзі проста хадзілі», — казала бабуля аўтара. Мабыць і немцы, якія бясконца фатаграфавалі Казьмадзям’янаўскую, і менчукі, якія там шпацыравалі, інстынктыўна адчувалі сымпатыю да старых муроў.





119–120. Існуе сэрыя зь пяці савецкіх авіяздымкаў цэнтру вызваленага Менску. На іх добра відаць дым ад пажару ў дамах на вуліцах Рэвалюцыйнай і Камсамольскай. Лічыцца, што іх зрабіў з кабіны савецкага самалёта ваенны фотакарэспандэнт Леў Бэрнштэйн. У розных архівах гэтыя здымкі датуюцца па рознаму — ад 3 да 11 ліпеня. Тут прыводзяцца тры зь іх. На першым добра відаць, што ўжо даўно, яшчэ ў чэрвені 1944 году, бамбаваньнямі спалены ўвесь левы бок вуліцы Камсамольскай і езуіцкі калегіюм зь вежай. На маю думку, гэта 3 ліпеня 1944 году.



121. Яшчэ адзін здымак пажару на Рэвалюцыйнай, зроблены з паўднёвага ўсходу.

122. Таксама існуе сэрыя з чатырох здымкаў гэтага пажару, зробленых зь зямлі. Менчукі ратуюцца самі і ратуюць свае сьціплыя пажыткі або ўжо назіраюць за пажарам, седзячы на ўратаваных крэслах на Рэвалюцыйнай. Вось адзін з такіх здымкаў. На вуліцы Рэвалюцыйнай людзі ўцякаюць у бок былога Інбелкульту. Цікава, што некаторыя са спаленых тады дамоў (напрыклад, дом зьлева на здымку) пасьля вайны былі адноўленыя, а іншыя — на рагу з Камсамольскай — зьнесеныя.

123. І нарэшце, 7 ліпеня савецкія інфармацыйныя агенцтвы распаўсюдзілі за мяжой некалькі радыёздымкаў гэтага пажару, у камэнтары да якіх сьцьвярджалася, што гэта «жыхары вызваленага Менску глядзяць на свае дамы, падпаленыя нацыстамі перад тым, як яны пакінулі горад». На маю думку, калі б гэты пажар быў вынікам нямецкіх бамбаваньняў Менску ў ночы на 4 і на 5 ліпеня, то савецкая прапаганда 7 ліпеня так бы і пісала. Хутчэй за ўсё гэты пажар стаў вынікам яшчэ савецкіх налётаў і абстрэлаў Менску 2-га і ў ноч на 3-га ліпеня, што адпавядае сьведчаньням старажылаў.





A48-NY-7-7-44-RADIOPHOTO FROM INP SOUNDPHOTO...U.S.S.R..SITTING ON SIDEWALKS WITH THEIR BELONGINGS,RESIDENTS OF LIBERATED CITY OF MINSK LOOK AT THEIR HOMES,BURNED BY NAZIS BEFORE THEY WERE DRIVEN OUT OF CITY...............................FULL SERVICE.....





124–125. Такой убачыў панараму гістарычнага цэнтру Менску фотакарэспандэнт БЕЛТА Ўладзімер Лупейка ў ліпені 1944 году. Здымак зроблены з будынку Дзяржаўнага банку БССР, што стаяў на рагу вуліц Савецкай і Ленінскай. Лявей уверсе — напалову разбураныя і спаленыя будынкі бэнэдыктынскага жаночага кляштару і касьцёлу сьвятога Войцеха. Яшчэ 6 чэрвеня 1944 году яны былі абсалютна цэлыя і непашкоджаныя, пра што сьведчыць прыведзены раней здымак люфтвафэ. На вуліцы Ленінскай мураваныя дамы стаялі ўжо ў XVIII стагодзьдзі.



126. А вось так выглядала месца панарамнага здымку Ўладзімера Лупейкі ў 1946 годзе пасьля сапёрных выбухаў і працы Трэсту разборкі і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў.

127. Праца сапёраў. Закладка пад сьцены ўнутраных памяшканьняў таго або іншага будынку пяхотных або процітанкавых мін і торганьне за вяроўку, каб вырваць запал. Кадар з савецкай кінахронікі.

128. Момант выбуху. Але тым разам выбухоўкі аказалася недастаткова і дом устаяў. Давялося мініраваць зноў. Кадар з савецкай кінахронікі.



129. Так выглядала вуліца Юраўская, якую бальшавікі назвалі Камуністычнай, у ліпені 1941 году. На здымку яе адрэзак паміж вуліцамі Энгельса (за сьпінай фатографа) і Ленінскай. Шыкоўны клінкерны брук. Белы двухпавярховы дом на Ленінскай, у які ўпіраецца Камуністычная, і паўразбураны дом зьлева ад яго маглі быць рэшткамі мураванага кляштару марыявітак, які існаваў на тым месцы ў XVIII стагодзьдзі. На рагу абедзьвюх вуліц справа стаяў францішканскі кляштар, а побач зь ім, далей па Ленінскай — францішканскі касьцёл сьвятога Антонія Падуанскага.

130. Той самы кавалак вуліцы Камуністычнай, зьняты з вуліцы Энгельса. 1941 год. У дамоў справа былі вельмі стромыя эўрапейскія дахі — адрэстаўраваныя, яны былі б упрыгожаньнем старой часткі гораду. Немцы тут нічога ня зносілі, бо вуліца ня мела для іх транспартнага значэньня. Дом, які стаяў на рагу Камуністычнай і Энгельса на месцы пусткі справа, быў зьнесены яшчэ да вайны. У такім выглядзе Камуністычная дажыла да вызваленьня гораду і была зьнесеная ў 1945–1946 гадах.





131. Паўразбураны францішканскі кляштар XVIII стагодзьдзя на рагу вуліц Камуністычнай (справа) і Ленінскай. Так ён выглядаў пасьля нямецкіх расчыстак восені 1941 году і ў такім стане перажыў вайну. Ходнікі і палатно вуліцы не пашкоджаныя.
На здымку добра відаць арачныя праёмы першага і другога паверхаў, тоўстыя муры і аконныя праёмы старажытных лёхаў. Вокны на другім паверсе тарцовага боку аднаго з кляштарных будынкаў (справа) маюць арачныя праёмы, першы паверх і брама ўпрыгожаныя клясычнай рустыкай. 1942 год.



132. Знос дамоў на левым баку таго, што і на папярэдніх здымках, участку вуліцы Камуністычнай Трэстам разборкі і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў з прымусовым выкарыстаньнем працы менчукоў. Зьлева, магчыма, відаць рэшту скляпеньня першага паверху. Правая частка панарамнага здымку. 1945 год.

133. Левая частка папярэдняга панарамнага здымку. Знос старажытных камяніц на рагу Камуністычнай і Энгельса. Здымак сьведчыць, наколькі каштоўнаю была старая забудова ў раёне Новага гораду — кайламі разьбіваюць рэшты скляпеньняў, арачныя праёмы і таўшчэзныя старажытныя муры. 1945 год.

134. А вось так выглядаў той самы кавалак вуліцы Камуністычнай у 1946 годзе, пасьля сапёрных выбухаў і працы Трэсту разборкі. Верагодны старасьвецкі фрагмэнт кляштару марыявітак на вуліцы Леніна (так вуліца Ленінская пачала называцца ад 1945 году) пакуль не паддаўся ні пажарам, ні сапёрным выбухам, ні разборкам. Справа відаць спалены ў чэрвені 1944 году касьцёл жаночага бэнэдыктынскага кляштару на вуліцы Інтэрнацыянальнай.





135. Экскаватар разьбірае кучу друзу на месцы кляштару францішканаў XVIII стагодзьдзя і недабудаванага муараванага касьцёлу Антонія Падуанскага (1802 год). Так закончылася гісторыя будынку, у якім пасьля яго канфіскацыі ў 1832 годзе пасьлядоўна былі каталіцкая духоўная сэмінарыя, каталіцкая кансысторыя і менская гарадзкая ўправа. У 1920 годзе тут выступаў Юзэф Пілсудзкі. Здымак 1948 году.



136. Задворкі спаленага ў чэрвені 1944 году дамініканскага кляштару. Дамы на вуліцы Камуністычнай (у цэнтры і зьлева) усю акупацыю былі цэлыя і захоўвалі няспаленыя дахі. Ліпень 1944 году.

137. Унікальны здымак унутраных памяшканьняў дамініканскага кляштару XVII стагодзьдзя пасьля таго, як у чэрвені 1944 году ў яго трапіла савецкая авіябомба. Рэшты вялікіх скляпеньняў першага паверху, арачныя праёмы і гісторыя шматлікіх пераробак і перабудоваў на сьцяне касьцёлу Тамаша Аквінскага. 1945 год.





138. Усходні кут Плошчы Свабоды ў 1945 годзе. Увесь паўднёва-ўсходні фронт забудовы плошчы, за выключэньнем гатэлю «Эўропа», у вайну захаваўся і мог быць адноўлены. Касьцёл Тамаша Аквінскага чорны ад куродыму. У цэнтры — ужо часткова падарваныя сапёрамі руіны вельмі старых дамоў (не пазьней за XVIII стагодзьдзе), якія, паводле створанага ў пачатку XX стагодзьдзя пляну Тадэвуша Корзуна, належалі Ігнату Катніцкаму і падкамораму менскага ваяводзтва Міхалу Жыжэмскаму.

139. Практычна ачышчаныя ад забудовы вуліцы Савецкая, Камуністычная і завулак Луначарскага ў раёне Новага гораду. Яшчэ троху нязьнесеных руінаў застаецца на вуліцы Энгельса. Зіма 1946–1947 гадоў. Да зносу дамініканскага комплексу — тры з паловай гады.





140. Знос гандлёвых радоў «Віленчукі» і паўднёва-ўсходняй паловы Малога гасьцінага двара XVIII стагодзьдзя. Працуюць спэцыялісты Трэсту разборкі разбураных будынкаў і аднаўленьня будаўнічых матэрыялаў і менчукі. 1946 год.

141. Пасьля зносу Малога гасьцінага двара і гандлёвых радоў. 1947 год. У цэнтры Плошчы Свабоды ад ліпеня 1944 году знаходзілася пахаваньне савецкіх танкістаў, што загінулі ў баях за Менск. Зьлева відаць агароджу пахаваньня. У 1960-я гады магілы перанесьлі на Вайсковыя могілкі.



142. Ліпень 1944 году. Абоз параненых нямецкіх салдатаў, узятых у палон пад Менскам, рухаецца па вуліцы Калініна. Так выглядаў самы стары мураваны квартал гораду пасьля нямецкіх падрываў і расчыстак і да пачатку савецкіх падрываў і расчыстак. 50–60% пашкоджанай забудовы кварталу яшчэ заставалася. У подпісе да здымку казалася: «Сярод 35 тысячаў палонных зь “менскага катла” шмат недагледжаных параненых. 70 тысячаў забітых застаюцца ляжаць у лясах. Гэткім чынам Група армій “Цэнтар” за дзесяць дзён страціла тры з сваіх чатырох арміяў. Агульная колькасьць стратаў: 350 тысячаў чалавек». Натуральна, што пры такім маштабе наступу савецкім генэралам было не да старой архітэктуры Менску.

143. Выгляд на тое самае месца (і далей на Замчышча) зь вежы езуіцкага касьцёлу на Плошчы Свабоды. Яшчэ захоўваецца вуліца Дзям’яна Беднага, руіны кварталу паміж ёй і Вольнай, некалькі дамоў на Нізкім рынку, вялікі фрагмэнт муру Мясных радоў і ўвесь першы мураваны паверх будынка Гродзкага суду на Замчышчы. Такой гэтую частку Старога гораду немцы пакінулі саветам. Лета 1944 году.





144. Руіны паміж вуліцай Калініна і Плошчай Свабоды ў раёне былога Школьнага двара, далей уверх ад яго. Людзі паварочваюць направа, на Вольную, каб падняцца на Плошчу Свабоды. Зьлева відаць адну зь вежаў касьцёлу жаночага бэрнардынскага кляштару, сёньня праваслаўную катэдру. Справа відаць старажытныя скляпеньні цокальнага паверху адной са старых камяніцаў, якія апявалі Шчакаціхін і Касьпяровіч. Зіма 1945–1946 гадоў.





145. Руіны самага старога мураванага кварталу Менску з боку вуліцы Вольнай. Муры захаваліся, нягледзячы на нямецкія падрывы 1943 году. У XVIII стагодзьдзі прыблізна тут, троху вышэй, паводле пляну Тадэвуша Корзуна, знаходзіўся цэлы комплекс камяніцаў менскага стольніка Францішка Валадковіча. Зіма 1945–1946 гадоў. На доме справа можна разгледзець рэшты арачных праёмаў і скляпеньняў.

146. Людзі ідуць па некалі самым вузкім кавалку вуліцы Калініна зь Нізкага рынку ў бок Нямiскай вуліцы і Біржавога завулку. Справа — захаваны дом пры выхадзе вуліцы на Нізкі рынак. 1945 год.





147. Так выглядаў самы вузкі адрэзак вуліцы Калініна і пляц колішняга Рыбнага рынку ў 1945 годзе. Як сьведчаць аэрафотаздымкі, спаленыя каробкі дамоў у Старым горадзе ператварыліся ў руіны паміж 7 кастрычніка 1943 году і 28 траўня 1944 году. Іх падарвалі нямецкія ўлады.

148. Зіма 1945–1946 гадоў. Здымак зроблены ўнутры самага старога мураванага кварталу Менску ў бок вуліцы Калініна і Нізкага рынку. На Калініна пры яе выхадзе на рынак яшчэ стаяць тры дамы рознай ступені захаванасьці. Значная частка самай старой мураванай вуліцы Менску Казьмадзям'янаўскай (Дзям'яна Беднага) ужо разбураная, так што адкрываецца простая пэрспэктыва на вуліцу Гандлёвую.





149. Пасьля разборак 1945–1946 гадоў савецкія ўлады на некалькі гадоў забыліся пра Нізкі рынак. Уся іх увага была прыцягнутая да рэканструкцыі Савецкай вуліцы і забудовы яе новымі палацамі. У 1947 годзе першым пабудаваным там гмахам стаў новы будынак галоўнай савецкай карнай установы — КДБ. Нізкі рынак тым часам зарастаў бур'янам і затоптваўся менчукамі. 1949 год.

150. Так выглядала менскае Замчышча ў другой палове 1940-х гадоў з боку вусьця Нямігі. Справа відаць захаваную частку забудовы.





151. Вуліца Гандлёвая пры яе выхадзе на Нізкі рынак. Уражваюць старыя муры зьлева з арачнымі праёмамі і клясычнымі «замкамі» над імі. 1950 год.

152. Рукі да Старога гораду дайшлі ў 1949 годзе, калі было вырашана ўпарадкаваць схіл да вуліцы Калініна і забрукаваць пашыраную вуліцу Вольную як трасу да сквэру, пасаджанага ў 1950–1951 гадах паміж Нізкім і Рыбным рынкамі. Самыя старыя менскія муры даручылі разьбіраць не археолягам, а экскаватаршчыкам. У той самы час польскі народ плакаў над сваімі руінамі ў гістарычным цэнтры Варшавы і пачынаў збор сродкаў на іх аднаўленьне. 1949 год.





153. Брукаваньне новай шырокай вуліцы Калініна, якую працягнуць да моста праз Сьвіслач. 1949 год. Сам Нізкі рынак, які знаходзіцца за сьпінай фатографа, яшчэ доўга ня будуць чапаць.

154. Упарадкаваньне новай шырокай вуліцы Вольнай. На месцы кварталаў паміж былымі Рыбным і Нізкім рынкамі ўжо пасаджаны сквэр. У наступным годзе да дрэваў дададуць кусты. 1950 год.





155. Панарамны выгляд пазасталых фрагмэнтаў забудовы вуліц Нова-Мясьніцкай, Завальнай і Замкавай у сярэдзіне 1950-х гадоў. На пярэднім пляне — добраўпарадкаваная тэрыторыя самага старажытнага мураванага кварталу Менску. Пасаджаны пяць гадоў перад тым сквэр на месцы кварталаў паміж Рыбным і Нізкім рынкам — даўняя мара камгасу НКВД — ужо дастаткова добра разросься. Над драўляным павільёнам крамы «Мебель» відаць татарскую мячэць.

156. Працяг папярэдняга панарамнага здымку ў бок Нізкага рынку. Справа — паўразбураны комплекс дамоў, якія стаялі на рагу Нізкага рынку і правага цотнага боку вуліцы Дзям’яна Беднага. Над імі — некалькі камянічак паўночнага кута Нізкага рынку. У цэнтры — паўразбураная і часткова перабудаваная пад часовае жытло, накрытая дахам камяніца, якая цалкам можа быць колішнім будынкам Гродзкага суду або суседнім зь ім фрагмэнтам Мясных радоў.





157. Нізкі рынак у сярэдзіне 1950-х гадоў. Выгляд зь месца былога кварталу паміж вуліцамі Дзям'яна Беднага і Гандлёвай. Па пэрымэтры рынку яшчэ заставалася некалькі захаваных будынкаў, якія былі прыстасаваныя для жылля і іншых патрэбаў. Адзін са старажылаў сьцьвярджаў, што пасьля вайны на рынку нават быў разьмешчаны ваенкамат.

158. На былым Рыбным рынку парадку было больш, бо вакол яго, у адрозьненьне ад усходняй часткі Замчышча і Нізкага рынку, была шмат жылых дамоў і віравала жыцьцё. 1 траўня 1958 году.





159. Сквэр у Старым горадзе. Выгляд на вуліцу Вольную і Верхні горад. 1950-я гады.

160. Але галоўныя падзеі ў 1950-я гады ў Старым горадзе разгортваліся на Замчычшы. Там вясной 1956 году вырылі катлаван пад дом спорту «Трудовые резервы». Уверсе справа ўражвае цёмная паласа глебы пад паверхняй — гэта магутны культурны слой старажытнага Менску таўшчынёй некалькі мэтраў. Супраць гэтага барбарства выступаў прафэсар Міхаіл Кацар. 17 сакавіка 1956 году.



161. У 1956 годзе пачалося скопваньне Замчышча і паступовая пракладка трасы будучай Паркавай магістралі. На здымку — уся забудова ўнутранай заходняй часткі Замчышча, якая засталася некранутаю пасьля вайны. Дамы яшчэ ёсьць на Падзамкавай, Замкавай, Завальнай і Нова-Мясьніцкай. Самы крайні дом на Замкавай зьлева, які стаіць на трасе будучай Паркавай магістралі — сынагога цэху мясьнікоў па адрасе Замкавая, 5. Яшчэ ў XVIII стагодзьдзі на яе месцы стаяла мітрапалітальная ўніяцкая царква нараджэньня Найсьвяцейшай Багародзіцы. Здымак зроблены зь мінарэта татарскай мячэці. 1956 год.

162. Замчышча разраўноўвалі бульдозэрамі аж да рэчышча Нямігі. Неўзабаве засыплюць і яго. Выгляд зь мінарэта татарскай мячэці.





163. Вуліца Нова-Мясьніцкая ў бок Замкавай. Канец 1950-х гадоў.

164. Вуліца Нова-Мясьніцкая ў бок Нізкага рынку. Канец 1950-х гадоў.





165. Вуліца Завальная ў бок Замкавай. Канец 1950-х гадоў.

166. 1959 год. Дом спорту «Трудовые резервы» на Замчышы з басэйнам у глыбокім цокальным памяшканьні ўжо пабудаваны. Пачалося будаўніцтва так званага «путепровода» для будучай Паркавай магістралі.



167. 1964 год «Путепровод» на Паркавую ў бок Камсамольскага возера ўжо пабудаваны. Упарадкаваны і Нізкі рынак разам з кавалкам скапанага Замчышча. Там пабудаванае аўтобуснае кальцо для многіх гарадзкіх маршрутаў.

168. 1966 год. Вось так першапачаткова выглядала Паркавая магістраль, якая, паводле ленінградзкага генпляну 1936–1939 гадоў, мела праходзіць праз Цэнтральны парк культуры і адпачынку. Яшчэ стаіць мячэць на месцы будучага рэстарану гатэлю «Юбілейны». Дом з крамай «Алеся» ўжо пабудаваны. Неўзабаве пачнуць будаваць яго працяг.



169. Пабудова інстытуту «Белпрампраект» у непасрэднай блізкасьці Халоднай сынагогі на Школьным двары. Зразумела, што старое павінна было саступіць новаму, што і здарыцца праз тры гады. Здымак 1968 году. Інстытут здадуць налета.



170. Тыя самыя будынкі з боку Нямігі. 1968 год.



171. Панарама Паркавай магістралі ў бок былога Нізкага рынку і Верхняга гораду. Зьлева відаць яшчэ ня зьнесены круглы нямецкі дот, які знаходзіўся паміж Замчышчам і вусьцем Нямігі на так званым Балоце. Справа ўнізе — дахі вуліцы Дзімітрава. 1970 год.

172. Да лета 1970 году з часткі дамоў на Нямізе выселілі жыхароў, нанесьлі на іх імітацыю куродыму ад пажараў і наўмысна часткова разбурылі. Гэта было зроблена для здымкаў фільму «Руіны страляюць». 18 ліпеня 1970 году.

173. Пачатак вуліцы Няміга і толькі што пабудаваны Дом мод на месцы былога Рыбнага рынку. 29 ліпеня 1970 году. З камяніцы зьлева ў 1971 годзе нягледзячы на пратэсты грамадзкасьці пачнецца знос раёну Нямігі. Гэты будынак меў на першым паверсе магутныя скляпеньні і доўга не паддаваўся сваім разбуральнікам. Спачатку быў зьнішчаны левы няцотны бок вуліцы, чарга правага боку надыдзе праз два гады.



174. Месца, дзе некалі знаходзіўся самы стары мураваны квартал Менску. Пачатак 1970-х гадоў. У цэнтры — рэшта Малога гасьцінага двара, перад касьцёлам жаночага бэрнардынскага кляштару яшчэ стаіць кляштарны мур, а сам храм патынкаваны ў жоўты колер зь белымі нішамі і пілястрамі, што робіць яго больш вытанчаным і гарманічным. Зьлева — апошні дом самай старой мураванай вуліцы Менску — Дзям’яна Беднага, №8, помнік беларускай грамадзянскай архітэктуры XVII–XVIII стст., ня раз перабудаваны за сваё доўгае жыцьцё. На першым паверсе ў 1970–1980-я гады былі майстэрні мастакоў. Зьнесены ў 1986 годзе падчас будаўніцтва другой лініі мэтро.

## Крыніцы ілюстрацыяў

## Скароты назваў архіўных установаў

**БДАНТД — Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі, Менск**
**ДАМн — Дзяржаўны архіў Менскай вобласьці**
**НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь**
**NARA — National Archives and Records Administration (USA)**

# Крыніцы і бібліяграфія

## I. Архіўныя крыніцы

### 1. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ)

**Фонд 4п**

Вопіс 1. Справы №: 1964; 1973; 2002; 2003; 3077

Вопіс 3. Справа №: 8. Ч.III

Вопіс 33а. Справы №: 611; 612

**Фонд 7**

Вопіс 1. Справы №: 207; 403; 453; 548

**Фонд 31**

Вопіс 1. Справы №: 63; 75; 87; 89; 92; 101; 135; 872

**Фонд 42**

Вопіс 1. Справы №: 1926; 1927; 1939; 1947

**Фонд 205**

Вопіс 1. Справа №: 63

Вопіс 3. Справы №: 2549; 3615

Вопіс 5. Справа №: 113

**Фонд 370**

Вопіс 1. Справы №: 756; 1174

Вопіс 6. Справы №: 69; 91

**Фонд 691**

Вопіс 1. Справы №: 61; 62; 63; 67; 70; 82

**Фонд 903**

Вопіс 1. Справа №: 18

### 2. Дзяржаўны архіў Менскай вобласьці (ДАМн)

**Фонд 6**

Вопіс 1. Справы №: 25; 95; 110

Вопіс 2. Справы №: 18; 19; 20

**Фонд 12п**

Вопіс 1. Справы №: 199; 421; 419

**Фонд 25**

Вопіс 1. Справа №: 25

**Фонд 284**

Вопіс 1. Справы №: 8; 9

**Фонд 354**

Вопіс 9. Справа №: 15

**Фонд 688**

Вопіс 1. Справа №: 64

Вопіс 4. Справа №№: 2

**Фонд 1354**

Вопіс 1. Справа №: 12

**3. Беларускі дзяржаўны архіў Навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі (БДАНТД)**

**Фонд 3**

Вопіс 4. Справы №: 528; 529

**Фонд 6**

Вопіс 2. Справы №: 19; 22

**Фонд 75**

Вопіс 1. Справа №: 38

**4. Цэнтральны Навуковы Архіў Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі (ЦНАНАН)**

**Фонд 67**

Вопіс.1 Справа №: 9

**5. Аддзел рукапісаў Цэнтральнай Навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі**

**Фонд 2**

Вопіс 1. Справа №: 65

**II. Зборнікі дакумэнтаў**

Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня–Нью-Ёрк–Менск–Прага, 1998

Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. Вільня–Нью-Ёрк–Менск–Прага, 1998

Возрожденный из руин. Восстановление и развитие Минска в 1944–1955 гг. Менск, 2017

Из истории советской архитектуры. Документы и материалы. 1917–1925. Масква, 1963

Інстытут беларускай культуры. 1922–1928. Дакумэнты і матэрыялы. Менск, 2011

Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 1. Менск, 1983
Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. Менск, 1985
Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 4. Менск, 1986
Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакумэнты і матэрыялы. Укладальнік Г. Кісялёў. Менск, 1981
Собрание постановлений правительства СССР. Отдел первый. №72. Масква, 1933.
Сталин и Каганович. Переписка 1931–1936 гг. Масква, 2001
Освобождённая Беларусь. Документы и материалы. Кн. 1. Сентябрь 1943 — декабрь 1944. Менск, 2004
Освобождённая Беларусь. Документы и материалы. Кн. 2. Январь — декабрь 1945. Менск, 2005

**III. Пэрыядычныя выданьні**

**1. Часопісы:**

Беларусь. 1944. №3
Беларусь. 1944. №6
Беларусь. 1945. №1
Беларусь. 1945. №9
Беларусь. 1947. №1
Беларусь. 1947. №7
Беларусь. 1948. №7
Беларусь. 1948. №11
Вольны сьцяг. 25 сьнежня 1921
Известия ЦК КПСС. 1989. №9
Life. 1941. 22 верасьня
Наш край. 1925. №1
Наш край. 1925. №2
Наш край. 1926. №1(4)
Наш край. 1926. №2–3(5–6)
Наш край. 1926. №4–5(7–8).
Наш край. 1926. №6–7(9–10)
Наш край. 1926. №8–9(11–12).

Наш край. 1926. №10–11(13–14)
Наш край. 1926. №12(15)
Наш край. 1927. №1(16)
Наш край. 1927. №2(17)
Наш край. 1927. №5(20)
Наш край. 1928. № 1–3
Наше наследие. 1994. №32
Наше наследие. 1999. №49
Піонер Беларусі. 14 красавіка 1948
Полымя. 1927. №1
Полымя. 1927. №2
Полымя. 1927. №3
Полымя. 1926. №8
Чырвоная Беларусь. 1930. №1.
Чырвоная Беларусь. 1930. №2
Чырвоная Беларусь. 1932. №20-21

**2.Газэты:**

Беларусь. 12 лістапада 1919
Беларусь. 14 лістапада 1919
Беларусь. 15 лістапада 1919
Беларусь. 23 студзеня 1920
Беларусь. 26 лютага 1920
Беларусь. 2 сакавіка 1920
Беларусь. 20 сакавіка 1920
Беларусь. 14 сакавіка 1920
Беларусь. 24 сакавіка 1920
Беларусь. 21 красавіка 1920
Беларусь. 19 траўня 1920
Беларусь. 28 траўня 1920
Беларуская газэта. 16 сакавіка 1942
Беларуская газэта. 6 траўня 1943
Беларуская газэта. 10 ліпеня 1943
Беларуская газэта. 17 ліпеня 1943
Беларуская газэта. 29 сакавіка 1944
Беларуская газэта. 1 сакавіка 1944
Беларуская газэта. 25 сакавіка 1944
Беларуская газэта. 12 красавіка 1944

Вольная Беларусь. 8 жніўня 1917
Вольная Беларусь. 11 жніўня 1917
Вольная Беларусь. 28 жніўня 1917
Вольная Беларусь. 5 траўня 1918
Вольная Беларусь. 6 ліпеня 1918
Вольная Беларусь. 3 верасьня 1918
Вольная Беларусь. 22 верасьня 1918
Вольная Беларусь. 29 верасьня 1918
Вольная Беларусь. 20 кастрычніка 1918
Звезда. 3 ліпеня 1919
Звезда. 22 красавіка 1925
Звезда. 5 ліпеня 1925
Звезда. 9 ліпеня 1925
Звезда. 8 траўня 1926
Звезда. 19 траўня 1926
Звезда. 6 жніўня 1926
Звезда. 17 жніўня 1926
Звезда. 7 верасьня 1926
Звезда. 8 верасьня 1926
Звезда. 10 верасьня 1926
Звезда. 15 верасьня 1926
Звезда. 2 кастрычніка 1927
Звон. 25 жніўня 1919
Звон. 8 верасьня 1919
Звон. 12 верасьня 1919
Звон. 1 кастрычніка 1919
Звон. 10 кастрычніка 1919
Звязда. 21 сакавіка 1937
Звязда. 2 красавіка 1940
Звязда. 25 лістапада 1945
Звязда. 25 красавіка 1956
Известия. 10 сьнежня 1933
Известия. 17 студзеня 1939
Известия. 10 сьнежня 1943
Літаратура і мастацтва. 2 ліпеня 1956
Літаратура і мастацтва. 9 ліпеня 1956
Літаратура і мастацтва. 20 кастрычніка 1956

Літаратура і мастацтва. 10 лістапада 1956
Літаратура і мастацтва. 1 сьнежня 1956
Літаратура і мастацтва. 15 сьнежня 1956
Літаратура і мастацтва. 27 сьнежня 1956
Менская газэта. 21 верасьня 1941
Менская газэта. 28 кастрычніка 1941
Менская газэта. 12 лістапада 1941
Правда. 11 ліпеня 1935
Рабочий. 10 траўня 1931
Рабочий. 25 траўня 1931
Савецкая Беларусь. 14 красавіка 1925
Савецкая Беларусь. 10 студзеня 1926
Савецкая Беларусь. 24 студзеня 1926
Савецкая Беларусь. 14 лютага 1926
Савецкая Беларусь. 21 красавіка 1926
Савецкая Беларусь. 24 красавіка 1926
Савецкая Беларусь. 27 красавіка 1926
Савецкая Беларусь. 13 траўня 1926
Савецкая Беларусь. 14 траўня 1926
Советская Белоруссия. 2 сьнежня 1939
Советская Белоруссия. 5 лютага 1940
Советская Белоруссия. 17 студзеня 1941
Советская Белоруссия. 11 ліпеня 1944
Советская Белоруссия. 13 жніўня 1944
Советская Белоруссия. 25 жніўня 1944
Советская Белоруссия. 26 жніўня 1944
Советская Белоруссия. 21 кастрычніка 1944
Советская Белоруссия. 22 кастрычніка 1944
Советская Белоруссия. 22 лістапада 1944
Советская Белоруссия. 1 красавіка 1945
Советская Белоруссия. 26 траўня 1945
Советская Белоруссия. 15 сакавіка 1958
Совецкая Беларусь. 16 чэрвеня 1944
Совецкая Беларусь. 20 чэрвеня 1944
Совецкая Беларусь. 29 чэрвеня 1944
Совецкая Беларусь. 30 чэрвеня 1944
Совецкая Беларусь. 2 ліпеня 1944

## IV.Мэмуары

Голованов А. Дальняя бомбардировочная. Масква, 2007
Грахоўскі С. Зона маўчання // Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2. Крыжавы шлях. Менск, 1994
Жуков Г. Воспоминания и размышления. Масква, 1969
Ільінскі П. Тры гады пад нямецкай акупацыяй у Беларусі (Жыцьцё Полацкай акругі 1941–1944) // ARCHE. 2004. №3
Капилов А. Замковая 2/7. Менск, 1995
Кіпель Я. Эпізоды. Нью-Ёрк, 1998
Краўцоў М. Ўсебеларускі зьезд 1917 г. Вільня, 1921
Краўцоў М. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня, 1921
Кузнецов А. Бабий Яр. Кіеў, 1991
Станюта А. Городские сны. Менск, 2009
Хрущев Н. Воспоминания. Избранные фрагменты. Масква, 2007
Шпеер А. Воспоминания. Масква, 1997
Эренбург И. Люди, годы, жизнь. Масква, 2006

## V. Артыкулы, кнігі, манаграфіі, навуковыя зборнікі, абагульняючыя працы

Адзярыха М. Апісаньне Койданаўскага замку // Наш край. 1926. №1
Арлоў У. Імёны Свабоды. Менск, 2007
Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Менск, 1993
Астрога В., Скалабан В. Пілсудскі ў Менску. Хроніка аднаго візіту // Спадчына. №4. 1998
Баравы Р. Да пытання аб летапіснай Нямізе. Планы Менска як гістарычная крыніца // З глыбі вякоў. Наш край. Менск, 1992
Баравы Р. Менск у XVI стагоддзі: першы «генеральны» план горада і яго магчымы аўтар // Беларускі гістарычны агляд. Том XI. Сшыткі 1–2 (20–21). 2004

Бон Т. «Минский феномен». Городское планирование и урбанизация в Советском Союзе после Второй мировой войны. Масква, 2013

Боровой Р. Архитектурный комплекс второй половины XVIII — начала XIX в. в Минске // Архитектура и строительство. 2007. №6

Боровой Р. Послевоенная реконструкция и восстановление Минска (История написанная и ненаписанная) // Архитектура и строительство. 2004. №2

Боровой Р. Минские древности. «Старый город» средневекового Минска по письменным источникам // Гістарычна-археалагічны зборнік. №15. Менск, 2000

Васілеўскі Д. Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі // Наш край. 1926. №2–3

Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий. Менск, 1992

Воронкова И. «Двадцать второго июня, ровно в четыре часа…» Минск и минчане в первые дни Великой Отечественной войны. Менск, 2011

Verkelis A. Kas sugriovė Vilnių. Vilnius, 2015

Вяртаньне. Менск, 1992

Hugh D. Hudson, Jr. Blueprints and Blood: The Stalinization of Soviet Architecture, 1917–1937. Princeton: Princeton: Princeton University Press, 1994

Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 4. Менск, 1990

Гісторыя Мінска. Менск, 2006

Даўгяла Дз. Стары Менск (Нарысы з гісторыі і эканамічнага жыцця места) // Наш край. 1928. № 1–3

Доўнар-Запольскі М. К пытанню аб найменні дзяржаўных установаў // Вольная Беларусь. 26 траўня 1918

Друшчыц В. Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. // Працы БДУ. 1926. № 12

Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1. Кн. 6. Менск, 1928

Заславский Е. К 60-летию освобождения Беларуси: итоги и факторы градостроительного развития Минска // Архитектура и строительство. 2004. №2
Ельскі А. Мінск // Выбранае. Менск, 2004
Есть такая служба: воспоминания, очерки, публицистика. Менск, 2002
Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Менск, 1926
Из истории советской архитектуры 1941–1945 гг. Масква, 1978
Інстытут беларускай культуры. Менск, 1993
История Минска. Менск, 1957
Кандыбовіч С. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Менск, 2000
Касьпяровіч М. Краязнаўства ў сучаснай графіцы // Наш край. 1926. № 12
Київ. 1941–1943. Фотоальбом / Автор-упор. Д. Малаков. Кіеў, 2000
Кнацько Г. Минск в годы оккупации // Народная газета. 30 чэрвеня 1993
Колас Г. Карані міфаў. Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Менск, 1998
Круталевич В. Административно-территориальное устройство БССР. Менск, 1966
Кынин Г. Германский вопрос во взаимоотношениях СССР, США и Великобритании. 1944–1945 гг. // Новая и новейшая история. 1995. №1
Лёсік Я. Некалькі слоў беларускім сьвяшчэньнікам // Беларусь. 9 чэрвеня 1920
Лёсік Я. Менск // Вольная Беларусь. 6 ліпеня; 4 жніўня; 3 верасьня 1918
Лукашук А. Жаркое лето 53-го // Коммунист Белоруссии. №8. 1990
Лукашук А. «За кіпучай чэкісцкай работай». З жыцьця катаў. Менск, 1997
Лынькоў М. На Радзіме // Беларусь. 1944. №6
Малаков Д. Кияни. Війна. Німці. Кіеў, 2008

Marvan J. Brána jazykem otvíraná aneb o češtině světové. Praha, 2004

Мастацтва Савецкай Беларусі. Т. 1. Менск, 1976

Минск. Краткая хроника. Менск, 1967

Міцкевіч М. Пад бацькоўскім дахам // Дзеяслоў. 2008. №2(33)

Памятка участнику восстановления города Минска. Разборка разрушенных зданий и восстановление стройматериалов. Менск, 1945

Панчанка Пімен. Прылучэньне. Менск, 1987

Папруга А. Аб захаванні гісторыка-культурнай каштоўнасці «Гістарычны цэнтр г. Мінска» // Архитектура и строительство. 2005. №4

Працы БДУ. 1926. № 12

Процька Т. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.). Менск, 2002

Рак Р. Рамесьнік м. Менску да рэволюцыі 1917 г. (1866–1916) // Наш край. 1927. №4

Рудомино А. Книги войны: Письма М.И. Рудомино из Германии 1945–1946 годов и некоторые документы того времени // Наше Наследие. 1999. №49

Рудомино А. Полвека в плену // Наше наследие», 1994. № 32

Санакоев Ш., Цыбулевский Б. Тегеран. Ялта. Потсдам. Масква, 1970

Себта Т., Качан Р. Києво-Печерська лавра у часи другої світової війни. Дослідження. Документи. Кіеў, 2016

Сідарэвіч А. Беларуская Народная Рэспубліка // Энцыкляпедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Менск, 1993

Смоліч А. Географія Беларусі. Менск, 1993

СССР и германский вопрос. 22 июня 1941 г. — 8 мая 1945 г. Масква, 1996

Сыракомля У. Мінск // Добрыя весці. Менск, 1993

Тарасенко В. Древний Минск (по письменным источникам и данным археологических раскопок 1945–1951 гг.) // Материалы по археологии БССР. Том 1. Мн, 1957

Трэпет Л. Краязнаўства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Менск, 1997

Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Менск, 1993

Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі // Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006

Улашчык М. Хроніка // Выбранае. Менск, 2001

Форостівский Л. Київ під ворожими окупаціями. Буэнас-Айрэс, 1952

Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. Масква, 2007

Хан-Магомедов С. Архитектура советского авангарда. Масква, 2001

Харламповіч П. Пяцігодзьдзе Беларускага Дзяржаўнага музэю // Наш Край. 1927. №1

Цьвікевіч А. «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Менск, 1993

Чернатов В. А могло бы быть... Однако... // Архитектура и строительство. 2005. №4

Шерешевская Б. На старой Немиге. Менск, 1989

Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Менск, 1992

Шыбека З. Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзяў). Менск, 1997

Шыбека З., Шыбека С. Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада. Менск, 1994

Шчакаціхін М. Ахова ці «ліквідацыя» помнікаў // Звезда. 2 кастрычніка 1927

Шчакаціхін М. Замак у Рагачове // Наш край. 1926. №10–11

Шчакаціхін М. Мотывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве (З вынікаў Усебеларускай Выстаўкі) // Наш край. 1926. №2–3

Шчакаціхін М. Помнікі старадаўняе архітэктуры XVII–XVIII сталецьцяў у Менску // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1. Кн. 6. Менск, 1928

Шчакаціхін М. Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра // Наш Край. 1925. №1

Шестаков С. Большая Москва. Масква, 1925

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Менск, 1993

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Менск, 1997

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 5. Менск, 1999

Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 4. Менск, 1987

Юстапчык С. Каханы горад. Остэргофэн, 1948

Язэп Драздовіч. Альбом-манаграфія. Менск, 2002

Янка Купала. Жыве Беларусь: Вершы, артыкулы. Менск, *1993*

**VI. Інтэрнэт-старонкі**

Адская осень 1941-го: спецслужбы СССР взорвали центр Киева вместе с жителями — шокирующие фото // https://www.5.ua/ru/kyev/adskaia-osen-1941-ho-spetssluzhbi-sssr-vzorvaly-tsentr-kyeva-vmeste-s-zhyteliamy-shokyruiushchye-foto-224728.html

Алешин В. П. П. Хаустов: градостроитель, ученый, педагог – http://www.alyoshin.ru/Files/publika/alyoshin/haustov.html#1

Блохина-Ваганова О. О сохранении исторического и культурного наследия России – http://www.nasledie.ru/oboz/N06_00/06_23.HTM

Бочаров Ю. Подготовка дипломированных планировщиков в России. История и современность – http://www.architektor.ru/ai/2003/bocharov.htm

Васілеўская Н. Масавыя рэпрэсіі інтэлігенцыі // Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. (Мінск, 27–28 лютага 1998 г.) Менск, 1998 – http://belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/n_vasilevskaya/

Гесь А. Выслаць за межы Беларусі // Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. (Мінск, 27–28 лютага

1998 г.) Менск, 1998 – http://belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/a_ges/data/tpl-ru_print/

Гриневич В. Как Украину к вступлению в ООН готовили. Сталинская «конституционная реформа» военной поры – http://www.zerkalo-nedeli.com/nn/show/569/51558/

Ивахнов А. Архитектурная эстафета – http://www.acdjournal.ru/2006-1/115/p.html

Литвин А. К вопросу о количестве людских потерь Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941–1945) // Беларусь у ХХ стагоддзі. Вып. 1. 2002 – http://www.homoliber.org/indexxx.html

Мазец В. Нацыянальна-дзяржаўная палітыка і змены этнічнай структуры насельніцтва Беларусі ў 1945–1989гг. // Беларусь у ХХ стагоддзі. Вып. 2. 2003 – http://www.homoliber.org/indexxx.html

Москаленко А. Как и кто взорвал Крещатик 24 сентября 1941 года. Подлинная история - https://profidom.com.ua/mnenija/blogi/28584-kak-i-kto-vzorval-kreshchatik-24-sentyabrya-1941-goda-podlinnaya-istoriya

Строгова В. Москва — город-спрут или союз городов? – http://www.rulife.ru/index.php?mode=article&artID=355&print

Яноўскі А. Замежныя камандзіроўкі гісторыкаў БДУ: творчыя здабыткі і зломы лёсаў – http://www.hist.bsu.by/bel/nauka/konf/75%20let/konference/yanovsky.htm

http://www.memo.ru/HISTORY/NKVD/STRU/by_year.htm

http://meridian2000.com/liscat/page2.shtml

http://www.gardener.ru/page_964.html?=&print

**VII. Іканаграфічныя матэрыялы**

Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакумэнтаў (Дзяржынск, Беларусь)

Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі Вялікай айчыннай вайны (Менск, Беларусь)

Нацыянальны гістарычны музэй Рэспублікі Беларусь (Менск, Беларусь)

Нацыянальны мастацкі музэй Рэспублікі Беларусь (Менск, Беларусь)
Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі (Менск, Беларусь)
Фэдэральны архіў (Кобленц, Нямеччына)
Вайсковы архіў Баварыі (Мюнхен, Нямеччына)
Нацыянальны архіў ЗША (Вашынгтон, ЗША)
Нацыянальны лічбавы архіў (Варшава, Польшча)
Нацыянальны музэй (Варшава, Польшча)
Цэнтральны вайсковы архіў (Варшава, Польшча)
ФБ-суполка «Мінск. Фото. История. Новости»
Прыватны збор сям'і Мэера Аксэльрода (Масква, Расея — Менск, Беларусь)
Прыватны збор Уладзімера Валожынскага (Менск, Беларусь)
Прыватны збор Уладзімера Дзянісава (Менск, Беларусь)
Прыватны збор Дзьмітрыя Масьлія (Менск, Беларусь)
Прыватны збор Дзьмітрыя Навумава (Менск, Беларусь)
Прыватны збор Паўла Растоўцава (Менск, Беларусь)
Прыватны збор Івана Цірынава (Менск, Беларусь)
Прыватны збор аўтара (Менск, Беларусь — Прага, Чэхія)

# Паказьнік асобаў

**Г**



**Д**

**Е**



**Ж**



**З**



**І**



**К**

## Падзяка

Аўтар выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дапамагаў яму ў працы над кнігай у 2006–2019 гадах. Гэта рэдактар Аляксандар Лукашук, сурэдактар і карэктар Сяргей Шупа, мастак Генадзь Мацур, гісторык Уладзімер Дзянісаў, калекцыянэр Павел Растоўцаў, які фактычна выканаў ролю сурэдактара фотаразьдзелу, паэты Алесь Клышка і Міхась Скобла, грэка-каталіцкая манашка сястра Вікторыя Чэкан, менскія старажылы Ірына Грамыка, Ірына Клышка, Вітаўт Кіпель, Яўген Кунін, Аляксандар Сакалоўскі, Леў Шавель, Леанід Шкода. Асобная падзяка належыцца Фонду культуры і адукацыі Алы Орса-Рамана за садзеяньне ў працы над кнігай. Аўтар таксама дзякуе сваім дарагім бацькам Паўлу і Алісе Абламейкам, якія арганізоўвалі гутаркі зь менскімі старажыламі і дапамагалі капіяваць публікацыі старых газэт у менскіх бібліятэках. І, нарэшце, аўтар вельмі ўдзячны сваёй жонцы Вользе, якая падтрымлівала яго ў больш чым дзесяцігадовай працы над кнігай, згадзіўшыся зь немалымі сямейнымі затратамі на паездкі ў замежныя архівы і капіяваньне здымкаў, а часам і сама разам з аўтарам сядзела ў чытальных залях, як гэта было, напрыклад, у Нацыянальным архіве ЗША. Дзякуй і тым, хто тут ненаўмысна ня ўспомнены або не захацеў, каб яго імя ў кнізе было згаданае.

## Пра аўтара

Сяргей Абламейка нарадзіўся ў 1962 годзе ў Менску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і дактарантуру Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту (Польшча). Доктар гісторыі. Працаваў сьлесарам на Менскім аўтамабільным заводзе, выкладаў гісторыю ў школе, быў навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту, а затым Скарынаўскага цэнтру Акадэміі навук Беларусі. Зь верасьня 1990 — журналіст «Свабоды» ў Менску, з траўня 1995 — супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода ў Празе. Зь сярэдзіны 1980-х гадоў займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, быў членам «Талакі». Адзін з арганізатараў першага Вальнага сойму беларускіх суполак (1987), выдавец-заснавальнік часопісу «Унія» (1990). Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый па гісторыі Беларусі. З 1983 друкуецца як пісьменьнік і журналіст. Выдаў кнігі «EGOізмы», «Настальгія», «Мой Картаген», «Дом літаратара», «Нечаканы Скарына», «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі», «Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня. Кніга першая». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэскую мовы. Ляўрэат літаратурнай прэміі імя Францішка Багушэвіча.

## SUMMARY

"Unknown Minsk. A Disappearance Story."

This book focuses on one of historic Minsk's oldest and most architecturally significant neighborhoods, a part of the city once known as "Old Town." Spanning fifteen blocks, it was an area tightly packed with 18th-19th century stone buildings, extant until the second half the 20th century in what was then known as Castle Hill.

Historian Siarhiej Ablamiejka explores:

The importance accorded to Minsk's architectural heritage by ideologues of the Belarusian political movement of 1917-20, and by the founders of the Belarusian National Republic;

The origins of the idea of building a BNR headquarters behind the ruins of the city's castle;

The Belarusian Culture Institute's efforts in the 1920s to maintain BNR activists' focus on the city's Old Town, including plans to restore the Castle and its monuments;

The 1925 launch of plans by BSSR communist leaders for the socialist reconstruction of the city, a product of ideological competition with the "nationalists," which involved the total destruction of Castle Hill and the Old Town.

The second volume focuses on the partial destruction of the Old Town during WWII, and its complete demolition during the post-war reconstruction of Minsk.

Part 2 also explores efforts to preserve Minsk Castle in the 1950s, as well as the ideology which led to the inexorable disappearance of the city's oldest district.

Ablamiejka introduces the reader to all the heroes and anti-heroes of this historical process, and casts his eye on heretofore unknown chapters in BSSR history. We learn about the 1920's disappearance of a monograph of the Old Town; about efforts to create a museum dedicated to the district; about the renaming of Old Town streets. The author also focuses attention on the mysterious disappearance of archival documents associated with many of these events.

Siarhiej Ablamiejka has authored books of aphorisms, essays, short stories and numerous other works on Belarusian culture, the history of the Uniate (Greek-Catholic) Church in Belarus, and national identity. He works at Radio Free Europe/Radio Liberty, and lives in Prague.